хроніка парушэньняў правоў чалавека
ў Віцебскім рэгіёне

# ШЭРАЯ КНІГА

*ліпень 2013 – чэрвень 2014*



**Віцебск, 2014**

У Віцебскім рэгіёне з боку ўлады пастаянна мэтанакіравана парушаюцца грамадзянскія і палітычныя правы чалавека.

Крыніцай гэтага зьяўляецца аўтарытарны палітычны рэжым улады, ігнараваньне прынцыпу вяршэнства права ў адносінах паміж дзяржавай і грамадзянінам, татальная залежнасьць судовай сыстэмы ад выканаўчай улады.

Можна сьмела сьцьвярджаць, што агульная сытуацыя ў галіне правоў чалавека ў Віцебскім рэгіёне на працягу ліпеня 2013 г. – чэрвеня 2014 г. не палепшылася.

Увесь гэты час не спыняліся паўсюдныя парушэньні правоў чалавека, якія паступова перараслі ў рэжым парушэньняў, якія маюць структурны і сыстэмны характар.

Судзьдзі ўсіх рангаў дагэтуль знаходзяцца ў поўнай залежнасьці ад прэзыдэнта краіны, які можа прызначаць і адхіляць усіх судзьдзяў і работнікаў пракуратуры.

У гэтым заключаецца прычына таго, што судамі першай інстанцыі і касацыйнымі судамі не выносіліся апраўдальныя прысуды па крымінальных і адміністрацыйных справах у дачыненьні да крытыкаў і апанэнтаў існуючага палітычнага рэжыму.

Апроч таго, судзьдзі, як правіла, прызначаюць максымальныя штрафы актывістам апазыцыйных партыяў і грамадзянскіх ініцыятыў.

Адсутнасьць незалежнасьці судоў і праваахоўных органаў суправаджаецца запалохваньнем адвакатаў, якія вымушаныя ўступаць у калегію адвакатаў, што знаходзіцца пад простым кантролем дзяржаўных органаў. Апошнім часам адвакаты адмаўляюць клiентам у аказаньні паслуг – абароне правоў і законных інтарэсаў – актывістам апазыцыйных палітычных партыяў, незалежных прафсаюзаў і грамадзянскіх ініцыятываў падчас разгляду спраў у судах.

Захоўваецца сьмяротнае пакараньне ў адсутнасьць гарантыяў захаваньня належных прававых працэдур. Цягам трох гадоў былі асуджаныя да сьмяротнага пакараньня і пакараныя два жыхары Віцебску.

У 2013-2014 гадох колькасьць асоб, пазбаўленых волі за сваю палітычную дзейнасьць, практычна ня зьменшылася. У ліку зьняволеных – актывісты апазыцыйных партыяў, праваабаронцы і лідэры моладзевых арганізацыяў. За тры апошнія гады кароткатэрміноваму зьняволеньню падвергнуліся некалькі дзясяткаў чалавек, трое – крымінальнаму перасьледу.

Так, жыхар Наваполацку Андрэй Гайдукоў, актывіст апазыцыі і лідэр Саюзу маладых інтэлектуалаў, у 2013 годзе быў прысуджаны судом да аднаго з паловай гадоў калёніі за спробу ўстанаўленьня кантактаў з супрацоўнікамі замежнай спэцслужбы.

У Віцебскім рэгіёне дзяржава кантралюе 70-80% эканомікі, што прыводзіць да паўсюднага ўшчамленьня працоўных правоў, у прыватнасьці да зьнявагі права на арганізацыю незалежных прафсаюзаў.

Практычна ўсе віцебскія лідэры і актывісты апазыцыйных структур былі пазбаўленыя права на працу з дапамогай незаключэньня новых працоўных пагадненьняў

пасьля заканчэньня тэрмінаў дзейных кароткатэрміновых кантрактаў.

Практыка правядзеньня мясцовых выбараў у Віцебскім рэгіёне сьведчыць пра ўшчамленьне выбарчага права з прычыны таго, што амаль на 90% выбарчых участкаў выбары праходзілі на безальтэрнатыўнай аснове. Падчас рэгістрацыі ў якасьці кандыдатаў у дэпутаты ў Віцебскі абласны і гарадзкі саветы дэпутатаў па фармальных прычынах не былі зарэгістраваныя амаль усе актывісты апазыцыйных партыяў і незалежныя прэтэндэнты на дэпутацкі мандат. Праўладныя ж кандыдаты былі зарэгістраваныя ўсе без выключэньня і без асаблівых заўваг.

Права на свабоду меркаваньняў і іх выказваньне, асацыяцыі, мірныя сходы і культурныя правы, як і раней, жорстка абмежаваныя ў заканадаўчым парадку і на практыцы з мэтай ажыцьцяўленьня кантролю над усімі сфэрамі грамадзкага жыцьця.

Да прыкладу, пачынаючы зь ліпеня 2009 году, у Віцебскай вобласьці ўлады правядзеньне больш як 200 масавых мерапрыемстваў. У Віцебску падставай для парушэньняў правоў грамадзян на права публічна выказваць сваё меркаваньне зьяўляецца адыёзнае рашэньне Віцебскага гарвыканкаму ад 10.07.2009 году № 881, якое супярэчыць дзейнаму беларускаму заканадаўству. Аналягічныя рашэньні мясцовых органаў улады існуюць і ў іншых рэгіёнах Віцебскай вобласьці.

Упраўленьне юстыцыі Віцебскага абласнога выканаўчага камітэту тройчы адмовіла ў рэгістрацыі Віцебскай абласной арганізацыі партыі «Беларуская хрысьціянская дэмакратыя» (БХД).

Мясцовая сыстэма тэле- і радыёвяшчаньня знаходзіцца ў дзяржаўнай уласнасьці, з прычыны чаго немагчыма забясьпечыць свабоду сродкаў масавай інфармацыі. Віцебская апазыцыя ня мае доступу да дзяржаўных СМІ, а дзяржаўныя журналісты згадваюць мясцовых лідэраў апазыцыі толькі ў нэгатыўным кантэксьце. Дзяржаўныя СМІ пэрыядычна даюць інфармацыю, якая дыскрэдытуе апазыцыю, прыніжаюць гонар, годнасьць і рэпутацыю апанэнтаў улады.

У Віцебскай вобласьці становяцца ўсё больш і больш заўважнымі факты дыскрымінацыі.

Найчасьцей дыскрымінацыя праяўляецца паводле ўзроставай і палавой прыкметы падчас прыёму на працу.

Тыповай зьяўляецца дыскрымінацыя паводле прыкметы сэксуальнай арыентацыі і гендэрнай ідэнтычнасьці.

Пастаяннай практыкай уціску з боку праваахоўных органаў на актывістаў зь ліку ЛГБТ сталі выклікі на «прафіляктычныя размовы», пагрозы зрабіць інфармацыю пра сэкс-арыентацыю таго ці іншага актывіста публічнай на працы ці вучобе.

Выклікаюць заклапочанасьць абмежаваньні ўжытку беларускай мовы ў сфэры адукацыі і культурнага жыцьця. Віцебскія ўлады ўсяляк абмяжоўваюць ужываньне мовы тытульнай нацыі ў афіцыйных зносінах зь беларускамоўнымі грамадзянамі.

Пацьверджаньнем таму зьяўляецца прынятая да разгляду Камітэтам ААН па пра-

вох чалавека скарга віцебчука Кастуся Мардзвінцава наконт дыскрымінацыі па моўнай прыкмеце.

Суды не разглядаюць дыскрымінацыю ў якасьці падставы для падачы пазоўных заяў. З прычыны гэтага адсутнічае судовая практыка разгляду спраў пра дыскрымінацыю.

Нормай зносін між дзяржавай і грамадзянінам стала прымусовая праца. Вялікую колькасьць грамадзян прымушаюць да працы ў абставінах, якія не маюць дачыненьне да іх заняткаў ці характару іх службы.

Такая практыка ў сфэры працоўных адносін мае ў Віцебскай вобласьці самыя разнастайныя праявы. Так, асобы, якія праходзяць вайсковую службу паводле прызыву, абавязаныя займацца дармовай працай, што ня мае дачыненьня да абавязкаў вайсковай службы.

Мясцовыя органы ўлады рэгулярна прымушаюць працоўных да дармовых працы ў выглядзе т.зв. «суботнікаў». Мяркуецца, што ўдзел у гэтых мерапрыемствах зьяўляецца добраахвотным – на практыцы ж няўдзел у іх прычыняецца да такіх нэгатыўных наступстваў, як неаднаўленьне кароткатэрміновых працоўных дамоваў і адвольныя адмовы ў выплаце штомесячных прэміяў.

У месцах утрыманьня пад вартай зьняволеныя ня могуць выбіраць характар працы, якую яны выконваюць, ня могуць адмаўляцца ад працы.

Выпускнікі, якія атрымалі бясплатную адукацыю, абавязаныя працаваць па разьмеркаваньні цягам аднаго году пасьля заканчэньня навучаньня ў сыстэме прафэсійна-тэхнічнай адукацыі або двух гадоў пасьля завяршэньня навучаньня ў сярэдніх спэцыяльных і вышэйшых навучальных установах. Усе рашэньні пра накіраваньне на месца працы прымаюцца выпускнымі камісіямі па разьмеркаваньні.

Абуральнай зьяўляецца сытуацыя з прымусовай працай у лячэбна-працоўных прафілакторыях (ЛПП). У іх утрымліваюцца асобы, якім суды прызначылі гадавое прымусовае лячэньне ад алькагольнай і наркатычнай залежнасьці. Лячэньне ў ЛПП праходзіць у спалучэньні зь цяжкай, дрэнна аплачванай, працай ва ўмовах поўнай ізаляцыі і адсутнасьці грамадзкага кантролю.

Цягам апошняга некалькіх гадоў у Віцебскай вобласьці былі адкрытыя два мужчынскія і адно жаночае ЛПП для адначасовага лячэньня 4500 пацыентаў.

У гэтым выданьні апісаныя канкрэтныя выпадкі парушэньняў правоў чалавека ў Віцебскім рэгіёне, якія былі зафіксаваныя праваабаронцамі ў пэрыяд зь ліпеня 2013 па чэрвень 2014 году.

# Крымінальныя справы супраць актывістаў грамадзянскай супольнасьці


Андрэй Гайдукоў

**02.07.2013** Асуджэньне **Андрэя Гайдукова** зьяўляецца неабгрунтаваным і палітычна матываваным. Пра гэта гаворыцца ў сумеснай заяве Беларускага Хэльсынскага камітэту і закрытага ўладамі праваабарончага цэнтру «Вясна». Праваабаронцы зазначаюць, што асуджэньне Гайдукова «ў значнай ступені мела на мэце павышэньне ролі і значнасьці КДБ у дзяржаве непрымальнымі ў дэмакратычным грамадзтве мэтадамі, а пазбаўленьне волі было прыменене з парушэньнем права на справядлівы судовы разбор, іншых правоў і свабод, гарантаваных Міжнародным пактам аб грамадзянскіх і палітычных правох, працягласьць пазбаўленьня волі яўна непрапарцыянальная (неадэкватная) правапарушэньню, у якім асоба была прызнаная вінаватай».

Аўтары заявы патрабуюць неадкладна вызваліць Гайдукова, адмяніць незаконна вынесены прысуд і перагледзець яго пры выкананьні права на справядлівы судовы разбор.

Гайдукоў быў асуджаны 1 ліпеня паводле часткі 1 артыкулу 14 і артыкулу 356-1 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь (замах на ўстанаўленьне супрацоўніцтва са спэцыяльнай службай, органам бясьпекі ці разьведвальным органам замежнай дзяржавы). Віцебскі абласны суд пад старшынствам Галіны Ўрбановіч прыгаварыў яго да паўтара года пазбаўленьня волі.

Як зазначаюць праваабаронцы, крымінальны перасьлед Гайдукова пачаўся ў лістападзе 2012 году, калі ён быў затрыманы супрацоўнікамі дзяржбясьпекі і зьмешчаны ў сьледчы ізалятар КДБ. 13 лістапада 2012 году КДБ распаўсюдзіў інфармацыю пра спыненьне супрацьпраўнай дзейнасьці грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, які займаўся на заданьне замежнай выведкі зборам і перадачай інфармацыі палітычнага і эканамічнага характару. У дачыненьні да затрыманага была распачатая крымінальная справа паводле ч. 1 арт. 356 КК (здрада дзяржаве ў форме правядзеньня агентурнай дзейнасьці). Ужо падчас судовага разбору абвінавачаньне перакваліфікавалі.

Праваабаронцы таксама канстатуюць, што папярэдняе расьследаваньне і судовы разбор былі поўнасьцю закрытымі і непразрыстымі, нягледзячы на павышаную цікавасьць да гэтай справы з боку грамадзкасьці і СМІ. Пры гэтым кампэтэнтнымі ворганамі не было дадзена ніякага абгрунтаваньня неабходнасьці разгляду справы ў закрытым судовым пасяджэньні.

«З улікам таго, што Гайдукову спачатку ставілася ў віну ўчыненьне больш цяжкага злачынства (арт. 356 КК — здрада дзяржаве), а ў далейшым яго дзеяньні былі перакваліфікаваныя на менш цяжкае злачынства, можна меркаваць, што неабходнасьць у разглядзе гэтай справы ў закрытым судовым разборы была выкліканая жаданьнем утаіць ад грамадзкасьці незаконныя мэтады расьследаваньня і правакаваньне абвінавачванага да ўчыненьня больш цяжкага злачынства», — сказана ў заяве.

На думку праваабаронцаў, такая кваліфікацыя ўчыненага судом паказвае, што «КДБ увёў у зман грамадзкасьць у той час, як супрацоўнікамі КДБ не было выяўлена факту ўстанаўленьня грамадзянінам Рэспублікі Беларусь супрацьпраўнага супрацоўніцтва з ворганамі замежнай дзяржавы». Пры ўстаноўленых акалічнасьцях супрацоўнікі КДБ працягвалі схіляць Гайдукова да ўчыненьня больш цяжкага злачынства, г.зн. учынілі правакацыю, падкрэсьліваецца ў заяве.

Аўтары заявы таксама зазначаюць, што падчас расьследаваньня парушалася права Гайдукова на абарону, адвольна абмяжоўваліся яго сустрэчы з адвакатам. Кантакты са сваякамі былі абмежаваныя нерэгулярным, жорстка цэнзураваным ліставаньнем. Мерай узьдзеяньня на адваката Гайдукова стала папярэджаньне аб крымінальнай адказнасьці за абвяшчэньне зьвестак папярэдняга расьследаваньня. «Гэтая мера, якая празьмерна шырока прымяняецца на практыцы, сур'ёзна абмяжоўвае магчымасьці адваката адстойваць інтарэсы свайго падабароннага», — падкрэсьліваецца ў заяве.

Праваабаронцы зьвяртаюць увагу на тое, што артыкул 356-1 быў унесены ў КК Беларусі ў лістападзе 2011 году. «Беларускія праваабаронцы ўжо тады ўказвалі на недапушчальнасьць выкарыстаньня ў крымінальным законе неканкрэтных азначэньняў, у тым ліку якія дапускаюць адвольнае ці расшыральнае іх тлумачэньне», зазначаецца ў заяве.

Пры канцы траўня 2013 году з заявы старшыні КДБ Валера Вакульчыка стала вядома, што крымінальная справа па абвінавачаньні Гайдукова накіраваная ў суд, дзе будзе разгледжаная на закрытым судовым пасяджэньні; выстаўленае абвінавачаньне не мянялася. На думку праваабаронцаў, «такая празьмерная актыўнасьць кіраўніка КДБ, а не пракуратуры, якая падтрымлівае абвінавачаньне ў судзе, у асьвятленьні дэталяў і пэрспэктыў судовага разбору сьведчыла пра магчымы ўплыў КДБ на высновы і працэсуальныя рашэньні суду». «Характар абвінавачаньня з улікам грамадзкай значнасьці справы не пакідае сумненьняў у тым, што разгляд яе ў судзе павінен быў прайсьці з выкананьнем прынцыпу галоснасьці, бо перадумоў для яго абмежаваньня, прадугледжаных законам, не існавала», — гаворыцца ў заяве.

Праваабарончыя арганізацыі таксама зазначаюць, што дзеяньне, за ўчыненьне якога асуджаны Гайдукоў, адносіцца да катэгорыі злачынстваў, якія не ўяўляюць вялікай грамадзкай небясьпекі. Да асобы, якая абвінавачваецца ў яго ўчыненьні, нельга прымяніць меру стрыманьня ў выглядзе ўзяцьця пад варту.

«Аналіз наяўных дадзеных не дазваляе зрабіць выснову пра тое, што прызначанае судом пакараньне ў выглядзе пазбаўленьня волі зьяўляецца апраўданым. На наш погляд, факт прызнаньня судом Гайдукова вінаватым у замаху на ўчыненьне


Вольга Гайдукова

злачынства, што адносіцца да катэгорыі, якая не ўяўляе вялікай грамадзкай небясьпекі, раней не судзімага, не дазваляў суду прымяніць да яго рэальнае пазбаўленьне волі. Такім чынам, узяцьце пад варту і асуджэньне на пазбаўленьне волі зьяўляецца самавольным», — падкрэсьліваецца ў заяве беларускіх праваабаронцаў.

**23.07.2013 Сустаршыня аргкамітэту па стварэньні партыі «Беларуская хрысьціянская дэмакратыя» Павал Севярынец**, які адбывае тры гады абмежаваньня волі за Плошчу-2010 у вёсцы Куплін Берасьцейскай вобласьці, атрымаў трохдзённы адпачынак, падчас якога ён наведаў Віцебск, дзе жывуць яго бацькі. Да заканчэньня тэрміну зьняволеньня Паўлу засталося тры месяцы.

**15.08.2013** Маці палітвязьня **Андрэя Гайдукова** паведаміла інфармацыю пра свае спатканьні з сынам. «Першым разам я змагла ўбачыць яго адразу пасьля суду. Спатканьне мне тады былі абавязаныя падаць паводле закону. Да таго ж, на працягу васьмі месяцаў я ні разу ня бачыла і ня чула сына. Наступнае спатканьне дазволілі 18 ліпеня», – распавяла **Вольга Гайдукова**.

**27.08.2013** Прысуд па справе **Андрэя Гайдукова** Вярхоўным судом Беларусі пакінуты безь зьменаў, ён уступіў у законную сілу. Судовая калегія па крымінальных справах Вярхоўнага суду разгледзела ў касацыйным парадку скаргу абвінавачанага Андрэя Гайдукова 1989 года нараджэньня і яго абаронцаў на прысуд Віцебскага абласнога суду ад 1 ліпеня 2013 году. Гэтым прысудам Гайдукоў прызнаны вінаватым у замаху на ўстанаўленьне супрацоўніцтва на канфідэнцыйнай аснове з разьведвальным органам замежнай дзяржавы.

«Абгрунтаванасьць высноў суду аб вінаватасьці Гайдукова ў зьдзяйсьненьні злачынства, а таксама і правільнасьць юрыдычнай кваліфікацыі зробленага паводле ч. 1 арт. 14 і арт. 356-1 КК ні самім абвінавачаным, ні яго абаронцамі не аспрэчваліся. У пададзеных на прысуд скаргах утрымліваліся просьбы пра зьмякчэньне прызначанага Гайдукову судом першай інстанцыі пакараньня ў выглядзе аднаго году шасьці месяцаў пазбаўленьня волі ў калёніі агульнага рэжыму», – паведаміла прэс-сакратар ВС Марына Лапо.

Паводле ейных слоў, разгледзеўшы справу, Вярхоўны суд вызначыў, што прысуд абласнога суду ў дачыненьні да Гайдукова зьяўляецца законным і абгрунтаваным. Суд прызначыў Гайдукову справядлівае пакараньне, якое адпавядае характару зьдзейсьненага злачынства і ступені яго грамадзкай небясьпекі. Прэс-сакратар ВС адзначыла, што судом першай інстанцыі ў дастатковай ступені улічаныя як станоўчыя дадзеныя пра асобу абвінавачанага (характарыстыка зь месца працы, першая судзімасьць), гэтак і факт зьдзяйсьненьня ім злачынства з карысьлівых


Павал Севярынец

меркаваньняў, што абгрунтавана прызнана судом акалічнасьцю, якая абцяжвае адказнасьць.

**05.09.2013 Андрэй Гайдукоў** пераведзены зь Віцебскага сьледчага ізалятару ў Магілёўскую калёнію №19. Пра гэта даведаліся родныя зьняволенага, калі прынесьлі ў сьледчы ізалятар перадачу.

**09.10.2013** Адміністрацыя спэцкамэндатуры ў вёсцы Куплін Пружанскага раёну (папраўчай установы адкрытага тыпу) нарэшце прыняла ў дар ад палітзьняволенага **Паўла Севярынца** бойлер. Яго ў самы пачатку знаходжаньня Севярынца ў спэцкамэндатуры прывезьлі сябры БХД з Кобрыну. Але тады адміністрацыя адмовілася прыняць: маўляў, шмат дакумэнтацыі патрэбна аформіць.

Аднак Севярынец упэўнены, што не ўзялі толькі таму, што ад апазыцыі ў дар нават гарачай вады ня трэба. Паводле слоў Паўла, устаноўка больш як 200-літровага якаснага нарвэскага бойлеру вырашыла б даўно праблему адсутнасьці гарачай вады ў спэцкамэндатуры. «Колькі ўжо гадоў адсутнасьць душавой была галоўнай напругай для куплінскай «хіміі». З часоў пакінутага савецкага вайсковага гарадка вада халодная і іржавая, якую піць не магчыма. Дай Бог, каб дайшло да ладу. Як жа гэта, каб паўсотні мужыкоў дый без гарачай вады», – кажа Павал Севярынец. Павал Севярынец лічыць, што далей патрэбная карэнная замена ўсёй структуры адбываньня пакараньня ў такіх установах.

**19.10.2013 Сустаршыня аргкамітэту па стварэньні партыі «Беларуская хрысьціянская дэмакратыя»** (БХД) **Павал Севярынец** на волі. Ён расказаў, што а палове на чацьвертую раніцы яго раптам разбудзілі супрацоўнікі спэцкамэндатуры і загадалі зьбіраць рэчы. Пасьля гэтага яго даставілі на чыгуначную станцыю і ўручылі білет на цягнік да Менску.

21 кастрычніка Севярынец павінен стаць на ўлік у РАУС па месцы жыхарства, у Віцебску. Патрабаваньняў па працаўладкаваньні яму не выстаўлялі, аднак папярэдзілі, што палітык павінен паведамляць пра ўсе зьмяненьні ў сваім жыцьці — няхай гэта будзе прапіска, сямейнае становішча ці штосьці іншае.

Павал Севярынец заявіў, што мае намер працягваць займацца грамадзка-палітычнай дзейнасьцю.

Павал Севярынец, які падчас апошніх прэзыдэнцкіх выбараў кіраваў выбарчым штабам **кандыдата на пасаду кіраўніка дзяржавы ад БХД Віталя Рымашэўскага**, адбываў трохгадовае пакараньне за ўдзел у падзеях 19 сьнежня 2010 году. Яго арыштавалі ў ноч на 20 сьнежня на выхадзе з плошчы Незалежнасьці. Пяць месяцаў пасьля арышту Севярынец правёў у сьледчым ізалятары КДБ.


Мікалай Статкевіч

У траўні 2011 году суд Заводзкага раёну Менску прызнаў яго вінаватым на падставе ч. 1 арт. 342 Крымінальнага кодэксу (арганізацыя і падрыхтоўка дзеяньняў, якія груба парушаюць грамадзкі парадак, або актыўны ўдзел у іх) і прысудзіў да трох гадоў абмежаваньня волі ў Куплінскай спэцкамэндатуры № 7.

**01.11.2013** «У мяне ўсё па-старому. Зэк сядзіць – тэрмін ідзе. Неўпрыкмет я падбіраюся да піку і праз месяц пакачуся ўжо з горкі. Спадзяюся, што мая чалавечая адсутнасьць кампэнсуецца вашай актыўнасьцю. Трымайцеся і не апускайце рукі. Да сустрэчы», – гэтак напісаў **кіраўнік праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі**, які адбывае пакараньне ў бабруйскай папраўчай калёніі №2, віцебскаму **праваабаронцу Леаніду Сьвеціку**. Леанід Сьвецік кажа, што гэта ўжо 10-ы ліст, які ён атрымаў ад праваабаронцы-палітвязьня пасьля таго, як апошні апынуўся за кратамі.

Алесь Бяляцкі быў узяты пад варту 4 жніўня 2011 году. 24 кастрычніка суд Першамайскага раёну Менску (судзьдзя Сяргей Бандарэнка) прызнаў яго вінаватым «ва ўтойваньні прыбыткаў у буйным памеры» і прысудзіў да 4,5 гадоў зьняволеньня. Міжнародныя праваабарончыя арганізацыі прызналі Алеся Бяляцкага вязьнем сумленьня.

**28.11.2013 Леанід Гаравы**, **актывіст руху «За свабоду»** з Гарадка, **сябар БСДП (Грамада)** накіраваў скаргу на дзеяньні супрацоўнікаў турмы №4 Магілёву наконт абмежаваньня права палітвязьня, **экс-кандыдата ў прэзыдэнты Мікалая Статкевіча** на ліставаньне. Падставай для падрыхтоўкі скаргі стала паштоўка ад Мікалая Статкевіча з паведамленьнем, што папярэдні ліст актывіста не прайшоў цэнзуру.

Леанід Гаравы лічыць, што гэта неабгрунтаванае абмежаваньне права на ліставаньне экс-кандыдата ў прэзыдэнты Мікалая Статкевіча. Аналягічныя лісты ў няволю без абмежаваньняў даходзяць да іншых палітвязьняў, зь якімі вядзе ліставаньне актывіст. У лісьце няма ніякага грэбаваньня нормамі грамадзкай маралі, а тым больш нахабства і бессаромнасьці, што магло б быць падставай для ненакіраваньня ліста да Міколы Статкевіча.

**24.12.2013** Маці палітвязьня **Ігара Аліневіча** сустрэлася зь ім у турме. «Доўгатэрміновае спатканьне» працягвалася менш за суткі.

«Да апошняга моманту спатканьне было пад вялікім пытаньнем, – паведаміла **Валянціна Аліневіч**. – І сын, і мы знаходзіліся ў падвешаным стане. Ён напісаў, што апошнім часам спагнаньне ідзе за спагнаньнем, у любы момант могуць пазбавіць спатканьня. Але ўсё ж яно адбылося, хоць нават поўныя суткі не далі. Ігара прывялі а 15:00, а адвялі на наступную раніцу а 9:30.


Валянціна Аліневіч

Зьнешні выгляд – такі самы, толькі худы і бляды. Але так выглядаюць усе, цяжка чакаць чагосьці іншага. Дух – ранейшы. Пра сябе нічога не распавядаў асаблівага. Казаў, што апошнім часам рэжым стаў больш жорсткім. Ранейшага начальніка калёніі адправілі на павышэньне ў Віцебскі ДВП. Іншыя зьняволеныя распавядалі пра тое, што былі пляны зачыніць Наваполацкую калёнію з-за пашырэньня «Нафтану», які стаіць плот да плоту зь ёй, але потым іх адмянілі».

Валянціна Аліневіч паведаміла, што колькасьць зьняволеных у калёніі зьменшылася ў тры разы. Цяпер там утрымліваюцца 960 чалавек. Таксама яна зьвярнула ўвагу на жахлівую экалягічную абстаноўку ва ўстанове.

«Шкодныя выкіды ў атмасфэру робяць па начох, – распавяла яна. – На наступную раніцу сьнег – блакітнага колеру. Ведаю, што Андрэй Саньнікаў у свой час пісаў скаргу на экалягічны стан калёніі, але штраф даслалі менавіта калёніі, а ня тым нафтахімічным гігантам, якія знаходзяцца побач.

Сваякі зьняволеных таксама казалі пра тое, што агародніны ў турэмнай краме амаль не бывае, не кажучы ўжо пра малочныя прадукты, а нацэнкі складаюць 30-40%. Гэта адзіная калёнія, дзе законны дазвол зьняволеным на тэлефанаваньне дадому на практыцы фактычна ня дзейнічае. Ва ўсіх калёніях маюцца таксафоны, а зьмешчаныя ў іх людзі маюць права тэлефанаваць дадому 3 разы на месяц. У Наваполацкай калёніі такога няма. Расклад тэлефанаваньняў ёсьць, але ён не выконваецца. Мала таго, трэба яшчэ напісаць заяву, якую могуць і не падпісаць, трэба паведаміць сваім родным, а ліст можа своечасова і не дайсьці, можа быць страчаны ключ ад пакою і гэтак далей. Гэта тычыцца ня толькі Ігара, гэта ўласьціва ўсёй гэтай цікавай калёніі, ранейшага кіраўніка якой, паўтараю, паслалі на павышэньне».

Ігара Аліневіча разам зь іншымі актывістамі анархісцкага руху затрымалі ў верасьні 2010 году. Працэс над імі пачаўся ў траўні 2011 году. Ігар Аліневіч атрымаў найбольшы тэрмін – 8 гадоў – за ўдзел у антываенным шэсьці каля Генштабу Рэспублікі Беларусь, а таксама па абвінавачваньні ў зьдзяйсьненьні нібыта хуліганскіх акцыяў супраць амбасады Расейскай Фэдэрацыі, банкаў і казіно.

**26.12.2013 Андрэю Гайдукову**, які адбывае пакараньне ў Магілёўскай калёніі № 19, дазволілі кароткатэрміновае спатканьне зь сям'ёй. Пра гэта паведаміла яго маці **Вольга Гайдукова**: «Крыху лепш сталі ісьці лісты. Мы таксама стэлефаноўваемся дзесьці раз на 10 дзён. У прынцыпе ён трымаецца нармальна. Чакаем, калі вернецца дадому», – сказала яна.

**25.02.2014** Сям'я палітвязьня **Андрэя Гайдукова**, які адбывае пакараньне ў Магілёўскай калёніі №19, вярнулася з доўгатэрміновага спатканьня. Пра гэта паве-


Ігар Аліневіч

даміла яго маці **Вольга Гайдукова**. Спатканьне працягвалася 3 дні.

**06.04.2014** Палітвязень **Андрэй Гайдукоў** пераведзены з калёніі ў Магілёве ў папраўчую калёнію «Віцьба-3». 8 траўня завяршаецца тэрмін ягонага зьняволеньня, і таму прычыны такога пасьпешлівага пераводу патлумачыць цяжка. Магчыма, перад вызваленьнем на палітвязьня ўзмацняецца ціск, і паколькі сьледзтва над ім і сам суд адбываліся ў Віцебску, дык, імаверна, мясцовыя сілавікі пажадалі трымаць Гайдукова «пад рукой», у калёніі, з больш жорсткім рэжымам.

**08.05.2014 Андрэй Гайдукоў** вызвалены. Вызваленьне з калёніі «Віцьба-3» палітвязьня Андрэя Гайдукова стала сапраўднай спэцапэрацыяй, арганізаванай з мэтай не дапусьціць ягоную сустрэчу ля турэмнай брамы. Андрэю Гадукову загадалі пачаць зьбіраць рэчы а 6-й раніцы, хоць звычайна з калёніі выпускаюць аб 11-й. А 7-й яго пасадзілі ў міліцэйскі аўтамабіль, адвезьлі на вакзал у Віцебску, далі 20 тысяч рублёў, каб ён змог даехаць да сваякоў. Такім чынам, каля турэмнай брамы яго сустрэць не ўдалося.

Па сваім вызваленьні Андрэй Гайдукоў распавёў, што ўсяго ён прайшоў 10 этапаў: «Калі мяне арыштавалі, адразу адправілі на месяц у КДБ, потым павезьлі ў Віцебскі СІЗА – таксама амаль на месяц, потым назад у КДБ – на пяць месяцаў, і зноў назад у Віцебск – на тры месяцы. Пасьля ў ВК-19 – на сем месяцаў, а адтуль, пад канец тэрміну, – на месяц у «Віцьбу-3», каб я адчуў і параўнаў усё «хараство» гэтай сыстэмы».

«Горш за ўсё сядзелася, вядома, у СІЗА КДБ. Там вельмі халодна. А ўзімку знаходзіцца там было наогул немагчыма. Усе спалі ў куртках, але ўсё адно прачыналіся ад холаду. У «Віцьбе-3» мяне на 10 дзён кінулі ў карцэр. Мяне прывезьлі, і дня праз чатыры – адразу ў карцэр. Пакуль я там сядзеў, усе мае дакумэнты незаконна праверылі. То бок я меў зносіны зь людзьмі, якія перадавалі празь мяне скаргі, напрыклад, у пракуратуру. Усё яны гэта праверылі, і нешта забралі», – канстатаваў Андрэй Гайдукоў.

Актывіст упэўнены, што так, як яго, улады могуць пасадзіць кожнага чалавека. «Спачатку мяне і маіх бацькоў неаднаразова папярэджвалі, таму што мы рыхтавалі рэгістрацыю «Саюзу маладых інтэлектуалаў». У мяне ўжо быў цалкам гатовы пакет для Мін’юсту, патрэбна была толькі ўстаноўчая канфэрэнцыя, але за тры дні да яе мяне арыштавалі. Да гэтага мы шукалі фінансаваньне на сваю дзейнасьць, зьвярталіся ў розныя фонды, у тым ліку ў фундацыю амбасады ЗША ў Летуве. Але адказаў не было. Потым прыйшоў адказ нібыта з фундацыі амбасады ЗША, які насамрэч напісаў супрацоўнік віцебскай контрвыведкі», – сказаў ён.

**31.05.2014** Палітвязень **Ігар Аліневіч** пазбаўлены магчымасьці вучыцца ў Нава-


Алесь Бяляцкі

полацкай калёніі. Распавяла маці палітвязьня **Валянціна Алінёвіч**: «Адразу ён спрабаваў працаваць па спэцыяльнасьці, якая блізкая да ягонай адукацыі, а ён закончыў радыётэхнічны. Але яго ня бралі ні на якую. А летась узялі ў ПТВ на краўца, але празь месяц адхілілі ад вучобы. Ведаю, што ён падаваў заяву на навучаньне на краўца, але зноў не ўзялі».

**21.06.2014 Алесь Бяляцкі** выйшаў на свабоду. Кіраўнік праваабарончага цэнтру «Вясна» патэлефанаваў жонцы Натальлі Пінчук і паведаміў, што ён вызвалены і едзе ў Менск на электрычцы з Бабруйску. Да канца яго тэрміну заставалася яшчэ больш за паўтара году, але Бяляцкага нечакана выпусьцілі па амністыі.

Алесь Бяляцкі распавёў, што пэўны ціск быў увесь час з тым, каб ён напісаў прашэньне аб памілаваньні. Але ён адмаўляўся.

Кіраўнік праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі быў асуджаны на 4,5 гады турмы ў лістападзе 2011 году. Яго прызналі вінаватым у нясплаце падаткаў. Праваабаронца сваёй віны не прызнаў і заявіў, што ўсе грошы, атрыманыя на ягоныя рахункі, ішлі на праваабарончую дзейнасьць. Краіны Эўразьвязу, ЗША і міжнародныя праваабарончыя арганізацыі прызналі Бяляцкага палітвязьнем, а прысуд яму — палітычна матываваным. Яны патрабавалі ад уладаў Беларусі вызваліць праваабаронцу. У 2012 і 2013 гадох Алесь Бяляцкі быў намінаваны на Нобэлеўскую прэмію міру.

## Факты парушэньняў грамадзянскіх і палітычных правоў

**25.07.2013** На прыём да намесьніка старшыні аблвыканкаму Ўладзімера Цярэнцьева хацелі трапіць прадстаўнікі грамадзкіх структур, якія прапануюць ініцыяваць «Народны рэфэрэндум» – **Юрась Губарэвіч**, **Андрэй Дзьмітрыеў** і **Аляксей Янукевіч**, якія прыехалі зь Менску, а таксама віцебскія актывісты **Хрыстафор Жаляпаў**, **Аляксей Гаўруцікаў** і **Лідзія Сагідуліна**. Пасьля доўгіх спрэчак да чыноўніка прапусьцілі толькі трох актывістаў. А прадметам размовы была немагчымасьць атрымаць дазвол на правядзеньне масавых мерапрыемстваў.

Віцебскі каардынатар руху «За свабоду» Хрыстафор Жаляпаў распавёў: «Спачатку ўвогуле нікога не хацелі пусьціць на прыём, апрача мяне. Хаця спадар Цярэнцьеў да размовы быў падрыхтаваны: у ягоным габінэце былі ўсе трое раённых «ідэолягаў» – з тых раённых адміністрацыяў, ад якіх мы ўжо цягам трох гадоў ня маем ніводнага дазволу на прапанаваныя намі акцыі.

Рашэньне Віцебскага гарвыканкаму ад 10.07.2009 года № 881 не дазваляе грамадзянам рэалізаваць свае правы на публічнае выказваньне думак. Так, паводле рашэньня гарадзкіх уладаў, арганізатары мусяць разам з заяўкай падаваць у раённыя адміністрацыі і копіі дамоваў на абслугоўваньне мерапрыемстваў. Але адказныя структуры адмаўляюцца ад заключэньня дамоваў з актывістамі з розных прычын. А некалькі разоў заяўнікам наўпрост казалі, што заключаць дамоваў не будуць, пакуль няма станоўчага рашэньня раённых адміністрацыяў. Таму актывісты сабралі подпісы пад калектыўным лістом у аблвыканкам, каб вышэйшы орган улады пасадзейнічаў зьменам у рашэньні гарвыканкаму.

**26.07.2013** Улады забаранілі ўсе масавыя мерапрыемствы апазыцыі, якія мусілі адбыцца ў Віцебску 27 ліпеня, у гадавіну прыняцьця Дэклярацыі пра незалежнасьць Беларусі. Прычына забароны – заяўнікі не выканалі рашэньня гарвыканкаму № 881 «Аб масавых мерапрыемствах у г. Віцебску».

Заяўку на правядзеньне пікету 27 ліпеня ў адміністрацыю Кастрычніцкага раёну падаваў **сябра КХП-БНФ Ян Дзяржаўцаў**. Аналягічная заяўка яшчэ на адзін пікет была пададзеная актывістамі **Хрыстафорам Жаляпавым** і **Аляксеем Гаўруцікавым** у адміністрацыю Першамайскага раёну. А **абласны кіраўнік партыі БНФ Леанід Аўтухоў** прасіў адміністрацыю Чыгуначнага раёна дазволіць правядзеньне мітынгу. Усе акцыі меркавалася ладзіць у месцах, адмыслова выдзеленых уладамі пад масавыя мерапрыемствы.

**31.07.2013** У Віцебску забаранілі пікеты ў падтрымку Алеся Бяляцкага. Заяўкі былі пададзеныя на 4 пікеты, якія віцебскія праваабаронцы меркавалі зладзіць 4 жніўня. У гэты дзень споўніцца два гады, як кіраўнік Праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі знаходзіцца за кратамі. Заяўнікам **Паўлу Левінаву** і **Леаніду Сьвецiку** мясцовыя ўлады не далі дазволу на пікеты салідарнасьці зь Бяляцкім. Абодва праваабаронцы атрымалі адмовы на падставе таго, што яны не заключылі дамоваў на абслугоўваньне акцыяў, як гэтага патрабуе рашэньне гарвыканкаму № 881.

**12.08.2013** Невядомыя зьбілі і спрабавалі скрасьці наваполацкага актывіста



Яўген Парчынскі

**Яўгена Парчынскага**. Каля 16:00 дня актывіст вяртаўся дахаты і побач са сваім пад'ездам заўважыў «Фальксваген» цёмнага колеру. Зь яго выйшлі трое пасажыраў і прапанавалі актывісту «сесьці ў машыну, каб пагаварыць». Яўген Парчынскі адмовіўся, яго пацягнулі сілком, распачалася бойка… Адбіцца ад невядомых Парчынскаму дапамаглі суседзі па пад'езьдзе.

Яўген Парчынскі: «У чым прычына, што мяне чакалі каля пад'езду, я ня ведаю. Аднак жа і высьветляць не хацелася: сядзеш з такімі ў машыну, а потым апынесься зьвязаным у лесе. Яны мне нічога не казалі, пра што будзем гаварыць. Толькі цягнулі. Потым нехта з траіх ударыў пад вока, нехта – па рэбрах. Назаўтра я пайшоў у паліклініку, урачы сказалі, што ў мяне садны мяккіх тканак. Нічога больш сур'ёзнага няма. Ня ведаю, ці будуць урачы паведамляць у міліцыю. Я, прынамсі, зьвяртацца туды не зьбіраўся. Бо каго яны там знойдуць?"

Сябры Парчынскага, заснавальніка мясцовага незалежнага сайту «Свабодны рэгіён» кажуць пра імавернасьць таго, што інцыдэнт можа быць зьвязаны з акцыяй у падтрымку палітвязьняў, заплянаванай якраз на 12 жніўня. Гэта быў дзень нарадзінаў Мікалая Статкевіча, і ў Наваполацку зьбіраліся вывесіць расьцяжку з патрабаваньнем вызваліць яго ды іншых палітзьняволеных. Акцыя не адбылася.

**13.08.2013** У Віцебску затрымалі распаўсюдніка ўлётак пра «Народны рэфэрэндум» **Андрэя Андрэева**. За актывістам сачылі невядомыя з цывільнай машыны. Калі спадар Андрэеў увайшоў у адзін з пад'ездаў, праз пару хвілін увайшлі і яны, прапанавалі праехаць зь імі ў Кастрычніцкі РАУС Віцебску.

У міліцэйскім пастарунку на актывіста склалі пратакол аб адміністрацыйным правапарушэньні, прадугледжаным артыкулам 22.9 КаАП (парушэньне заканадаўства аб сродках масавай інфармацыі). 700 асобнікаў улётак былі канфіскаваныя.

**16.08.2013** Доктар **Ігар Пастноў**, які супрацоўнічаў зь недзяржаўнымі мэдыямі і ня раз крытыкаваў мясцовыя ўлады на чале з губэрнатарам Аляксандрам Косінцам за занядбаны стан мэдыцыны ў рэгіёне і карупцыю, прымусова зьмешчаны ў закрытае аддзяленьне № 2 Віцебскага абласнога клінічнага цэнтру псыхіятрыі і наркалёгіі – менавіта ў гэтай установе ён працаваў. Каб зьмясьціць лекара ў вар'ятню, да яго прыйшлі на працоўнае месца і прад'явілі адпаведную пастанову пракурора.

Ігар Пастноў за свае публічныя выказваньні і актыўную жыццёвую пазыцыю шмат разоў падвяргаўся рэпрэсіям. Сёлета ў студзені ён быў звольнены з пасады дзіцячага лекара. Каб знайсьці новую працу, спатрэбілася некалькі месяцаў. Да зьмяшчэньня ў вар'ятню апальны лекар распавёў пра незадаволенасьць ідэоляга


Ігар Пастноў

на новым працоўным месцы яго крытыкай уладаў і кіраўніцтва ўстановы аховы здароўя, дзе ён пачаў працаваць, у інтэрнэце.

У інтэрнэце доктар Пастноў апублікаваў некалькі відэаролікаў. Менавіта стану спраў у псыхіятрыі быў прысьвечаны яго апошні відэазварот, які зьявіўся ў сеціве 4 жніўня. У сваім звароце лекар падзяліўся з гледачамі інфармацыяй пра факты прымусовай шпіталізацыі жыхароў Віцебску ў псыхлякарню.

Ігар Пастноў пісьмова адмовіўся ад якіх-небудзь мэдычных працэдур і запатрабаваў ад галоўнага лекара УАЗ «ВАКЦ псыхіятрыі і наркалёгіі» Алены Мартынавай скліканьня незалежнай псыхіятрычнай камісіі. Праз свайго сябра ён накіраваў скаргу ў Ґенэральную пракуратуру Рэспублікі Беларусь.

**17.08.2013 Хрыстафор Жаляпаў**, **каардынатар руху «За свабоду» па Віцебскай вобласьці**, атрымаў адказ на калектыўны ліст ад намесьніка старшыні аблвыканкаму А. Дзівуліна. Больш як 40 мясцовых жыхароў прасілі адмяніць рашэньне гарвыканкаму наконт парадку правядзеньня масавых акцыяў. Адказ чыноўнікаў аблвыканкаму: Рашэньне № 881 застанецца бязь зьменаў. Паводле А. Дзівуліна, рашэньне гарвыканкаму цалкам законнае.

Віцебскія актывісты на працягу ўжо больш як трох гадоў спрабуюць атрымаць дазволы на правядзеньне масавых мерапрыемстваў, але раённыя адміністрацыі такіх дазволаў не даюць. Яны спасылаюцца на рашэньне віцебскага аблвыканкаму, якога заяўнікі акцыяў выканаць папросту ня могуць.

**19.08.2013 Журналіст Уладзімер Жыгулоў** распавёў пра ўмовы знаходжаньня лекара **Ігара Пастнова** ў закрытым другім аддзяленьні Віцебскага абласнога псыхіятрычнага шпіталя: «На сёньняшні дзень у яго забралі тэлефон, ён ня можа размаўляць. Да яго нікога не пускаюць. Адзінае, што ён сказаў, калі на хвіліну яму далі тэлефон, што ён знаходзіцца ў асобнай палаце. Галоўны лекар Мартынава Алена Валер’еўна не дазволіла нам даць даверанасьць, каб можна было глядзець ягоную асабістую справу, які яму дыягназ ставяць. Быццам бы ён сам ня згодны, хоць ён нас прасіў сам».

**28.08.2013** Праваабарончая арганізацыя Amnesty International заступілася за віцебскага лекара **Ігара Пастнова**, зьмешчанага згодна з рашэньнем суду ў вар’ятню дзеля прымусовага лячэньня. Арганізацыя заклікала ўсіх неабыякавых да тэрміновай акцыі: напісаць лісты на адрас міністра аховы здароўя Рэспублікі Беларусь Васіля Жарко і генпракурора Аляксандра Канюка.

Міжнародная праваабарончая арганізацыя просіць тых, хто будзе пісаць лісты, нагадаць адказным службовым асобам Беларусі, што прымусовае псыхіятрычнае

лячэньне трэба ўжываць толькі ў выпадках цяжкіх псыхічных захворваньняў, калі існуе небясьпека, што чалавек дакладна нанясе непазбежную шкоду сабе або іншым. Таксама аўтарам зваротаў да беларускіх прадстаўнікоў улады рэкамэндуецца запатрабаваць ад апошніх прызначыць паўторную псыхіятрычную экспэртызу доктару Ігару Пастнову, і забясьпечыць, каб яму былі забясьпечаныя належныя юрыдычныя кансультацыі і аказаная неабходная адвакацкая абарона.

«Ігар Пастноў, магчыма, быў зьмешчаны ў шпіталь за яго не забароненую законам крытыку стану аховы здароўя ў Віцебскай вобласьці. Калі гэта пацьвердзіцца, Amnesty International прызнае яго вязьнем сумленьня», – паведамляе дакумэнт, апублікаваны ўплывовай міжнароднай праваабарончай арганізацыяй.

**05.09.2013 Валер Місьнікаў**, **прававы інспэктар прафсаюзу работнікаў радыёэлектроннай прамысловасьці па Віцебскай вобласьці**, атрымаў адмову на сваю заяўку на правядзеньне пікету, прысьвечанага сацыяльным праблемам працоўных. Забараніла акцыю Адміністрацыя Чыгуначнага раёну Віцебску. Акцыя была забароненая на падставе рашэньня Віцебскага гарвыканкаму №881.

Паводле спадара Місьнікава, пікет плянаваўся на нядзелю, 8 верасьня. Колькасьць удзельнікаў – адзін чалавек, а мэта – пратэст супраць прынятай Пастановы Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 28 чэрвеня 2013 г. № 569 «Аб мерах па рэалізацыі Закону Рэспублікі Беларусь "Аб дзяржаўных дапамогах сем’ям, якія выхоўваюць дзяцей"».

**09.09.2013** Віцебскі актывіст **Сяргей Рыжоў** атрымаў падпісаную лекарамі віцебскага абласнога псыхіятрычнага шпіталя даверанасьць прадстаўляць інтарэсы лекара **Ігара Пастнова**, зьмешчанага на прымусовае псыхіятрычнае лячэньне. Але празь некалькі гадзінаў яму паведамілі, што забараняюць сустракацца з Пастновым.

Паводле Сяргея Рыжова, даверанасьць у шпіталі атрымаць было праблемай — спачатку прадстаўнікі адміністрацыі перадалі яму, што Пастноў ня хоча бачыць яго даверанай асобай: «Але мяне падманулі, і Пастнова таксама — зь ім пра маю асобу ўвогуле не было гаворкі. Я даведаўся пра гэта ад Ігара Пастнова асабіста. 9 верасьня я яго адведаў, і мы зь ім размаўлялі больш за гадзіну. Нашу гаворку, у якой брала ўдзел і загадчыца аддзяленьня Натальля Васільева, я запісваў на дыктафон. Пярэчаньняў зь яе боку не было. Праз пэўны час у пакой зайшоў намесьнік галоўурача шпіталя Ігар Сьвіркуноў і загадаў мне сьцерці запіс, бо Пастноў шчыра апавядаў пра тое, што зь ім робяць у шпіталі. Я пакінуў шпіталь, і праз пэўны час патэлефанаваў на пост дзяжурнай мэдсястры — па гэтым нумары дазваляюць размаўляць з пацыентамі. Але пачуўшы маё прозьвішча, слухаўку кінулі. Я патэлефанаваў у ардынатарскую, і ўжо там мне сказалі, што нашы зносіны з Пастновым абмежаваныя на падставе артыкулу 40 Закону аб псыхіятрычнай дапамозе».

У гэтым артыкуле гаворыцца, што пацыенты псыхіятрычнага шпіталя могуць быць абмежаваныя ў некаторых правах паводле распараджэньня лекараў. У прыватнасьці, ім можа быць забаронена сустракацца з наведнікамі або карыстацца тэлефонам, калі гэта, на думку лекара, «уяўляе небясьпеку для пацыента або іншых асобаў».


Уладзімер Жыгулоў

На думку Сяргея Рыжова, абмежаваньне на зносіны выклікане тым, што прагучала на сустрэчы. Ігар Пастноў скардзіўся на абразьлівыя мэтады прымусовага лячэньня — яму заціскаюць нос, каб ён быў вымушаны адкрыць рот, і мэдыкі змаглі змусіць яго праглынуць лекі. Паводле Сяргея Рыжова, Пастноў выглядае змучаным, зацкаваным, і лекары былі незадаволеныя, калі гутарка заходзіла пра асаблівасьці прымусовага лячэньня.

**10.09.2013** Адміністрацыя Кастрычніцкага раёну Віцебску забараніла **актывісту КХП-БНФ Яну Дзяржаўцаву** праводзіць пікет на знак пратэсту супраць разьмяшчэньня вайсковых баз Расейскай Фэдэрацыі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Пікет мусіў адбыцца 14 верасьня. Прычына забароны пікету – заяўнік ня выканаў умоваў рашэньня гарвыканкаму № 881 «Аб масавых мерапрыемствах у г. Віцебску».

**19.09.2013** Віцебская абласная пракуратура адмовіла актывісту **Сяргею Рыжову** ва ўзбуджэньні крымінальнай справы на падставе яго заявы пра факты ціску на лекара Ігара Пастнова, зьмешчанага на прымусовае псыхіятрычнае лячэньне. Рыжоў падаў скаргу ў пракуратуру Віцебскай вобласьці 16 верасьня, патрабуючы прыцягнуць да крымінальнай адказнасьці дзевяць чалавек, у тым ліку кіраўніцтва абласнога клінічнага цэнтру псыхіятрыі і наркалёгіі, судзьдзю суду Віцебскага раёну Тацьцяну Дзегцярову і старшыню Віцебскага абласнога выканаўчага камітэту Аляксандра Косінца.

Актывіст сьцьвярджае, што паміж названымі асобамі склалася «змова з мэтай прычыненьня Ігару Пастнову фізычнай шкоды з пагрозай для жыцьця». «Сёньня атрыманы адказ пракуратуры за подпісам першага намесьніка пракурора вобласьці Сідаровіча А.В., ён ня бачыць у перададзеных дакумэнтах і выкладзеных фактах прыкмет складу злачынства», – паведаміў Рыжоў.

**20.09.2013** Віцебскі лекар **Ігар Пастноў** выйшаў на свабоду. Урачэбна-кансультацыйная камісія Віцебскага абласнога клінічнага цэнтру псыхіятрыі і наркалёгіі, у якім Ігар Пастноў утрымліваўся гвалтоўна, прыняла рашэньне аб пераводзе яго на дзённы стацыянар. Ён па-ранейшаму мусіць праходзіць мэдычныя працэдуры, але начаваць будзе дома.

Сам Ігар Пастноў называе сваё вызваленьне ўмоўным, бо рашэньне суду аб прымусовым лячэньні не адмененае, і лячэньне, цяпер ва ўмовах дзённага стацыянару, будзе працягвацца.

**26.09.2013** Віцебскі **журналіст Уладзімер Жыгулоў** атрымаў адказ з Генпракуратуры па справе аб зьнікненьні яго сына. Генэральная пракуратура паведаміла, што


Аляксандар Ілынец

зварот аб непрыняцьці мер па вышуку зьніклага ў 1998 годзе сына, які Ўладзімер Жыгулоў перадаў некалькі месяцаў таму ў рукі галоўнага інспэктара па Віцебскай вобласьці Мікалая Дамашкевіча, будзе накіраваны ў пракуратуру Віцебскай вобласьці для праверкі выкладзеных у ім довадаў.

«Пры разглядзе звароту запатрабаваныя і вывучаныя крымінальная справа па факце разбойнага нападу… зьдзейсьненага ў ноч на 19 траўня 1998 году на дарозе Берасьце-Менск арганізаванай злачыннай групай з прымяненьнем гвалту, небясьпечнага для жыцьця і здароўя пацярпелых, выкарыстаньнем агнястрэльнай зброі, завалоданьнем маёмасьцю ў асабліва буйным памеры… крымінальная справа ў дачыненьні да Жыгулова А.У. і іншых асоб… крымінальная справа па факце невядомага зьнікненьня Жыгулова А.У., а таксама вышуковыя справы», – гаворыцца ў адказе з Генпракуратуры за подпісам начальніка ўпраўленьня па наглядзе за выкананьнем заканадаўства Сьледчым камітэтам Рэспублікі Беларусь Ігара Сеўрука.

«З матэрыялаў спраў бачна, што Жыгулоў А.У. хаваўся ад органа крымінальнага перасьледу, у апошні раз яго бачылі ў лістападзе-сьнежні 1998 году ў г. Маскве», – прыйшлі да высновы ў Генпракуратуры.

Уладзімер Жыгулоў называе гэты адказ «чарговай зьдзеклівай адпіскай, якая практычна нічым не адрозьніваецца ад ранейшых»: «Па сутнасьці справы яны не адказалі на ніводнае пытаньне, якое я задаў ў звароце Дамашкевічу. Гэтак і застаецца таямніцай, хто ж зьдзейсьніў злачынства пад Стоўбцамі ў 1998 годзе…» – кажа Ўладзімер Жыгулоў.

32-гадовага Аляксандра Жыгулова абвінавацілі ў зьдзяйсьненьні разбойнага нападу ў складзе злачыннай групы з мэтай завалоданьня маёмасьцю ў асабліва буйным памеры ў верасьні 1998 году. У гэтым жа месяцы яго аб’явілі ў вышук як абвінавачанага, які хаваецца ад сьледзтва. 12 гадоў Жыгулова «шукалі» як злачынцу і 3 гады – як бязь вестак зьніклага (у 2011 годзе пракуратура адмяніла крымінальны перасьлед «за адсутнасьцю складу злачынства»). Хто зьдзейсьніў напад каля вёскі Коласава 15 гадоў таму – дагэтуль невядома.

**03.10.2013** Пра гісторыю свайго звальненьня распавёў **сябар партыі БНФ Аляксандар Ілынец**, які працаваў майстрам у брыгадзе цэху ўласнай вытворчасьці ў краме №139 гандлёвай сеткі «Веста», займаўся выпечкай хлеба-булачных і кандытарскіх вырабаў. Ён цьвердзіць, што нараканьняў на сваю працу з боку кіраўніцтва ня меў, але пасьля таго, як стала вядома пра ягоны ўдзел у кампаніі «Зробім лепш», пачаліся праблемы. Паводле словаў актывіста, яму прапанавалі разьвітацца з працай – «па-добраму», пасьля тэлефанаваньня дырэктарцы крамы.

«У нашым двары мы вырашылі добраўпарадкаваць тэрыторыю, абсталяваць дзіцячую пляцоўку. Правялі сход мясцовых жыхароў з дамоў №№ 31, 29, 29 карпусы 1 і 2 па вуліцы Чкалава, сабралі подпісы пад калектыўным лістом, зьвярнуліся ў службу ЖКХ. І нам нават паабяцалі дапамогу – прывесьці ўсё неабходнае для дзіцячай пляцоўкі. І як толькі артыкул пра гэта зьявіўся на сайце «Народныя Навіны Віцебска», літаральна праз пару дзён у двары пачалася інтэнсіўная праца: аднекуль сабралі дворнікаў, яны пачалі прыбіраць, усталёўваць лавачкі… А неўзабаве пад'ехаў аўтобус зь нейкімі людзьмі – пераважна мужчынамі ў пінжаках і гальштуках, якія пачалі аглядаць тэрыторыю ды запісваць, што тут ёсьць і чаго няма», — распавёў Аляксандар Ільінец.

На наступны дзень ён зайшоў па вытворчых справах да дырэктаркі крамы, дзе працаваў. І стаў сьведкам тэлефоннай размовы, прычым гаворка ішла пра ягоную асобу: «Дырэктарка Алена Андрэева казала ў слухаўку: «А вось ён якраз і тут». Пэўны час моўчкі слухала, што ёй кажуць, а потым папрасіла мяне выйсьці. Праз колькі хвілінаў запрасіла мяне ў габінэт ізноў. Ды сказала, што мае паслугі гэтай краме больш не патрэбныя. Што ёй патэлефанавалі і параілі са мной разьвітацца па-добраму. А прычыну, маўляў, я сам ведаю. З кім размаўляла дырэктарка, мне даведацца не ўдалося. Аднак пра прычыну я здагадваюся: справа ў грамадзкай актыўнасьці – што я нібыта падбухторваю людзей да чагосьці кепскага. Хаця насамрэч мы проста хацелі зрабіць свой двор больш утульным».

Аляксандар Ільінец тлумачыць свае здагадкі тым, як разьвіваліся падзеі. Даведаўшыся, што ў двары вырашылі наводзіць парадак самі мясцовыя насельнікі, чыноўнікі з ЖКГ занепакоіліся пра свой невысокі аўтарытэт у жыхароў. А таксама пра тое, што факты пра непарадак у гэтым двары сталі вядомыя грамадзкасьці, і што праз гэта ў іх могуць быць непрыемнасьці на працы. Таму, мяркуе актывіст, ягоная дзейнасьць прызнаная небясьпечнай. У тым ліку і ў краме, пра што і папярэдзілі дырэктарку.

**04.10.2013** Віцебскі **сябра незарэгістраванай партыі «Белая Русь» Аляксандар Кірылаў** праходзіў курс лячэньня ў Рэспубліканскім шпіталі спэлеалячэньня ў Салігорску. Адтуль ён патэлефанаваў на «гарачую лінію» ў Міністэрства аховы здароўя і паскардзіўся на факты п'янак у клініцы, парушэньне правілаў унутранага распарадку, неаказаньне хворым на бясплатнай аснове мэдычных паслуг. Актывіста выслухалі і параілі вырашыць ўсе пытаньні на месцы. Неўзабаве ж пасьля таго, як ён паспрабаваў зрабіць гэта, яму прыйшлося кінуць свае манаткі ў шпіталі і ўцякаць на перакладных дадому ў Віцебск.

Спроба вырашыць праблему «на месцы» распачалася досыць міралюбна. Аляксандра Кірылава прыняў у сваім габінэце галоўурач мэдычнай установы Павал Леўчанка. Ён добразычліва прапанаваў незадаволенаму ўмовамі лячэньня пацыенту прайсьці ў палату і на пісьме выкласьці свае прэтэнзіі, пазначыць факты, даты і прозьвішчы, а таксама даць на подпіс дакумэнт іншым хворым, бо актывіст сьцьвярджаў, што ён не адзін не задаволены ўмовамі ў шпіталі. Аляксандар Кірылаў выйшаў з габінэту і накіраваўся ў палату. Сеўшы за напісаньне калектыўнай заявы, ён не адразу заўважыў, як у палаце зьявіўся міліцыянт…

Маёр міліцыі А.М. Лявончык, які суправаджаўся дзьвюма мэдсёстрамі, пачаў

папракаць пацыента, навошта ён скардзіцца ў Міністэрства аховы здароўя, і запатрабаваў тлумачэньняў. Абураны хворы адмовіўся адказваць на пытаньні і паспрабаваў «прарвацца» ў габінэт галоўнага ўрача. Міліцыянт яго не пусьціў, завязалася бойка. Паводле словаў Аляксандра Кірылава, у выніку яму былі нанесеныя траўмы.

Пэрсанал шпіталя выклікаў «хуткую». Лекар Яварчук, якая прыехала на чале брыгады, паспрабавала ўкалоць «буяну» заспакойлівае, але той супраціўляўся. На дапамогу падасьпелі галоўурач і яго намесьнік Натальля Дубовік, якія запатрабавалі псыхіятрычнага агляду Кірылава. Яму заламалі рукі, запхнулі ў машыну і даставілі ў псыханэўралягічны дыспансэр.

Там, у прысутнасьці маёра Лявончыка і групы з чатырох апэратыўных супрацоўнікаў АУС Салігорску быў праведзены агляд. У рэшце рэшт, было заяўлена, што Аляксандар Кірылаў здаровы, і падставаў для яго зьмяшчэньня ў псыхіятрычны дыспансэр няма. «Пакуль няма», – папярэдзілі яго.

Баючыся, што на гэтым справа ня скончыцца, Кірылаў вырашыў уцякаць, пакінуўшы ў шпіталі ў Салігорску свае асабістыя рэчы. На перакладных удалося дабрацца да Віцебску. Па прыезьдзе, у 2 гадзіны ночы пешшу пайшоў у гарадзкі траўмапункт, каб зьняць пабоі. Але калі вярнуўся ў свой пакой у інтэрнаце, адпачыць ня змог – неўзабаве да яго завіталі прадстаўнікі сьледчага камітэту Чыгуначнага раёну Віцебску… На раніцы пасьля бяссоннай ночы Аляксандар Кірылаў зьвярнуўся ў пракуратуру Віцебску з заявай аб зьдзяйсьненьні супраць яго злачынстваў, прадугледжаных Крымінальным кодэксам.

**04.10.2013 Сябра прафсаюзу РЭП Алена Шандзюкова** зьвярнулася з пазовам у суд, каб спагнаць зь юрыдычнай кансультацыі № 2 Віцебску і Віцебскай абласной калегіі адвакатаў па адным мільёне рублёў маральнай шкоды. Прычынай такога беспрэцэдэнтнага пазову сталі адмова адваката Натальлі Станкевіч ў аказаньні юрыдычнай дапамогі актывістцы і пазыцыя намесьніка Віцебскай абласной калегіі адвакатаў Алены Барашкавай, якая заклікала спадарыню Шандзюкову наогул адмовіцца ад разгляду яе грамадзянскай справы ў судзе.

Пачатак канфлікту паклала вызначэньне судзьдзі суду Чыгуначнага раёну Віцебску Сьвятланы Варатынскай, вынесенае падчас судовага разгляду грамадзянскай справы. Судзьдзя Варатынская абавязала Алену Шандзюкову зьвярнуцца ў юрыдычную кансультацыю № 2, каб наняць адваката для вядзеньня яе справы ў судзе.

Падпарадкаваўшыся гэтаму вызначэньню, прафсаюзная актывіста заключыла пагадненьне ў юркансультацыі з адвакатам Натальляй Станкевіч. Адвакатка ўзялася за работу, азнаёмілася з матэрыяламі справы, а потым… не зьявілася на ніводнае судовае паседжаньне. З гэтай прычыны разгляд справы Шандзюковай некалькі разоў адкладалася і, у рэшце рэшт, справа была разгледжаная без удзелу адваката з адмоўным для пазоўніка вынікам.

Неаднаразовыя звароты да загадчыцы юрыдычнай кансультацыі № 2 Таццяны Ткачонак з просьбай забясьпечыць яўку адваката Станкевіч у суд і змусіць апошнюю выканаць свае прафэсійныя абавязкі, не далі плёну. Намесьніца Віцебскай абласной калегіі адвакатаў Алена Барашкава ўстала на абарону адваката

Станкевіч. Яна заявіла, што адвакат мае законнае права адмовіцца ад вядзеньня справы, калі ня бачыць пэрспэктыў у задавальненьні пазоўных патрабаваньняў кліента.

Старшыня Віцебскай абласной калегіі адвакатаў Аліна Пужэвіч, куды Шандзюкова зьвярнулася са скаргай на дзеяньні яе падначаленых, адказала катэгарычна: «Прафэсійныя абавязкі адвакатам выкананыя. Парушэньняў правілаў прафэсійнай дзейнасьці адвакатам не дапушчана. Падстаў для прымяненьня мер узьдзеяньня да адвакату не маецца».

Прафсаюзная актывістка лічыць, што сваёй бязьдзейнасьцю адвакаты парушылі яе права на юрыдычную дапамогу. Яна спасылаецца на артыкул 62 Канстытуцыі, згодна зь якім «кожны мае права на юрыдычную дапамогу для ажыцьцяўленьня і абароны сваіх правоў і свабодаў, у тым ліку права карыстацца ў любы момант дапамогай адвакатаў і іншых сваіх прадстаўнікоў у судзе…».

Пасьля трохмесячнай папяровай цяжбы з адвакатамі Алена Шандзюкова вырашыла пашукаць справядлівасьці ў судзе і падала пазоў, у якім папрасіла кампэнсаваць ёй маральную шкоду, нанесеную адмовай адваката выканаць свае прафэсійныя абавязкі. Аднак у парушэньне патрабаваньняў працэсуальнага закона на першае паседжаньне суду адвакаты-адказчыкі не прыйшлі.

Для прадстаўленьня інтарэсаў спадарыні Шандзюковай у судзе па гэтай справе так і не знайшлося абаронцы. Усе адвакаты як адзін адмовіліся абараняць прафсаюзную актывістку, спасылаючыся на карпаратыўную салідарнасьць.

**07.10.2013** Грамадзкага актывіста **Барыса Хамайду** затрымалі за несанкцыянаванае пікетаваньне каля так званага «Сіняга дому» — дому № 28 па вуліцы Леніна, дзе каля ўваходу ў краму «Веста» ён ужо даўно і стала распаўсюджвае незалежную прэсу. Віцебскага апазыцыянэра адвезьлі ў міліцыю Чыгуначнага раёну Віцебску. Праз паўгадзіны актывіста адпусьцілі, не складаючы пратаколу.

«Стаяў, як заўжды, пад бел-чырвона-белым парасонам. Быў прымацаваны бел-чырвона-белы сьцяжок. Была і вышытая чырвоным на белай палатніне малітва «Ойча наш» — падарунак актывісткі Антаніны Піванос. Гэта ўсё было як звычайна. Але пад'ехалі міліцыянты, сказалі, што ў мяне несанкцыянаваны пікет, і павезьлі ў пастарунак», — паведаміў Хамайда.

**11.10.2013** Намесьніца кіраўніка адміністрацыі Чыгуначнага раёну Віцебску Натальля Ляпёшкіна забараніла пікет, які праваабаронцы меркавалі зладзіць 19 кастрычніка. Яны хацелі абмеркаваць з жыхарамі гораду праблемы, зьвязаныя з наяўнасьцю і ўжываньнем сьмяротнага пакараньня ў Беларусі. Прычына забароны акцыі – адсутнасьць у яе арганізатараў дамоваў з ЖКГ, міліцыяй і мэдыкамі на яе абслугоўваньне. Заяўнікам акцыі выступаў **праваабаронца Леанід Сьвецік**.

**14.10.2013** Віцебскія сябры Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ хацелі публічна адсьвяткаваць юбілей партыі. Дзеля гэтага яны падалі заяўку ў адміністрацыю Чыгуначнага раёну на пікет. Акцыя мусіла адбыцца 18 кастрычніка ў месцы, адмыслова адведзеным уладамі пад масавыя мерапрыемствы – у парку чыгуначнікаў, тым ня менш намесьніца кіраўніка раённай адміністрацыі Натальля Ляпёшкіна акцыю забараніла. Заяўнікамі акцыі на ўгодкі БНФ былі **актывісты**


Ян Талпыга

**партыі Ян Талпыга** і **Ян Дзяржаўцаў**.

**28.10.2013** Адмову ад адміністрацыі Першамайскага раёну Віцебску атрымалі **Аляксей Гаўруцікаў** і **Хрыстафор Жаляпаў**. 29 кастрычніка яны хацелі правесьці пікет салідарнасьці з палітвязьнямі. Каардынатар руху «За свабоду» па Віцебскай вобласьці Хрыстафор Жаляпаў і актывіст аргкамітэту па стварэньні сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная Грамада» Аляксей Гаўруцікаў падрыхтавалі заяўку такім чынам, каб у раённых уладаў было найменей падставаў адмовіць.

Пікет салідарнасьці з палітвязьнямі быў прызначаны на будзённы дзень, бо перадапошнім разам актывістам не ўдалося заключыць дамову на абслугоўваньне акцыі з мэдыкамі. З цэнтральнай гарадзкой паліклінікі адказалі, што ў выходныя няма магчымасьці арганізаваць дзяжурства машыны хуткай дапамогі, бо іх на працы і так нямнога.

«Гэтым разам мэдыкі адмовілі нам ізноў. Але ўжо не згадаўшы аніякае прычыны наогул – папросту напісалі, што немагчыма заключыць з намі дамову, дый усё! Зь міліцыі на наш запыт мы наогул не дачакаліся адказу. Прынамсі, ліст пра забарону акцыі зь Першамайскай раённай адміністрацыі мы ўжо атрымалі, а з управы МУС – не. Хаця лісты па адказных структурах мы разаслалі раней, чымся падавалі заяўку. Такім чынам, з усіх адрасатаў станоўчы адказ мы атрымалі толькі ад структуры ЖКГ, яны ня супраць заключыць з намі дамову на прыборку пасьля пікету», – распавёў Аляксей Гаўруцікаў.

Папярэдняе заключэньне дамоваў на абслугоўваньне акцыяў рэглямэнтаванае рашэньнем гарвыканкаму №881 «Аб арганізацыі масавых мерапрыемстваў у г. Віцебску». Яно было прынятае тры з паловай гады таму, і з тае пары ў Віцебску не было дазволена ніводнай акцыі з ініцыятывы апазыцыйных актывістаў.

**30.10.2013** На сайце «Хроніка Туркмэністану» зьявілася нататка «Туркмэнскія студэнты просяць ратунку», дзе паведамляецца, што на студэнтаў з Туркмэністану, што навучаюцца ў Віцебскім дзяржаўным унівэрсытэце імя П. М. Машэрава, на працягу апошніх двух тыдняў палююць мясцовыя скінхэды. Далей у тэксьце гаворыцца наступнае: «Групы маладых хлопцаў зьбіваюць як хлопцаў, гэтак і дзяўчат – туркмэнскіх студэнтаў. З-за таго, што апошнія цяпер не могуць выйсьці на вуліцу, ужо на працягу шасьці дзён навучальны працэс ва ўнівэрсытэце спынены».

«Паводле слоў студэнтаў, калі яны, аб’яднаўшыся, спрабуюць даць адпор мясцовым групоўкам, міліцыя стае на бок скінхэдаў. Туркмэнская амбасада ў Беларусі не рэагуе на зварот студэнтаў», – піша «Хроніка Туркмэністану».


Яўген Вільскі

Перасьледу туркмэнскіх студэнтаў папярэднічала паведамленьне ў СМІ пра закрытую вечарыну, куды плянавалася дапускаць толькі «туркмэнскіх студэнтаў і рускіх дзяўчат». Інтэрнэт-супольнасьць Беларусі была абураная дыскрымінацыйнымі ўмовамі імпрэзы, і адміністрацыя клюбу яе адмяніла.

**02.11.2013** Цягам менш як месяцу раённыя адміністрацыі Віцебску забаранілі 5 пікетаў, заяўкі на якія падавалі **сябры Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі БНФ Ян Дзяржаўцаў** і **Ян Талпыга**. Усе акцыі забароненыя з аднолькавай прычыны: арганізатары ня выканалі рашэньне Віцебскага гарвыканкаму № 811 «Аб масавых мерапрыемствах у г. Віцебску», бо не далучылі да сваіх заявак дамоваў з ЖКГ, міліцыяй і паліклінікай.

Праз шэраг пікетаў, якія мусілі адбыцца з 20 кастрычніка па 7 лістапада актывісты хацелі публічна адсьвяткаваць юбілей сваёй партыі, выказаць пратэст супраць разьмяшчэньня вайсковых баз Расеі ў Беларусі і будаўніцтва атамнай электроўні ў Астраўцы, адзначыць Дзяды ды паведаміць жыхарам гораду пра згубную ролю камуністычнай ідэалёгіі для нашай краіны.

**09.11.2013** Полацкая міліцыя перашкодзіла прадстаўнікам грамадзкасьці ў правядзеньні сходу. У памяшканьні таварыства спажыўцоў былі затрыманыя і дастаўленыя ў міліцэйскі пастарунак шасьцёра грамадзян, якія ўдзельнічалі ў сходзе. Затрыманьнем кіраваў старшы лейтэнант міліцыі Міхаіл Перапечкін ў прысутнасьці работнікаў ЖКГ. Пасьля апытаньня ў міліцыі ўдзельнікаў сходу адпусьцілі.

Распавядае адзін з затрыманых удзельнікаў сходу **Яўген Вільскі**: «У офісе таварыства спажыўцоў, якое выкарыстоўваецца і грамадзкай арганізацыяй «Гавары праўду», з 15:00 праходзіў чарговы сход кааліцыі дэмакратычных арганізацыяў гораду Полацку. А 16:40 у офіс зайшлі людзі ў форме міліцыі. Апроч міліцыі ў форме, у памяшканьне ўвайшлі яшчэ некалькі прадстаўнікоў полацкага ЖКГ, як я зразумеў сярэдняга кіруючага зьвяна, яны ж выконвалі функцыі панятых і «грамадзкасьці». Чалавек у цывільным пачаў фатаграфаваць людзей, што сядзелі. Потым, пакуль участковы тлумачыў мэту візыту, ён склаў нейкі пратакол, пад якім расьпісаліся панятыя.

Участковы выклікаў дзяжурную машыну, у якую зьмясьціліся толькі затрыманыя, і кіроўца адвёз іх у РАУС. Як дабіраліся супрацоўнікі – ня ведаю, магчыма пешшу. Ад месца затрыманьня да міліцыі каля 15 хвілін хады. Супрацоўнікі міліцыі паводзіліся досыць ветліва, пыталіся, ці ёсьць крыўды або прэтэнзіі. Пра што пыталі іншых затрыманых, я ня ведаю. Я адмовіўся даваць паказаньні, паведаміў толькі асабістыя дадзеныя. Пісьменную і своечасовую дапамогу аказалі


Зьміцер Вайцюшкевіч

юрысты Свабоднага прафсаюзу».

У аддзяленьні міліцыі апытвалі кожнага паасобку, астатнія чакалі ў калідоры пад наглядам аднаго з інспэктараў. Кіраваў апытаньнем старшы ўчастковы інспэктар грамадзкага пункту правапарадку мікрараёну «Цэнтар» старшы лейтэнант міліцыі Перапечкін Міхаіл Генадзевіч. Яму дапамагалі два маладыя інспэктары. Усіх затрыманых адпусьцілі а палове на сёмую вечара, пратрымаўшы ў міліцыі каля дзьвюх гадзін.

Паводле слоў міліцыянтаў, падставай да затрыманьня стала паведамленьне жыхароў пра шум у памяшканьні ў непрацоўны час. Офіс, дзе затрымалі грамадзян, знаходзіцца ў старым трохпавярховым будынку каля помніку беларускай літары «Ў» у цэнтры гораду. Першы паверх і падвальнае памяшканьне займаюць офісы грамадзкіх арганізацыяў.

Прысутнасьць работнікаў ЖКГ, якія складалі пратакол, сьведчыць пра тое, што затрыманьне, магчыма, было сплянаванае загадзя. Прадстаўнікі розных грамадзкіх аб'яднаньняў Полацкага раёну ўжо год як сустракаюцца рэгулярна для абмеркаваньня сумесных дзеяньняў у грамадзкіх інтарэсах. Сярод іх сумесных дзеяньняў абарона прывакзальнага парку, лісты падтрымкі працоўнаму «Нафтану» Андрэю Гайдукову і іншыя мерапрыемствы.

**15.11.2013** У Полацку забаранілі праводзіць канцэрт **Зьмітра Вайцюшкевіча**. Канцэрт мусіў адбыцца ў Полацкім Цэнтры рамёстваў і нацыянальных культур і першапачаткова быў узгоднены з начальнікам аддзелу ідэалягічнай работы, культуры і па справах моладзі райвыканкаму Віктарам Палушкіным. Аднак напярэдадні канцэрту ў райвыканкам патэлефанавалі з вобласьці і ладзіць канцэрт забаранілі.

У райвыканкаме тэрмінова правялі нараду з высьвятленьнем хто арганізаваў канцэрт «апазыцыянэра». Намесьнік старшыні па сацыяльных пытаньнях райвыканкаму Пётар Пяткевіч спрабаваў абвінаваціць у палітычнай недальнабачнасьці **дырэктара Цэнтру рамёстваў і нацыянальных культур Валянціну Крук**, абвінавачваючы яе ў тым, што зь ім не ўзгаднілі правядзеньне канцэрту. Ён запатрабаваў звольніць Валянціну Крук з пасады дырэктара Цэнтру.

**16.11.2013 Экс-прэтэндэнт у кандыдаты на пасаду прэзыдэнта** на выбарах 2010 году **Сяргей Рыжоў** заявіў, што быў жорстка зьбіты ў віцебскім мэдвыцьвярэзьніку. Яго даставілі туды ўвечары. Паводле ягоных словаў, прывязалі да крэсла і білі ў грудзі нагой. Паводле Сяргея Рыжова, гэтую справу зараз разьбірае Сьледчы камітэт.




Сяргей Рыжоў: «Мы выпілі зь сябрам. Потым проста на плошчы Перамогі, на вачох у людзей мяне забраў міліцэйскі патруль. Прывезьлі ў выцьвярэзьнік, паклалі на ложак, усё нармальна… Але я сказаў, што ў мяне гепатыт С і што мне трэба рэгулярна прымаць лекі. Мяне тады прывязалі да зялезнага крэсла, за рукі і за ногі. Я прасіў, каб паслабілі папругі, але яны іх толькі мацней зацягвалі. Зьбівалі, пачыналі душыць. У мяне засталіся сьляды…»

Сяргей Рыжоў распавёў, што праз некалькі гадзінаў яго адпусьцілі дахаты, і ўжо з дому ён выклікаў хуткую дапамогу. Рыжоў лічыць, што супраць яго ўчынілі правакацыю. Прынамсі, ён не хавае, што быў у выцьвярэзьніку ўжо не ўпершыню, але мінулым разам яго амаль адразу адпусьцілі:

«Сёлета была такая сытуацыя. Але мяне адразу адпусьцілі. Яны склалі дакумэнты, я падпісаў — і мы разьвіталіся. І гэтым разам яны запатрабавалі, каб я падпісаў пратакол, што быў у нецьвярозым стане. Але я гэты пратакол парваў! Мяне могуць і сёньня забраць. Мне старшы лейтэнант адкрыта сказаў, што яны зробяць так, каб я апынуўся ў выцьвярэзьніку ў трэці раз. І мяне тут жа адправяць на прымусовае лячэньне ў ЛПП».

**18.11.2013 Віктар Цімафееў** дамагаецца, каб нарэшце завялі крымінальную справу і вызначылі, пры якіх абставінах ягоны сын атрымаў сьмяротную траўму ў сьнежні 2011 году. Тады 27-гадовы **Алег Цімафееў** увечары ў нядзелю выйшаў сустрэцца зь сябрам. Але дадому вярнуўся толькі раніцай. Зьбіты. «Мянты пабілі», — патлумачыў бацькам. А ўначы яго забралі ў шпіталь і праапэравалі. У шпіталі ён і памёр.

«Я быў на працы, калі раніцай сын прыйшоў дадому, — расказвае бацька пацярпелага Віктар Цімафееў. — Ліфт не працаваў, і ён ледзь падняўся на восьмы паверх, як сказаў. Увечары пытаюся, што здарылася. Падрабязнасьці не расказваў. Сказаў, што піць больш ня будзе, але ім гэтага не даруе. Пытаюся: хто біў? Адказвае, што патрульныя і мянты».

Уначы Алегу стала кепска. «Калі «хуткая» спыталася, якія траўмы атрымаў, назваў траўму грудзей — было цяжка дыхаць, палавых органаў — у туалет схадзіць ня мог і жывот балеў». З дому Алега забралі ў шпіталь, дзе пасьля апэрацыі два тыдні правёў у непрытомнасьці. І памёр.

«Тупая траўма жывата, удар грудной клеткі», — паставілі дыягназ у шпіталі. Калі правялі апэрацыю, пашкоджаньні аказаліся сур’ёзнымі: разрыў брыжэйкі падуздышнай кішкі з адрывам яе ад кішкі і разрывы падуздышнай кішкі з




амярцьвеньнем яе часткі, разрыў вялікага сальніка.

«Кішкі скручаныя зьмейкай, да іх з адной кропкі веерам ідуць нэрвы і судзіны. Гэта ёсьць брыжэйка, — тлумачыць мэдычныя тэрміны лекар аднаго са сталічных шпіталёў. — Калі быў разрыў брыжэйкі і разрыў кішкі — значыць быў крывацёк, і ў чэраўную паражніну трапіў кал. Гэта 100% перытаніт. Чым пазьней узялі на апэрацыйны стол — тым менш шанцаў выжыць. Калі там былі ўчасткі амярцьвеньня, гэта ўжо запозна. Нават калі выжыў бы — быў бы інвалід бяз кішак».

Паводле праведзенай праверкі, хто зьбіў маладога чалавека, невядома. Міліцыянты нібыта дачыненьня да зьбіцьця ня маюць. Але вядома, што а 8:05 Цімафееў знаходзіўся ў міліцыі, а дзесьці праз гадзіну ўжо быў дома. Прычым зьбіты. Лёг спаць. А ўначы яго забрала «хуткая». Калі забіралі ў шпіталь, пра акалічнасьці сказаў фельчару: білі нагамі, рукамі, дручком у пастарунку мінулай ноччу.

У шпіталі далі заключэньне, што Алег атрымаў траўму каля сутак да паступленьня ў шпіталь. Калі «хуткая» забрала яго ў гадзіну ўначы, то атрымліваецца, што ён атрымаў удар у жывот падчас затрыманьня альбо ўжо ў выцьвярэзьніку. Удар, які і стаў прычынай сьмерці. Але хто яго нанёс, дагэтуль невядома. «Я не сьцьвярджаю, што зьбілі канкрэтна тыя патрульныя, што яго забіралі. Ёсьць факт атрыманьня цялесных пашкоджаньняў. Я прашу высьветліць, хто зьбіваў», — кажа Віктар Цімафееў.

**21.11.2013** Аршанскія актывісты атрымалі адказы на заяўку на правядзеньне пікету за рамонт аварыйнага мосту. У адказах гаворыцца, што гарвыканкам не дазволіў пікет, бо не была атрыманая згода ад міліцыі і паліклінікі на ахову мерапрыемства. А міліцыя і паліклініка не пагадзіліся ахоўваць пікет, бо ня быў атрыманы дазвол з гарвыканкаму. Як адзначыў **каардынатар аргкамітэту па стварэньні партыі «Беларуская хрысьціянская дэмакратыя» ў Воршы Яўген Анішчанка**, які больш за два гады змагаецца за рамонт аварыйнага мосту, ён мае намер падаць скаргі на забарону пікету ў суд.

**21.11.2013** Працаўнікоў «Нафтану» змушаюць падпісвацца на афіцыйныя газэты. Загад пра гэта выдаў намесьнік дырэктара прадпрыемства па ідэалягічнай працы Сяргей Брыкун. Паведамляе адзін з работнікаў прадпрыемства. «Згодна з адношаньнем гарадзкога выканаўчага камітэту і распараджэньнем дырэктара заводу «Палімір» ААТ «Нафтан» А.В. Жэбіна, неабходна арганізаваць індывідуальную падпіску на першае паўгодзьдзе 2014 году ў адпаведнасьці з дадаткам, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на арганізацыю падпіскі сярод кіраўнікоў усіх узроўняў, уключаючы структурныя падразьдзяленьні», – гаворыцца ў загадзе.

У дадатку пералічаныя выданьні, на якія патрабуе падпісацца ідэоляг. Сярод іх «Советская Белоруссия», «Рэспубліка», «Знамя юности», а таксама мясцовыя афіцыйныя выданьні. Ідэоляг патрабуе даць справаздачу наконт прымусовай падпіскі да 22 лістапада.

**24.11.2013** Справай аб зьбіцьці віцебскага палітыка ў выцьвярэзьніку займаецца Сьледчы камітэт. Паводле слоў **Сяргея Рыжова**, пасьля здарэньня яго неаднаразова запрашалі сустрэцца – ня толькі міліцыянты для дачы паказаньняў, але і сам начальнік мэдвыцьвярэзьніку: апошні патэлефанаваў Рыжову і прапанаваў сустрэцца… у ягонай машыне. Рыжоў адмовіўся…

На думку Сяргея Рыжова, супраць яго ўчыненая правакацыя. Ён распавёў: невядомы старшы лейтэнант міліцыі паведаміў яму, што ёсьць пляны адправіць яго ў ЛПП. Для зьдзяйсьненьня плянаў застаўся толькі адзін прывад цягам году: «Цяпер мы цябе засадзім, – цытуе словы лейтэнанта Рыжоў. – Ты пойдзеш на ЛПП, а стуль можаш і не вярнуцца!». На думку палітыка, тое, што адбываецца, – гэта выкананьне чыёйсьці палітычнай замовы.

**26.11.2013** Віцебскі лекар **Ігар Пастноў**, вядомы крытыкай мясцовых уладаў, паведаміў, што 26 лістапада яго выклікалі да галоўнага лекара ВАКЦ псыхіятрыі і наркалёгіі Мартынавай, дзе папярэдзілі пра тое, што ён займаецца неліцэнзійнай дзейнасьцю. Прычынай выкліку да кіраўніцтва стала зьяўленьне ў інтэрнэце інфармацыі пра тое, што лекар аказваў мэдычную дапамогу зьбітаму **палітыку Сяргею Рыжову**. Паколькі пасьля зьняцьця пабояў Рыжову не прызначылі лячэньня, дык яго кансультаваў і рабіў ін’екцыі Пастноў.

Паводле слоў лекара, кіраўніцтва мэдустановы, дзе ён працуе, лічыць, што такой яго дзейнасьцю могуць зацікавіцца сьледчыя органы, бо яна ажыцьцяўляецца без адпаведнай ліцэнзіі.

**27.11.2013** Ізноў забаранілі канцэрт **Зьмітра Вайцюшкевіча**. Цяпер – у Воршы. Выступ знакамітага сьпевака ўваходзіў ў шэраг мерапрыемстваў, прысьвечаных Дню нараджэньня Ўладзімера Караткевіча і мусіў адбыцца ў музэю пісьменьніка 27 лістапада. Але напярэдадні стала вядома, што канцэрту ня будзе.

Паводле слоў аднаго з арганізатараў мерапрыемства, забарона канцэрту – гэта ініцыятыва не мясцовых чыноўнікаў ад культуры, такі загад магло спусьціць толькі больш высокае кіраўніцтва. Тым больш, што надоечы, таксама за дзень да плянаванай даты, такі самы канцэрт быў забаронены на загад з аблвыканкаму ў Полацку.

**03.12.2013** Пракуратура вынесла **Сяргею Рыжову** папярэджаньне. «Пасьля разьмяшчэньня ў Інтэрнэце асуджэньня разгону ў Кіеве мірнага «Майдану», пасьля разьмяшчэньня інфармацыі пра тое, што Беларуская кансэрватыўная партыя «Белая Русь» асудзіла разгон ў 2012 годзе мірнай дэманстрацыі на Балотнай плошчы і зьбіраецца далучыцца да міжнароднай ініцыятывы аб правядзеньні Дня памяці ахвяр разгону сьнежня 2010 году ў Менску, пракуратурай Віцебскай вобласьці было вынесенае мне афіцыйнае папярэджаньне за ўдзел у незарэгістраванай арганізацыі», – паведаміў віцебскі палітык Сяргей Рыжоў.

Пад афіцыйным папярэджаньнем, якое было ўручанае Сяргею Рыжову, стаіць


Аляксандар Кузьняцоў

подпіс намесьніка пракурора Віцебскай вобласьці старшага дарадцы юстыцыі Георгія Каранько. Палітыку ставіцца ў віну тое, што ён неаднаразова выступаў з заявамі, прадстаўляючыся сустаршынём Беларускай кансэрватыўнай партыі «Белая Русь» і Міжнароднага руху «За новы сьвет! За абноўленага чалавека!», якія не зарэгістраваныя на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

«Згодна з арт. 193-1 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь, арганізацыя дзейнасьці альбо ўдзел у дзейнасьці палітычнай партыі, іншага грамадзкага аб'яднаньня, якія не прайшлі ў вызначаным парадку дзяржаўную рэгістрацыю, караецца штрафам, альбо арыштам на тэрмін да шасьці месяцаў, альбо пазбаўленьнем волі на тэрмін да двух гадоў», – гаворыцца ў папярэджаньні, якой атрымаў віцебскі палітык.

**05.12.2013 Праваабаронцу Паўлу Левінаву** забаранілі ладзіць пікеты ў Дзень правоў чалавека. Тры пікеты, па адным у кожным з раёнаў Віцебску, мусілі адбыцца 10 сьнежня, у Сусьветны дзень правоў чалавека. Нягледзячы на тое, што пікеты плянаваліся як адзіночныя і працягласьць кожнага зь іх складала б толькі адну хвіліну, – улады палічылі немагчымым іх правядзеньне без дамоваў аб мэдычным абслугоўваньні зь лекарамі, аб ахове зь міліцыянтамі і аб прыборцы тэрыторыі са сьмецьцярамі.

**05.12.2013** Яшчэ два пікеты, прымеркаваныя да Дня правоў чалавека, забаранілі ў Віцебску. Прычына чарговых забаронаў ужо звыклая: адсутнасьць дамоваў на абслугоўваньне акцыяў. Хоць актывісты і спрабавалі заключыць дамовы, зьвярнуўшыся ў належныя службы за два месяцы да заплянаваных акцыяў, ім адмовілі ў абласной управе МУС і цэнтральнай гарадзкой паліклініцы.

Ліст зь пісьмовай забаронай акцыі атрымаў з адміністрацыі Кастрычніцкага раёну **старшыня гарадзкой арганізацыі Партыі БНФ Аляксандар Кузьняцоў**. Тэма пікету, які ён хацеў правесьці – «пратэст супраць палітычных рэпрэсіяў у краіне, акцыя салідарнасьці з палітвязьнямі і патрабаваньне іх неадкладнага вызваленьня і поўнай рэабілітацыі».

**Каардынатар Руху «За свабоду» па Віцебскай вобласьці Хрыстафор Жаляпаў** і **актывіст аргкамітэту па стварэньні сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная Грамада» Аляксей Гаўруцікаў** падавалі заяўку на акцыю да ўгодкаў прыняцьця Ўсеагульнай дэклярацыі правоў чалавека ў Першамайскую раённую адміністрацыю. Юрыст Аляксей Гаўруцікаў распавёў, што да ўладаў зьвярнуліся яшчэ за 2 месяцы да заплянаванай акцыі:

«Мы падавалі разам і заяўку, і лісты з прапановай заключыць дамовы, адрасаваныя ў міліцыю, гарадзкую паліклініку і службу ЖКГ. З апошняй структурай ніколі




няма праблем – яны пагаджаюцца на дамовы. А зь іншымі дзьвюма – ёсьць, таму мы падалі заяўку загадзя, каб пасьпець прыцягнуць да суду адказных асобаў, калі нам адмовяць у абслугоўваньні пікету. Адказу зь Першамайскай адміністрацыі давялося чакаць замест 15 дзён цэлы месяц. Прычына адмовы чаканая: адсутнасьць дамоваў на абслугоўваньне. Потым даслалі ліст зь міліцыі – што лічаць немэтазгоднай дамову, бо акцыя ўжо забароненая. Хаця ў рашэньні гарвыканкаму №881, на які ўлады спасылаюцца, ясна сказана: абслугоўваць акцыі мусяць і мэдыкі, і міліцыя, і дамоўленасьці зь імі – папярэднія. Абласная ўправа МУС, як заўжды, ігнаруе гэты дакумэнт. І, дарэчы, міліцыянтаў няма чым папракнуць: яны падпарадкоўваюцца закону аб масавых мерапрыемствах, а не вынаходніцтву мясцовых чыноўнікаў».

З цэнтральнай гарадзкой паліклінікі таксама прыйшла адмова. Маўляў, дамову на абслугоўваньне заключыць немагчыма, бо ўзімку ўсе мэдычныя службы працуюць у складаным рэжыме, абумоўленым масавымі захворваньнямі.

**06.12.2013** Аршанскі райвыканкам забараніў пікет у абарону зялёных насаджэньняў у горадзе. Заяўку на правядзеньне пікету 12 сьнежня ў парку льнокамбінату ў абарону парку «Чаромушкі» (там цяпер будуецца шматпавярховік) ад высечкі дрэў падавалі грамадзкія актывісты **Юры Нагорны** і **Алесь Шутаў**. Надоечы прыйшоў адказ з райвыканкаму. Правядзеньне пікету забароненае. Прычына забароны – заяўнікі не падалі ў выканкам дамоваў на ахову, мэдычнае абслугоўваньне і вываз сьмецьця.

**12.12.2013 Сяргей Рыжоў** паведаміў, што мусіў ізноў зьвярнуцца да мэдыкаў, бо стан ягонага здароўя пасьля знаходжаньня ў мэдвыцьвярэзьніку 16 лістапада пагоршыўся. З часу знаходжаньня ў выцьвярэзьніку мінуў ужо амаль месяц. Рыжоў кажа, што ўвесь гэты час адчувае падвышаны ціск і боль у пальцах абедзьвюх рук.

Паўторна зьвярнуцца да мэдыкаў яму параіў лекар **Ігар Пастноў**, які апякуецца станам здароўя Рыжова. «Я бачу, што пальцы ў яго кепска рухаюцца, не загойваюцца. І вось цяпер такі вынік: здымкі паказалі, што тырчаць косткі. І, імаверна, спатрэбіцца апэрацыя, бо паламаныя пальцы не зрастаюцца ці зрастаюцца няправільна. Як мэдык я абураны: чаму чалавеку, які скардзіцца на тое, што яго зьбівалі, не зрабілі рэнтген унутраных органаў, не зьвярнулі ўвагі на тое, што ў яго рукі не ў парадку? Ды яму нават аналізаў крыві і мачы не прызначылі, хаця ведалі, што ў Рыжова — гепатыт. Я некалькі разоў сам рабіў яму ўколы вітамінаў, бо не магу пакінуць яго без дапамогі» — кажа Ігар Пастноў.

**15.12.2013** Віцебскія актывісты КХП-БНФ ізноў не змаглі зладзіць пікеты з-за за-


Уладзіслаў Макавецкі

бароны іх правядзеньня мясцовымі ўладамі. Адказы, атрыманыя заяўнікамі з адміністрацыяў Першамайскага і Кастрычніцкага раёнаў Віцебску напісаныя бы пад капірку: акцыі забароненыя, бо арганізатары не заключылі дамоваў на іх абслугоўваньне з камунальнікамі, мэдыкамі і міліцыянтамі. Такая прычына забароны мерапрыемстваў апазыцыі – стандартная ў Віцебску. Пікеты КХП-БНФ мусілі адбыцца 14 і 15 сьнежня. Прычым, як паведаміў адзін з заяўнікаў акцыяў **Ян Дзяржаўцаў**, пра забарону аднаго зь пікетаў стала вядома толькі ў дзень, калі гэты пікет мусіў адбыцца. Мяркуючы па паштовым штэмпэлі, адміністрацыя Першамайскага раёну даслала паведамленьне аб тым, што пікет не дазваляецца, своечасова. Але пошце спатрэбілася ажно 5 дзён, каб ліст, адпраўлены зь Віцебску, быў нарэшце дастаўлены адрасату, які знаходзіцца ў тым самым горадзе.

**17.12.2013** Начальнікі заводзкіх падразьдзяленьняў падманам прымушаюць рабочых са Свабоднага прафсаюзу падпісваць заявы пра перадачу паўнамоцтваў афіцыйнаму прафсаюзу. У сувязі з пачаткам калектыўных перамоваў паміж працоўнымі і працадаўцам на полацкім заводзе «Шкловалакно» начальнікі раздаюць рабочым, якія не ўваходзяць у прадзяржаўны «Белхімпрафсаюз», падрыхтаваныя блянкі заяў і прымушаюць іх падпісваць. У тэксьце заявы сказана: «Прашу маім ўпаўнаважаным прадстаўніком лічыць першасную прафсаюзную арганізацыю «Белхімпрафсаюз», сябрам якой я не зьяўляюся…»

**19.12.2013** Улады забаранілі правядзеньне ў Віцебску пікету 19 сьнежня – у 3-ю гадавіну разгону мірнай акцыі ў апошні дзень прэзыдэнцкіх выбараў 2010 году. Заяўку на правядзеньне мерапрыемства падаваў мясцовы **палітычны актывіст Аляксандар Кірылаў**. Мерапрыемства павінна было пачацца ў 20:00 (з гэтага моманту ЦВК пачаў падлік галасоў выбаршчыкаў) і скончыцца а 20:30 (у гэты час Някляеву праламалі галаву, а астатніх кандыдатаў пачалі арыштоўваць, не дачакаўшыся вынікаў падліку галасоў).

**21.12.2013** У Віцебску АМАП і міліцыя затрымалі каля 30-ці чалавек, якія ехалі на канцэрт. Музыкі зь Менску, якія хацелі паўдзельнічаць у канцэрце ў Віцебску, не змаглі выйсьці на сцэну. Пра гэта паведаміў адзін з музыкаў — Павал: «Мы даехалі цягніком зь Менску да Воршы. Там трэба было чакаць дзьве гадзіны, і мы выйшлі, каб прагуляцца. Раптам каля нас зьявіліся супрацоўнікі мясцовай міліцыі. Усіх адвялі ў пункт аховы, праверылі дадзеныя. Пасьля гэтага ў суправаджэньні некалькіх міліцыянтаў мы паехалі ў Віцебск. Там, як высьветлілася, нас ужо чакалі міліцыянты ў форме і ў цывільным. Загналі усіх у апорны пункт на вакзале. Прыехала


Леанід Аўтухоў

начальства, у тым ліку і генэрал-маёр Яўсееў, якога я ведаў яшчэ па Менску, пара палкоўнікаў».

Яшчэ ў цягніку міліцыянты даглядзелі асабістыя рэчы хлопцаў. Адзін зь іх спрабаваў здымаць гэта на відэа. У яго забралі тэлефон і адфарматавалі флэшку. У апорным пункце хлопцам сказалі, што яны не затрыманыя, а знаходзяцца тут для ўласнай бясьпекі, бо нібыта на дварэ стаяць 30 мясцовых фанатаў-нацыстаў, якія хочуць іх пабіць.

«Нас пачалі дапытваць, да якіх груповак мы адносімся. Мы адказалі, што мы — музыкі, і больш нічым не займаемся. У бальшыні музыкаў былі квіткі на начны цягнік назад у Менск. Мы думалі, адыграем і вернемся дахаты. Але нам сказалі: ніякіх канцэнтраў, замянілі квіткі на цягнік, які адыходзіць зь Віцебску а 18:50. Дык што канцэрт сарваўся, нас сагналі ў залю чаканьня пад нагляд міліцыянтаў. Вельмі шкада, што так атрымалася. І грошы патрацілі ўпустую, і ў канцэрце не паўдзельнічалі», – распавёў Павал.

**08.01.2014 Сябра «Маладога Фронту» Ўладзіслаў Макавецкі** навучаецца ў Віцебскім тэхналягічным каледжы па спэцыяльнасьці «дэкаратыўна-прыкладное мастацтва». Палітычнай дзейнасьцю Ўлад займаецца даўно і кіраўніцтва каледжу папярэджвала яго пра недапушчальнасьць «грамадзкай дзейнасьці». Летась падчас традыцыйнай акцыі памяці герояў Слуцкага Збройнага Чыну ён прыняў прысягу «Маладога Фронту». Празь некаторы час пасьля гэтага ў каледж прыйшлі невядомыя супрацоўнікі праваахоўных органаў у цывільным.

Яны прынесьлі фотаздымкі Ўлада с жалобнага мітынгу і прыняцьця прысягі. Пасьля іх размовы хлопца выклікалі да кіраўніцтва каледжу і сказалі што давучыцца ў яго не атрымаецца (яму засталося вучыцца меней за паўгода) і наогул прапанавалі самому забраць дакумэнты. Праблем з вучобай Улад ніколі ня меў — таму вырашыў паспрабаваць здаць іспыты. Але на іспытах, нягледзячы на ўпэўнены адказ, яго накіравалі на пераздачу па двух прадметах. Кіраўніцтва не хавае матываў гэтага рашэньня.

**09.01.2014** У Гарадку затрымалі **актывіста партыі БНФ Леаніда Аўтухова**. У РАУС Леаніду Аўтухову паказалі ліст за подпісам «Ананім», дзе гаварылася, што ён рыхтуе ў райцэнтры акцыю пратэсту. Кіраўніка арганізацыі партыі БНФ па Віцебскай вобласьці пратрымалі ў пастарунку тры гадзіны – пакуль ня зьехала абласное начальства, якое прыяжджала сустракацца зь незадаволенымі мясцовымі прадпрымальнікамі.

Непасрэдна зь візытам прадстаўнікоў Віцебскага аблвыканкаму Леанід Аўтухоў і


Васіль Ільніцкі

зьвязвае сваё затрыманьне: «У нас тут вострая праблема – зачынілі рынак у цэнтры Гарадка, а прадпрымальнікаў выганяюць на стадыён каля тэхнікуму, дзе толькі лужы і бруд. Няма там ані электрычнасьці, ані вады, ані нават плоту. Таму яны ня хочуць туды перабірацца і працаваць па калена ў брудзе. 8 студзеня прадпрымальнікі занесьлі чарговую скаргу ў райвыканкам, бо з пачатку месяца яны ўсе – каля 80 чалавек – фактычна беспрацоўныя. Я размаўляў зь імі каля райвыканкаму. Але яны мне казалі, што ня хочуць, каб да іх праблем прымешвалі нейкую палітыку. І нават прасілі мяне сысьці. Я і сышоў. Але ўжо сёньня, 9 студзеня, паехаў на машыне сустракаць журналістаў, якія зацікавіліся праблемай з рынкам і прадпрымальнікамі. У дарозе мяне спынілі, прычын не патлумачылі, а ўжо ў міліцыі паказалі ліст ад нейкага «Ананіма».

**09.01.2014** Фізрука Віцебскага станкаінструмэнтальнага каледжу **Васіля Ільніцкага** зьбілі проста ў дзяржаўнай установе. Пасьля здарэньня пацярпелы зьвярнуўся ў Першамайскі РАУС, дзе атрымаў накіраваньне ў судмэдэкспэртызу. У траўмапункце яму наклалі швы і павязку.

Васіль Васільевіч вырашыў памяняць правы кіроўцы. У ДАІ ў грамадзяніна запатрабавалі пашпарт. Ільніцкі працягнуў яго ў акенца, а ў адказ супрацоўнік абвясьціў: «Ваш дакумэнт фальшывы». Маўляў, гэта не дакумэнт, паколькі ў кампутарнай базе дадзеных адсутнічаюць якія-небудзь зьвесткі на прад’яўленае «пасьведчаньне асобы».

Ільніцкі паспрабаваў вырашыць непаразуменьне ў АГіМ Першамайскага раёну. Начальніца аддзяленьня маёр міліцыі Вікторыя Хліманкова запэўніла, што прыкрая памылка будзе выпраўленая, будзе дадзеная даведка для ДАІ, але атрымаць яе трэба ў іншым габінэце. Наведвальнік накіраваўся ў суседні габінэт. Аднак каб завізаваць выдадзеную «паперу», спатрэбілася вярнуцца да начальніцы.

Паводле слоў Васіля Васільевіча, ён нават не пасьпеў адчыніць дзьверы, як на шляху зьявіўся мужчына з чаргі. Апошні лаяўся, што ён уваходзіць у габінэт, у якім быў некалькі хвілін таму, па-за чаргой, а праз імгненьне Ільніцкі атрымаў удар нагой у пахвіну. Ад другога ён пасьпеў ухіліцца – усё ж у маладосьці займаўся самба і іншымі відамі спартыўнай барацьбы. Але бамбіза не спыніўся і нанёс удар галавой. З расьсечанага брыва хлынула кроў. На шум выскачылі з габінэтаў супрацоўніцы ў міліцэйскай форме, яны ж на месцы аказалі мэддапамогу. З акрываўленым тварам пацярпелы накіраваўся ў Першамайскі РАУС, дзе яму далі накіраваньне на судмэдэкспэртызу. У траўмапункце «зацыравалі» рану і наклалі


Натальля Палюховіч

павязку.

Аднак ніводзін са сьледчых органаў па сьвежых сьлядох нават не пажадаў апытаць пацярпелага, як гэта звычайна бывае з пацярпелымі, якія прайшлі праз траўмапункт. На наступны дзень Васіль Ільніцкі сам праявіў ініцыятыву і прыбыў ва УУС, дзе даў тлумачэньні з нагоды інцыдэнту.

**10.01.2014** У Гарадку знайшлі «ахвярнага казла», вінаватага ў хваляваньнях сярод прадпрымальнікаў. Старшыня Гарадоцкага райпо **Натальля Палюховіч**, якая нібыта не падрыхтавала месца для рынку па вуліцы Спартыўнай у Гарадку ў адпаведнасьці з патрабаваньнямі заканадаўства, пазбаўленая працы. Усё адбылося нібыта «па ўласным жаданьні» звольненай. Яна не дапрацавала месяц да свайго 60-годзьдзя.

На сустрэчы прадпрымальнікаў з Аляксандрам Ацясавым, старшынём Віцебскага аблсавету, было ўзьнятае пытаньне пра адказнасьць старшыні Гарадоцкага райпо за непадрыхтаванасьць рынку. Старшыня аблсавету пагадзіўся з нэгатыўнай ацэнкай дзейнасьці спадарыні Палюховіч з боку прадпрымальнікаў і заявіў, што кадравае пытаньне трэба вырашыць. У гэтай сытуацыі Натальля Палюховіч на наступны дзень падала заяву аб вызваленьні ад пасады па ўласным жаданьні.

**11.01.2014** Пры правядзеньні маніторынгу месцаў прымусовага ўтрыманьня, прыватнай культурна-асьветніцкай установай «Платформ Інавэйшан» выяўлены факт раптоўнай сьмерці адміністрацыйна-затрыманага за парушэньне артыкулу 17.1 Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэньнях Рэспублікі Беларусь пяцідзесяцігадовага грамадзяніна **Кудзелкі Ігара Паўлавіча**.

28 сьнежня 2013 году ён пасьля «п'янага» сямейнага скандалу быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі і зьмешчаны ў спэцыялізаваны ізалятар (выцьвярэзьнік). Перад зьмяшчэньнем у выцьвярэзьнік Ігар Кудзелка быў агледжаны мэдычнымі работнікамі, праблем са здароўем, акрамя стану алькагольнага ап'яненьня, у парушальніка выяўлена не было. Пасьля заканчэньня знаходжаньня ў выцьвярэзьніку Кудзелка паўторна быў агледжаны мэдыкамі, скаргаў на дрэннае самаадчуваньне ім не прад'яўлялася і, да разгляду справы аб адміністрацыйным правапарушэньні, ён быў пераведзены ў ІЧУ УУС Віцебскага аблвыканкаму.

Паводле зьвестак, атрыманых супрацоўнікамі маніторынгавай групы, 29 сьнежня 2013 году Ігар Кудзелка адчуў сябе кепска, яму была выкліканая брыгада «хуткай дапамогі». Да прыбыцьця «хуткай» затрыманаму аказвалася першая дапамога мэдычнымі работнікамі ІЧУ, аднак брыгада «хуткай дапамогі», якая прыбыла, канстатавала яго сьмерць. Загінулы працаваў мулярам на адным з прадпрыемстваў гораду.



Вольга Карач

**14.01.2014 Лідэр кампаніі «Наш Дом» Вольга Карач** разам з мужам і сынам Сьвятаславам, які нарадзіўся 3 сьнежня, днямі прыехалі на радзіму, у Віцебск. Праз тыдзень пасьля прыезду да Вольгіных бацькоў прыйшла праверка. У кватэру, дзе прапісаная Вольга Карач, зьявіліся прадстаўнікі органаў апекі Кастрычніцкага раёну Віцебску і раённай камісіі па справах непаўналетніх.

«Мы прыехалі ў Віцебск 7 студзеня. Я займалася зборам дакумэнтаў, каб аформіць дэкрэтны адпачынак. Але я мусіла ад’ехаць, і якраз у гэты дзень да маёй маці прыйшлі з праверкай. Пыталіся дзіўныя, на мой погляд, рэчы: ці ёсьць у сына дзіцячы вазок, або — калі мы набывалі яму адзеньне і цацкі: да родаў ці пасьля. На гэтыя пытаньні была вымушана адказваць бабуля. Сваё зьяўленьне інспэктары патлумачылі тым, што ім трэба скласьці акт пра жыльлёвыя ўмовы дзіцяці. Урэшце напісалі, што яны добрыя. Праўда, копію акту не пакінулі. І я абураная самім стаўленьнем да нашай сям’і! Я ведаю, што гэткія праверкі праводзяцца, калі дзіця знаходзіцца ў сацыяльна небясьпечным становішчы. Хіба мой сын — у такім становішчы? Што за нездаровая цікаўнасьць да мяне і майго сына?»

Спадарыня Вольга зазначыла, што ўвогуле не разумее ініцыятывы правяраць жыльлёвыя ўмовы дзіцяці, якое на сёньняшні дзень яшчэ нідзе не прапісанае. Яны з мужам яшчэ вырашаюць, дзе прапісаць малога — з бацькам ці з маці. Маленькага Сьвятаслава яшчэ не паставілі на ўлік у дзіцячай паліклініцы, працягвае Вольга Карач:

«Я пайшла ў паліклініку з дакумэнтамі, каб завесьці картку на сына. Але паводле ўмоваў паліклінікі карткі дзяцей захоўваюцца ў іх. Я ведаю выпадкі, калі карткі проста гублялі, і таму папрасіла, каб картка або захоўвалася ў нас, або каб мне назвалі асобу, якая пэрсанальна будзе несьці адказнасьць за захаванасьць карткі майго дзіцяці. Мне такую асобу не назвалі, і ў паліклініцы на ўлік Сьвятаслава так і не паставілі. Увогуле яго няма на ўліку ў ніводнай беларускай структуры. У мяне не аформлены дэкрэтны адпачынак. Дык адкуль тады праверкі? Адкуль стала вядома, што мы наогул у Віцебску? Я лічу, што гэта ціск на мяне і на маю сям’ю. Дарэчы, не пасьпела я сюды зьявіцца, як да мяне зьявіліся пытаньні і ў падатковай інспэкцыі. Ва ўсіх пытаньні толькі да мяне. І ніхто зь дзяржаўных службоўцаў так і ня даў мне ўцямнага адказу, прыкладам, як аформіць дэкрэтны адпачынак».

Сыну Вольгі Карач Сьвятаславу яшчэ толькі паўтара месяца. Маці апавяла, што ён нарадзіўся ва Ўкраіне, у Харкаве. Але ён грамадзянін Беларусі, як і ягоныя бацькі. І гэта, лічыць маці, абуральна, калі жыцьцё маленькага чалавека пачынаецца зь ціску — пакуль бюракратычнага, але, перакананая Вольга Карач, з палітычных прычын.



Алег Баршчэўскі

**20.01.2014 Вольгу Карач** з мужам затрымалі праз некалькі гадзін пасьля адпраўкі адкрытага звароту прэзыдэнту з нагоды ціску на яе сям'ю і месячнага сына. Лідэр грамадзянскай кампаніі «Наш Дом» Вольга Карач пасьпела паведаміць па тэлефоне, што яна і ейны муж, **Алег Баршчэўскі**, **галоўны рэдактар «Віцебскага Кур'ера»**, затрыманыя міліцыяй і іх вязуць у Кастрычніцкі РАУС Віцебску. Афіцыйная прычына затрыманьня – нібыта фальшывае пасьведчаньне кіроўцы мужа. Праз паўтары гадзіны Вольга паведаміла, што Алега і яе адпусьцілі, але перад гэтым у РАУС запрасілі падатковага інспэктара зь іншага раёну. А наконт правоў кіроўцы ўжо нічога не згадвалі.

**04.02.2014** Віцебскім актывістам забаранілі пікет да Дня Канстытуцыі. Імпрэзу замаўлялі **Аляксей Гаўруцікаў** і **Хрыстафор Жаляпаў**. Абодва актывісты 15 сакавіка хацелі прыцягнуць увагу землякоў да абароны правоў, зафіксаваных у Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Мерапрыемства забароненае з прычынены невыкананьня заяўнікамі рашэньня Віцебскага гарвыканкаму №881.

**19.02.2014** У Глыбокім забаранілі пікет да Дня Канстытуцыі. Прычына забароны, паводле райвыканкаму – адсутнасьць дамоваў на абслугоўваньне акцыі мэдыкамі, камунальнымі службамі і міліцыяй. «Між тым, ні мэдыкі, ні камунальнікі наогул не адказалі на нашу прапанову заключыць дамовы», – кажа адзін з заяўнікаў акцыі, удзельнік сёлетняй выбарчай кампаніі **Зьміцер Лупач**.

Ён распавёў, што заява ў райвыканкам была накіраваная ў той самы дзень, як і лісты да адказных службаў: «Выканкам пасьпяшаўся, адказаў нам праз 10 дзён. Сьледам за лістом пра забарону акцыі прыйшоў адказ з райадзьдзелу міліцыі. Зь яго вынікае, што міліцэйскае кіраўніцтва знарок чакала, пакуль нам адмовяць. Бо агульны сэнс ліста такі: маўляў, вам забаранілі ладзіць акцыю, значыць, і мы дамову лічым немэтазгоднай. Камунальная служба і паліклініка маўчаць дагэтуль, ня кажуць нам ані «так», ані «не». Калі б адказы прыйшлі своечасова і былі станоўчыя, то да 15 сакавіка мы б пасьпелі яшчэ раз зьвярнуцца ў выканкам наконт правядзеньня пікету да Дня Канстытуцыі».

Глыбоцкі выканкам грунтуе свае адмовы на адной і той самай падставе – спасылаецца на адсутнасьць дамоваў на абслугоўваньне акцыяў, якія неабходна заключаць папярэдне ў адпаведнасьці з рашэньнем райвыканкаму №167 «Аб вызначэньні месцаў для правядзеньня мітынгаў і пікетаваньня». Але зрабіць гэта папярэдне немагчыма – бо адказныя службы знарок чакаюць, пакуль мясцовыя ўлады забароняць акцыі.

**28.02.2014** У Глыбокім забаранілі пікет да Дня Волі. Прычына забароны ўжо тра-


Данат Бука

дыцыйная: адсутнасьць дамоваў на абслугоўваньне акцыі мэдыкамі, камунальнымі службамі і міліцыяй. Пры гэтым раённае міліцэйскае кіраўніцтва наўпрост заявіла ініцыятарам пікету, што заключаць папярэднія дамовы адмаўляецца. Па дазвол на сьвяточную акцыю да Дня Волі зьвярталіся мясцовыя актывісты **Яраслаў Берніковіч** і **Зьміцер Лупач**.

Яраслаў Берніковіч кажа, што літаральна такі самы адказ быў атрыманы зь міліцыі і наконт забароненай акцыі да Дня Канстытуцыі 15 сакавіка. Усё аднолькавае, слова ў слова: міліцыя спасылаецца на закон аб арганізацыі масавых мерапрыемстваў і абсалютна нічога ня кажа пра рашэньне мясцовых уладаў. Для супрацоўнікаў міліцыі закон, безумоўна, вышэйшы. А выканкам стварыў нейкі свой парадак арганізацыі масавых акцыяў, у выніку чаго правесьці іх стала папросту немагчыма.

**01.03.2014 Віцебскім актывістам Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ Яну Дзяржаўцаву**, **Алегу Емельянаву** і **Пятру Сарапеню** забаранілі акцыю за байкот мясцовых выбараў. Актывісты падавалі ў адміністрацыю Кастрычніцкага раёну Віцебску заяўку на правядзеньне 5 сакавіка пікету. Мэта акцыі, як было пазначана ў заяўцы, – «агітацыя выбаршчыкаў за актыўны байкот выбараў, якія арганізаваныя нелегітымным прарасейскім палітычным рэжымам».

Пікет за байкот мусіў адбыцца ў месцы, адмыслова адведзеным гарадзкімі ўладамі Віцебску пад масавыя акцыі. Гэта не перашкодзіла ўладам забараніць імпрэзу. Афіцыйная прычына забароны – невыкананьне заяўнікамі рашэньня гарвыканкаму №881 «Аб масавых мерапрыемствах у г. Віцебску».

**09.03.2014** Як распавёў гімназіст з Глыбокага **Данат Бука**, тыдзень таму яго сястра прапанавала набыць і павязаць на заплечнікі жоўта-блакітныя стужкі. Некаторыя з вучняў вырашылі падтрымаць гэтую ідэю. Так яны хацелі выказаць сваю салідарнасьць з украінскім народам. Падлеткі насілі такія стужкі амаль тыдзень. Але дырэктар гімназіі Людміла Хверанец зрабіла Данату заўвагу.

Расказвае Данат: «Дырэктар сустракае, вітаецца: «Добры дзень!» — праходзіць. Потым кажа: «Данат, стойце! Што гэта ў вас такое?», — паказвае на стужачкі. Я кажу: а што, нельга насіць ці што? А яна — што ў нас тут ніякія не палітычныя аб'яднаньні, гэта справы дарослых, калі яны так хочуць, то хай разьбіраюцца — штосьці такое… Я кажу, пакажыце дакумэнт, дзе напісана, што мне нельга сінюю і жоўтую стужку насіць разам».

Дырэктарка нават паабяцала выклікаць Даната на размову, але не зрабіла гэтага. Сястра ж Даната, Алеся, якая вучыцца побач, у школе №3, кажа, што на гэткую гутарку патрапіла: «Учора з раніцы я вырашыла заплесьці ў косы стужкі, адну


Уладзімер Кунцэвіч

жоўтую, адну сінюю, і я прыйшла ў школу, была дзяжурная ў сталоўцы, было ўсё добра, у мяне пыталіся, казалі, якая прыгожая каса ў мяне, але ніхто не зьвяртаў на гэта ўвагі. Пад вечар прыйшоў дырэктар і сказаў: «Алеся, хадзем да мяне ў габінэт».

Паводле слоў дзяўчыны, дырэктар паведаміў, што з павагай ставіцца да яе поглядаў, але ў школе публічна іх выказваць нельга. А вось школьны псыхоляг выказалася супраць украінцаў, працягвае Алеся Бука: «Перад гэтым у нас быў факультатыў па псыхалёгіі, і настаўніца завяла тэму пра Ўкраіну. Яна казала, што там вельмі дрэнна, што Расея добрая, а ўкраінцы самі пачалі гэту вайну, і яны вінаватыя, што не аддаюць Крым, і яны забіваюць расейскіх людзей, не даюць ім размаўляць на расейскай мове».

На знак пратэсту Алеся зь сяброўкамі вырашылі адмовіцца ад гэтага факультатыву. На гутарку з дырэктарам патрапіў сябар Даната. Дырэктарка гімназіі нават выклікала яго бацьку, якому распавяла, што на яго сына кепска ўплывае аднаклясьнік.

**11.03.2014** Размова аб парушэньні наймальнікам ААТ «Полацак-Шкловалакно» ўказу прэзыдэнта аб сацыяльным партнэрстве адбылася на сустрэчы **старшыні Свабоднага прафсаюзу заводу Віктара Стукава** зь першым намесьнікам старшыні аблвыканкаму Уладзімерам Навацкім на прыёме ў аблвыканкаме. Парушэньні палягаюць у забесьпячэньні розных сацыяльных гарантыяў для працоўных адной і той жа прафэсіі на заводзе «Шкловалакно», што супярэчыць ўказу № 278. Сустрэча з прадстаўніком вэртыкалі ўлады стала неабходнай, бо ніводзін дзяржаўны орган ня вырашыў канфлікту, што ўзьнік паміж працоўнымі і кіраўніцтвам прадпрыемства.

У гутарцы зь Віктарам Стукавым намесьнік старшыні аблвыканкаму ніяк ня выказаў сваё стаўленьне да дыскрымінацыі работнікаў, таму прадстаўнік рабочых адразу ж запісаўся на прыём да губэрнатара Аляксандра Косінца.

**18.03.2014** На гутарку ў аддзел па справах рэлігіяў і нацыянальнасьцяў выклікалі біскупа Аб'яднаньня Хрысьціян веры эвангельскай у Віцебскай вобласьці і пастара эвангельскай царквы «Новае жыцьцё». Прычынай іх запрашэньня ў выканкам стала тое, што сябра царквы «Новае жыцьцё» **Алена Шабуня** зьяўляецца актывісткай «Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі».

Актывістка ўдзельнічае ў мясцовай выбарчай кампаніі. Як кандыдат у дэпутаты яна не была зарэгістраваная і цяпер заклікае іншых сяброў царквы да назіраньня. І пастара, і біскупа папярэдзілі пра магчымыя наступствы і параілі паўплываць на сваю верніцу.

**24.03.2014** У Наваполацку забаранілі пікет. Заяўку на правядзеньне пікету ў Дзень Волі, 25 сакавіка, падавалі прадстаўнікі палітычных партыяў і дэмакратычных грамадзкіх арганізацыяў гораду. Падпісалі яе **сябра партыі БНФ Уладзімер Кунцэвіч**


Зьміцер Салаўёў

і **сябра Праваабарончага цэнтру «Вясна» Зьміцер Салаўёў**. Мэта пікету, забароненага ўладамі, – патрабаваньне ад уладаў Беларусі неадкладнага вызваленьня палітвязьняў.

**25.03.2014** Дзень Волі ў Віцебску: арыштаваны **актывіст КХП-БНФ Ян Дзяржаўцаў**. Апазыцыянэра затрымалі пасьля ўскладаньня кветак да помніку Караткевічу і памятнай дошкі Быкаву. Пра гэта паведаміла **Алена Каваленка**: «Яна Дзяржаўцава затрымалі каля 14 гадзін на вуліцы Кірава ў Віцебску. Дзяржаўцава абвінавачваюць паводле артыкулу 23.34 КаАП РБ. Мяне таксама выклікаюць, але справы будуць весьціся па асобнасьці. Вельмі цікавіліся, хто рабіў фота і відэаздымкі на акцыі. Ён адмовіўся адказваць, спасылаючыся на 27 арт. Канстытуцыі (ня сьведчыць супраць сябе). Спачатку яго хацелі вызваліць і прызначыць суд на 3 красавіка, але потым участковы сказаў, што загад зьверху – везьці ў ІЧУ», – сказала яна.

Затрыманьне зьвязанае з акцыяй, якая адбылася 22 сакавіка. У гэты дзень актывісты КХП-БНФ арганізавалі пікет каля выбарчага ўчастку ў Віцебску. У ім узялі ўдзел Ян Дзяржаўцаў і Алена Каваленка. Актывісты разгарнулі плякат з надпісам «Байкот выбарчаму фарсу» і публічна парвалі запрашэньні на «выбары».

**27.03.2014** Прадпрыемства «Віцебскэнэрга» ініцыявала адміністрацыйную справу супраць «Мірона» за вывешваньне бел-чырвона-белых сьцягоў на электрычныя правады. Гэта здарылася пасьля затрыманьня двух апазыцыянэраў – **Барыса Хамайды** і **Аляксандра Салаўяна**, у якіх 24 сакавіка знайшлі нацыянальны сьцяг. Абодвух затрымалі ўвечары ў пасёлку Руба, што пад Віцебскам. Двух спадароў пэнсійнага веку затрымлівалі амапаўцы, паклалі тварам на зямлю, зьбівалі, пагражалі застрэліць…

Падчас адбыцьця арышту актывістаў выклікалі на допыты і змушалі прызнацца, «хто зь іх Мірон». Зь першага дня затрыманьня гэта пачаў высьвятляць сьледчы камітэт, кажа Барыс Хамайда:

«Адразу, як нас прывезьлі ў Чыгуначны РАУС, зьявіўся чалавек у форме, на ёй было напісана «Сьледчы камітэт». Ён разабраў па частках і забраў з сабой мой мабільны тэлефон. І не пакінуў пра гэта ніякага дакумэнту, папросту забраў – і ўсё!»

27 сакавіка Хамайду проста з ІЧУ забралі на агляд яго жытла, санкцыянаваны пракурорам Раманоўскім. Дакумэнт аб гэтым – адзіны, які пакінулі супрацоўнікі Першамайскага РАУС. У пастанове на агляд жытла адзначалася, што яго робяць у сувязі з адміністрацыйнай справай паводле артыкулу 10.9 КаАП. Гэта артыкул аб зьнішчэньні або псаваньні маёмасьці ў нязначным памеры. Справа была заведзеная па заяве РУП «Віцебскэнэрга» за шматлікія выпадкі вывешваньня сьцягоў на электрычныя правады. Аляксандар Салаўян распавёў, што ператрус быў і ў яго прыватнай хаце ў вёсцы Зайцава Віцебскага раёну.


Віктар Стукаў

**06.04.2014** Генэральная пракуратура Беларусі адмовіла сваякам **Уладзіслава Кавалёва**, аднаго з двух расстраляных два гады таму па абвінавачаньні ва ўчыненьні тэракту ў менскім мэтро, у аднаўленьні справы па новаадкрытых акалічнасьцях. У сакавіку маці і сястра Ўладзіслава Кавалёва накіравалі адпаведную заяву генэральнаму пракурору Беларусі Аляксандру Канюку.

**Любоў Кавалёва** і **Тацьцяна Казяр** абгрунтоўвалі гэта тым, што Камітэт ААН па правах чалавека, куды яны зьвярталіся са скаргай, пастанавіў: беларуская дзяржава парушыла права на жыцьцё Ўладзіслава Кавалёва. У сваёй заяве жанчыны адзначалі, што выяўленыя Камітэтам ААН па правах чалавека парушэньні палажэньняў міжнароднага пакту пасьля пакараньня сьмерцю могуць быць выпраўленыя толькі праз перагляд справы, а іх устараненьне неабходнае для забесьпячэньня правасудзьдзя ў дачыненьні да Ўладзіслава Кавалёва і яго пасьмяротнай рэабілітацыі.

**20.04.2014** Віцебскі лекар-псыхіятар **Ігар Пастноў**, які выступіў з крытыкай улады і падвергнуўся за гэта прымусоваму лячэньню ў закрытым аддзяленьні віцебскай вар’ятні, прайшоў экспэртызу ў Маскве, у Незалежнай псыхіятрычнай асацыяцыі Расеі (НПАР). Мэдычны агляд стаўся магчымым дзякуючы падтрымцы Магілёўскай праваабарончай групы і ПЦ «Вясна». Выснова расейскіх псыхіятраў: Правы доктара Ігара Пастнова былі парушаныя. Паводле высноваў адмыслоўцаў, падставаў для прымусовай шпіталізацыі віцебскага «лекара-праўдаруба» ў вар'ятню не было.

**21.04.2014** У Віцебску і Наваполацку мясцовыя ўлады забаранілі пікеты, прымеркаваныя да чарговай гадавіны Чарнобыльскай трагедыі. У Наваполацку заяўку на пікет падаваў **Яўген Парчынскі**, на што атрымаў адказ ад намесьніка старшыні гарвыканкаму Альберта Шакеля, які напісаў заяўніку, што пікет забараняецца, бо заяўка на яго правядзеньне пададзеная з парушэньнем дзеючага заканадаўства.

Аналягічная прычына забароны акцыі і ў Віцебску: як паведаміў адзін з заяўнікаў імпрэзы **Ян Дзяржаўцаў**, пікет забаронены намесьніцай кіраўніка адміністрацыі Чыгуначнага раёну Натальляй Ляпёшкінай з прычыны таго, што яго арганізатары падалі сваю заяўку з парушэньнем – не далучылі да яе дамовы, прадугледжаныя рашэньнем № 881 Віцебскага гарвыканкаму.

**24.04.2014** Пры прадпрыемстве ААТ «Полацак-Шкловалакно» ўжо даўно створаная грамадзкая арганізацыя вэтэранаў вайны і працы ААТ «Полацак-Шкловалакно». Звычайна ў гэтую арганізацыю прымаюць работнікаў прадпрыемства, якія выйшлі на пэнсію. Ня ўсе пэнсіянэры імкнуцца туды ўступіць, але і, як высьветлілася, ня ўсіх туды прымаюць. **Старшыню Свабоднага прафсаюзу працоўных «Шкловалакна» Віктара Стукава** адмовіліся прыняць у арганізацыю, хоць


Вадзім Драздоў

пасьпелі ўзяць ўнёскі за год.

Віктар Стукаў: «У арганізацыю вэтэранаў пэнсіянэраў прымаюць па іх вуснай заяве. Прыйшоў я ў іхны габінэт і заявіў аб жаданьні ўступіць у іх арганізацыю. Працаўніца грамадзкай арганізацыі палічыла мой стаж, які склаў больш за 30 гадоў, узяла гадавыя ўнёскі ў памеры 2% месячнай пэнсіі і павіншавала з уступленьнем ў грамадзкую арганізацыю. Праз тыдзень мне патэлефанавала старшыня першаснай арганізацыі вэтэранаў вайны і працы ААТ «Полацак-Шкловалакно» Дзьмітрыева Вера Сямёнаўна і папрасіла: «Яшчэ раз прыйдзеце – праверыць, ці дастаткова ў вас стажу працы». Старшыня Дзьмітрыева старанна (з дакладнасьцю да дня) падлічыла мой працоўны стаж і зноў павіншавала мяне з уступленьнем у арганізацыю. Але яшчэ праз тыдзень старшыня вэтэранаў патэлефанавала і сказала, што мяне можа прыняць толькі рада арганізацыі, якая адбудзецца праз два тыдні. Паседжаньне рады вэтэранаў «Шкловалакна» было падобна да партыйнага сходу камуністаў з 80-х гадоў, што нават было цікава – зазірнуць у гісторыю. Пасьля ўсіх абмеркаваньняў у выніку галасаваньня тры жанчыны з рады вэтэранаў прагаласавалі за прыняцьце мяне ў арганізацыю, астатнія супраць.

Цяпер я ў сумневах – ці ўступіў я ў арганізацыю, або не? Унёскі зь мяне ўзялі, і ніяк ня могуць мне іх вярнуць. Старшыня вышэйстаячай Полацкай раённай рады вэтэранаў Галіна Муравей пісьмова мне паведаміла, што пацьвердзіць маё сяброўства ў першаснай вэтэранскай арганізацыі ААТ «Полацак-Шкловалакно» не ўяўляецца магчымым».

**29.04.2014** Наваполацкі аддзел унутраных спраў ладзіць праверку «Свабоднага рэгіёну». «Свабодны рэгіён» – гэта нефармальная суполка, якая мае аргкамітэт па стварэньні паўнавартаснага грамадзкага аб’яднаньня. Аднадумцы стварылі таксама інтэрнэт-старонку. Некаторыя з разьмешчаных там матэрыялаў і прыцягнулі ўвагу міліцыі, патлумачыў заснавальнік сайту **Вадзім Драздоў**.

Спадар Драздоў ужо некалькі гадоў жыве ў Швэйцарыі, аднак кажа, што супрацоўнікі міліцыі пільна цікавяцца ягонай асобай: «Я ведаю, што мяне шукала міліцыя – пра гэта паведамілі жыхары суседняй кватэры, якая знаходзіцца побач з той, дзе раней жыў я. Усьведамляючы, што цікаўнасьць з боку міліцыі проста так не ўзьнікае, я папрасіў сваякоў ад майго імя зьвярнуцца да адваката. Такім чынам і ўдалося высьветліць, што ў дачыненьні да мяне ладзіцца праверка».

Паводле Вадзіма Драздова, які спасылаецца на словы адваката, праверка вядзецца ад пачатку красавіка. У прыватнасьці, супрацоўнікі міліцыі зьвярнулі ўвагу на тое, што на сайце, заснавальнікам якога зьяўляецца Вадзім Драздоў, зьяўляюцца арты-


Андрэй Мельнікаў

кулы крытычнага зьместу.

Апрача гэтага, супрацоўнікі Наваполацкага ГАУС праводзяць праверку і ў рэчышчы крымінальнага артыкулу 193-1, які прадугледжвае адказнасьць за дзейнасьць ад імя незарэгістраванай арганізацыі. У прыватнасьці, вядзецца пра артыкул наконт акцыі да ўгодкаў Чарнобыльскай трагедыі, якую хацелі правесьці сябры аргкамітэту па стварэньні грамадзкага аб'яднаньня «Свабодны рэгіён», і якая была забароненая мясцовымі ўладамі. А таксама пра запрашэньне да супрацоўніцтва ўсіх неабыякавых людзей, якія хацелі б паспрабаваць сябе ў якасьці аўтараў тэкстаў для сайту або валянтэраў розных кампаніяў праваабарончага накірунку.

**29.04.2014 Бард Андрэй Мельнікаў** ня змог трапіць на футбольны матч. У дзень адкрыцьця футбольнага сэзону ён вырашыў далучыцца да фанатаў «Воршы», якія пачыналі свой праход да стадыёну ад Гарадзішча. Там Мельнікаў засьпяваў для прыхільнікаў мясцовых заўзятараў песьню «Ворша». Але на гарадзкі стадыён вядомага беларускага барда не пусьцілі – супрацоўнікі міліцыі палічылі небясьпечным знаходжаньне на стадыёне акустычнай гітары і забаранілі Мельнікаву ўваход.

**08.05.2014** Віцебскі **праваабаронца Леанід Сьвецік** ня здолеў пераканаць найвышэйшыя дзяржаўныя органы зьвярнуцца ў Канстытуцыйны суд Беларусі. Праваабаронца хацеў даведацца пра пазыцыю суду наконт адпаведнасьці артыкулаў 120, 122-124 Крымінальна-працэсуальнага кодэксу Канстытуцыі краіны і міжнародным дамовам.

Згодна зь дзеючым заканадаўствам беларускія грамадзяне ня маюць права наўпрост зьвяртацца ў Канстытуцыйны суд. Такім правам валодаюць толькі некалькі вышэйшых дзяржаўных органаў і адна службовая асоба: Палата прадстаўнікоў або Савет Рэспублікі Нацыянальнага Сходу, Вярхоўны суд, Вышэйшы гаспадарчы суд, Савет міністраў, прэзыдэнт Рэспублікі Беларусь. Па іх зваротах Канстытуцыйны суд дае заключэньні – у прыватнасьці, заключэньні наконт адпаведнасьці законаў, дэкрэтаў, указаў прэзыдэнта, міжнародных дамоўных і іншых забавязаньняў Рэспублікі Беларусь Канстытуцыі і міжнародна-прававым актам, ратыфікаваным Рэспублікай Беларусь.

Зьвяртаючыся ў найвышэйшыя дзяржаўныя органы ўлады, Леанід Сьвецік прасіў іх зьвярнуцца ў Канстытуцыйны суд для таго, каб ён вырашыў пытаньне аб адпаведнасьці некаторых артыкулаў Крымінальна-працэсуальнага закону дзеючай Канстытуцыі і стандартным мінімальным правілам ААН у дачыненьні да мер, не зьвязаных з турэмным зьняволеньнем (Такійскія правілы).

**13.05.2014** Адміністрацыя прэзыдэнта ня стала разглядаць скаргу рабочых ААТ «Полацак-Шкловалакно» на невыкананьне дырэктарам заводу Ўказу прэзыдэнта, перанакіраваўшы яе ў Міністэрства працы. А намесьнік міністра працы Валер Кавалькоў адказаў рабочым, што міністэрства ня мае паўнамоцтваў пракантраляваць выкананьне ўказаньняў прэзыдэнта.

Скарга рабочых ААТ «Полацак-Шкловалакно» ў адміністрацыю прэзыдэнта на тое, што парушаецца ўказ аб сацыяльным партнэрстве, стала апошняй у чарадзе скаргаў у розныя дзяржаўныя інстанцыі. Кожная дзяржструктура перасылала скаргі ў іншыя дзяржорганы і не разглядала іх па сутнасьці.

Скардзіліся рабочыя наконт парушэньня ўказу прэзыдэнта: ў ААТ «Полацак-Шкловалакно» рабочым адной і той жа прафэсіі паводле калектыўнай дамовы дадзеныя розныя сацыяльныя гарантыі на працоўнае месца – у залежнасьці ад членства ў прафсаюзе.

У выніку, на скаргу працоўных адказаў намесьнік міністра працы Валер Кавалькоў – фактычна, ад імя прэзідэнта, бо яму даручылі адказаць з адміністрацыі прэзыдэнта. Адказ рабочым коратка можна агучыць адной фразай: прэзыдэнт ня можа кантраляваць выкананьне сваіх Указаў.

**14.05.2014 Андрэй Гайдукоў** стаў «невыязным». Пра гэта былому палітвязьню паведамілі ў аддзеле па грамадзянстве і міграцыі Ўпраўленьня ўнутраных спраў Наваполацку. Прычыны забароны пакідаць краіну Андрэю Гайдукову не патлумачылі. Адзінае, што паведамілі – тое, што выезд з краіны яму забараніў КДБ. Мясцовы аддзел па грамадзянстве і міграцыі зрабіў туды запыт, а ў адказ – паведамленьне пра забарону выезду зь Беларусі.

Андрэя Гайдукова паставілі на прафіляктычны ўлік у КДБ адразу па вызваленьні 8 траўня. У міліцыі ён таксама на прафіляктычным уліку як судзімы, прэвэнтыўнага нагляду над ім няма.

**28.05.2014** Заяўкі на правядзеньне пікетаў падавалі ў адміністрацыі ўсіх трох раёнаў Віцебску пяцёра сяброў Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ. Празь пікеты яны зьбіраліся выказаць публічны пратэст супраць ўмяшаньня Расейскай Фэдэрацыі ва ўнутраныя справы Ўкраіны, супраць выкарыстаньня Расеяй ваеннай сілы для вырашэння міжнацыянальных і міждзяржаўных канфліктаў. Пікеты мусілі прайсьці 5 чэрвеня.

Хаця арганізатары акцыяў у якасьці месцаў іх правядзеньня пазначылі пляцоўкі, адмыслова вылучаныя Віцебскім гарвыканкамам пад масавыя мерапрыемствы, улады не дазволілі іх. Чыноўнікі абгрунтоўвалі свае забароны на пікеты адсутнасьцю ў арганізатараў дамоваў з мэдыкамі, камунальнікамі і міліцыянтамі.

**08.06.2014** У віцебскага лекара **Ігара Пастнова** запатрабавалі пісьмовых тлумачэньняў пра тое, дзе ён узяў статыстычныя зьвесткі наконт узроўню алькагалізацыі насельніцтва Беларусі, згаданыя ў ягоным блогу. Пісьмовых тлумачэньняў ад імя галоўнага лекара ўстановы аховы здароўя «Віцебскі абласны клінічны цэнтар псыхіятрыі і наркалёгіі» Алены Мартынавай запатрабаваў яе намесьнік, Ігар Сьвіркуноў.


Алеся Садоўская

Сьвіркуноў выклікаў да сябе Ігара Пастнова, які цяпер працуе ў Віцебскім наркалягічным дыспансэры лекарам-нарколягам, і загадаў напісаць тлумачальную запіску, заявіўшы што лічбы ў яго блогерскім допісе не адпавядаюць сапраўднасьці, распавёў Ігар Пастноў: «Я патлумачыў, што дадзеныя знайшоў у інтэрнэце, што яны агульнадаступныя. Але Сьвіркуноў заявіў, што яны састарэлыя. Яшчэ сказаў, што за скажэньне зьвестак мае дзеяньні падпадаюць пад крымінальны артыкул».

**25.06.2014** Улады забаранілі **Паўлу Левінаву** зладзіць масавае мерапрыемства ў Віцебску. Віцебскі праваабаронца прасіў дазволіць яму правесьці сход у… лазьні. У гарадзкой лазьні №1 ён хацеў пагаманіць пра здаровы лад жыцьця зь дзесяцьцю алькагольна-залежнымі грамадзянамі. Аднак намесьнік старшыні адміністрацыі Чыгуначнага раёну Віцебску Натальля Ляпёшкіна адказала праваабаронцу забаронай. Прычына, якая сталася падставай для адмовы Паўлу Левінаву, стандартная – заяўнік не падаў у раённую адміністрацыю дамоваў зь міліцыяй, ЖКГ і мэдыкамі, якія згодна з рашэньнем Віцебскага гарвыканкаму №881, павінны абслугоўваць сход.

**30.06.2014** Віцебскі псыхіятар-нарколяг **Ігар Пастноў** зьвярнуўся з адкрытым лістом да дырэктара Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтру псыхічнага здароўя Аляксандра Старцава, у якім просіць яго «асабіста разабрацца ў фактах выкарыстаньня беларускай псыхіятрыі з карнымі мэтамі».

У якасьці прыкладу Пастноў прывёў выпадак з **Алесяй Садоўскай** з Маладэчна, якая была затрыманая ў ноч з 31 сьнежня 2011 году на 1 студзеня 2012 году і, паводле зьвестак праваабаронцаў, зьбітая супрацоўнікамі Маладэчанскага РАУС. Паводле слоў Пастнова, «спрабуюць прызнаць, што дзяўчына ў стане поўнай адсутнасьці памяці» і накіраваць на прымусовае лекаваньне, у той час як рэспубліканская экспэртыза выявіла ў Садоўскай лёгкае разладзьдзе настрою. «Выступіўшы як лекар-спэцыяліст на судзе, я лёгка адмяніў гэтае рашэньне, спаслаўшыся на вызначэньне МКБ-10 манаграфіі прафэсара Еўсьцігнеева», — піша лекар-актывіст.

Ён падкрэсьліў, што, згодна з рашэньнем суду, 26 чэрвеня Алесі Садоўскай неабходна прайсьці паўторную экспэртызу, у сувязі з чым Пастноў просіць Старцава прыняць яго з дакумэнтамі па гэтай справе. Паводле яго слоў, Алеся Садоўская «ня мае сур’ёзнай псіхапаталёгіі, што прызнана і ў Расеі».

На думку Пастнова, «гісторыя Алесі Садоўскай будзе яшчэ больш гучнай». «Калі ўсё ж яе адправяць на прымусовае лячэньне, то яна, як і я, будзе ахвярай карнай

псыхіятрыі беларускага рэжыму, а беларускай псыхіятрыі ад гэтай ганьбы будзе складана адмыцца. Нават у суворыя гады сталінскіх і хрушчоўскіх рэпрэсіяў беларуская псыхіятрыя не запляміла сябе фактамі расправы над іншадумцамі», — адзначыў лекар-актывіст.

## Маніторынг судовых працэсаў


Антаніна Піванос

**04.07.2013** Беларускі прафсаюз работнікаў радыёэлектроннай прамысловасьці ў інтарэсах **сябра прафсаюзу юрыста Валера Місьнікава** і яго дачкі **Тацьцяны Місьнікавай** зьвярнуўся ў суд з грамадзянскім пазовам супраць «Белдзяржстраху». Аднак судзьдзя Чыгуначнага райсуду Віцебску Сьвятлана Варатынская вырашыла справу не на карысьць пазоўніка: згодна зь яе пастановай згаданае дзяржаўнае страхавое прадпрыемства можа не выконваць свае забавязаньні па доўгатэрміновым страхаваньні 1991 году.

У 1991 годзе Валер Місьнікаў аформіў на сваю дачку папулярнае тады «страхаваньне да шлюбу». Згодна з умовамі страхаваньня яго дачцэ павінны былі выплаціць пасьля яе вясельля альбо па дасягненьні ёй пэўнага ўзросту грошы. Спадар Місьнікаў рэгулярна плаціў грошы страхаўшчыкам і сваю частку забавязаньняў па дамове страхаваньня выканаў у поўным аб’ёме. А ў 2004 годзе тэрмін страхаваньня скончыўся – Тацьцяне Місьнікавай споўнілася 18 гадоў.

У 2006 годзе яе бацька зьвярнуўся ў «Белдзяржстрах» з запытам наконт лёсу грошай. У адказ на зварот супрацоўнік «Белдзяржстраху» паведаміў, што яго прадпрыемства не пярэчыць супраць выплаты належнай сумы, але сьпярша павінна быць прынятае нейкае рашэньне наконт выплаты доўгу. «Пры прыняцьці станоўчага рашэньня пра тэрміны правядзеньня кампэнсацыі па дамове доўгатэрміновага страхаваньня Вы будзеце праінфармаваныя дадаткова», – абяцалі страхаўшчыкі ў сваім адказе.

У 2012 годзе спадар Місьнікаў ізноў зьвярнуўся ў «Белдзяржстрах». Ізноў атрымаў аналягічны адказ. Сёлета ўжо рэспубліканская рада прафсаюзу РЭП зьвярнулася ў цэнтральны офіс «Белдзяржстраху». Адказ: У выніку дэнамінацыяў «Белдзяржстрах» ня змог зрабіць выплаты сумаў страхавога забесьпячэньня ў памерах, адпаведных цяперашняй эканамічнай сытуацыі.

У выніку Місьнікаў вырашыў патрабаваць выплаціць страхавую суму і працэнты на гэтую суму, якія павінны налічацца згодна з умовамі страхаваньня, праз суд. На думку Валера Місьнікава, «Белдзяржстрах» мае дастаткова грошай, каб выплаціць неабходную суму. У судзе ён працытаваў словы кіраўніка прадпрыемства Сяргея Якубіцкага, апублікованыя часопісам «Фінансы, улік і аўдыт», № 12 за 2012 г., які сьцьвярджае, што аб’ём страхавых рэзэрваў, сфармаваных на 1 кастрычніка 2012 году, складае 2 400 млрд беларускіх рублёў. Заслухаўшы бакі, судзьдзя Варатынская прыняла пастанову на карысьць «Белдзяржстраху». Яна адмовіла прафсаюзу РЭП у задавальненьні пазову, бо нібыта «мінуў тэрмін пазоўнай даўнасьці».

**12.07.2013** Віцебская актывістка **Антаніна Піванос** змагаецца за тое, каб дзяржаў-


Тацьцяна Казяр, Любоў Кавалёва

ныя органы Беларусі пачалі выконваць рашэньне Камітэту па правох чалавека ААН, прынятае ў адносінах да яе. Цяпер Справу Піванос разглядаў абласны суд, куды яны накіравала касацыйную скаргу на пастанову суду Чыгуначнага раёну. Аднак пераканаць судзьдзяў абласнога суду не ўдалося: яны пакінулі рашэньне суду першай інстанцыю ў сіле.

Згодна з рашэньнем КПЧ, Беларусь як краіна, якая падпісала Міжнародны пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах і Факультатыўны пратакол да пакту, абавязаная кампэнсаваць Антаніне Піванос шкоду, якую яна панесла ў выніку несправядлівага пакараньня ў 2008 годзе. Аднак ўлады рашэньне камітэту ААН праігнаравалі. Не абараніў актывістку і суд, у які яна зьвярнулася, каб змусіць дзяржаву выканаць згаданае рашэньне КПЧ.

**21.08.2013** Судзьдзя суду Віцебскага раёну Дзегцярова на падставе рашэньня ўрачэбна-кансультацыйнай камісіі (УКК) і са згоды Віцебскай гарадзкой пракуратуры ў прысутнасьці намесьніка галоўнага ўрача па мэдычнай частцы па псыхіятрыі УАЗ Віцебскага абласнога клінічнага цэнтру псыхіятрыі і наркалёгіі І. Панамарова вынесла пастанову аб прымусовым псыхіятрычным лячэньні доктара **Ігара Пастнова**. Паседжаньне суду праходзіла без удзелу грамадзкасьці, прадстаўніка пракуратуры, законнага абаронцы, самога спадара Пастнова і яго блізкіх сваякоў.

Згодна з рашэньнем суду цягам найбліжэйшых месяцаў Ігар Пастноў падлягае лячэньню і штомесячнаму агляду УВК, якая будзе вызначаць ступень ачуньваньня апанэнта ўлады і неабходнасьці працягу яго лячэньня. Таксама, на падставе арт. 40 Закону Рэспублікі Беларусь «Аб аказаньні псыхіятрычнай дапамогі», кіраўніцтвам лячэбнай установы прынятае рашэньне пра абмежаваньне права апальнага лекара на вядзеньне ліставаньня, атрыманьне і адпраўку тэлеграмаў, лістоў, грашовых пераказаў, пасылак і бандэроляў, атрыманьне розвага кшталту перадач.

Апроч таго, яму забаронена карыстацца тэлефонам і прымаць наведвальнікаў, мець і набываць прадметы першай неабходнасьці, карыстацца ўласнай вопраткай.

**27.08.2013** Калегія Менскага гарадзкога суду адмовіла маці і сястры **Ўладзіслава Кавалёва** ў задавальненьні скаргі на дзеяньні суду Кастрычніцкага раёну Менску. **Любоў Кавалёва** і **Тацьцяна Казяр**, пакаранага сьмерцю за тэракт у менскім мэтро, прасілі суд вышэйшай інстанцыі прызнаць неправамернай адмову раённага суду распачаць грамадзянскі працэс адносна шэрагу органаў найвышэйшай дзяржаўнай улады, якія адмаўляюцца раскрыць месца пахаваньня расстралянага.

Праваабаронцы і журналісты, якія прыйшлі ў суд падтрымаць Любоў Кавалёву, трапілі ў залю паседжаньняў толькі дзякуючы ўласнай настойлівасьці: чальцы су-

довай калегіі спрабавалі перашкодзіць іх прысутнасьці на паседжаньні — нібыта з прычыны недахопу месцаў. Скаргу маці і сястры Ўладзіслава Кавалёва разглядалі гадзіну.

Любоў Кавалёва і яе дачка Тацьцяна Казяр спрабуюць прыцягнуць да адказнасьці Камітэт дзяржбясьпекі, Міністэрства ўнутраных спраў і Дэпартамэнт выкананьня пакараньняў, якія адмаўляюцца паведаміць месца пахаваньня расстралянага Ўладзіслава. Паводле ўладных структураў, такое права ім дае Крымінальна-выканаўчы кодэкс Рэспублікі Беларусь. Родныя Ўладзіслава Кавалёва, у сваю чаргу, апэлююць да рашэньня Камітэту ААН па правах чалавека, які называе гэтыя дзеяньні жорсткім і бесчалавечным абыходжаньнем.

Упершыню ў працэсе, зьвязаным са справай Уладзіслава Кавалёва, узяў удзел расейскі адвакат Сяргей Галубок, які гэтак пракамэнтаваў зьмест і сутнасьць працэсу: «Станоўчым вынікам сёньняшняга судовага паседжаньня стала тое, што ў працэс быў дапушчаны адвакат, які мае пасьведчаньне, выдадзенае органамі юстыцыі Расейскай Фэдэрацыі. Бо нікому не сакрэт, што калегі ў Беларусі зазнаюць вельмі моцны ціск, калі ўдзельнічаюць у гэтакіх працэсах. Па сутнасьці справы хачу сказаць, што Беларусь чарговым разам нічога ня робіць, каб хоць бы стварыць уражаньне, што выконваецца рашэньне Камітэту па правох чалавека ААН — органа, створанага на падставе міжнароднай дамовы, удзельнікам якога Беларусь зьяўляецца з 70-гадоў і кампэтэнцыю якога прызнала ў 1992 годзе.

«Такіх краін, якія адкрыта не выконваюць рашэньне Камітэту па правох чалавека, у сьвеце толькі дзьве: як ні дзіўна — гэта Шры-Лянка, з прэзыдэнтам якой сёньня сустракаюцца найвышэйшыя службовыя асобы ў Беларусі, і сама Беларусь — ня думаю, што гэта самая годная кампанія. Да прыкладу, Расейская Фэдэрацыя стараецца прымаць меры па выкананьні рашэньняў Камітэту ААН. Гэта не заўсёды атрымліваецца, але пазыцыя расейскіх судоў такая, што гэта не пустая папера. Беларусь у асобе сваіх судоў працягвае заяўляць, што мы не зьвяртаем увагі на рашэньне Камітэту ААН па правох чалавека. І насамрэч гаворка не вядзецца пра тое, каб адмяніць прысуд, каб вярнуць тое, чаго вярнуць ужо немагчыма. Гаворка пра тое, каб спыніць працяг бесчалавечнага стаўленьня да сваякоў пакаранага, бо гэткае стаўленьне па-ранейшаму працягваецца», — сказаў расейскі адвакат.

**06.09.2013** Судзьдзя Кастрычніцкага райсуду Віцебску Алена Протас прызнала **сябра партыі левых «Справядлівы сьвет» Андрэя Андрэева** вінаватым у парушэньні артыкулу 22.9 КаАП (парушэньне заканадаўства аб сродках масавай інфармацыі) і прысудзіла яму штраф у памеры 20 базавых велічынь. Такому пакараньню партыйны актывіст быў падвергнуты за распаўсюд друкаванай прадукцыі кампаніі «Гавары праўду». Гэтая прадукцыя, маўляў, зьяўляецца сродкам масавай інфармацыі, не зарэгістраваным у Рэспубліцы Беларусь.

Андрэй Андрэеў быў затрыманы 13 жніўня. Ён раскідваў улёткі з інфармацыяй пра «Грамадзянскую дамову» і «Народны рэфэрэндум» па паштовых скрынках. Імаверна, за ім сачылі – калі ён увайшоў у чарговы пад’езд, праз хвіліну у пад’езьдзе зьявіўся супрацоўнік міліцыі і прапанаваў актывісту праехаць зь ім у пастарунак. Амаль 700 асобнікаў улётак былі канфіскаваныя, на іх распаўсюдніка склалі пратакол аб адміністрацыйным правапарушэньні.




У судзе Андрэй Андрэеў прызнаў, што распаўсюджваў улёткі і тым самым, магчыма, парушыў адміністрацыйны кодэкс. Але заявіў, што вінаватым сябе ня лічыць. Улічваючы, што правапарушэньне ён зьдзейсьніў упершыню, судзьдзя прызначыла яму мінімальны памер штрафу, прадугледжанага адпаведным артыкулам КаАП.

**12.09.2013** Касацыйная скарга віцебскага лекара **Ігара Пастнова** наконт накіраваньня яго на прымусовае лячэньне ў абласны цэнтар псыхіятрыі і наркалёгіі пакінутая без задавальненьня. Скарга была разгледжаная Віцебскім абласным судом у закрытым рэжыме. Пастноў прасіў адмяніць рашэньне суду Віцебскага раёну і запрасіць яго на разгляд уласнай скаргі. Абедзьве просьбы задаволеныя не былі.

**26.09.2013** Віцебскі абласны суд не задаволіў скаргу **Андрэя Андрэева**. Актывіст партыі левых «Справядлівы сьвет» Андрэй Андрэеў абскарджваў у абласным судзе штраф, якім пакарала яго судзьдзя Кастрычніцкага райсуду Віцебску Алена Протас за распаўсюд інфармацыйных матэрыялаў кампаніі «Гавары праўду». Справу разглядала судзьдзя Ірына Смалякова. Довады Андрэя Андрэя, які сьцьвярджаў, што права на распаўсюд інфармацыі дадзена яму Канстытуцыяй – найвышэйшым законам Рэспублікі Беларусь, не пераканалі судзьдзю, і пастанова ў дачыненьні да актывіста пакінутая ў сіле.

**01.10.2013** Двойчы Віцебскі абласны суд адмяняў пастановы, вынесеныя судзьдзямі суду Кастрычніцкага раёну Віцебску, аб адмове распачаць справы паводле скаргаў жыхара Віцебскага раёну **Леаніда Здрэстава** супраць УП «Віцебскаблгаз». Таксама двойчы скаргі актывіста ўсё-такі разглядаліся ў судовых паседжаньнях, рашэньні па іх прымаліся – не на карысьць актывіста, але потым гэтыя рашэньні аблсудом былі прызнаныя незаконнымі і скасаваныя. У выніку актывіст паскардзіўся ўжо на судзьдзяў. Ён напісаў Лукашэнку, і быў пачуты: у дачыненьні да дваіх судзьдзяў прынятыя меры ўзьдзеяньня.

Першай, хто вынес незаконнае – як пазьней прызнаў Віцебскі абласны суд – рашэньне наконт адмовы ва ўзбуджэньні справы па скарзе Леаніда Здрэстава стала намесьніца старшыні суду Кастрычніцкага раёну Віцебску Алена Папкова. Потым яе шляхам пайшла судзьдзя Вікторыя Лешчанка, якая пакінула бяз руху скаргу актывіста аб абароне правоў спажыўцоў – і гэта, як пацьвердзіў абласны суд, ізноў было незаконна. Нарэшце, два разы скаргі ўсё-такі разглядаліся ў Кастрычніцкім райсудзе, абодва разы судзьдзёй Натальляй Лях. І кожная з пастановаў, вынесеных судзьдзёй Лях наконт справы, таксама аказалася незаконнай…

На думку актывіста, судзьдзі раённага суду наўмысна выносілі свае відавочна незаконныя рашэньні, пазбаўляючы яго права на справядлівы судовы разбор. «Ад-


Алена Шандзюкова

мена дзьвюх судовых пастановаў паводле адной і той жа справы – гэта рэцыдыў беззаконьня. Калі ж прызнаюцца незаконнымі тры пастановы аднаго суду паводле адной справы – гэта ўжо за межамі здаровага сэнсу. Пасьля гэтага судзьдзям, датычным да такога, не павінна больш заставацца месца ў судовай сыстэме дзяржаве», – мяркуе Леанід Здрэстаў. Менавіта так ён напісаў кіраўніку дзяржавы, просячы апошняга разабрацца ў сытуацыі і прыняць адпаведныя арганізацыйныя і кадравыя рашэньні.

Зразумела, зварот актывіста трапіў не на стол прэзыдэнту, а ў яго адміністрацыю. Адміністрацыя перанакіравала зварот у Вярхоўны суд, які зладзіў праверку і пацьвердзіў, што парушэньні з боку судзьдзяў сапраўды мелі месца. У выніку ў дачыненьні да судзьдзі суду Кастрычніцкага раёну Віцебску Натальлі Лях, што парушыла закон, узбуджаная дысцыплінарная вытворчасьць, якая накіраваная на разгляд у кваліфікацыйную калегію судзьдзяў Віцебскага абласнога суду; а выконваючы абавязкі начальніка галоўнага ўпраўленьня юстыцыі аблвыканкаму прыняў рашэньне аб пазбаўленьні судзьдзі Лях прэміі за жнівень.

Парушэньні закону з боку судзьдзяў пры разглядзе скаргаў Леаніда Здрэстава былі абмеркаваныя і на апэратыўнай нарадзе ў галоўным упраўленьні юстыцыі Віцебскага аблвыканкаму. Вынік нарады: намесьніцы старшыні Кастрычніцкага райсуду Віцебску Алене Папковай было паказана на неабходнасьць строгага выкананьня закону і ажыцьцяўленьня належнага кантролю падчас разгляду грамадзянскіх спраў іншымі судзьдзямі.

**09.10.2013** Судзьдзя Кастрычніцкага раёну Віцебску Вікторыя Лешчанка забараніла **прафсаюзнаму юрысту Валеру Місьнікаву** і **рэгіянальнаму прадстаўніку прафсаюзу РЭП Георгію Разумаву** прадстаўляць у судзе інтарэсы **сябра прафсаюзу Алены Шандзюковай**. Юрыдычна непісьменная жанчына засталася сам-насам з судзьдзёй і трыма адвакатамі юрыдычнай кансультацыі № 2, супраць якой яна падала пазоў.

Як распавёў Валер Місьнікаў, Алена Шандзюкова зьвярнулася ў юрыдычную кансультацыю з просьбай аказаць ёй дапамогу ў судовай справе супраць Белдзяржстраху, які ня выканаў сваіх забавязаньняў па вяртаньні атрыманай грашовай сумы ў адпаведнасьці з дамовай аб доўгатэрміновым страхаваньні. За аказаньне юрпаслугаў жанчына заплаціла 500 тысяч рублёў, у кансультацыі ёй паабяцалі зрабіць неабходны разьлік. Разьлік не зрабілі і грошы не вярнулі, заявіўшы, што жанчына атрымала кансультацыю праз тэлефон.

Алена Шандзюкова падала пазоў супраць юрыдычнай кансультацыі, патрабуючы

вярнуць грошы. Судзьдзя Вікторыя Лешчанка Вікторыя Лешчанка, якая разглядала справу, двойчы адмовіла Шандзюковой у задавальненьні яе хадайніцтва пра допуск да ўдзелу ў справе праваўвога інспэктара БПР РЭП Валера Місьнікава. Місьнікаў меў усе падставы быць абаронцам Шандзюковой ў судзе, бо меў даверанасьць, выдадзеную прафсаюзам. На яго думку, пазбавіўшы актывістку права на абарону, судзьдзя Лешчанка зьдзейсьніла супрацьзаконнае дзеяньне.

Алена Шандзюкова ўпэўненая, што судзьдзя вяла судовы працэс прадузята, адкрыта прыняўшы бок адвакатаў. У яе склалася ўражаньне, што судзьдзя Лешчанка не чыніла правасудзьдзе, а зладзіла падабенства спаборніцтва паміж трыма шматвопытнымі юрыстамі-адвакатамі і ёю — непісьменнай ў прававых пытаньнях жанчынай.

**09.10.2013** У судзе Першамайскага раёну Віцебску адбыўся разгляд скаргі актывістаў **Хрыстафора Жаляпава** і **Аляксея Гаўруцікава**. Яны прасілі суд абавязаць раённую адміністрацыю даць ім замест атрыманай імі адмовы — дазвол на пікет супраць разьмяшчэньня расейскіх вайсковых базаў. Але судзьдзя Вольга Іванова не падтрымала патрабаваньне актывістаў, якія прасілі ўмяшаньня суду ў працэдуру атрыманьня дазволу.

Апавёў актывіст аргкамітэту па стварэньні сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная Грамада» Аляксей Гаўруцікаў: «Мы з абласным каардынатарам руху «За свабоду» Хрыстафорам Жаляпавым прасілі, каб суд абавязаў адміністрацыю Першамайскага раёну даць нам дазвол на пікет супраць разьмяшчэньня расейскіх вайсковых базаў. Такую заяўку мы падавалі на 8 верасьня, але нам адмовілі, і, як мы лічым, беспадстаўна. Адмова грунтавалася на тым, што мы ня выканалі патрабаваньняў гарвыканкаму: згодна з рашэньнем № 881, разам з заяўкай мы мусілі прыкласьці дамовы з мэдыкамі, ЖКГ і міліцыяй. Але цэнтральная гарадзкая паліклініка адмовілася супрацоўнічаць — маўляў, у выходны дзень у хуткай дапамогі і так шмат працы. І абласная ўправа МУС адмовіла: там дачакаліся, пакуль раённая адміністрацыя дашле свой адказ, спаслаўшыся на адсутнасьць дамоўленасьцяў. І на дзень пазьней адказалі: калі ўжо вам не дазволілі, то навошта заключаць дамову. Самі міліцыянты і парушылі рашэньне гарвыканкаму, адным словам!»

Суд не пагадзіўся абавязаць ні раённую адміністрацыю — каб тая дала дазвол на акцыю, ні мэдыкаў і міліцыю — каб з актывістамі ўсё ж заключылі дамовы.

**31.10.2013** Старшыня Віцебскага абласнога суду выбачыўся перад праваабаронцам. Такое стала магчымым толькі пасьля таго, як **праваабаронца Павал Левінаў** зьвярнуўся са скаргай да старшыні Вярхоўнага Суду Рэспублікі Беларусь Валянціна Сукала. У свой скарзе спадар Левінаў паведаміў галоўнаму судзьдзю краіны пра тое, што старшыня суду Кастрычніцкага раёну Віцебску Яўген Буруноў сваімі дзеяньнямі парушыў яго правы на доступ да правасудзьдзя, а таксама парушыў працэсуальны закон.

Таксама актывіст паскардзіўся на тое, што першы намесьнік старшыні Вярхоўнага Суду Рэспублікі Беларусь Аляксандар Федарцоў ухіліўся ад дачы ацэнкі дзеяньняў Я. Бурунова, тым самым не паспрыяў аднаўленьню правоў і законных

інтарэсаў Левінава.

Правесьці праверку фактаў парушэньня грамадзянскага працэсуальнага закону, выкладзеных у скарзе, было даручана старшыні Віцебскага абласнога суду Мікалаю Хамічонку. Праверкай было выяўлена, што падчас падрыхтоўкі грамадзянскай справы на касацыйны разгляд работнікамі суду Кастрычніцкага раёну Віцебску былі дапушчаныя працэсуальныя парушэньні. У прыватнасьці, з-за нядбалага стаўленьня да сваіх абавязкаў, у апавяшчэньні ўдзельнікам працэсу – братам Левінавым, ня быў пазначаны час разгляду іх касацыйнай скаргі ў Віцебскім абласным судзе.

На падставе гэтага 31 кастрычніка 2013 году на паседжаньні прэзыдыюму Віцебскага абласнога суду старшыні суду Кастрычніцкага раёна Яўгену Бурунову было строга паказана на неабходнасьць ўважлівага стаўленьня пры падрыхтоўцы спраў на касацыйныя разгляды.

На адрас суду Кастрычніцкага раёну Віцебску і галоўнага ўпраўленьня юстыцыі Віцебскага аблвыканкаму накіраваныя прадстаўленьні, па выніках разгляду якіх судзьдзя Буруноў быў пазбаўлены месячнай прэміі, а загадчыца канцылярыі па грамадзянскіх справах А. Хадарэнка была прыцягнутая да дысцыплінарнай адказнасьці. За дапушчаныя парушэньні старшыня Віцебскага абласнога суду Мікалай Хамічонак быў вымушаны прынесьці праваабаронцу Паўлу Левінаву афіцыйныя прабачэньні.

**05.11.2013** Кастрычніцкі райсуд Віцебску адмовіў двум актывістам, якія хацелі ў судовым парадку змусіць цэнтральную гарадзкую паліклініку падпісаць дамову на мэдычнае абслугоўваньне ўдзельнікаў сьвяткаваньня Дня Волі. Але суд не пагадзіўся прызнаць, што забарона вынесеная з парушэньнямі — як адпаведнага рашэньня выканкаму, так і беларускага заканадаўства.

Справа, якую два дні разьбірала судзьдзя Кастрычніцкага райсуду Алена Папкова, тычылася забароны на правядзеньне ў Віцебску шэсьця і мітынгу. Гэтыя акцыі плянаваліся дзеля салідарнасьці зь лекарам **Ігарам Пастновым**, прымусова зьмешчаным на псыхіятрычнае лячэньне. **Каардынатар руху «За свабоду» па Віцебскай вобласьці Хрыстафор Жаляпаў** і **актывіст аргкамітэту па стварэньні сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная Грамада» Аляксей Гаўруцікаў** зьбіраліся абмеркаваць зь землякамі праблему недапушчальнасьці выкарыстаньня мэдычных установаў псыхіятрычнага профілю супраць тых, хто крытыкуе ўлады.

Актывістам адмовілі. У лісьце за подпісам намесьніка старшыні гарвыканкаму Ўладзімера Шломы паведамляліся прычыны забароны: маўляў, яны ня выканалі патрабаваньняў гарвыканкаму, сфармуляваных у рашэньні № 881 «Аб правядзеньні масавых акцыяў у горадзе Віцебску». У прыватнасьці, яны не прыклалі да заявак копіі дамоваў з ЖКГ, міліцыяй і мэдыкамі.

Судзьдзя пастанавіла, што забарона актывістам вынесеная без парушэньняў. І не пагадзілася на прапанову актывістаў парэкамэндаваць гарвыканкаму прывесьці сваё рашэньне ў адпаведнасьць зь дзейным заканадаўствам.


Павал Левінаў

**17.11.2013** Віцебскі абласны суд часткова задаволіў патрабаваньні актывістаў. **Хрыстафор Жаляпаў** і **Аляксей Гаўруцікаў** абскарджвалі пастанову Першамайскага райсуду, куды яны зьвярнуліся пасьля атрыманьня чарговай забароны на правядзеньне пікету. Як і раённы суд, калегія Віцебскага абласнога суду прызнала забарону законнай, але накіравала на перагляд справу ў той частцы, якая тычылася адмоваў ад супрацоўніцтва з актывістамі з боку міліцыі і цэнтральнай гарадзкой паліклінікі.

Скаргу на рашэньне судзьдзі Першамайскага райсуду Вольгі Івановай калегія абласнога суду разгледзела 14 лістапада. Было прызнана, што Першамайская раённая адміністрацыя адмовіла ў правядзеньні масавай акцыі 8 верасьня гэтага году цалкам законна. У якасьці прычыны адмовы была пазначаная адсутнасьць дамоваў на абслугоўваньне пікету супрацоўнікамі МУС і хуткай дапамогай. Гэткія дамовы, паводле рашэньня Віцебскага гарвыканкаму №881, трэба далучаць да заяўкі на акцыі. Аднак абласная ўправа МУС і цэнтральная гарадзкая паліклініка – менавіта гэтыя структуры пералічаныя ў рашэньні гарвыканкаму – адмовіліся заключаць дамовы з актывістамі.

**21.11.2013** Намесьніца старшыні суду Першамайскага раёну Віцебску судзьдзя Вольга Ільюшонак вынесла асобнае вызначэньне датычна першай намесьніцы кіраўніка адміністрацыі Першамайскага раёну Віцебску Таісіі Баглай у сувязі з парушэньнем ёю дзеючага закону аб масавых мерапрыемствах. Прычынай, з-за якой суд пачаў разьбіральніцтва ў дачыненьні да высокапастаўленай чыноўніцы, стала скарга **праваабаронцы Паўла Левінава**.

Пры разглядзе гэтай грамадзянскай справы было выяўлена, што 15 ліпеня Павал Левінаў накіраваў у адміністрацыю Першамайскага раёну гораду Віцебска заяву, у якой паведаміў пра намер зладзіць 4 жніўня 2013 году масавае мерапрыемства – пікет.

У адпаведнасьці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь», кіраўнік мясцовага выканаўчага і распарадчага органа або яго намесьнік абавязаны разгледзець заяву і не пазьней, як за пяць дзён да даты правядзеньня масавага мерапрыемства, у пісьмовай форме паведаміць яго арганізатару пра прынятае рашэньне. Аднак адказ на заяву праваабаронцы быў дадзены 31 ліпеня – г. зн. са спазьненьнем на адзін дзень, што супярэчыць патрабаваньням вышэйпрыведзенай нормы закону.


Зьміцер Лупач

**26.11.2013 Зьміцер Лупач**, актывіст з Глыбокага, спрабаваў праз суд аспрэчыць забарону пікету салідарнасьці з палітвязьнямі. Раённыя ўлады забаранілі пікет, бо ў райцэнтры зьмяніліся месцы для правядзеньня масавых акцыяў. Так было напісана ў афіцыйным лісьце з выканкаму. Але ў судзе раптам «усплыла» іншая прычына, паводле якой забарона ўладаў была прызнаная законнай.

Прычыну, агучаную ў судзе, можна было б своечасова вырашыць, гаворыць Зьміцер Лупач: «Заяўку на 23 лістапада мы падавалі за паўтары месяцы да гэтай даты. Але ў лісьце за подпісам старшыні райвыканкаму А.Морхата было напісана, што акцыю забараняюць, бо выканкам вызначыў іншыя месцы для пікетаў і мітынгаў. Гэтая адмова незаконная: калі старшыня райвыканкаму піша, што новае рашэньне ўладаў праходзіць юрыдычную экспэртызу і рэгістрацыю, то павінна дзейнічаць старое рашэньне, якога ніхто не адмяняў. Пра гэта я і пісаў у скарзе ў суд. Заяўляў, што правы грамадзянаў на публічнае выказваньне меркаваньняў парушаныя, бо ня можа быць ніякага «перапынку» паміж дзеяньнем старога і новага рашэньняў».

У судзе прадстаўніца юрыдычнага аддзелу райвыканкаму спачатку доўга тлумачыла, чаму наогул паўстала пытаньне пра зьмену месцаў для масавых акцыяў. Аказваецца, там, дзе яшчэ можна было пікетаваць у 2012 годзе, цяпер стала цесна: ДАІ папрасіла вызваліць месца для машын, якія прыяжджаюць на тэхагляд.

Але з гэтым ніхто і не спрачаецца, кажа глыбоцкі актывіст: «Месца, прапанаванае ўладамі цяпер, нікольки ня горшае. Але потым прадстаўніца выканкаму раптам успомніла, што я не падаў разам з заяўкай дамовы на абслугоўваньне акцыі. Дык чаго ж тады адмаўлялі на іншай падставе? Каб ня гэтая блытаніна з рашэньнямі, старымі і новымі, мы б усё пасьпелі! Паводле закону аб масавых акцыях так яно і мусіла б быць: улады даюць дазвол, і тады арганізатары заключаюць дамовы. А нам адразу – забарону, прычым на незаконнай падставе. Такое ўражаньне, што ў выканкаме ня ведаюць заканадаўства і ня хочуць яго выконваць».

Ускосным пацьверджаньнем гэтага Зьміцер Лупач лічыць наступныя факты. Толькі ў судзе ён даведаўся, што новае рашэньне выканкаму ўжо зацьверджанае і з 1 лістапада ўжо дзейнічае. Раённая газэта «Веснік Глыбоччыны» пра гэта не паведамляла, а на сайце «раёнкі» рубрыка «Нарматыўныя прававыя акты» не працуе наогул.




**02.12.2013 Кіраўнік незарэгістраванай партыі «Белая Русь» Сяргей Рыжоў** быў прысуджаны да штрафу ў 10 базавых велічынь (1 мільён 300 тысяч рублёў) нібыта за зьяўленьне ў грамадзкім месцы ў стане алькагольнага ап'яненьня.

16 лістапада Сяргей Рыжоў быў зьбіты супрацоўнікамі мэдвыцьвярэзьніку, куды ён быў дастаўлены міліцыянтамі. Праз два дні ён «зьняў пабоі» і зьвярнуўся ў сьледчы камітэт, каб былі распачатыя сьледчыя дзеяньні ў дачыненьні да тых, хто нанёс яму фізычныя пашкоджаньні. Тым часам адміністрацыйныя справы завялі супраць самога Рыжова. Адна з такіх справаў і была разгледжаная цяпер у судзе Першамайскага раёну Віцебску. Судзьдзя Натальля Карабліна вырашыла, што партыйны лідэр парушыў артыкул 17.3 адміністрацыйнага кодэксу.

Прычым у матэрыялах справы ў судзе згадвалася заява, падпісаная Рыжовым, згодна зь якой ён быццам бы згодзен на правядзеньне судовага разбору безь яго ўдзелу. Паводле слоў Рыжова, ім быў падпісаны чысты аркуш паперы – яшчэ ў выцьвярэзьніку, а ўсё астатняе запаўнялася пазьней не ягонай рукой.

**07.12.2013** Віцебскія актывісты **Хрыстафор Жаляпаў** і **Аляксей Гаўруцікаў** спрабавалі аспрэчыць рашэньне Кастрычніцкага райсуду, куды зьярталіся пасьля атрыманай забароны на шэсьце і мітынг салідарнасьці зь **Ігарам Пастновым**, якія мусілі адбыцца 28 верасьня. Абласны суд адхіліў іх скаргу, пагадзіўшыся з райсудом. Віцебскія актывісты лічаць, што іх права на мірныя сходы парушыў спачатку гарвыканкам, які вынес забарону, потым раённы суд, які прызнаў гэтую забарону законнай, а цяпер яшчэ і абласны суд. Усе гэтыя тры інстанцыі аргумэнтавалі сваю пазыцыю, абапіраючыся на рашэньне Віцебскага гарвыканкаму аб правядзеньні масавых акцыяў, гаворыць Аляксей Гаўруцікаў:

**08.12.2013** Сакратарыят Канстытуцыйнага суду не прыняў да разгляду скаргу рабочых ААТ «Полацак-Шкловалакно» на пункт калектыўнай дамовы полацкага заводу «Шкловалакно», які, на думку скаржнікаў, супярэчыць Канстытуцыі краіны. У адказе, падпісаным начальнікам Сакратарыяту суду Аляксандрам Караваем, сказана, што калектыўная дамова прадпрыемства не належыць да прававых актаў, якія разглядае Канстытуцыйны суд.

Рабочыя ААТ «Полацак-Шкловалакно» накіроўвалі скаргу ў Канстытуцыйны суд Беларусі наконт дыскрымінацыі па прафсаюзнай прыкмеце ў заводзкай калектыўнай дамове. Дыскрымінацыя заключаецца ў тым, што рабочых зь Белхімпрафсаюзу дырэктар можа звольніць толькі са згоды гэтага прафсаюзу, а для звальненьня працоўных са Свабоднага прафсаюзу Беларускага (СПБ) дастаткова толькі папярэдняга апавяшчэньня Рады пяршоўкі СПБ.


Аляксандар Кірылаў

**12.12.2013** Судзьдзя суду Чыгуначнага раёну Віцебска Алена Цыганкова спыніла адміністрацыйную справу ў дачыненьні да **Аляксандра Кірылава**. Яна ня ўгледзела складу правапарушэньня ў дзеяньнях віцебскага палітычнага актывіста, прадугледжанага арт. 9.2 (Паклёп) Кодэксу Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэньнях.

З пратаколу міліцыі вынікае, што 30 верасьня 2013 году Аляксандар Кірылаў, знаходзячыся ў ДУ «Рэспубліканскі шпіталь спэлеалячэньня» (г. Салігорск) у кнізе заўваг і прапаноў адзначыў, што мэдпэрсанал ў начны час гуляў у карты з хворымі «на жаданьні». Праўда, якога кшталту былі гэтыя жаданьні, калі, як, кім і дзе гэтыя жаданьні задавальняліся, у кнізе заўваг і прапаноў Кірылаў не згадаў.

У ходзе вядзеньня адміністрацыйнага працэсу высьветлілася, што пацярпелыя – гэта працаўніцы спэлеашпіталя: А. Белега, Л. Трубяцкая, Т. Каратчэня і І. Галіцкая. Яны сьцьвярджалі, што інфармацыя, выкладзеная Кірылавым ў кнізе заўваг і прапаноў, зьяўляецца заведама ілжывай, ганьбіць іх, і тычыцца менавіта іх, бо ў названы час яны знаходзіліся на дзяжурстве.

Раскрыўшы сябе, дзяўчаты паставілі сябе ў двухсэнсоўнае становішча ў вачох калег і пацыентаў. Бо ўначы на працы знаходзіліся ня толькі яны, але і іншыя мэдработнікі. Але чамусьці менавіта гэтая чацьвёрка маладых мэдсёстраў шпіталя палічыла сябе абгаворанай.

Ацаніўшы ўсе доказы па справе, судзьдзя Цыганкова прыйшла да высновы, што супрацоўнікамі салігорскай міліцыі не было прадстаўлена пераканаўчых доказаў вінаватасьці Кірылава ў наўмысным распаўсюдзе заведама ілжывых, ганебных прыдумак. Гэта значыць паклёпу не было. Бо запісы, зробленыя Кірылавым ў кнізе заўваг і прапаноў спэлеашпіталя, не зьмяшчаюць ніякіх імёнаў ці іншых дадзеных, па якіх можна было б ідэнтыфікаваць канкрэтных людзей. Таму ні пра які паклёп гаворкі быць не можа.

**13.12.2013** Пасьля таго, як судзьдзя суду Віцебскага раёну Натальля Трацьцякова адмовіла **Леаніду Здрэставу** ў задавальненьні хадайніцтва аб допуску да ўдзелу ў судовым паседжаньні па грамадзянскай справе ў якасьці яго прадстаўніка праваабаронцы, ён зьвярнуўся ў Канстытуцыйны суд. Канстытуцыйны суд ня стаў вырашаць пытаньне, і цяпер актывіст просіць разабрацца ў сытуацыі старшыню Канстытуцыйнага суду.

Як сьцьвярджае Леанід Здрэстаў, Канстытуцыя гарантуе яму права карыстацца дапамогаю адвакатаў і іншых яго прадстаўнікоў у судзе. Аднак судзьдзі Канстытуцыйнага суду, да якіх ён зьвярнуўся, ня сталі разглядаць, ці было парушанае гэтае



Сяргей Вязьняк

яго права ў судзе Віцебскага раёну. Адказ начальніка сакратарыяту суду Аляксандра Каравая, у якім той тлумачыць, хто і як можа зьвяртацца ў Канстытуцыйны суд, ён лічыць адпіскай.

**03.01.2014** Група грамадзян, якая вылучала **сябра Беларускага Хэльсынскага камітэту Паўла Левінава** ў Віцебскую абласную тэрытарыяльную выбарчую камісію, паспрабавала абскардзіць у судзе рашэньне Віцебскага аблвыканкаму і Прэзыдыюму Віцебскага абласнога савету дэпутатаў аб утварэньні камісіі. Безвынікова – судзьдзя Натальля Хількевіч пастанавіла, што парушэньняў пры фармаваньні абласной выбарчай камісіі не было.

На судовым паседжаньні, якое доўжылася больш за 4 гадзіны, прысутнічаў сам Павал Левінаў, двое з тых грамадзян, што вылучалі яго ў камісію, а таксама прадстаўнікі зацікаўленых асоб – аблвыканкаму і аблсавету. Павал Левінаў зьвярнуў увагу судзьдзі на шэраг парушэньняў, якія дапусьцілі мясцовыя ўлады, фармуючы абласную выбарчую камісію, але судзьдзя Хількевіч, прымаючы рашэньне, не прыняла яго аргумэнты пад увагу.

**16.01.2014** У судзе Першамайскага раёну Віцебску адбыўся разгляд скаргі **Аляксея Гаўруцікава** і **Хрыстафора Жаляпава**. Яны патрабавалі прызнаць незаконнай забарону Першамайскай адміністрацыяй гораду пікету салідарнасьці з палітвязьнямі, які не адбыўся 10 сьнежня. Суд адмовіў актывістам.

Прычына забароны пікету ў Дзень правоў чалавека ўжо традыцыйная: адсутнасьць дамоваў на абслугоўваньне акцыі. Хоць актывісты і спрабавалі заключыць дамовы, зьвярнуўшыся ў належныя службы за два месяцы да запланаванага мерапрыемства. Ім адмовілі ў абласной управе МУС і цэнтральнай гарадзкой паліклініцы.

Першамайскі райсуд ня ўбачыў у гэтай сытуацыі нічога надзвычайнага, і скаргу актывістаў не задаволіў, распавёў Хрыстафор Жаляпаў: «Рашэньне раённай адміністрацыі пра забарону акцыі прызнанае слушным, а нашы прэтэнзіі – беспадстаўнымі. Атрымліваецца, што рашэньне гарвыканкаму мусяць выкнваць толькі заяўнікі, а дзяржаўныя ўстановы, міліцыя і паліклініка могуць яго ігнараваць? Праз гэта нашы правы на правядзеньне масавых мерапрыемстваў рэалізаваць папросту немагчыма. І перашкоды для гэтага стварылі гарадзкія ўлады, прыняўшы невыканальнае рашэньне, якое адмаўляюцца зьмяніць, колькі мы гэтага ні патрабавалі».

**29.01.2014 Адзін зь лідэраў грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду» Сяргей Вазьняк** абскарджваў у Віцебскім абласным судзе адмову ў рэгістрацыі сваіх ініцыятыўных груп. Суд падтрымаў ранейшыя адмовы раённай і абласной выбарчых

камісіяў. Актывіст зьбіраўся балятавацца ў Талачынскі раённы і Коханаўскі сельскі саветы праз збор подпісаў.

Талачынская раённая выбарчая камісія ініцыятыўныя групы не зарэгістравала, спаслаўшыся на 6-ю частку артыкулу 60 Выбарчага кодэксу. Сяргею Вазьняку было заяўлена, што ён не жыве і не працуе на тэрыторыі саветаў, у якія зьбіраецца балятавацца. Спадар Вазьняк з такімі аргумэнтамі не пагадзіўся: спрабаваў давесьці, што ён галоўны рэдактар рэспубліканскай газэты «Товарищ», якая распаўсюджваецца на тэрыторыі ўсёй Беларусі, адпаведна, і ў Талачынскім раёне.

У Талачынскай раённай выбарчай камісіі сказалі, што тэрыторыя распаўсюду газэты ня можа разглядацца як месца працы. Віцебская абласная выбарчая камісія таксама ня стала на бок актывіста: скаргу на тое, што раённая камісія беспадстаўна адмовіла ў рэгістрацыі ініцыятыўных груп, палічылі неабгрунтаванай.

Віцебскі абласны суд ня толькі падтрымаў ранейшыя падставы для адмовы ў рэгістрацыі, але далучыў шэраг новых, распавёў **старшыня Віцебскай абласной арганізацыі Партыі левых «Справядлівы сьвет» Мікалай Селівашка**: «У якасьці падстаў для адмовы ў рэгістрацыі было сказана, што газэту «Товарищ» не распаўсюджвае мясцовая пошта, і што яе няма ў падпісным каталёгу. Тлумачэньні пра тое, што гэта не віна рэдактара, а адмова ад супрацоўніцтва з боку «Белпошты», прынятыя не былі. Не дапамагло і тое, што на суд прыехалі жыхары Талачыншчыны, наш аднапартыец з Коханава Мікалай Петрушэнка ды іншыя чытачы газэты. Яны засьведчылі, што газэта распаўсюджваецца на гэтай тэрыторыі і ўздымае мясцовыя праблемы. Аднак і пракурор, і судзьдзя вырашылі, што сьведкі – зацікаўленыя асобы, і таму іх тлумачэньні нельга лічыць аб’ектыўнымі».

Прысутныя на судзе актывісты і сам Сяргей Вазьняк, разумеючы, што станоўчага рашэньня ня будзе, пакінулі суд яшчэ да абвяшчэньня яго рашэньня.

**06.02.2014** Кастрычніцкі райсуд Віцебску не задаволіў скаргу лекара на забарону пікету-рэквіему супраць міліцэйскага гвалту. Судзьдзя Алена Папкова вырашыла, што Кастрычніцкая раённая адміністрацыя мела рацыю, забараніўшы акцыю **Ігара Пастнова**, якую ен зьбіраўся правесьці летась у сьнежні. Аднак сам віцебскі лекар-«праўдаруб» лічыць, што раённыя ўлады нанесьлі яму асабістую абразу, ня даўшы правесьці аднаасобны жалобны пікет.

Ігар Пастноў напісаў у судовай скарзе, складзенай з дапамогай **праваабаронцы Пятра Іванова**, што хоча спагнаць з чыноўнікаў тры тысячы эўра за маральную шкоду. У выпадку перамогі ён абяцаў перадаць гэтыя грошы дзіцячаму дому. Аднак у судзе прадстаўнікоў Кастрычніцкай адміністрацыі не было: судзьдзя зачытала афіцыйную паперу з просьбай разгледзець справу ў адсутнасьць чыноўнікаў, якія спасылаліся на службовую занятасьць. Дадатковае хадайніцтва, каб усё ж выклікаць чыноўнікаў у суд, таксама не было задаволенае.

Судзьдзя Алена Папкова спрабавала забараніць праваабаронцам і мясцовым актывістам прысутнічаць на працэсе. Яна распачала суд на 5 хвілін раней за абвешчаны тэрмін і ахвотных, якія прыйшлі на працэс за пару мінут да вызначанага часу, у залю не пусьціла. Давялося зьвяртацца да старшыні суду і паказваць на


Юры Нагорны

гадзіньнік у калідоры, каб усё ж трапіць на суд.

**12.02.2014** Аршанскія актывісты **Юры Нагорны** і **Яўген Анішчанка** спрабавалі праз суд змусіць міліцыю, паліклініку і камунальнае прадпрыемства «Спэцаўтабаза» заключыць дамовы на абслугоўваньне пікету. Але судзьдзя Алеся Котава адмовіла актывістам – падтрымала прадстаўнікоў адказных службаў у іх нежаданьні супрацоўнічаць з апазыцыянэрамі. Паводле судовага рашэньня, мэдыкаў, міліцыянтаў і работнікаў «Спэцаўтабазы» нельга змусіць да заключэньня дамоваў, бо гэта – некамэрцыйныя структуры.

«Між тым, існуе рашэньне гарвыканкаму №74 «Аб некаторых пытаньнях арганізацыі масавых мерапрыемстваў у горадзе Воршы», дзе наўпрост сказана: заяўнікі акцыяў мусяць разам з заяўкай падаць копіі дамоваў на абслугоўваньне. А таксама пералічаныя структуры, зь якімі трэба дамаўляцца: райаддзел міліцыі, паліклініка №1 і камунальнае прадпрыемства «Спэцаўтабаза». Мы зьвярнуліся ў суд пасьля атрыманых адтуль адмоў, што стала прычынай для забароны пікету па праблеме аварыйнага мосту цераз Дняпро 30 кастрычніка 2013 г. Цяпер мы прасілі, каб суд змусіў гэтыя структуры заключыць з намі дамовы на новую дату – на 29 сакавіка. Аднак прадстаўнікі гэтых арганізацыяў аднагалосна заявілі ў судзе, што дамаўляцца з намі ня будуць ні ў якім разе», – распавёў актывіст руху «За свабоду» Юры Нагорны.

Прадстаўнік «Спэцаўтабазы» ў суд не зьявіўся: адтуль даслалі афіцыйны ліст, што просяць суд разабрацца ў сытуацыі бязь іх удзелу. Прадстаўнік міліцыі на працягу ўсяго судовага паседжаньня маўчаў, зазначыўшы толькі на пачатку, што не прызнае прэтэнзіяў заяўніка. Не пажадалі гаварыць ні прадстаўніца паліклінікі, ні прадстаўніца райвыканкаму. Судзьдзя Алеся Котава агучыла іх пазыцыю паводле дакумэнтаў судовай справы.

«Прадстаўнікі міліцыі цьвердзяць, што не заключаюць з намі дамоваў, бо мы ня маем дазволу на правядзеньне акцыі ад райвыканкаму. Райвыканкам не дае дазволу без папярэдняга заключэньня дамовы. Міліцыянты сказалі, што ня могуць дамаўляцца з намі ні на якую канкрэтную дату, бо яны, маўляў, ня ведаюць, ці будуць у іх у той дзень вольныя супрацоўнікі. Ніякага шляху дасягнуць кансэнсусу з намі яны ня бачаць. Прадстаўнікі паліклінікі сказалі, што ў пераліку відаў іх камэрцыйнай дзейнасьці няма такога пункту, як абслугоўваньне масавых акцыяў. І таму яны таксама з намі заключыць дамовы ня могуць. Паводле ліста з камунальнай службы, яны наогул ня могуць зрабіць таго, пры што мы просім: прадпрыемства «Спэцаўтабаза», згаданае ў рашэньні гарвыканкаму, прыборкай гарадзкіх тэрыторыяў не займаецца наогул, а толькі вывозіць сьмецьце. Да таго ж, і адны, і другія, і трэцья сказалі, што ніколі не заключалі дамоваў зь фізычнымі асобамі, і



Алена Шабуня

зрабіць гэта ня ў стане», – зазначыў прыхільнік стварэньня партыі БХД Яўген Анішчанка.

Затое прадстаўнікі паліклінікі палічылі неабходным пісьмова выказацца наконт сутнасьці акцыяў, якія не дазваляюць правесьці аршанскім актывістам. У лісьце мэдыкаў гаворыцца, што яны лічаць немэтазгодным праводзіць пікет па праблеме аварыйнага мосту цераз Дняпро.

Суды наконт забароны пікету пра мост працягваліся амаль 2 месяцы. Спачатку актывісты спрабавалі аспрэчыць саму забарону. Але судзьдзя Алеся Котава не задаволіла іх скаргу, спаслаўшыся на тое, што ўмовы рашэньня гарвыканкаму наконт заключэньня дамоваў ня выкананыя, і, адпаведна, забарона законная. Затое сама ж прапанавала напісаць іншую заяву – супраць згаданых у рашэньні гарвыканкаму службаў, якія адмаўляюцца заключыць дамовы. Актывісты пагадзіліся, сплацілі судовыя выдаткі – і прайгралі.

**09.03.2014 Каардынатарка аргкамітэту па стварэньні БХД Тацьцяна Севярынец** і **актывістка таго ж аргкамітэту Алена Шабуня** спрабавалі аспрэчыць нерэгістрацыю іх у якасьці кандыдатаў – давесьці, што выбаршчыкаў падманулі, прымусіўшы прызнаць свае подпісы за вылучэньне апазыцыянэрак несапраўднымі. Суд не заўважыў у падмане нейкага парушэньня.

Тацьцяна Севярынец атрымала адмову ад абласнога суду: «Быў працэс, на якім я распавяла пра захады гарадзкой выбарчай камісіі, каб не зарэгістраваць мяне, забракаваўшы частку подпісаў. Захады гэтыя інакш як падманам не назавеш: да людзей прыходзіла праверка і пыталася, ці іхныя подпісы ў падпісных аркушах. Людзі пацьвярджалі, але іх прасілі засьведчыць гэта яшчэ адным подпісам у адмысловым блянку. Людзі даверлівыя, яны той блянк і не глядзелі! А потым высьвятлялася, што падпісалі яны заяву, дзе гаварылася, што дату ў падпісным лісьце ставілі нібыта не яны, а зборшчыкі. Пра такое пытаньне іх нават не папярэджвалі! Больш таго: калі, прыкладам, за маё вылучэньне падпісвалася жонка, то «пацьвердзіць», ці яе гэта подпіс, прасілі ці мужа, ці сына – каго знайшлі ў хаце. Абласны суд не палічыў гэта парушэньнем – ні махлярства з падпісаньнем дадатковых паперак, ні тое, што сьведчылі за кагось зусім іншыя людзі!”

Тацьцяна Севярынец даведалася пра «фокус» з дадатковымі блянкамі ад саміх абураных выбаршчыкаў. Яны напісалі пра гэта пісьмовыя тлумачэньні і гатовыя былі пайсьці ў суд сьведкамі. Але нават позваў на працэс не атрымалі.

«У абласным судзе позвы чамусьці хацелі выдаць мне – каб я сама запрашала людзей. Хіба гэта мой абавязак, а не суду? Я адмовілася гэта рабіць найперш таму, што 4 сакавіка езьдзіла на пахаваньне Рыгора Барадуліна ва Ўшачы. А 5-га, на судзе, проста абвясьцілі, што сьведкі не зьявіліся! Ніводзін! Я маю вялікія сумневы,

што позвы ім наогул перадавалі. На тым усё і скончылася: мае сьведчыньні прызналі не вартымі ўвагі, а дзеяньні гарадзкой выбарчый камісіі, на чале са старшынёй Валянцінай Казакоўскай, якая сама брала ўдзел у праверках, палічылі законнымі».

Па такім самым сцэнары прайшоў працэс і па скарзе актывісткі аргкамітэту па стварэньні партыі БХД Алены Шабуні. Яна пасьпела запрасіць некалькі сьведкаў, папрасіла правесьці экспэртызу – чыёй жа ўсё-ткі рукой прастаўляліся даты ў падпісных аркушах, але ўсё было марным. Віцебскі абласны суд вырашыў, што і яе не зарэгістравалі кандыдатам у дэпутаты цалкам законна.

Раней з такой самай нагоды ў Віцебскі абласны суд зьвярталіся каардынатар руху «За свабоду» па Віцебскай вобласьці Хрыстафор Жаляпаў і актывіст аргкамітэту па стварэньні сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная Грамада» Аляксей Гаўруцікаў. У іх таксама гарадзкая выбарчая камісія выявіла падобныя факты – што даты на падпісных аркушах нібыта ставілі не самі выбаршчыкі. І абласны суд стаў на бок камісіі, заявіўшы, што на момант рэгістрацыі камісія мела заявы выбаршчыкаў пра нібыта парушэньні. А калі людзі адмовіліся і заявілі, што памыліліся, не прачытаўшы, што яны падпісваюць «прызнаньні» наконт даты, рэгістрацыя ўжо скончылася, і цяпер нічога ня зробіш.

**10.03.2014** Судзьдзя Валянціна Кавалёва задаволіла скаргу актывісткі незалежнага прафсаюзу РЭП былой кладаўшчыцы складу № 2 гатовай прадукцыі ААТ «Віцебскмясамалпрам» **Алены Шандзюковай** на пастанову аб адмове ва ўзбуджэньні крымінальнай справы. Названая пастанова была вынесеная опэрупаўнаважаным АБЭЗ АУС адміністрацыі Чыгуначнага раёну Віцебску Р. Беразьнёвым. Суд абавязаў міліцыю належна правесьці праверку фактаў нястачы таварна-матэрыяльных каштоўнасьцяў на суму каля 85 мільёнаў рублёў. За апошнія тры гады гэта ўжо чатырнаццатая адмена.

Гэтая гісторыя пачалася пры канцы кастрычніка 2010 году, калі інвэнтарызацыйная камісія ААТ «Віцебскмясамалпрам» зладзіла праверку складу № 2 і выявіла на ёй лішкі харчовых тавараў на 15,4 млн. рублёў, а таксама нястачу на суму 89,9 млн. рублёў.

На просьбу дырэктара ААТ «Віцебскмясамалпрам» Сьвятаслава Чаброўскага супрацоўнікамі міліцыі была праведзеная праверка па факце нястачы, што ўтварылася. Былі апытаныя загадчыца складу Т. Ксянзова і дванаццаць кладаўшчыц, падпарадкаваных ёй. Яны меркавалі, што нястача і няўлічаная прадукцыя ўтварыліся з прычыны збою кампутарызаванага ўліку складу, крадзяжу, зьдзейсьненага адной з кладаўшчыц разам з кіроўцам-экспэдытарам, і адсутнасьці сыгналізацыі на складзе. Аднак гэтыя здагадкі не пацьвердзіліся.

Як ні стараліся работнікі АБЭЗ, ім не ўдалося дакумэнтальна вызначыць мэханізм ўтварэньня нястачы на складзе № 2. І, як вынік гэтага, не былі заведзеныя крымінальныя справы ні на работнікаў складу, ні на кіраўніцтва прадпрыемства. Аднак факт нанясеньня дзяржаўнаму прадпрыемству шкоды быў пацьверджаны, кіраўніцтва ААТ «Віцебскмясамалпрам» праз суды ўсклала выплату нястачы на кладаўшчыц, бо зь імі была заключаная дамова аб калектыўнай матэрыяльнай адказнасьці.


Аляксандар Салаўян

Да цяперашняга часу дзесяць кладаўшчыц пагасілі свае часткі нястачы і шчыра цешацца, што не апынуліся ў турме. І толькі адна Алена Шандзюкова застаецца ня згоднай з высновамі сьледчых органаў і рашэньнямі судоў і на гэтай падставе адмаўляецца кампэнсаваць нястачу. Яна дагэтуль шукае праўды ў пракуратурах і судах, настойвае на належнай праверцы ААТ «Віцебскмясамалпрам», каб сапраўдныя раскрадальнікі матэрыяльных каштоўнасьцяў былі выяўленыя і панесьлі справядлівае пакараньне.

**25.03.2014** Судом Чыгуначнага раёну Віцебску **апазыцыянэры Барыс Хамайда** і **Аляксандар Салаўян** асуджаныя на трое сутак. Яны былі затрыманыя напярэдадні Дня Волі ў Віцебску. Апазыцыйных актывістаў пакаралі паводле артыкулу 10.9 КаАП. Гэта артыкул аб зьнішчэньні або псаваньні маёмасьці ў нязначным памеры. Справа была заведзеная па заяве РУП «Віцебскэнэрга» за выпадкі вывешваньня бел-чырвона-белых сьцягоў на электрычныя правады. Справу разглядала судзьдзя Алена Цыганкова.

**26.03.2014** 7 сутак арышту – такі вэрдыкт у дачыненьні да **актывіста Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ Яна Дзяржаўцава** вынесла 26 сакавіка судзьдзя суду Першамайскага раёну Віцебску Натальля Карабліна. Партыец пакараны паводле артыкулу 23.34 КаАП (парушэньне парадку арганізацыі або правядзеньня масавых мерапрыемстваў) за ўдзел у пікеце супраць «выбарчага фарсу» ля выбарчага ўчастку 22 сакавіка.

У якасьці доказу зьдзяйсьненьня правапарушэньня судзьдзя выкарыстала 1-хвілінны ролік, зьмешчаны ў Інтэрнэце. Судзьдзя ня стала абцяжарваць сябе высьвятленьнем таго, хто менавіта зьняў і апрацаваў гэты ролік, і яе не зьбянтэжыў той факт, што на роліку відавочныя сьляды мантажу. Каб прагледзець відэа падчас судовага працэсу, у паседжаньні быў зроблены перапынак на гадзіну: файл на дыску, які знаходзіўся ў матэрыялах справы, не адчыняўся. Падчас перапынку судзьдзя Карабліна здабыла недзе іншы дыск, і запіс на ім стала падставай для пакараньня сябра КХП-БНФ.

У судзе Ян Дзяржацаў прызнаў, што сапраўды парушыў рашэньне Віцебскага гарвыканкаму, паводле якога каб атрымаць дазвол на правядзеньне масавых мерапрыемстваў і пікетаў ад мясцовых органаў улады, трэба сьпярша заключыць дамовы зь міліцыянтамі, камунальнікамі і мэдыкамі, якія ад заключэньня гэткіх дамоў усяляк ухіляюцца. На парушэньне актывіст пайшоў сьвядома, бо цягам апошніх гадоў колькі разоў ён і іншыя дэмакратычныя актывісты падавалі заяўкі на пікеты, і ніводнага разу ніхто не атрымаў дазволу на іх правядзеньне.

«Я кіраваўся Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь і міжнароднымі дамовамі, якія Рэспубліка Беларусь падпісалі, у прыватнасьці Міжнародным пактам аб грамадзянскіх і палітычных правох. Гэтыя прававыя акты забясьпечваюць маё права на вольнае выказваньне свайго меркаваньня, у тым ліку і праз пікет», – заявіў Ян Дзяржаўцаў. Тым ня менш судзьдзю Карабліну ён не пераканаў. Яна палічыла, што рашэньне Віцебскага гарвыканкаму № 881 ад 10 ліпеня 2009 году «Аб масавых мерапрыемствах у г. Віцебску» і Закон «Аб масавых мерапрыемствах» маюць прыярытэт вышэйшы за Канстытуцыю і нормы міжнароднага права.

**02.04.2014 Палітык Аляксандар Кірылаў** быў злоўлены на крадзяжы рэчаў з магазыну «Эўраопт», і суд Кастрычніцкага раёну Віцебску падвергнуў яго адміністрацыйнаму пакараньню – штрафу ў суме 2 600 000 рублёў. Аднак сам Кірылаў з гэтым пакараньнем ня згодны. Ня згодны ён і зь вядзеньнем справы: на думку Кірылава, суд яго віны не даказаў і парушыў яго права на абарону.

Рашэньне суду заснаванае на супярэчлівых паказаньнях. У пратаколе пазначана, што Кірылаў выкраў мужчынскія кальсоны; сьведка кажа, што абвінавачаны ў зьдзяйсьненьні правапарушэньня зьняў зь сябе 2 пары легінсаў; а сам Кірылаў сьцьвярджае, што на ім наогул былі жаночыя легінсы і швэдар. Знойдзеныя ў краме біркі, сарваныя з адзеньня, наогул судом не аглядаліся. Таксама вядома, што Кірылаў знаходзіўся ў краме разам з грамадзянкай Сакаловай, і быў падвергнуты пакараньню за крадзеж таго ж тавару, у крадзяжы якога абвінавацілі і Сакалову, але суд не разгледзеў магчымасьці аб'яднаньня дзьвюх спраў у адну.

Кірылаў падаў скаргу ў абласны суд і дамогся свайго: судзьдзя абласнога суду Сьвятлана Іванова, у сувязі з парушэньнямі падчас разгляду справы Кастрычніцкім раённым судом, вырашыла пастанову суду адмяніць і накіраваць справу на новы разгляд іншым судзьдзёй.

**03.04.2014** Судзьдзя суду Гарадоцкага раёну Алена Віхаценка пачала разгляд скаргі **Яна Дзяржаўцава** на парушэньне яго законных правоў і інтарэсаў супрацоўнікамі Гарадоцкага райвыканкаму. На думку актывіста КХП-БНФ, адказныя работнікі Гарадоцкага райвыканкаму парушылі закон «Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб».

Жыхаром Віцебску Янам Дзяржаўцавым пададзеная скарга на тое, што службовыя асобы Гарадоцкага райвыканкаму не разгледзелі ягоную заяву, пададзеную яшчэ 14 лістапада, аб падставах для высячэньня елак у межах паласы адводу аўтамабільнай дарогі Віцебск-Гарадок на ўчастку 27-46 км.

Заяўніку адказнымі асобамі Гарадоцкага райвыканкаму было спачатку абяцана, што яго заява будзе разгледжаная кіраўніцтвам прадпрыемства «Віцебскаўтадар». Потым было паведамленьне, што адказ Дзяржаўцаў атрымае ад аддзелу жыльлёва-камунальнай гаспадаркі райвыканкаму. Але мінула больш як два месяцы, толькі ніякага рашэньня ад Гарадоцкага райвыканкаму заяўнік не атрымаў, а Віцебскі аблвыканкам не абараніў яго законныя правы і інтарэсы.

У пададзенай скарзе Ян Дзяржаўцаў просіць суд прымусіць Гарадоцкі райвыканкам разгледзіць заяву ад 14 лістапада па сутнасьці і даць яму разгорнуты, кампэтэнтны адказ, а таксама вынесьці асобнае вызначэньне ў дачыненьні да кіраўніка

райвыканкаму аб недапушчальнасьці парушэньня яго падначаленымі Закону «Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб».

Працэс распачаўся з заявы Дзяржаўцава аб адводзе судзьдзі Віхаценка у сувязі з тым, што судовая сыстэма Беларусі наўпрост залежыць ад кіраўніка краіны, які таксама прызначае і кіраўнікоў выканаўчай улады. Гэты адвод ня быў задаволены. Пасьля Янам Дзяржаўцавым было заяўленае хадайніцтва аб перакладчыку. Заяўнік штодзённа карыстаецца беларускай мовай, а працэс ідзе па-расейску – і яму не зразумелы сэнс асобных расейскіх слоў. Судзьдзя вырашыла задаволіць хадайніцтва. Дзеля пошуку перакладчыка працэс прыпынены.

**05.04.2014 Выдаўца «Крывінкі» Георгія Станкевіча** аштрафавалі на 7 з паловай мільёнаў рублёў. Штраф памерам 50 базавых велічынь – максымальны паводле ч.2 артыкулу 22.9 КаАП. Суд прызнаў, што Георгі Станкевіч парушыў правілы распаўсюду газэты «Крывінка» і патрабаваньні да выдавецкай дзейнасьці. З матэрыялаў справы высьветлілася, што адміністрацыйны перасьлед Георгія Станкевіча распачаўся з ананімкі. Прычым у ёй не было ані слова непасрэдна пра газэту «Крывінка».

«Калі я ў судзе знаёміўся з матэрыяламі справы, то ўбачыў там ксэракопію ліста, які нібыта даслалі ў адміністрацыю прэзыдэнта мае аднавяскоўцы, – гаворыць паэт і бард Георгі Станкевіч. – Хачу заўважыць, што ў вёсцы Старыя Ранчыцы, дзе я жыву, засталіся пераважна пэнсіянэры, і ўсе яны да мяне добра ставяцца. І раптам я чытаю, што нейкія «аднавяскоўцы» просяць «спыніць Станкевіча», бо ён «палівае брудам народ і ўрад». І што гэта мне будзе такі «падарунак ад Дзядулі Мароза» – ліст быў напісаны недзе напрыканцы студзеня. А ўнізе яшчэ намаляваная кветачка. Дзівосы нейкія! Каб людзі малявалі кветачкі на лісьце ў адміністрацыю – у гэта я ня веру! Ліст выглядае на нейкі дурны жарт ці падробку, але гэта нікога не зьбянтэжыла. Яго перанакіравалі ў Віцебскі аблвыканкам і абласную ўправу міліцыі, а адтуль – ужо да нас у Бешанковічы. І ў справе ёсьць дакумэнт, дзе гаворыцца, што захады па гэтай «ананімцы» трэба зрабіць да 13 сакавіка».

Станкевіч мяркуе, што менавіта з-за гэтай пасьпешлівасьці судзьдзя Натальля Рэўт не дазволіла яму запрасіць на судовы працэс ні перакладчыка, ні адваката зь Менску. З-за настойлівасьці падсуднага яго выдалілі з судовай залі нібыта за парушэньне парадку. Паводле судовай пастановы, ён пакінуў залю сам і дэманстратыўна.

**10.04.2014** У судзе Гарадоцкага раёну завяршыўся разгляд скаргі **Яна Дзяржаўцава** на парушэньне адказнымі работнікамі Гарадоцкага райвыканкаму закону «Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб». Судзьдзя Алена Віхаценка скаргу актывіста не задаволіла, паверыўшы сьведцы – начальніку аддзелу жыльлёва-камунальнай гаспадаркі райвыканкаму Тацьцяне Пушковай.

14 лістапада 2013 году Ян Дзяржаўцаў зьвярнуўся ў Гарадоцкі райвыканкам зь пісьмовай заявай, у якой прасіў растлумачыць, на якой падставе ладзілася высечка елак у межах паласы адводу аўтамабільнай дарогі Р-115 Віцебск-Гарадок на ўчастку 27-46 км. Аднак адказу па сутнасьці заявы ён не атрымаў аж дагэтуль, таму і прасіў суд прымусіць службовых асоб даць яму такі адказ у адпаведнасьці з законам «Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб».


Алена Каваленка

У судзе юрыст выканкаму заявіла, што насамрэч супрацоўнікі выканкаму вышэйзгаданага закону не парушалі, а накіравалі ліст Яну Дзяржаўцаву яшчэ 27 лістапада 2013 году. Згодна з гэтым лістом, які Ян Дзяржаўцаў упершыню ўбачыў толькі ў судзе, елкі ўздоўж шашы былі высечаныя на падставе распараджэньня губэрнатара Аляксандра Косінца і адпаведнага рашэньня Гарадоцкага райвыканкаму.

На думку Яна Дзяржаўцава, ліст, які яму нібыта быў накіраваны 27 лістапада, быў складзены заднім днём – непасрэдна перад судом. Тым больш, што літаральна напярэдадні пазначанай у лісьце даты яму быў дасланы яшчэ адзін ліст – папярэдні адказ, у якім кіраўнік спраў выканкаму інфармаваў актывіста, што ягоны зварот будзе разгледжаны аддзелам жыльлёва-камунальнай гаспадаркі. Гэты папярэдні ліст датаваны 26 лістапада, і Ян Дзяржаўцаў сумняваецца, што чыноўнікі аддзелу ЖКГ сапраўды ўсяго за адзін дзень здолелі падрыхтаваць і даслаць яму поўны і ўсебаковы адказ.

Адзіным доказам таго, што адказ сапраўды быў накіраваны заяўніку ў належны тэрмін, а ня быў сфабрыкаваны заднім днём, сталіся словы выкліканага ў суд сьведкі – начальніка аддзелу жыльлёва-камунальнай гаспадаркі райвыканкаму Тацьцяны Пушковай. Судзьдзя Віхаценка палічыла, што слоў працаўніцы выканкаму аб тым, што выканкам не парушыў заканадаўства, цалкам дастаткова. З журналам выходнай карэспандэнцыі, у якім фіксуюцца ўсе дасылаемыя выканкамам лісты, судзьдзя не знаёмілася. Згодна з рашэньнем судзьдзі Віхаценка, адказныя асобы Гарадоцкага райвыканкаму не парушылі закону «Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб», і Яну Дзяржаўцаву ў задавальненьні яго скаргі трэба адмовіць.

**16.04.2014 Алена Каваленка** пакараная штрафам у памеры 20 базавых велічынь. Гэткае пакараньне прысудзілі віцебскай актывістцы за пікет супраць удзелу ва ўжо мінулых мясцовых выбарах, які адбыўся 22 сакавіка ў Віцебску. Працэс у Першамайскім райсудзе працягваўся менш за паўгадзіны.

Алена Каваленка адмовілася даваць нейкія тлумачэньні, яна сказала толькі, што падчас пікету выражала сваю грамадзянскую пазыцыю. І такім чынам рэалізоўвала сваё канстытуцыйнае права на публічнае выказваньне сваіх меркаваньняў. Аднак судзьдзя гэткіх аргумэнтаў не прыняла і абвясьціла пастанову: аштрафаваць Алену Каваленка.

Судзіла Алену Каваленка тая самая судзьдзя Першамайскага райсуду Натальля Карабліна, якая даўней пакарала другога ўдзельніка той самай акцыі, **сябра КХП БНФ Яна Дзяржаўцава**.


Павал Тулубенскі

22 сакавіка Ян Дзяржаўцаў з Аленай Каваленкай выйшлі да СШ № 46 з плякатам «Байкот выбарчаму фарсу». А потым Ян Дзяржаўцаў дэманстратыўна парваў запрашэньні на выбары, бо лічыць, што ў Беларусі няма свабоднага волевыяўленьня грамадзянаў. Сябра КХП БНФ Сяргей Каваленка, муж Алены Каваленкі, зьняў акцыю на відэа і выклаў у інтэрнэт.

**17.04.2014** Вярхоўны суд лічыць скаргу родных **Уладзіслава Кавалёва** адносна месца пахаваньня расстралянага непадведамаснай агульным судам. Такое рашэньне ўтрымліваецца ў адказе на скаргу **Любові Кавалёвай** і **Таццяны Казяр** за подпісам намесьніка старшыні Вярхоўнага суду Андрэя Забары. У рашэньні паведамляецца пра тое, што рашэньні суду Кастрычніцкага раёну Менску і Калегіі па грамадзянскіх справах Менскага гарадзкога суду аб непадведамаснасьці разгляду скаргі агульным судам застаюцца ў моцы.

Маці расстралянага Любоў Кавалёва і яго сястра Таццяна Казяр у сваёй скарзе ў Вярхоўны суд патрабавалі адмяніць рашэньне суду Кастрычніцкага раёну Менску і Калегіі па грамадзянскіх справах гарадзкога суду, якія адмовілі ва ўзбуджэньні грамадзянскай справы на дзеяньні КДБ, МУС і Дэпартамэнту выкананьня пакараньняў на адмову даць інфармацыю пра месца пахаваньня Ўладзіслава.

**18.04.2014** Судзьдзя Кастрычніцкага раёну Віцебску Яўген Буруноў, разгледзеўшы справу **Паўла Тулубенскага**, вынес пастанову аб пакараньні яго штрафам. Згодна з рашэньнем, сп. Тулубенскі павінен будзе заплаціць дзяржаве 3 млн. рублёў за тое, што ён нібыта распаўсюджваў паклёпніцкія выдумкі ў дачыненьні да дырэктара таварыства з дадатковай адказнасьцю «Навукова-вытворчае прадпрыемства "Мера"» Сяргея Літвінчука.

Усё распачалося некалькі месяцаў таму. Тады два дзясяткі грамадзян, што жывуць у раёне кінатэатру «Мір», зьвярнуліся да прэзыдэнта Лукашэнкі зь лістом, у якім скардзіліся на дзеяньні віцебскіх уладаў і кіраўніцтва ТДА «Навукова-вытворчае прадпрыемства «Мера"». Гэтая камэрцыйная структура будуе шматпавярховік і гандлёва-адміністрацыйны будынак у квартале вул. Леніна, вул. Чэхава і вул. Грыбаедава, вул. Суворава.

У сваім звароце жыхары двух дамоў, якія плянуецца зьнесьці ва ўгоду бізнэс-інтарэсам НВП «Мера», – № 35 па вул. Суворава і № 66-а па вул. Леніна – паведамлялі кіраўніку дзяржавы: зьяўляючыся дырэктарам ТДА «НВП Мера», С. Літвінчук плянамерна захоплівае нерухомасьць і вялікія ўчасткі зямлі ў прыватную ўласнасьць, робіць замах на зямельныя ўчасткі грамадзян у цэнтры гораду, выганяе іх, ушчыльняе дваровыя тэрыторыі, ультыматыўна патрабуе ад жыхароў дамоў, разьмешчаных паміж яго будоўлямі і кінатэатрам «Мір», добраахвотна адмовіцца

ад свайго жытла і зямельных участкаў на ягоную карысьць.

Паводле практыкі, што склалася, працаўнікі адміністрацыі прэзыдэнта пераслалі зварот віцебчукоў ў Віцебскі абласны выканаўчы камітэт, каб са скаргай і скаржнікамі разабраліся мясцовыя чыноўнікі. А пасьля па заяве С. Літвінчука старшы інспэктар ААПП Кастрычніцкага РАУС Віцебску маёр міліцыі Аляксей Паўлаў склаў адміністрацыйны пратакол у дачыненьні да аднаго са скаржнікаў – Паўла Тулубенскага – паводле арт. 9.2 (паклёп) Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэньнях Рэспублікі Беларусь.

Падчас разгляду справы ў судзе высьветлілася, што жыхары наадрэз адмовіліся перасяляцца з прычыны нераўнацэннасьці кошту цяперашняга жытла і таго жытла, якое было паабяцанае камэрсантамі. Аднак нават пасьля пісьмовай адмовы перасяляцца, прадстаўнікі ТДА «НВП Мера» неаднаразова дапякалі жыхарам ўгаворамі і абяцанкамі. Гэтыя дзеяньні жыхары ўспрынялі як спробы захопу іх жытла і зямельных участкаў камэрцыйнай фірмай.

Павал Тулубенскі прызнаў у судзе, што, магчыма, ён і іншыя падпісанты звароту да Лукашэнкі ахарактарызавалі дзеяньні камэрсантаў ня тымі словамі. Аднак, паводле яго слоў, дзеяньні камэрсантаў сапраўды псыхалягічна ўспрымаліся як адкрыты замах на іх нерухомую маёмасьць. Было незразумела, якім чынам і за якія заслугі ТДА «НВП Мера» атрымала ва ўласнасьць ажно шэсьць участкаў зямлі ў цэнтры горада, ці была выкананая дзяржаўнымі органамі працэдура перадачы гэтых участкаў, і ці пакінуць пасьля адмовы перасяляцца ў спакоі яго і ягоную састарэлую маці – ардэнаносца.

Сяргей Літвінчук растлумачыў суду, што ён дзейнічаў згодна з законам і ў сілу рашэньняў Віцебскага выканаўчага камітэту і праектнага інстытуту «Віцебскгапразем». Ён паведаміў, што лічыць сябе пацярпелым, абгавораным, бо ў скарзе жыхароў дамоў № 35 па вул. Суворава і № 66-а па вул. Леніна, накіраванай прэзыдэнту краіны, утрымліваецца абразьлівыя і паклёпніцкія зьвесткі. Больш таго, з-за скаргі Лукашэнку пацярпеў ягоны бізнэс – у цяперашні час будаўніцтва комплексу прыпыненае і ў дачыненьні да ТДА «НВП Мера» вядуцца праверкі і разгляды з боку дзяржорганаў. Праўда, ён пацьвердзіў, што дасылаў лісты з прапановамі жыхарам зносімых дамоў перасяліцца ў добраўпарадкаванае жытло.

Пасьля нядоўгага разгляду, судзьдзя Кастрычніцкага раёну Віцебску Яўген Бурноў абвясьціў рашэньне: у дзеяньнях Паўла Тулубенскага праглядаецца склад адміністрацыйнага правапарушэньня – паклёп у дачыненьні да дырэктара ТДА «НВП Мера» Сяргея Літвінчука. І на гэтай падставе аштрафаваў сп. Тулубенскага.

**07.05.2014** Настаўнік зь Бешанковічаў, **паэт і бард Георгі Станкевіч** падаў касацыйную скаргу на рашэньне раённага суду, які 3 красавіка аштрафаваў яго на 50 базавых велічынь за выраб і распаўсюд газэты «Крывінка», якая выдаецца на ўласныя сродкі заснавальніка. Аднак сам Станкевіч ня змог прыехаць на разгляд скаргі. Судзьдзя Сьвятлана Іванова праігнаравала тую акалічнасьць, што ў судовай залі сабраліся неабыякавая да выніку людзі, віцебскія праваабаронцы, і ня стала разглядаць справу публічна.

Рашэньне абласнога суду пра тое, што скарга Георгія Станкевіча не задаволеная,


Аляксандар Холад

ён атрымаў па пошце. З дасланай яму пастановы вынікае, што абласны суд ня ўбачыў працэсуальных парушэньняў падчас суду над заснавальнікам і выдаўцом «Крывінкі», і не заўважыў парушэньня правоў Георгія Станкевіча.

«Так і напісана: «працэсуальных парушэньняў, якія маглі б пацягнуць за сабой скасаваньне судовага рашэньня, ня выяўлена». А пра тое, што суд праходзіў без адваката, бо судзьдзя Натальля Рэўт адмовілася пачакаць абаронцу зь Менску, якому я давяраў абарону сваіх інтарэсаў, напісана наогул незразумела што: «сьведчаньне пра парушэньне права на абарону пацьверджаньня не знайшло», бо я нібыта «пакінуў паседжаньне без дазволу судзьдзі». Дзе тут лёгіка? Судзьдзя сама загадала мне пакінуць залю – пасьля таго, як я некалькі разоў выказваў хадайніцтва, каб ў працэсе ўзяў удзел менскі адвакат, зь якім ужо дамовіліся, а не прадстаўнік раённай адвакацкай канторы, куды мяне адпраўляла судзьдзя. Гэтаксама я хадайнічаў, каб на суд паклікалі перакладчыка, бо я не дастаткова валодаю расейскай мовай, каб зразумець усе юрыдычныя моманты. Аднак мне і ў гэтым адмовілі», – камэнтуе атрыманую пастанову Георгі Станкевіч.

**29.05.2014** Жыхар Віцебску **Аляксандар Холад** зьвярнуўся да старшыні Вярхоўнага суду Валянціна Сукалы са скаргай. У сваім звароце Холад паведамляе галоўнаму судзьдзю краіны пра адвольнае пакіданьне без разгляду намесьнікам старшыні ВС Андрэем Забарам і першым намесьнікам старшыні ВС Аляксандрам Федарцовым ягоных наглядных скаргаў на пастанову суду Чыгуначнага раёну Віцебску і просіць аднавіць яго канстытуцыйнае права на доступ да суду.

Зьвяртаючыся ў Вярхоўны суд, Аляксандар Холад хацеў адмяніць несправядлівае, на ягоную думку, рашэньне суду Чыгуначнага раёну Віцебску, вынесенае яшчэ ў студзені 2013 году. Гэтай пастановай судзьдзя Сьвятлана Варатынская ў закрытым судовым паседжаньні задаволіла грамадзянскі пазоў па абароне гонару, годнасьці і дзелавой рэпутацыі былога дырэктара сярэдняй школы №27 Віцебску Ірыны Ісачанка. Паводле вэрдыкту суду, Холад быў абавязаны выплаціць І. Ісачанка грашовую кампэнсацыю маральнай шкоды ў суме 3 млн. рублёў і іншыя выдаткі суду і пазоўніка ў памеры 2,5 млн. рублёў.

Аднак спадар Холад не пагадзіўся з рашэньнем суду. Ён сьцьвярджае, што ня меў намеру зьняважыць гонар, годнасьць і дзелавую рэпутацыі І. Ісачэнка, калі зьвяртаўся зь пісьмовымі заявамі ў рэдакцыі газэт «Звязда», «Советская Белоруссия» і ў адрас адміністрацыі прэзыдэнта краіны. Ён толькі паведаміў журналістам і ў адміністрацыю пра тое, што, знаходзячыся на пасадзе дырэктара СШ №27, І. Ісачанка займалася падробкай дакумэнтаў на правядзеньне факультатываў па прадметах «сальфэджыё» і «хор», і частка грашовых сродкаў за нявыкананую пра-

цу вярталася ёй.

Тым ня менш ані касацыйная інстанцыя, ані нагляд з боку старшыні Віцебскага абласнога суду Мікалая Хамічонка ня выявілі ў дзеяньнях і ў пастанове судзьдзі Варатынскай парушэньняў дзейнага заканадаўства і пакінулі яго бязь зьменаў, а скаргі Холада без задавальненьня.

Намесьнік старшыні ВС Андрэй Забара і першы намесьнік старшыні ВС Аляксандар Федарцоў наогул адмовіліся разглядаць наглядныя скаргі віцебскага актывіста з той прычыны, што, на іх думку , у тэкстах яго скаргаў зьмяшчаліся абразьлівыя словы і выразы. Больш таго, скаржнік быў папярэджаны Фядорцавым пра тое, што ў далейшым у выпадку накіраваньня ім у Вярхоўны суд скаргаў і зваротаў, якія зьмяшчаюць абразьлівыя або паклёпніцкія выразы на адрас правасудзьдзя ці канкрэтных судзьдзяў, ліставаньне зь ім весьціся ня будзе.

Аднак дзеючая Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь і шэраг міжнародных дамоваў наўпрост кажуць пра недапушчальнасьць пазбаўленьня беларускіх грамадзян доступу да правасудзьдзя. Бо бяз доступу да суду ня можа быць вяршэнства права, якое зьяўляецца паказчыкам цывілізаванасьці і разьвітасьці судовай сыстэмы любой краіны.

Зыходзячы з гэтага, Аляксандар Холад накіраваў скаргу старшыню Вярхоўнага суду Рэспублікі Беларусь Валянціну Сукалу з надзеяй, што галоўны судзьдзя краіны, як ніхто іншы, разумее важнасьць доступу грамадзян да справядлівага, незалежнага і кампэтэнтнага суду.

**03.06.2014** Адхіленая наглядная скарга доктара Пастнова наконт забароны пікету супраць міліцэйскага гвалту. Адказ за подпісам старшыні абласнога суду Мікалая Хамічонка атрымаў віцебскі «лекар-праўдаруб» **Ігар Пастноў**. Ён спрабаваў аспрэчыць рашэньне Кастрычніцкага раённага суду, які адхіліў ягоную скаргу на дзеяньні адміністрацыі Кастрычніцкага раёну, кіраўніцтва якой не дазволіла правесьці пікет супраць міліцэйскага гвалту.

Пікет плянавалася зладзіць 12 студзеня ў Парку культуры і адпачынку Савецкай Арміі, гэтае месца афіцыйна вызначанае адміністрацыяй Кастрычніцкага раёну для правядзеньня масавых мерапрыемстваў. Але Ігару Пастнову адмовілі з тае прычыны, што ён не прыклаў да заяўкі дамоваў зь міліцыяй, мэдыкамі і работнікамі ЖКГ на абслугоўваньне акцыі.

**11.06.2014** Суд Полацку адмовіў у задавальненьні патрабаваньня работніка крамы аб вяртаньні яму грошай, утрыманых за нястачу тавару. Прадстаўнік крамы заявіў, што ніякіх утрыманьняў па нястачы з работніка не рабілася. Рабочы ж сьцьвярджаў, што зь ягонай зарплаты ўтрымалі 3 мільёны рублёў, але ніякіх квітанцыяў даць ня змог.

У сакавіку полацкая прыватная крама харчовых тавараў «Аліса», які знаходзіцца каля вакзалу, правёў рэвізію і выявіў нястачу тавараў на 57 мільёнаў. Адміністрацыя крамы абвінаваціла ў нястачы работнікаў крамы і запатрабавала ад працоўных пагасіць выяўленыя страты. Загадчыца крамы пісала ў сваёй тлумачальнай, што ахоўнікі адцягваюць касіраў ад працы, ня сочаць за пакупнікамі і займаюцца падчас працы ўласнымі справамі, таму тавары зьнікаюць. Работнікі ж лічаць

прычынай нястачы дрэнную працу таваразнаўцаў, якія ня сочаць за тэрмінамі прыдатнасьці: прадукты псуюцца і іх выкідваюць, а на працоўных вешаюць нястачу.

Работнікі, якія раней падпісалі дамову аб калектыўнай матэрыяльнай адказнасьці, пагадзіліся пагашаць нястачу утрыманьнем з зарплаты. Аднак адзін з працаўнікоў, Дзьмітры, які працаваў ахоўнікам, адмовіўся ад пагашэньня нястачы і напісаў заяву аб звальненьні. Дзьмітрый – адзіны рабочы, які не падпісваў дамову аб калектыўнай матэрыяльнай адказнасьці. Тым ня менш падчас разьліку пры звальненьні зь яго ўтрымалі тры мільёны рублёў.

Дзьмітры падаў у суд аб незаконнасьці ўтрыманьня грошай. Але ў судзе працаўнік ня змог даказаць факту ўтрыманьня з заробку. Як сказаў Дзьмітры, пры разьліку яму далі падпісаць ведамасьць пра атрыманьне поўнай зарплаты, а на рукі выдалі толькі паўмільёна. Адміністрацыя выдае на рукі работнікам разьліковыя ў выглядзе кавалачка паперы, на якім кампутарным спосабам надрукаваныя лічбы разьліку па зарплаце, безь пячатак і подпісаў. Як сказала судзьдзя, «я такіх аркушаў магу надрукаваць колькі заўгодна». А прадстаўнікі крамы заявілі, што ніякіх грошай у работніка яны не ўтрымлівалі. Варта сказаць, што крама не змагла адразу прадставіць фінансавых дакумэнтаў, і суд даў ёй два дні на прывядзеньне дакумэнтаў у парадак.

Рабочыя крамы, якія выступалі ў якасьці сьведак, давалі супярэчлівыя паказаньні. Частка работнікаў далі паказаньні на карысьць адміністрацыі, частка – супраць. Працаўнікам, якія выступілі супраць адміністрацыі, пасьля суду сталі прад’яўляцца розныя прэтэнзіі. Так, адну з касірак абвінавацілі ў крадзяжы грошай з касы, але даказаць гэтага не змаглі. Цяпер начальнікі патрабуюць, каб яна звольнілася сама.

Ёсьць і станоўчы момант ад суду. Адміністрацыя крамы перастала прымушаць работнікаў перапрацоўваць працоўны час. Раней работнікі працавалі па 14 гадзін, а ім запісвалі 12 рабочых гадзін. Цяпер адміністрацыя дазволіла рабочым на дзьве гадзіны ў зьмену пакідаць працоўнае месца для прыёму ежы.

**26.06.2014** Суд адмовіў пяршоўцы Беларускага Незалежнага прафсаюзу (БНП) работнікаў ААТ «Нафтан» у задавальненьні патрабаваньня да гарвыканкаму скасаваць рашэньне аб ануляваньні рэгістрацыі дадатковага пагадненьня, падпісанага зь незалежным прафсаюзам.

Наваполацкі гарвыканкам спачатку зарэгістраваў, а потымануляваў рэгістрацыю дадатковага пагадненьня зь першаснай арганізацыяй БНП аб далучэньні да калектыўнай дамовы ААТ «Нафтан». Гэта адбылося пасьля скаргі Белхімпрафсаюзу. Там ўпэўненыя, што дадатковае пагадненьне павінны былі ўзгадніць з імі.

Незалежны прафсаюз падаў у суд на гарвыканкам, выставіўшы адзінае патрабаваньне: скасаваць ануляваньне рэгістрацыі дадатковага пагадненьня. На судовым паседжаньні 18 чэрвеня судзьдзя Рымша адмовіў незалежнаму прафсаюзу ў просьбе.

«Сытуацыя дзіўная: наймальнік лічыць, што мы маем рацыю, мы лічым, што мы маем рацыю. Але судзьдзя ўсё адно вынес рашэньне, грунтуючыся на тым, што

мы не спыталі дазволу ў галіновага прафсаюза. Хоць у ніводным дакумэнце гэта не прапісана. Нонсэнс! – Адзначыў **старшыня першаснай арганізацыі БНП работнікаў ААТ «Нафтан» Іван Сьвятоха**. – На судовым паседжаньні прадстаўнікі гарвыканкаму стаялі на сваім. Мабыць, прызнаць сваю памылку для іх было б ганьбай. Судзіў малады хлопец – і ён, мабыць, не адважыўся ісьці супраць гарвыканкаму. Прынятае ім рашэньне ня робіць яму гонару, пачынаць кар’еру з такога… гэта адаб’ецца на рэпутацыі».

## Факты парушэньняў выбарчага заканадаўства


Леанід Сьвецік

**26.12.2013 Прадстаўніка рэспубліканскай праваабарончай арганізацыі «Беларускі Хэльсынскі камітэт» Леаніда Сьвецíка** не дапусьцілі на сумеснае паседжаньне Віцебскага гарадзкога выканаўчага камітэту і Прэзыдыюму Віцебскага гарадзкога Савету дэпутатаў па ўтварэньні тэрытарыяльнай выбарчай камісіі ў горадзе Віцебску. Фармальнай прычынай нядопуску на паседжаньне стала адсутнасьць Леаніда ў сьпісе запрошаных.

Выбарчым кодэксам Рэспублікі Беларусь вызначана, што падрыхтоўка і правядзеньне выбараў ажыцьцяўляюцца адкрыта і галосна. Апроч таго, Закон Рэспублікі Беларусь «Аб мясцовым кіраваньні і самакіраваньні ў Рэспубліцы Беларусь» дазваляе прадстаўнікам грамадзкіх арганізацыяў прысутнічаць на паседжаньнях выканаўчых і распарадчых органаў улады. Аднак патрабаваньне закону не было ўзятае ўладамі пад увагу – яны вырашылі не запрашаць праваабаронцу на паседжаньне гарадзкога выканкаму і прэзыдыюму Савету дэпутатаў.

«Ужо на стадыі фармаваньня тэрытарыяльнай выбарчай камісіі ўлады пайшлі на відавочныя парушэньні патрабаваньняў дзеючага Выбарчага кодэксу краіны – не забясьпечылі адкрытасьць выбарчага працэсу. Таксама ўлады груба патапталі маё палітычнае права – непасрэдна і асабіста браць удзел у вядзеньні дзяржаўных спраў. Таму няма больш ані жаданьня, ані сэнсу далей назіраць за гэтымі "выбарамі"», – сказаў Леанід Сьвецік.

**05.01.2014** Абласная газэта «Витебские вести» падвяла вынікі этапу фармаваньня тэрытарыяльных выбарчых камісіяў. І паведаміла чытачам, што «на сёньняшні дзень актыўнасьць палітычных партыяў ледзьве заўважная», бо з партыйцаў «у склад камісіяў увайшло 17 чалавек, або каля 1%, у тым ліку 13 сябраў КПБ». Газэта не палічыла патрэбным патлумачыць, што «ўвайшлі» – гэта ня значыць «хацелі ўвайсьці», і што ад апазыцыйных партыяў былі прэтэндэнты на ўдзел у камісіях, якіх туды папросту не ўключылі.

Прыкладам, з 48 прадстаўнікоў партыі БНФ у выбарчыя камісіі патрапілі толькі тры чалавекі ў Менскай, Віцебскай і Берасьцейскай абласьцёх. Адпаведна, ва ўсёй Віцебскай вобласьці – усяго 1 чалавек. Мясцовыя ўлады, фармуючы камісіі, не задаволілі памкненьне трапіць у абласную выбарчую камісію **намесьніка старшыні абласной арганізацыі партыі БНФ Кастуся Смолікава**, у Полацку, Наваполацку і Воршы раённыя камісіі таксама сфармавалі без прадстаўнікоў дэмакратычных сіл.

Пра тое, каго ўключалі ў камісіі, а каму адмаўлялі, выразна сьведчаць лічбы: паводле афіцыйных дадзеных, у тэрытарыяльныя камісіі Віцебшчыны ўключана


Уладзімер Правальскі

1790 чалавек, або 98,5% ад ліку ўсіх прэтэндэнтаў. Ня трапілі ў камісіі і праваабаронцы – прадстаўнікі БХК. Затое вельмі характэрны пералік іншых грамадзкіх аб'яднаньняў і колькасны склад іх сябраў, уключаных у камісіі: прадстаўнікоў Фэдэрацыі прафсаюзаў Беларусі (359 чалавек, больш за 20% ад агульнай колькасьці), Беларускага грамадзкага аб'яднаньня вэтэранаў (101 чалавек, або 5,6%), Беларускага саюзу жанчын (87 чалавек, або 4,9%), БРСМ (70 чалавек, або 3,9%), РГА «Белая Русь» (61 чалавек, або 3,4%).

**21.01.2014** Пракуратура Віцебску абвясьціла афіцыйнае папярэджаньне старшыню Віцебскай абласной выбарчай камісіі. На зварот **праваабаронцы Паўла Левінава** ў пракуратуру правялі праверку і выявілі факт парушэньня заканадаўства аб выбарах з боку старшыні Віцебскай абласной выбарчай камісіі Хомы Д.Л., «у сувязі з чым апошняму было абвешчанае папярэджаньне пра недапушчальнасьць парушэньня закону». Сам жа Павал Левінаў акрэдытаваўся ў назіральнікі нанова і працягвае сачыць за працай выбарчай камісіі…

Група грамадзян выканала ўсе патрабаваньні закону і вылучыла прадстаўніка БХК ў Віцебску Паўла Левінава ў якасьці назіральніка пры Віцебскай гарадзкой тэрытарыяльнай выбарчай камісіі. Праваабаронцу спачатку акрэдытавалі ў якасьці назіральніка (27 сьнежні 2013 г.), а потым пазбавілі гэтай акрэдытацыі (30 сьнежня). Рэч ў тым, што адзін з грамадзян падпісаўся за Левінава, знаходзячыся ў шпіталі. Камісія гэты подпіс палічыла несапраўдным, хаця грамадзянін пазьней пісьмова пацьвердзіў, што подпіс ставіў асабіста.

Павал Левінаў з такім рашэньнем не пагадзіўся і пачаў абскарджваць яго: 4 студзеня ён падаў скаргу ў Віцебскую абласную выбарчую камісію. Выбарчым кодэксам краіны вызначаны максымальны тэрмін разгляду зваротаў – дзесяць дзён. Дык што скарга Левінава мусіла быць разгледжанай не пазьней за 13 студзеня. Але паседжаньне наконт пытаньня разгляду скаргі праваабаронцы было склікане і праведзенае старшынём Віцебскай абласной выбарчай камісіяй Хомам Д.Л. толькі 14 студзеня 2014 году.

Левінаў вырашыў, што гэткае парушэньне закону ня можа быць пакінутае па-за ўвагай і зьвярнуўся ў пракуратуру з просьбай прымяніць да Хомы Л.Д. меры пракурорскага рэагаваньня за парушэньне ім дзейнага выбарчага заканадаўства краіны.

**23.01.2014** 6 ініцыятыўных групаў па вылучэньні кандыдатаў на ўдзел у мясцовых выбарах не змаглі зарэгістравацца на Віцебшчыне. Ва ўсіх шасьці выпадках у ахвотных вылучацца кандыдатамі ў дэпутаты былі зафіксаваныя недакладнасьці ў сабраных дакумэнтах. У тым ліку ва **Ўладзімера Правальскага**, колішняга **ўдзельніка прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі**, якога Цэнтарвыбаркам не зарэгістраваў у


Лідзія Сагідуліна

якасьці кандыдата, бо частка сабраных за яго подпісаў была прызнаная несапраўднымі.

Цяпер ва Ўладзімера Правальскага, які хацеў стаць кандыдатам у дэпутаты абласнога Савету, таксама паўсталі праблемы з дакумэнтамі. Пра гэта распавёў **сябра абласной выбарчай камісіі, кіраўнік абласной арганізацыі партыі левых «Справядлівы сьвет» Мікалай Селівашка**: «Уладзімер Правальскі – пакуль адзіны, хто падаў скаргу на тое, што не зарэгістравалі яго ініцыятыўную групу. Ён кажа, што зьвяртаўся да сяброў камісіі, каб прагледзелі ягоныя дакумэнты і падказалі, калі нешта не так. І што нібыта ніякіх заўваг да яго не было. Але ініцыятыўную групу не зарэгістравалі менавіта праз недакладнасьці ў сабраных дакумэнтах. Я прапанаваў склікаць паседжаньне абласной камісіі і ўсё ж зарэгістраваць групу Правальскага – калі яму не далі ніякіх тлумачэньняў. Тым больш, што недакладнасьці там чыста «тэхнічныя», не грунтоўныя. Але камісію з гэтай нагоды склікаць ня сталі».

Паводле афіцыйнай інфармацыі з сайту аблвыканкаму, на рэгістрацыю ініцыятыўных груп было пададзена 2 362 заявы, зарэгістравана 2 356 груп. Сярод заяўнікаў былі і сябры палітычных партыяў, якія вырашылі стварыць ініцыятыўныя групы і зьбіраць подпісы за сябе, не чакаючы вылучэньня ад партыйных суполак. 42 чалавекі пазначылі сваю партыйную прыналежнасьць, і найбольш масава прадстаўленымі аказаліся партыя левых «Справядлівы сьвет» (11 чалавек), КПБ (10 чалавек), партыя БНФ (9 чалавек).

**19.02.2014** Віцебская тэрытарыяльная выбарчая камісія разгледзела 83 заявы прэтэндэнтаў на мандат кандыдата ў дэпутаты Віцебскага гарадзкога Савету дэпутатаў. Для дванаццаці прадстаўнікоў ад апазыцыйных палітычных структур і незалежных мясцовых палітыкаў вынікі іх вылучэньня аказаліся адмоўнымі.

Так, зь перадвыбарчай гонкі выбылі аксакалы мясцовай палітыкі: **сябра аргкамітэту па стварэньні сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная Грамада» Аляксей Гаўруцікаў** і **сябра партыі БНФ Хрыстафор Жаляпаў**. Таксама за бортам выбарчага працэсу апынуліся **кіраўнік абласной арганізацыі БХД Тацьцяна Севярынец**, **абласны лідэр гаварыпраўдаўцаў Лідзія Сагідуліна** ды грамадзкі актывіст **Аляксандар Мікулін**. Усе яны вылучаліся праз збор подпісаў, і выбарчая камісія выявіла ў падпісных аркушах гэтых апазыцыянэраў несапраўдныя подпісы выбаршчыкаў.

**Праваабаронцу Паўлу Левінаву** не хапіла толькі аднаго подпісу, каб стаць кандыдатам у дэпутаты. Апроч таго, ня ўсё чыста, на думку гарадзкой выбарчай камісіі, у Левінава было з пададзенымі асабістымі зьвесткамі. Тут дрэнную службу Паўлу

Ісаакавічу саслужыла тое, што ў зьвестках пра сябе ён згадаў прадстаўніцтва праваабарончай арганізацыі «Беларускі Хэльсынскі камітэт» па Віцебскай вобласьці. Паводле ж дадзеных выбарчай камісіі, атрыманых зь дзяржаўных органаў, – прадстаўніцтва БХК на Віцебшчыне не існуе.

Астатнім шасьці грамадзянскім і партыйным актывістам таксама было адмоўлена ў рэгістрацыі ў якасьці кандыдатаў у дэпутаты альбо з-за няправільна сабраных подпісаў, альбо з прычыны недакладных асабістых дадзеных або зьвестак у пададзеных дэклярацыях аб даходах.

**20.02.2014** 20 лютага ў 11 гадзін раённая выбарчая камісія ўручыла **актывісту кампаніі «Гавары праўду» Яраславу Берніковічу** пасьведчаньне кандыдата ў дэпутаты Глыбоцкага райсавету. А а 15-й гадзіне з камісіі патэлефанавалі з папярэджаньнем, што ягоную рэгістрацыю анулююць.

Кажа Яраслаў Берніковіч: «Прычына для мяне стала сюрпрызам: аказваецца, подпісы за маё вылучэньне былі сабраныя ня ў той вёсцы. У Глыбоцкім раёне, сказалі ў камісіі, ёсьць дзьве вёскі з аднолькавай назвай Гірстуны. Адна – у Карабоўскім сельсавеце, за пару кілямэтраў ад Высокага, дзе я жыву. Вёска Высокае – гэта таксама тая акруга, дзе я зьбіраўся балятавацца, і навакольныя вёскі туды ўваходзяць. Але ў камісіі кажуць, што гэта – ня тыя Гірстуны, і што подпісы я мусіў зьбіраць у Гірстунах Удзелаўскага сельсавету. Я нават ня ведаў, што там ёсьць такая вёска, бо яна даўно не існуе, там няма насельнікаў!”

«Гэта недарацоўка тых, хто рыхтуе выбары, хто дзеліць акругі. Калі ёсьць дзьве вёскі з аднолькавай назвай, трэба ж пазначаць канкрэтна, якая маецца на ўвазе! У той вёсцы, пра якую гаворыць камісія, людзей няма. Нават сама вёска ёсьць не на кожнай мапе. А там, дзе зьбіраліся подпісы, вёска жылая, мяне ведаюць. Аднак у выніку – 19 подпісаў прызнана несапраўднымі. Я падаваў у камісію 92 подпісы замест 75, каб быў запас. Але цяпер высьвятляецца, што мне ўжо двух подпісаў не хапае. Вось і падстава, каб не зарэгістраваць!», – абураецца актывіст.

Дарэчы, Яраслаў Берніковіч зьбіраўся балятавацца і ў раённы і ў Віцебскі абласны саветы. Аднак і ў рэгістрацыі на кандыдата аблсавету яму было адмоўлена: на адным з падпісных аркушаў не было напісана слова «Глыбокае», і ўвесь аркуш «забракавалі», прызнаўшы ўсе подпісы на ім несапраўднымі.

**28.02.2014** Жыхары Віцебску, што падпісаліся за вылучэньне кандыдатамі ў дэпутаты **актывістаў «Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі» Тацьцяны Севярынец** і **Алены Шабуні**, пацьвярджаюць сапраўднасьць сваіх подпісаў, якія ў выбарчай камісіі прызналі нібыта несапраўднымі , і кажуць, што прадстаўнікі выбарчых камісіяў іх ашукалі (на падставе несапраўднасьці подпісаў актывісткі не былі зарэгістраваныя ў якасьці кандыдатаў у дэпутаты).

«Людзі былі вельмі абураныя тым, што іх падманулі. Яны такога не чакалі. Мы падаем скаргі з прыкладаньнем сьведчаньняў у пракуратуру і ЦВК», – адзначыла Тацьцяна Севярынец.

Вось што кажуць выбаршчыкі, якія падпісаліся ў падтрымку Тацьцяны Севярынец і Алены Шабуні: «Падчас праверкі камісіі мяне дома не было, у дакумэнце камісіі подпіс я ня ставіла». «Пры праверцы гарадзкой камісіяй я дома адсутнічала, у




іх дакумэнце за мяне расьпісаўся муж. Іх дакумэнту я ня бачыла і ня ведаю яго зьместу». «Падчас праверкі гарадзкой камісіяй сапраўднасьці майго подпісу і даты я дома адсутнічаў. Размаўляў зь сябрам камісіі па тэлефоне і ў іх дакумэнтах подпіс не ставіў. За мяне расьпісалася мама. Па тэлефоне я сказаў, што і дату, і подпіс за Шабуню А.А. я ставіў сам». «Падчас праверкі гарадзкой камісіі я пацьвердзіў гэты факт (што ўласнаручна ставіў подпіс і дату за Шабуню А.А.) і падпісаўся, не чытаючы іх тэкст дакумэнту. Пра што глыбока шкадую, бо ня думаў, што сябры гарадзкой камісіі ўвядуць мяне ў зман».

**09.03.2014** Аршанскі **кандыдат у дэпутаты райсавету і аблсавету Ігар Казьмярчак** перадаў для друку макет ўласнай перадвыбарнай ўлёткі. Празь некаторы час кандыдату ператэлефанавалі з аршанскай друкарні і паведамілі, што ня могуць зрабіць наклад улётак, пакуль з райвыканкаму не дашлюць ліст, якім дазволяць друк.

У той самы час кіраўніца спраў выканкаму Іна Хамутоўская у тэлефоннай размове з кандыдатам патлумачыла, што такі афіцыйны ліст не прадугледжаны выбарчым заканадаўствам. Яна паабяцала перадаць справу Віктару Калачову, які курыруе пытаньне выбараў, каб той патлумачыў сытуацыю друкарні. Але і празь некалькі дзён аршанская друкарня так і не ўзялася за ўлёткі кандыдатаў, а яе працаўнікі кажуць, што цяпер дазволу на друк чакаюць ужо некалькі кандыдатаў у дэпутаты.

**10.03.2014 Сябра партыі левых «Справядлівы сьвет»**, падпалкоўнік у адстаўцы **Вадзім Кузьмін** падвяргаецца дыскрымінацыі з боку Віцебскай гарадзкой і акруговай выбарчых камісіяў. Пра гэта заявіў сам кандыдат, які вылучаеццаадначасова ў гарадзкі і абласны Саветы дэпутатаў.

Так, з агітацыйных улётак, адцэнзураваных Віцебскай гарадзкой камісіяй, зьніклі дадзеныя пра тое, што кандыдат Кузьмін зьяўляецца ліквідатарам аварыі на Чарнобыльскай АЭС і мае дзяржаўныя ўзнагароды – 3 ордэны і 5 мэдалёў. Затое на ўлётках зьявіліся іншыя зьвесткі: тое, што ён мае судзімасьць. А газэта «Віцьбічы» з падачы камісіі пайшла яшчэ далей: на сваіх старонках яна паведаміла чытачам, паводле якога крымінальнага артыкулу ён быў асуджаны, «забыўшы» пазначыць пры гэтым, што судзімасьць даўно зьнятая.

Вадзім Кузьмін паспрабаваў разабрацца ў сытуацыі, чаму так здарылася. Ён прыйшоў на паседжаньне акруговай камісіі Білеўскай выбарчай акругі № 60 разам са сваёй даверанай асобай – юрыстам. Аднак старшыня камісіі Аляксандар Хрытаненка папросту выставіў апошняга за дзьверы, чым пазбавіў спадара Кузьміна юрыдычнай дапамогі. «Я – сябра партыі «Справядлівы сьвет». Усе гэтыя дзеяньні



Аляксей Гаўруцікаў

– гэта ціск на мяне як на апазыцыйнага кандыдата, – лічыць Вадзім Кузьмін. – Калі б я ішоў ад нейкіх уладных структур, то да мяне ніякіх заўваг не было б».

**18.03.2014** Са скаргай на дзеяньні сяброў Віцебскай гарадзкой выбарчай камісіі зьвярнуліся ў Сьледчы камітэт **актывісты руху «За свабоду» Хрыстафор Жаляпаў** і **Аляксей Гаўруцікаў**. Актывісты не былі зарэгістраваныя ў якасьці кандыдатаў ў дэпутаты Віцебскага гарадзкога савету: выбарчая камісія знайшла ў іх подпісы, якія былі прызнаныя несапраўднымі (116 у Жаляпава, 103 – у Гаўруцікава).

Абодва лічаць, што ім адмовілі з палітычных прычын, бо яны зьяўляюцца сябрамі руху «За свабоду» і партыі БНФ, у складзе іх ініцыятыўных групаў знаходзіцца старшыня руху «За свабоду» Аляксандар Мілінкевіч. У сваёй скарзе ў Сьледчы камітэт палітыкі пазначаюць прычыны, па якіх лічаць адмову ў рэгістрацыі незаконнай. У прыватнасьці тое, што большасьць выбаршчыкаў, якія падпісалі заявы, нібыта яны ня ставілі подпісы, на паўторнай праверцы заявілі: яны зрабілі гэта, таму што іх увялі ў зман.

Жаляпаў і Гаўруцікаў просяць праверыць факты парушэньня заканадаўства сябрамі Віцебскай гарадзкой выбарчай камісіі, за парушэньне заканадаўства і падлог дакумэнтаў прыцягнуць да крымінальнай адказнасьці старшыню Віцебскай гарадзкой выбарчай камісіі па выбарах дэпутатаў гарадзкога Савету дэпутатаў Валянціну Казакоўскую.

**22.03.2014** Віцебскі **незалежны кандыдат у дэпутаты абласнога савету Аляксей Гаўруцікаў** ня змог скарыстацца сваім правам надрукаваць агітацыйныя матэрыялы ў дубровенскай раённай газэце. У гэтым яму адмовіла рэдактарка дзяржаўнага выданьня. І ЦВК у адказе на скаргу Аляксея Гаўруцікава падтрымаў гэтую пазыцыю, маўляў, «мае права адмовіць».

Рэдактар «Дняпроўскай праўды» Сьвятлана Шурпакова заявіла, што ў праграме кандыдата ўтрымліваецца «прыхаваны заклік да зьмяненьня канстытуцыйнага ладу і зьмены ўлады». І таму агітацыйныя матэрыялы надрукаваныя ня будуць.

«Кожны кандыдат мае права скарыстацца сродкамі выбарчага фонду і надрукаваць свае агітацыйныя матэрыялы ў СМІ. Гэта маё права! І рэдактар ня можа ладзіць нейкую цэнзуру. Заўвагі мне мусіць рабіць выбарчая камісія, а не рэдактар. Тым больш, што гэты тэкст рэдактары ўжо бачылі: я агучваў яго падчас радыёвыступу, і заўвагаў да мяне не было. Таму я напісаў скаргі на дзеяньні Сьвятланы Шурпаковай у пракуратуру і ў ЦВК», – распавёў кандыдат.

З адказу, які Аляксей Гаўруцікаў атрымаў з ЦВК, вынікае, што кандыдат, вядома,

мае права на публікацыі матэрыялаў, толькі вось СМІ таксама мае права – адмовіць. «Мне адказалі, што паводле закону аб СМІ ніхто ня мае права змусіць выданьне надрукаваць адхіленыя матэрыялы. І што выбарчае заканадаўства рэгулюе толькі грашовыя ўзаемаадносіны паміж кандыдатам і СМІ. Дыкк што маё права на публікацыі цалкам перакрэсьленае правам выданьня нічога не друкаваць. І нават без тлумачэньня прычын,» – кажа Аляксей Гаўруцікаў.

**22.03.2014** У Воршы назіральнікаў абмяжоўваюць у магчымасьці сачыць за выбарчым працэсам. Пра такія факты паведаміў **Яўген Анішчанка**, **сябар аргкамітэту па стварэньні партыі БХД**, кандыдат у дэпутаты па Будаўнічай акрузе №3 і назіральнік на ўчастку №6 па Маладзёжнай выбарчай акрузе №8.

«Я зарэгістраваўся назіральнікам і хацеў прысутнічаць на падліку бюлетэняў, якія развозілі па ўчастках. Іх мусяць падлічыць і падпісаць сябры ўчастковай выбарчай камісіі. Але назіраць за працэсам не было магчымасьці: памяшканьне, дзе месьціцца ўчастак, было зачыненае. Ня ведаю, ці быў нехта ўнутры, ці бюлетэні падпісвалі ў іншым месцы. Такая самая карціна была на ўсіх участках у Воршы. Яны адчыніліся толькі ў 17 гадзін, і працавалі да 19, пакуль там быў дзяжурны сябар камісіі. Так што колькі бюлетэняў было атрымана, калькі іх налічылі, так і застаецца невядомым», – распавёў Яўген Анішчанка.

Зранку 18 сакавіка на ўчастку №6 ужо было зафіксавана 340 чалавек, якія нібыта выказалі жаданьне галасаваць дома, працягвае актывіст: «Мы дзяжурым на ўчастку папераменна зь Мікалаем Клешчанком, даверанай асобай кандыдата Віталя Тамашэвіча. Яму і паведамілі, што ў першую ж гадзіну галасаваньня запісаліся адразу 340 чалавек, якія хочуць, каб да іх прыехалі са скрыняй. Гэта – амаль трэцяя частка ад колькасьці ўсіх выбаршчыкаў на ўчастку, дужа шмат! Мікалай заявіў, што 23 сакавіка гатовы езьдзіць па хатах разам з прадстаўнкамі камісіі. Але яго адразу папярэдзілі, што месца ў машыне для яго няма. Дык што, калі хоча, няхай езьдзіць сьледам за сябрамі камісіі на сваім уласным транспарце».

**22.03.2014** Назіральнікі, якія адсочваюць, як праходзіць датэрміновае галасаваньне, адзначаюць шматлікія выпадкі парушэньня выбарчага заканадаўства на ўчастках у Віцебску. Так, большасьць назіральнікаў адзначае, што на час абедзеннага перапынку скрыні для галасаваньня пакідалі пад аховай міліцыі не апячатанымі.

Сьведкам парушэньня стаў і **праваабаронца Павал Левінаў**: «Падчас майго назіраньня на ўчастку №40 у Першамайскім раёне я заўважыў, як жанчына прыйшла галасаваць і пачала пра нешта цішком перамаўляцца зь сябрамі камісіі. Прыслухаўся: аказваецца, яна хацела прагаласаваць ня толькі за сябе. Але тут высьветлілася, што яна ў сьпісах суседняга ўчастку – №39. Жанчына пайшла туды, я за ёй… Пасьпеў якраз убачыць, як ёй выдавалі камплект бюлетэняў для двух асобаў. Усе адзнакі ў іх яна ставіла, нават не заходзячы ў кабіну, а заўважыўшы мяне, пачала хутка складаць паперкі. У выніку ледзьве змагла ўвапхнуць іх у вузкую шчыліну, і ў празрыстай скрыні добра відаць, што складзеныя бюлетэні – гэта не адзін камплект, які мусіць выдавацца асабіста выбаршчыку, а некалькі».

**Вадзіму Кузьміну**, які прысутнічаў у якасьці назіральніка на ўчастку №35, што ў Першамайскім раёне, выбарчая камісія адмовілася паведаміць зьвесткі пра колькасьць выбаршчыкаў, колькасьць бюлетэняў і колькасьць тых, хто хоча прагала-


Аляксандар Шчамлёў

саваць на даму.

Вадзім Кузьмін распавядае: «Я напісаў скаргу на імя старшыні ўчастковай камісіі, што ўтойваньне гэтых лічбаў разглядаю як стварэньне магчымасьцяў для парушэньня закону і фальсыфікацыі выбараў. Не магу ўстрымацца, каб не працытаваць адказ старшыні Ігара Керасёва. Ён напісаў літаральна наступнае: «Гэты фальшывы і гнюсна паганы опус я пакідаю без задавальненьня і разглядаю яго як спробу стварэньня перашкодаў для правядзеньня выбараў».

Гэты «адказ» старшыні ўчастковай камісіі Вадзім Кузьмін накіраваў на разгляд у пракуратуру і абласную выбарчую камісію. Давялося накіраваць туды адразу некалькі скаргаў. Адна зь іх – на сумнеўныя ўмовы захаваньня скрыні для бюлетэняў, працягвае актывіст:

«Участак №35 месьціцца ў доме 25\2 па вуліцы Чкалава, гэта спартова-культурны цэнтар «Адзінства» пры ЖЭУ №21. Уласна ўчастак знаходзіцца ў спартовай залі. Калі яго зачынялі на абедзенны перапынак, я спытаўся, як будзе захоўвацца скрыня. Мне сказалі, што тут і будзе, пад аховай міліцыянта. Я вырашыў дзяжурыць таксама, ужо пад дзьвярыма. І ўбачыў, што а 15:30 да дзьвярэй памяшканьня падыйшоў чалавек з «дыпляматам». Мне ён сказаў, што ён «мантэр», а потым пастукаўся, і міліцыянт яго пусьціў унутар! Калі праз некалькі хвілін зьявіліся старшыня і сябры камісіі, я пра гэта ім паведаміў. Старшыня камісіі зноў пачаў папракаць мяне ў грубай форме за «спробы сарваць выбары». Але як толькі ён зайшоў туды, невядомы чалавек з «дыпляматам» выскачыў з памяшканьня і кінуўся наўцёкі. У памяшканьні, дзе не мусілі знаходзіцца пабочныя асобы, ён прабыў амаль паўгадзіны. Але мне не далі праверыць, ці цэлыя пломбы на скрыні для галасаваньня. І ўвогуле пасьля гэтага інцыдэнту стаўленьне да мяне стала больш жорсткім. Мне нават забаранілі падымацца зь месца, каб нешта ўбачыць на ўчастку».

**28.03.2014** У Шумілінскім раёне ў акрузе, дзе перамогу на выбарах у Дабейкаўскі сельскі савет атрымаў **сябра партыі БНФ** і **актывіст руху «За свабоду» Аляксандар Шчамлёў**, перагледзелі вынікі галасаваньня. Цяпер дэпутатам сельсавету ад гэтай акругі названая намесьніца дырэктара Амбросавіцкай сярэдняй школы Ірына Мацялёнак.

28 сакавіка сябра руху «За свабоду» Аляксандар Шчамлёў убачыў новы пратакол выбарчай камісіі. Згодна з пададзенымі ў ім лічбамі, ён прайграў выбары — у яго на адзін голас меней, чым у ягонай суперніцы, завуча Амбросавіцкай сярэдняй школы. Паводле ж пратаколу, складзенага ўвечары 23 сакавіка, ён набраў на 14 галасоў болей і перамог. Аляксандар Шчамлёў кажа, што хацеў сфатаграфаваць той




першы пратакол, але камісія яму забараніла. Аднак лічбы ён запомніў.

Паводле ягоных слоў, тое, што ўбачыў у новым пратаколе, яго ўразіла. «Атрымалі бюлетэні — аказваецца, ужо не 47, а 49 выбарцаў. Зь іх за мяне прагаласавалі, высьветлілася, толькі 12 чалавек, за завуча — 13 чалавек. Ужо 5 чалавек, напісана, прагаласавалі супраць усіх. А несапраўднымі прызнана ажно 19 бюлетэняў!» — адзначыў Шчамлёў.

Паводле Аляксандра Шчамлёва, падлікі ў дзень выбараў былі дакладныя — дый як там можна было памыліцца, калі выбарцаў паўсотні. Але потым, казалі ў вёсцы, чальцоў камісіі выклікалі да раённага начальства, і ў выніку — праз 5 дзён пасьля выбараў — камісія склала іншы пратакол.

**01.04.2014 Каардынатар аргкамітэту па стварэньні партыі «Беларуская хрысьціянская дэмакратыя» ў Віцебскай вобласьці Тацьцяна Севярынец** атрымала адказ ад старшыні Цэнтральнай выбарчай камісіі Лідзіі Ярмошынай на тое, што назіральнікі на выбарчым участку №46 у Віцебску ня мелі магчымасьці аглядаць падлік галасоў.

Урывак з адказу ЦВК: «Нягледзячы на тое, што чальцы ўчастковых камісіяў бралі непасрэдны ўдзел у трэнінгах, ня ўсе яны, на жаль, належным чынам выконвалі рэкамэндацыі ЦВК. З улікам гэтага, пры правядзеньні наступных выбарчых кампаніяў асаблівая ўвага будзе скіраваная на неабходнасьць больш дакладнага выкананьня арганізатарамі выбарчага працэсу рэкамэндацыяў Цэнтральнай камісіі».

Тацьцяна Севярынец была вельмі зьдзіўлена такому адказу, які фактычна прызнаў парушэньні на яе выбарчым участку. Бо на падобныя шэсьць скаргаў яе калегі па назіраньні атрымалі адказы-адпіскі.

**01.04.2014** У выніковыя пратаколы выбарчых камісіяў часам ніхто нават не зазірае. Прыклад – інфармацыя пра вынікі галасаваньня на выбарах у мясцовыя саветы, якая разьмешчаная на сайце Гарадоцкага райвыканкаму Віцебскай вобласьці.

Тут знайшлася дзіўная, проста нейкая чароўная акруга – Студэнцкая выбарчая акруга № 3. Паводле афіцыйнай інфармацыі, тут у сьпісы выбаршчыкаў былі ўключаныя 699 чалавек, узялі ўдзел у галасаваньні 657 – 94% выбаршчыкаў. «За» кандыдата, нейкую Галіну Аляксандраўну Сімураву, дырэктара мясцовага цэнтру дзяцей і моладзі, прагаласавала 409 чалавек. «Супраць» – 241. Несапраўдных бюлетэняў – 77. Пытаньне: Хто і як ўкідваюць бюлетэні на гэтай акрузе, калі ўдзел у галасаваньні ўзялі 657 чалавек, права голасу мелі 699 чалавек, а бюлетэняў аказалася ажно 727?!

## Абмежаваньне эканамічных і сацыяльных свабод

**01.07.2013** Перад чарговай хатняй гульнёй у 1-й лізе чэмпіянату Беларусі, віцебскія футбалісты затрымалі гульню на 15 хвілін. І зьбіраліся выйсьці на поле ў саколках з надпісам «Мы гуляем бясплатна». Такое рашэньне гульцоў зьвязанае зь нізкімі заробкамі (1,5-3 мільёны) і несвоечасовай выплатай грошай.

Пасьля пяці хвілін затрымкі гульні ў распранальню да футбалістаў накіраваліся прадстаўнікі праваахоўных ворганаў. Гульцам паставілі ўмову: або яны выходзяць на матч у сваёй звычайнай форме, або іх наогул ня выпусьцяць на поле. Каманда пагадзілася зь першым варыянтам. А галоўнага трэнэра ФК «Віцебск» Юрыя Канаплёва запрасілі 1ліпеня наведаць гарвыканкам – для вырашэньня існуючых у клюбе фінансавых праблем.

**02.07.2013** Страйк прадпрымальнікаў, што гандлююць таварамі, на якія неабходная сэртыфікацыя, праходзіць у Віцебску. На Смаленскім рынку зачынена каля 80% ралетных шапікаў, прыкладна столькі ж – на Паўднёвым, больш за палову – на Полацкім. Патрабаваньне – адмяніць сэртыфікацыю тавараў, якая прынясе прадпрымальнікам велізарныя страты і прымусіць многіх сысьці з дробнага бізнэсу.

Спроба ўраду зьмякчыць сытуацыю, адклаўшы тэрмін увядзеньня сэртыфікацыі да лістапада, прадпрымальнікаў не задавальняе. Па-першае, яны так і не дачакаліся гэтага дакумэнту; па-другое, гэта азначае, што бізнэс памрэ, але толькі не цяпер, а праз некалькі месяцаў.

Прадпрымальнікі Полацкага рынку збольшага ліпеньскі падатак заплацілі, але кажуць, што працягнуць страйк. На Смаленскім рынку многія ня сталі плаціць падатак на ліпень. Зараз там праходзіць сход, на якім выпрацоўваецца плян агульных дзеяньняў.

**06.07.2013** ААТ «КІМ» – адно з найбуйнейшых прадпрыемстваў трыкатажнай галіны Беларусі. Але пра тое, што ў завода сёньня назапасіліся вялікія даўгі, у тым ліку і перад сваімі супрацоўнікамі, там стараюцца не казаць: «На віцебскім ААТ «КІМ», некалі флягмане лёгкай прамысловасьці, ня выплачаная заработная плата яшчэ за красавік», – паведаміў на гарачую лінію аднаго з інфармацыйных рэсурсаў працаўнік прадпрыемства Ігар.

Сваім супрацоўнікам кіраўніцтва заводу тлумачыць сытуацыю складаным фінансавым становішчам: склады загружаныя, прадукцыя дрэнна ідзе на збыт. Такім чынам, агульныя эканамічныя цяжкасьці прадпрыемствы сталі прыватнай праблемай кожнага з тысячы работнікаў «КІМа». Так, паводле кантракту Ігару належыць каля 4 мільёнаў у месяц. Але ўжо 2 месяцы ён атрымлівае крыху больш за мільён – гэта бюджэт пражытачнага мінімуму. Атрымліваецца, што толькі яму прадпрыемства сёньня яшчэ павінна прыкладна 6 мільёнаў рублёў.

«Каб дамагчыся сваіх грошай, людзі, якія працуюць непасрэдна на вытворчасьці, нават пачалі страйкаваць: на зьмену прыходзілі, але нічога не рабілі. Пасьля гэтага рабочым пацяху пачалі выплачваць зарплаты, – распавядае Ігар. – А іншым спэцыялістам даводзіцца сядзець без капейкі ў кішэні…»


Аляксей Халецкі

Праблема ААТ «КІМ» ўжо выйшла за межы заводу. Вырашыць пытаньне з абавязкамі па зарплаце кіраўніцтву прадпрыемства сёньня дапамагае і канцэрн лёгкай прамысловасьці, і гарадзкія ўлады Віцебску. «У ААТ «КІМ» складанасьці з рэалізацыяй прадукцыі: зараз не сэзон. Каб прадпрыемства разьлічыліся са сваімі супрацоўнікамі, мы дапамаглі яму атрымаць крэдыт, – кажа намесьніца кіраўніка адміністрацыі Першамайскага раёну Віцебску Таісія Баглай. – 28 чэрвеня павінны былі быць выплачаныя усе даўгі па зарплаце».

Гэтую інфармацыю пацьвярджае і кіраўніцтва трыкатажнага прадпрыемства: «Мы ўжо цалкам разьлічыліся з усімі сваімі супрацоўнікамі за красавік і за травень, – запэўнівае намесьніца дырэктара ААТ «КІМ» па ідэалягічных пытаньнях Людміла Мірош. – Зараз бухгальтэрыя налічвае рэшткі. Гэта ўжо чыста тэхнічны працэс, на які яшчэ патрэбен час». Праўда, гэтыя «рэшткі» да працаўніка ААТ «КІМ» Ігара дагэтуль не дайшлі.

**23.08.2013** Былы абаронца футбольнага клюбу «Віцебск» **Аляксей Халецкі** распавёў пра падман чыноўнікаў наконт спартыўнай Віцебскай вобласьці: «Непрыемна зьдзівіла, што ашукалі ўвесь калектыў наконт грошай. І была абыякавасьць да каманды з боку мясцовых уладаў. Гэткай чынавенскай абыякавасьці да футбола я не сустракаў у ніводнай камандзе, дзе гуляў. Корань праблем віцебскага спорту ў тым, што працаўнікі аблвыканкаму і гарвыканкама абыякавыя да гульнявых відаў».

«Каманды па ўсіх гульнявых відах спорту Віцебскай вобласьці або вядуць бездапаможнае існаваньне, або займаюць аўтсайдарскія пазыцыі. Але ж менавіта футбол і хакей зьяўляюцца найпапулярнейшымі відамі спорту. Лепш бы віцебскія чыноўнікі замест гэтакай хвальбы знайшлі магчымасьць дапамагчы камандам па гульнявых відах спорту, якія прадстаўляюць горад у чэмпіянатах Беларусі», – упэўнены спартовец.

Нарэшце Аляксей Халецкі зразумеў, што пэрспэктывы заставацца ў «Віцебску» няма: «За тры туры да канца першага кола ў каманды была сустрэча з прадстаўніком органаў мясцовай улады. Ён нам адкрыта сказаў: «Так, прэміяльных ня будзе, ды вас ашукалі з кантрактамі». Пасьля чаго я і некаторыя іншыя футбалісты ўжо ня бачылі сэнсу заставацца ў клюбе».

**26.08.2013** У сапраўдную эпапею ператварыўся ўдзел віцебскага фэрмэра ў рэспубліканскай праграме па будаўніцтве сховішчаў для гародніны. Новае сучаснае сховішча павінна было запрацаваць у сялянска-фэрмэрскай гаспадарцы «Вармас»



Віктар Багачоў

да восені. Для гэтага фэрмэр **Віктар Багачоў** і ўступаў у рэспубліканскую праграму – тры месяцы зьбіраў дакумэнты і зьвяртаўся ў аблвыканкам. Але гатоўнасьць абяцанага сховішча для гародніны толькі 90%.

Будоўлю распачалі ўвесну мінулага году. Ужо патрацілі 11 мільярдаў бюджэтных грошай. Ня лічачы ўласных ашчаджаньняў фэрмэра – паўтара мільярда рублёў. Ужо пабудаваны будынак, закупленае абсталяваньне. Толькі вось сродкаў, каб яго ўсталяваць, фэрмэр так і не дачакаўся.

Паводле слоў намесьніка начальніка аддзелу міністэрства сельскай гаспадаркі Тацьцяны Гумянюк, «КФХ» Вармас «было ўключанае ў пералік фінансаваньня будаўніцтва гароднінасховішчаў за кошт сродкаў бюджэту, яму выдаткаваная сума ў 3,4 мільярда, якую ён сёньня пасьпяхова асвоіў, акрамя таго, за кошт абласнога бюджэту яму былі дадзеныя дадаткова яшчэ тры мільярды, якія ён не патраціў».

Патраціць грошы Багачоў быў бы і рады, толькі, кажа, ён іх ня бачыў. Знайсьці іх у габінэтах абласных чыноўнікаў аказалася сапраўды складана. Камэнтар удалося атрымаць пасьля трох дзён перамоваў. І тое – толькі па тэлефоне.

Увогуле, замест абяцаных бюджэтных выплат мясцовыя чыноўнікі прапануюць фэрмэру зьвярнуцца ў банк. Але пазыка нават пад такую патрэбную справу пры цяперашніх працэнтных стаўках можа зьвесьці на нішто ўсю яго фэрмэравую эканоміку.

**11.09.2013** У сувязі зь вялікай затрымкай выплаты заробкаў на ААТ «КІМ» 10-11 верасьня на прадпрыемстве адбыліся хваляваньні работнікаў. Яшчэ ня выплачаная заработная плата за ліпень, а некаторым катэгорыям работнікаў – за чэрвень. 10 верасьня адмовілася працаваць другая зьмена аднаго з цэхаў, а 11 верасьня – першая.

10 верасьня з працаўнікамі цэху, што стаў, сустрэўся дырэктар прадпрыемства Віктар Аксёнаў, які спрабаваў пераканаць жанчын, якія адмовіліся працаваць, апелюючы да цяжкага становішча акцыянэрнага таварыства. На прадстаўленым крыніцай аўдыёзапісу чуваць, як мужчынскі голас паведамляе шумным працаўніцам, што зарплата не выплачвалася з прычыны заблякаваных рахункаў прадпрыемства ў сувязі з запазычанасьцю перад фондам сацыяльнай абароны. З-за павелічэньня пэнсіяў, тлумачыць ён, цяпер прыярытэт выплат у пэнсійны фонд вышэйшы за выплату заробкаў.

У той самы час мужчына, які прамаўляў, зьвяртае ўвагу, што прастой фабрыкі выгадны яе канкурэнтам і нядобразычліўцам. А частыя скаргі наносяць шкоду

прадпрыемству – у прыватнасьці, з-за гэтага «КІМ» не наведаў кіраўнік дзяржавы. На аўдыё таксама гучаць пэўныя лічбы – запазычанасьць прадпрыемства перад бюджэтам у памеры 80 мільярдаў рублёў і 40 мільярдаў рублёў чаканай акцыянэрным прадпрыемствам дапамогі.

Крытыцы падвяргаецца візыт на ААТ «КІМ» прэм'ер-міністра, цытуем: «Губэрнатар хацеў далажыць прэзыдэнту, што «КІМ» патрэбная тэрміновая дапамога… фінансавая. Прыехаў Мясьніковіч са сьвітай. Прыехалі, пахадзілі, паглядзелі і далі сваё рэзюмэ – няма чаго сюды прыяжджаць было, сытуацыя зразумелая, нам тут няма чаго рабіць».

**16.09.2013** Дольшчыкі будаванага ў Віцебску на Маскоўскім праспэкце дому № 105 сабралі каля 30 подпісаў пад заявай у Камітэт дзяржкантролю, каб высьветліць, зь якой прычыны пастаянна пераносяцца тэрміны здачы іхнага жытла. Гэты дом у мікрараёне «Білева-2» пачаў будавацца ТАА «Будгандальсэрвіс» яшчэ ў 2010 годзе, і згодна з плянам будаўніцтва мусіла завяршыцца ў 2012 годзе. Аднак дагэтуль дольшчыкі так і не засяліліся ў свае кватэры.

Значную частку будучых жыхароў тут складаюць шматдзетныя сем'і. У чаканьні новага жытла яны вымушаныя туліцца ў маленькіх памяшканьнях, некаторыя жывуць на здымных кватэрах. Частка бацькоў, паверыўшы запэўненьням забудоўшчыка, што дом усё ж здадуць у ліпені 2013 году, перавялі сваіх дзетак у найбліжэйшыя да новага жытла садкі і школы, цяпер ім даводзіцца дабірацца да іх з ранейшых месцаў жыхарства.

**25.09.2013** На ААТ «КІМ» працягваюцца хваляваньні. 25 верасьня страйкавалі работніцы швейнага цэху гэтага прадпрыемства. У швейным цэху зьмена «А» спыніла працу на тры гадзіны, а зьмена «Б» прастаяла ўвесь працоўны час. Людзей абурыла тое, што пры запазычанасьці па заробку за два месяцы ім верасьня 24 выдалі па 250 000 рублёў.

Паводле слоў адной з работніц генэральны дырэктар акцыянэрнага таварыства на момант страйку знаходзіўся ў Расеі. Са страйкоўцамі сустракаліся галоўны інжынэр і юрыст прадпрыемства. Юрыст пры гэтым спрабаваў пераканаць швачак, што яны парушаюць працоўны кодэкс Беларусі.

**01.10.2013** Адміністрацыя ААТ «Полацак-Шкловалакно» сьцьвярджае, што праблеме гарачага харчаваньня на прадпрыемстве надаецца самая сур'ёзная ўвага. Маўляў, сталоўкі, кулінарыя, малочны пункт забясьпечваюць завадчан якаснай ежай, выпечкай, прадуктамі, у цэхах абсталююцца пакоі прыёму ежы, куды набываюцца неабходныя электрапрыборы. Аднак у цэху № 7 пакою прыёму ежы дагэтуль няма, хаця інтэнсыўнасьць працы работнікаў цэху вельмі высокая, і не заўсёды ёсьць час схадзіць у сталоўку.

Рабочыя цэху ядуць прынесеную з сабой ежу проста на працоўных месцах. Апэратары вытворчасьці «Шкловалакна» за свае грошы «ў складчыну» купляюць сабе электрычныя імбрыкі і гатуюць на працоўным месцы гарачыя напоі, каб спатоліць голад.

Адміністрацыя прадпрыемства праз сваю газэту, рэклямуючы прадзяржаўны прафсаюз, распавяла як работнікам складу прафсаюз за прафсаюзныя ж ўзносы



Алена Абрамава

(за грошы саміх рабочых) купіў электраімбрык для брыгады. Але, як лічаць сябры незалежнага прафсаюзу, пяршоўка якога таксама дзейнічае на прадпрыемстве, калі б гэта быў сапраўдны прафсаюз рабочых, то такі прафсаюз прымусіў бы адміністрацыю абсталяваць у цэху паўнавартасны пакой прыёму ежы зь імбрыкам, кававаркай, лядоўняй і мікрахвалёўкай.

**22.11.2013** У Віцебску выбухнуў чарговы зямельны скандал. Сямнаццаць жыхароў гістарычнага цэнтру зьвярнуліся ў незалежныя СМІ па дапамогу і падтрымку, змагаючыся з захопам іх зямельных участкаў і нерухомай уласнасьці прыватным камэрцыйным забудоўшчыкам. Дзеля будаўніцтва ў Віцебску чарговага элітнага гмаху побач са Смаленскім рынкам у людзей зьбіраюцца адабраць зямельныя ўчасткі, а іх хаты маюць намер зьнесьці. Жыхары ў паніцы – яны ня ведаюць, у якім раёне гораду і якой якасьці ім будзе дадзенае жытло.

Сярод іншага, пад знос зьбіраюцца пусьціць дзьве хаты, разьмешчаныя паблізу кінатэатру «Мір»: № 35 па вуліцы Суворава і № 66-а па вуліцы Леніна. Першая падзеленая на дзьве паловы: гаспадыняй адной паловы зьяўляецца самотная інвалідка **Лілія Патаева**, у іншай пражывае сям'я **Любові Копавай**: сама жанчына, ейная дачка зь зяцем, сын і ўнучка. У другой хаце прапісаныя пэнсіянэры **Васіль** і **Ніна Тулубенскія**, а таксама іх сын Павал і ўнучка Вольга. Гэтыя людзі безабаронныя перад напорыстымі дзеяньнямі і камэрцыйнымі плянамі бізнэсоўцаў.

Ініцыятарам зносу прыватных хат зьяўляецца віцебская фірма – ТДА «Навукова-вытворчае прадпрыемства "Мера"», якая будуе шматпавярховік і гандлёва-адміністрацыйны будынак у квартале вул. Леніна, вул. Чэхава і вул. Грыбаедава, вул. Суворава. У плянах забудоўшчыка таксама добраўпарадкаваць прылеглую тэрыторыю: побач з аб'ектамі, што ўзводзяцца, павінны зьявіцца праезды і пешаходныя дарожкі. Аднак рэалізацыі гэтых плянаў перашкаджаюць ўчасткі, хаты і пабудовы прыватнікаў.

Нядаўна «Праектны інстытут Віцебскгіпразем» накіраваў усім жыхарам, якіх зьбіраюцца пазбавіць уласнасьці, прапанову – «на падставе даручэньня Віцебскага гарвыканкаму» яны павінны даць сваю згоду на адабраньне ў іх зямельных участкаў.

**03.12.2013** Пасьля пераезду ў Віцебск зь Лёзьненскага раёну малады спэцыяліст **Алена Абрамава** прапісалася ў інтэрнаце ААТ «Чырвоны Кастрычнік» на пр. Люднікава, 11 ( вядомым як «шайба»), дзе і па гэты дзень займае ложка-месца. Але калі нарадзілася дзіця, паўстала пытаньне пра высяленьне, бо з малым у гэтым інтэрнаце нельга, а ва ўласнасьці ў маці-адзіночкі ніякага жытла няма. З такой праблемай сутыкаюцца многія іншагароднія маладыя людзі і асабліва сям'і,

якія ня маюць магчымасьці здымаць кватэру.

Калі працаўніца, якая пайшла ў дэкрэтны адпачынак, зьвярнулася на прадпрыемства «Марка» з просьбай дапамагчы ў пошуках жытла. На прадпрыемстве сказалі, што гатовыя напісаць хадайніцтва ў любую арганізацыю, якая мае на сваім балянсе інтэрнат (свайго ў СТАА «Марка» няма). Але для гэтага дзяўчыне самой трэба даведацца, дзе ёсьць месцы і куды дасылаць такі запыт. Дамоваў, якія б давалі магчымасьць папросту ўстаць на чаргу на інтэрнат, «Марка» таксама ні зь якім прадпрыемствам не заключала. Так распачаліся пакуты, і гэта з аднагадовым хлопчыкам на руках, якога пакінуць няма на каго.

Алена Абрамава: «Была летам на прыёме ў намесьніка старшыні гарвыканкаму Дзьмітрыя Шэрыкава, абяцаў дапамагчы. Але ва ўпраўленьні жыльлёвай палітыкі на той момант не абнадзеілі: сказалі, што ў інтэрнатах, якія знаходзяцца ў гарадзкой камунальнай уласнасьці, месцаў няма. І таксама адправілі на самастойныя пошукі, – распавяла Алена Абрамава. – Дык што калі маю час, хаджу па ўсіх магчымых адрасох і запытваюся. Але здаецца, што ў нас у горадзе больш інтэрнатаў для студэнтаў і навучэнцаў, а не для працуючых. А ўжо для маці або сям'і зь дзіцем наогул знайсьці жытло нерэальна. Усе месцы занятыя, і нават ёсьць чэргі са сваіх працаўнікоў…»

**12.12.2013** Рабочым вагоннага ўчастку Беларускай чыгункі у Віцебску затрымліваюць выплату заробкаў. «Я працую на Віцебскім вагонным участку ўжо пяць гадоў. За гэты час шмат што здаралася, але затрымкі па выплатах заработнай платы і авансу не было. На пачатку 2013 году нам пачалі штомесяц затрымліваць выплаты авансаў на пару дзён, а бліжэй да канца году пачалі затрымліваць і саму заработную плату, прычым сыстэматычна тлумачачы затрымкі тым, што набралі шмат крэдытаў і купілі новыя вагоны», – паведаміў супрацоўнік прадпрыемства. Ён распавёў пра скарачэньне заробкаў і ўвядзеньне чатырохдзённага працоўнага тыдня.

Ён падкрэсьліў, што яго калега трапіў пад рэпрэсіі з боку начальства пасьля таго, як напісаў скаргу на затрымку ў Менскае аддзяленьне. «Затрымкі заробкаў пасьля скаргі не спыніліся. Мала таго, людзей запалохалі тым, што яны ня змогуць нармальна працаваць, калі будуць скардзіцца. Начальнік Віцебскага вагоннага ўчастку на сходах сказаў, што росту заработнай платы ня будзе, і каб работнікі рабілі сабе заначкі», – абураецца рабочы.

**04.01.2014** Ад пачатку 2014 году не працуе рынак у Гарадку. Прыватныя прадпрымальнікі засталіся бяз працы. Гарадоцкі райспажыўсаюз не заключае дамоваў на працу на рынку па вул. Спартыўнай, а Гарадоцкая падатковая інспэкцыя не бярэ ад прыватнікаў адзінага падатку.

3 студзеня прадстаўнікі прадпрымальнікаў наведалі старшыню Гарадоцкага райспажыўсаюзу **Натальлю Палюховіч**, але яна ніякім чынам ня вырашыла пытаньне з працай рынку ў Гарадку. Праўда, паабяцала заключыць дамовы на гандлёвыя месцы на рынку па вул. Спартыўнай. Пры гэтым кіраўніца казала пра часовы рынак і тое, што там ўсё ёсьць. Быццам бы ў заканадаўстве ёсьць такое паняцьце як часовы рынак і на рынак райспажыўсаюзу не распаўсюджваецца беларускае заканадаўства.

Але 4 студзеня прадпрымальнікі ніякіх дамоваў на працу на рынку не атрымалі. Кіраўніцтву Гарадоцкага райспажыўсаюзу не хапіла больш як пяці месяцаў, каб падрыхтаваць рынак у адпаведнасьці зь беларускім заканадаўствам для працы прадпрымальнікаў.

Цяпер усе ралеты прадпрымальнікаў зачыненыя. І няма ніякага адказу на пытаньні: калі і дзе будуць працаваць гандляры. Пры гэтым па ўсім бачна, што ніякай адказнасьці Гарадоцкі райспажыўсаюз не нясе за пазбаўленьне працы каля сотні прадпрымальнікаў, а іх сем’яў сродкаў існаваньня. Дарэчы, як і кіраўніцтва Гарадоцкага райвыканкаму, якое не рабіла ніякіх захадаў, каб райспажыўсаюз добраўпарадкаваў рынак па вул. Спартыўнай у адпаведнасьці зь дзеючым заканадаўствам. Ды і ўводзіла ў зман кіраўніцтва Віцебскага аблвыканкаму аб гатоўнасьці рынку па вул. Спартыўнай.

**18.01.2014** Прадпрымальнікі, якія працуюць на рынках у Воршы, абураюцца высокай арэнднай платай і падаткамі. Кожны месяц ім трэба заплаціць ня менш за 10 мільёнаў рублёў. Пра гэта паведаміў адзін з прадпрымальнікаў: «Хачу распавесьці пра тое, як у Воршы з усіх бакоў душаць прадпрымальнікаў. Мой знаёмы гандлюе на рынку ўжо шмат гадоў, і я быў шакаваны тым , якія ў іх арэнды на памяшканьня і якія яны плацяць падаткі. У горадзе ёсьць два гандлёвыя цэнтры, арэнда памяшканьняў ад 28 да 35 эўра за квадратны мэтар. Такая арэнда, напэўна, толькі ў самых крутых гандлёвых цэнтрах Менску. У месяц у яго выходзіць каля 7 мільёнаў за арэнду плюс падатак на зямлю каля 2,2 мільёнаў, падатак дзяржаве, «сацыялка» і дробныя выдаткі накшталт абслугоўваньня касавага апарату», – паведаміў ён.

«Як пражыць? Гэта колькі трэба прадаць, каб заплаціць за ўсё гэта і каб яшчэ ты мог нешта зарабіць, а ня толькі працаваць на арэнду з падаткам? Чаму прыватнікам, якія пабудавалі гэтыя гандлёвыя цэнтры, улады дазваляюць драць зь людзей гэткія грошы за арэнды і чаму няма нейкіх стандартаў па аплаце за арэнду ў прыватных гандлёвых цэнтрах? Прадпрымальнікі ўсё маўчаць, бо баяцца, што іх папросту выганяць стуль, і людзям, што прапрацавалі паўжыцьця на рынку, будзе няма куды пайсьці працаваць. У горадзе зарплата ў сярэднім 2,5 мільёна, а прадпрыемствы стаяць», – сказаў на заканчэньне ён.

**10.02.2014** Рабочы сёмага цэху ААТ «Полацак-Шкловалакно» памёр на тэрыторыі прадпрыемства. Да пэнсіі работніку заставалася дапрацаваць адзін месяц. Паводле калектыўнай дамовы, у выпадку сьмерці работніка адміністрацыя выплачвае фінансавую дапамогу на пахаваньне ў памеры 20-ці базавых велічынь (цяпер гэта менш за 3 мільёны беларускіх рублёў) і забясьпечвае транспарт.

Рабочы Ўладзімер быў працаўніком 4 зьмены, але 10 лютага працаваў у дзённай зьмене. У гэты дзень яму далі працоўнае заданьне. Пасьля цяжкай працы ён адчуў сябе кепска, увесь пакрыўся потам. Сказаў: пайду да начальніка зьмены. У габінэт да начальніка зьмены былі выкліканыя дзяжурныя мэдычныя работнікі з заводзкай паліклінікі. Працоўнаму памералі ціск, зрабілі кардыяграму сэрца і прапанавалі пайсьці на бальнічны. Але ісьці на бальнічны працаўнік не захацеў, і начальнік адпусьціў яго дадому.

Уладзімер пайшоў у распранальню пераапранацца. У гэты час у распранальні практычна нікога няма. Там у распранальні яго, лежачы на падлозе, і ўбачыў ра-

ботнік, які выпадкова праходзіў міма. Мэдыкі, якія прыбылі, канстатавалі сьмерць.

**18.02.2014** Апошнім часам у Віцебску стала традыцыяй здаваць новабудоўлі з зацягнутымі тэрмінамі і незадаволенымі навасёламі. Вось і дольшчыкі дому № 16 па вуліцы Чкалава дачакаліся завяршэньня будаўніцтва свайго жытла, але былі непрыемна зьдзіўленыя цаной квадратнага мэтру, якая вырасла на 20%.

Гэты 40-кватэрны дом ў жніўні 2012 году пачало будаваць рамонтна-будаўнічае ўпраўленьне ААТ «Віцязь». Кошт квадратнага мэтру на той момант складаў 6 510 000 рублёў. Шматпавярховік павінны былі пабудаваць за год, аднак у жніўні 2013 году жыхарам, замест засяленьня ў новыя кватэры прыйшлося падпісаць дадатковае пагадненьне пра працяг будаўніцтва да канца году. Зрэшты, пра зьмену цаны тады размова не вялася.

Паводле слоў дольшчыкаў, са сьнежня 2012 году па красавік 2013 году работ на іх доме практычна не вялося. Здаецца, РСУ тэлезавода ніяк не магла даць рады з гэтым аб’ектам. Бо было вымушанае ўзяць субпадрадчыка ТАА «ПліссаСтрой», які і распачаў актыўную будоўлю.

Такім чынам, у жніўні, калі ўзводзіліся яшчэ толькі першыя паверхі будынку, будучыя навасельцы пагадзіся пачакаць, але ў лістападзе высьветлілася, што трэба будзе даплаціць, прычым кругленькую суму. Паводле новых дадатковых пагадненьняў, якія дольшчыкі вымушаныя былі падпісаць 8 лістапада, кошт квадратнага мэтру ўзрос да 7 847 000 рублёў.

Паводле слоў дольшчыкаў, ужо пасьля падпісаньня дакумэнтаў ім стала вядома, што згодна з разьлікамі, зробленымі УКП «Цэнтар па цэнаўтварэньні ў будаўніцтве Віцебскай вобласьці» кошт квадратнага мэтру на іх жытло па стане на сьнежань 2013 году мог вырасьці максымум да 6 839 000 рублёў. Такім чынам, паводле разьлікаў цэнтру цана павялічылася толькі на 5%, у той час як паводле разьлікаў падрадчыка – адразу на 20%.

Варта адзначыць, што за пэрыяд будаўніцтва гэтага дому глябальных катаклізмаў, падобных да падзеньня рубля ў 2011 годзе, у беларускай эканоміцы не назіралася. Рост курсу даляра са жніўня 2012 году па люты 2014 году склаў 16%, на канец 2013 году – 11%, а на жнівень 2013 году, калі павінна было скончыцца будаўніцтва, – толькі 8%.

Натуральна, дольшчыкі прыйшлі ў зьдзіўленьне ад такога росту кошту іх жытла і зьвярнуліся па тлумачэньні ў РСУ ААТ «Віцязь», аднак не атрымалі якога-небудзь разумнага абгрунтаваньня новай цаны. Не ўвянчалася посьпехам і спроба дамагчыся праўды ад уладаў. Ані кантралюючыя органы, ані ўладныя структуры не праявілі ніякай зацікаўленасьці да праблемы, бо іхнае жытло будуецца безь дзяржаўнай падтрымкі. Больш таго, часам «праца» чыноўнікаў выглядае амаль як зьдзек: абураныя дольшчыкі атрымалі ледзь ці не да літары супадаючыя адказы на свае звароты ад «Віцязя», камітэту па архітэктуры і будаўніцтве, гарвыканкаму і аблвыканкаму.

**01.03.2014** Усе праблемы долевага будаўніцтва не абышлі бокам будаўніцтва 40-кватэрнага 10-павярховага дому № 610 па вуліцы Івана Дойліда у Полацку, якое

распачалося ў верасьні 2012 году мясцовым УКБ. Дом абяцалі пабудаваць да 15 сакавіка 2013 году. Але пры канцы лютага дольшчыкаў паставілі перад фактам, што тэрміны будаўніцтва шматпавярховіку падаўжаюцца. У траўні будучыя жыхары даведваюцца, што ў доме будзе 9 сацыяльных кватэр, а пасьля здачы ў іх, як паведамляе УКБ у лістах, «утварылася запазычанасьць».

«Нам паведамілі дзьве навіны: у доме 9 сацыяльных кватэр, і дольшчыкам, магчыма, неабходна будзе даплаціць каля 18% ад кошту кватэр. Кватэры нам не перадаюць, і пра тое, якім чынам фінансуюцца сацыяльныя кватэры, ніякая інфармацыя дольшчыкам не даецца. У кастрычніку нам прапанавалі пад пагрозай скасаваньня дамоваў унесьці даплаты 45-80 млн. рублёў у 7-дзённы тэрмін. Разьлікаў і тлумачэньняў ня дадзена. Прычына падаражэньня дому, як пазначана ў лісьце УКБ – падаражэньне будматэрыялаў» , – распавяла дольшчыца.

Высьветлілася, што, згодна з указам прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь № 396, які дэталёва рэглямэнтуе адносіны паміж дольшчыкам і забудоўшчыкам, такая прычына падаражэньня дому не зьяўляецца паважнай. Аднак нават у судзе УКБ адстойвае аплату квадратных мэтраў па актах выкананых работ.

Але яшчэ да суду людзям давялося прайсьці вялікую колькасьць інстанцыяў, дзе так і не змаглі вырашыць хвалюючае дольшчыкаў пытаньне: чаму ад іх патрабуюць даплаты, ды яшчэ і праз 3 месяцы пасьля здачы дому? Кошт дамовы з дольшчыкам першапачаткова законна завышаецца (прымяняецца прагнозны індэкс), таму ўлічвае ўсе эканамічныя рызыкі забудоўшчыка і зьяўляецца цаной не на пачатак будаўніцтва, а на канец.

У дамове з дольшчыкам УКБ апускае паняцьце «нарматыўнага тэрміну будаўніцтва» і спрабуе тлумачыць закон па-свойму: абвінавачвае дольшчыкаў у зрыве тэрмінаў здачы дому і патрабуе ад іх кампэнсацыю за падаражэньне будаўніцтва ў звышнарматыўны тэрмін. У той самы час дольшчыкі запэўніваюць, што ўсе выплаты зрабілі своечасова. Таксама УКБ уключыў у дамову вызначэньне фактычнага кошту, маючы на ўвазе, што менавіта па такой цане будуць расплачвацца дольшчыкі.

«З намі не заключаліся дадатковыя пагадненьні аб павелічэньні кошту, значыць, як можа фактычны кошт быць на 18% вышэй за дамоўны? Ён больш за дамоўны быць ня можа. Інакш карціна такая, што УКБ у аднабаковым парадку прыняў рашэньне пра павелічэньне кошту будаўніцтва», – распавядае дольшчыца.

Высьветлілася: забудоўшчык сьцьвярджае, што нечакана для сябе падрадчык перавысіў каштарысны кошт будаўніцтва амаль на 2 млрд. рублёў. «Як такое можа быць? Паводле закону найменшае перавышэньне каштарыснага кошту – гэта надзвычайнае здарэньне, і ў абавязковым парадку павінна быць праведзеная экспэртыза. Ніякай экспэртызы не рабілася. Гэта тым больш загадкава, улічваючы, што чвэрць кватэр дому – сацыяльнае жытло, якое фінансуецца дзяржавай», – працягвае дольшчыца.

Будучыя жыхары дому пачалі задавацца пытаньнем: чаго ж хоча забудоўшчык? На іх думку, варыянты могуць быць розныя, пачынаючы ад аплаты за кошт людзей сацыяльных кватэр і заканчваючы прысабечваньнем забудоўшчыкам даплат


Мікалай Мартынаў

у якасьці дадатковага даходу.

У выніку 16 сем’яў пайшлі ў суд Полацку. Было ўжо некалькі слуханьняў. Прызначаная судовая экспэртыза па справе. Тлумачэньняў, на якой падставе УКБ патрабуе даплат, дольшчыкі так і не пачулі.

**09.03.2014** Апошнімі гадамі дзяржава актыўна стварае ў беларускай прамысловасьці галдынгі. Гэты працэс ідзе паводле схемы: да пасьпяховага прадпрыемства прывязваліся стратныя, каб яны разам маглі ўтрымацца на плаву. Не абыйшоў гэты працэс і кампанію «Марко».

У кастрычніку 2013 году прэзыдэнт падпісаў указ па стварэньні голдынгу «Беларуская гарбарна-абутковая кампанія "Марко"». У склад голдынгу ўвайшлі даччыная кампанія «Сан Марко» і ААТ «Чырвоны Кастрычнік». У прыдачу да іх дзяржава накінула і Віцебскі футравы камбінат.

«Чырвоны Кастрычнік» перайшоў у валоданьне **Мікалая Мартынава**, гендырэктара «Марко», яшчэ раней – у 2008 годзе. На Асамблеі дзелавых колаў бізнэсмэн распавёў, што стратнае прадпрыемства за 4 гады ўдалося выцягнуць: яно стала працаваць рэнтабэльна, вытворчасьць вырасла з 16 тысяч пар абутку за год да 1,3 мільёну. Аднак з футравым камбінатам паўтарыць фокус не атрымліваецца. Пра жаданьне набыць прадпрыемства дзяржава, відаць, нікога асабліва не пытала. Паводле слоў Мартынава, яго продаж і далучэньне да голдынгу былі прапісаныя ва ўказе прэзыдэнта, які быў прыняты «за два дні».

Адначасова з купляй стратнага дзяржпрадпрыемства на «Марко» ляглі маштабныя забавязаньні па інвэстпраекце. Па-першае, кампанія абавязаная за тры гады завяршыць рэканструкцыю і мадэрнізацыю футравай вытворчасьці і выйсьці на зададзеныя магутнасьці. На прадпрыемствах голдынгу да 2019 году павінна вырабляцца абутку ня менш за 5 млн пар у год.

Рэнтабэльнасьць продажаў пры гэтым павінна атрымацца ня менш за 12%, выручка ад рэалізацыі прадукцыі на аднаго працаўніка – 40 тысяч даляраў. Заплянавана стварыць 926 новых працоўных месцаў, напалову зьнізіць імпартны складнік пры вытворчасьці абутку і павялічыць аб’ём экспарту. Для ажыцьцяўленьня гэтых плянаў ва ўказе прапісваліся некаторыя меры дзяржпадтрымкі. Аднак пасьля першага аналізу стану далучанага прадпрыемства экспэртам кампаніі стала зразумела, што за тры гады яго праблемы не расхлябаць. «Мы закупілі для прадпрыемства сыравіну і страцілі 9 мільярдаў рублёў», – сказаў Мікалай Мартынаў. З атрыманьнем дзяржпадтрымкі таксама зьявіліся праблемы. «Здавалася б, у заканадаўстве ўсё прадугледжана для дзяржаўна-прыватнага партнэрства, а насамрэч нічога не выконваецца», – паскардзіўся бізнэсмэн.

Ён зьвярнуў увагу на яшчэ адну праблему супрацоўніцтва зь дзяржавай: яно забірае вялікую частку прыбытку ў выглядзе фундатарскай дапамогі: «Сёньня дзікае жаданьне атрыманьня фундатарскай дапамогі – гэта мяжа ўсяму, – паскардзіўся ўладальнік «Марко». – У нас за 13-ы год папрасілі перавесьці ў фонд фундатарскай дапамогі больш, чымся мы зарабілі прыбытку. Я тлумачу – гэта немагчыма. Але хочуць менавіта так».

«Ты, здавалася б, падаткі плаціш, розныя забавязаньні выконваеш, але фундатарскую дапамогу ня даў – і становісься дрэнным, а адсюль розныя наступствы…» – падзяліўся сваімі бедамі адзін з найпасьпяховейшых беларускіх бізнэсмэнаў. Паводле ягоных слоў, калісьці ўказ пра фундатарскую дапамогу «ў нейкай ступені астудзіў запал чыноўнікаў». Але цяпер яго трэба абнавіць, перакананы Мікалай Мартынаў.

**10.03.2014** Цэхі «Нафтану» выводзяць у асобнае унітарнае прадпрыемства. У Беларускім Незалежным прафсаюзе (БНП) гэта расцэньваюць як схаванае скарачэньне. Як паведаміла газэта «Вестник Нафтана», доля першых выведзеных у асобнае ўнітарнае прадпрыемства зусім хутка напаткае цэхі 17 і 18. Рабочыя рамонтных прафэсіяў выводзяцца са штату асноўных цэхаў і пераводзяцца на балянс новага цэху. Пакуль яны застаюцца ў структуры заводу.

На думку **старшыні першаснай арганізацыі БНП работнікаў ААТ «Нафтан» Івана Сьвятохі**, для рабочых зьмены нічога добрага не нясуць: «Людзі выйдуць у асобнае структурнае падразьдзяленьне і ня будуць лічыцца на заводзе. Для працоўных гэта, вядома, дрэнна. Па-першае, яны губляюць цяперашнюю зарплату. Па-другое, губляюць сацпакет. І па-трэцяе, невядома як будзе ў іх там праца, яны ж стануць асобным прадпрыемствам – нойме завод іх ці каго іншага? Можна сказаць, што гэта схаванае скарачэньне», – адзначыў прафсаюзны лідэр.

**29.03.2014** Раённыя ўлады просяць грошай у пастаўскіх прадпрымальнікаў. Гэта ўжо другі такі выпадак цягам сакавіка. Два тыдні таму сродкі вымагалі на пасяўную, а цяпер – на абстрактныя патрэбы райвыканкаму пад выглядам суботніку. Ён адбыўся 29 сакавіка. Напярэдадні яго правядзеньня прадпрымальнікі ў Паставах атрымалі ліст з райвыканкаму. Зароблены на суботніку грошы «ў добраахвотным парадку» рэкамэндуецца пералічыць на рахунак райвыканкама ў «Беларусбанку». Сума, якая рэкамэндуецца для пераводу, – 300 мільёнаў беларускіх рублёў.

**14.04.2014** У сувязі з будаўніцтвам мосту праз Заходнюю Дзьвіну ў Бешанковічах былі зруйнаваныя гаражы па вуліцы Ясеніна. Яшчэ раней іх уладальнікі былі папярэджаныя пра тое, што гаражы будуць перашкаджаць будаўніцтву мосту, якое мусіць распачацца праз год-два. Нязгодныя спрабавалі шукаць праўды і пісаць вышэйшым чыноўнікам аж да Лукашэнкі. Але беспасьпяхова.

Нягледзячы на тое, што праект мосту яшчэ не прайшоў экспэртызу, мясцовыя чыноўнікі прысьпешваюць падзеі. 14 красавіка на «аб'ект» быў накіраваны магутны бульдозэр, які паваліў сьцены гаражоў. Самі жыхары былі змушаныя пачаць разборку паваленых сьценаў.

**22.04.2014** Толькі за першы квартал бягучага году на Віцебшчыне за несвое-


Іван Сьвятоха

часовую выплату заработнай платы пакараныя 179 юрыдычных і 172 службовыя асобы. Паводле інфармацыі КДК вобласьці, агульная сума штрафаў, спагнаных зь вінаваўцаў «пратэрміновак», – каля 300 мільёнаў рублёў.

«У адпаведнасьці зь дзеючым заканадаўствам за невыкананьне тэрмінаў выплаты заработнай платы службовай асобе пагражае штраф у памеры да 3 мільёнаў рублёў, юрыдычнай – да 15 мільёнаў. Толькі сіламі КДК сёлета на Віцебшчыне выяўленыя 82 парушальнікі, – адзначае начальнік упраўленьня кантролю бюджэтна-фінансавай сфэры дзяржаўных органаў КДК Віцебскай вобласьці Ўладзімер Гадзяцкі. – Мы ажыцьцяўляем пастаянны кантроль, праводзім праверкі, тэматычныя маніторынгі. Працуе штодзённая гарачая лінія. Варта адзначыць, што апошнім часам колькасьць неплацельшчыкаў павялічылася. Калі на 1 лютага пра запазычанасьці па зарплаце паведамілі 39 прадпрыемстваў, якія не змаглі знайсьці для разьліку са сваімі працаўнікамі 7,6 мільярда рублёў, то ў красавіку даўжнікоў стала ўжо 118. Агульная сума нявыплачаных заробкаў перавысіла 41 мільярд рублёў».

Уладзімер Гадзяцкі дадае, што большасьць тых, хто праштрафіўся, – сельгаспрадпрыемствы. Многія кіраўнікі спрабуюць пазьбегнуць адказнасьці і імкнуцца схаваць рэальную сытуацыю. Толькі за два апошнія месяцы было выяўлена 14 арганізацыяў, якія ўтаілі факт нявыплаты зарплаты ад органаў статыстыкі. КДК Віцебскай вобласьці ўжо прыцягнуў іх да адміністрацыйнай адказнасьці, а цяпер ацэнку дзеяньням службовых асоб гэтых прадпрыемстваў даюць праваахоўнікі. У ліку аштрафаваных – кіраўнікі праектнага інстытуту Віцебскага ДСК, ААТ «Віцебскгандальбуд», ААТ «Віцебскі сьвітанак» і базы адпачынку «Крупеніна».

**02.05.2014** Пяршоўка Беларускага незалежнага прафсаюзу (БНП) працаўнікоў ААТ «Нафтан» падала пазоў у суд на Наваполацкі гарвыканкам. Адзінае патрабаваньне да ўладаў – адмяніць рашэньне аб ануляваньні рэгістрацыі дадатковага пагадненьня пяршоўкі БНП аб далучэньні да калектыўнай дамовы. Раней прадстаўнікі незалежнага прафсаюзу падалі скаргу на дзеяньні гарвыканкаму ў Віцебскі аблвыканкам. Але адтуль, як заявіў **лідэр БНП Іван Сьвятоха**, прыйшла «чыстай вады адпіска».

«Адказ ні пра што, там лухта напісаная. Маўляў, гарвыканкам зрабіў правільна, бо наша арганізацыя павінна была ўзгадніць дадатковае пагадненьне зь дзяржпрафсаюзам. Напісалі таксама, што мы ўносім зьмены ў калектыўную дамову, хоць ніякіх зьменаў мы ня ўносілі! Карацей, поўная туфта, чыстай вады адпіска, – адзначыў суразмоўца. – Мы прытрымліваемся ранейшай пазыцыі: рэгістрацыю ў гарвыканкаме скасавалі неправамерна. Дадатковае пагадненьне, заключанае з наймальнікам, мы ўзгадняць зь Белхімпрафсаюзам не абавязаныя. Нідзе такога




палажэньня няма!»

**13.05.2014** Падчас вывучэньня шматлікіх зваротаў грамадзян, што паступаюць на «гарачую» тэлефонную лінію Камітэту дзяржкантролю Віцебскай вобласьці, а таксама зьвестак Віцебскага абласнога ўпраўленьня ФСАН было выяўлена, што ў сельскагаспадарчых арганізацыях шэрагу раёнаў вобласьці мелася запазычанасьць па выплаце дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей.

Толькі пасьля ўмяшаньня КДК былі прынятыя меры па зьніжэньні запазычанасьці ў чатырох раёнах вобласьці: Гарадоцкім, Глыбоцкім, Аршанскім і Шаркоўшчынскім. Там, напрыклад, цягам паловы году не выплачваліся дапамогі ў ААТ «Гарадоцкі райаграпрамснаб» (запазычанасьць на 4 лютага перад 61 работнікам складала 134,1 мільёна рублёў). У лютым Камітэт дзяржкантролю запатрабаваў ад Гарадоцкага райвыканкаму прыняцьця неадкладных мер па пагашэньні запазычанасьці, пасьля чаго ў сакавіку запазычанасьць была пагашаная. Разам з тым паводле стану на 10 красавіка заставалася запазычанасьць у 11 арганізацыях Браслаўскага, Гарадоцкага, Ушацкага, Пастаўскага раёнаў і Віцебску.

Для ліквідацыі выяўленых парушэньняў і прадухіленьня іх у далейшым Камітэтам дзяржкантролю Віцебскай вобласьці накіраваныя прапановы Віцебскаму аблвыканкаму аб прыняцьці мер па поўным пагашэньні суб'ектамі гаспадараньня запазычанасьці па дапамогах сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей, і па разглядзе пытаньня аб прымяненні мер дысцыплінарнага ўзьдзеяньня да службовых асоб арганізацыяў і прадпрыемстваў, якія рэгулярна дапускаюць пратэрмінаваную запазычанасьць па дапамогах, паведамляе прэс-служба КДК.

У Віцебскай вобласьці асноўнымі даўжнікамі па выплаце дапамог зьяўляюцца арганізацыі сельскай гаспадаркі (201 арганізацыя), на долю якіх прыпадае 86,3% усёй запазычанасьці.

**27.05.2014** Футбалісты наваполацкага «Нафтану» не атрымліваюць заробкаў амаль паўгода. Пра гэта заявіў паўабаронца каманды **Валер Жукоўскі**: «Наконт грошай ужо надакучыла маўчаць. Не атрымліваем заробкі пяты месяц. Нас кормяць абяцаньнямі – і невядома, што будзе далей».

**05.06.2014** За тры тыдні да ўступленьня ў сілу новых правілаў гандлю індывідуальныя прадпрымальнікі (ІП) Віцебску выступілі са зваротам да прэзыдэнта і ўраду. 5 чэрвеня ІП, якія гандлююць на рынках і ў гандлёвых цэнтрах Віцебску, прыпынілі на дзень працу ў знак пратэсту супраць новаўвядзеньняў. Па выніках акцыі быў прыняты зварот да Аляксандра Лукашэнкі і Савету міністраў.

«Сёньня ІП стаяць на мяжы закрыцьця. Нарматыўныя дакумэнты розных мініс-


Ірына Яскевіч

тэрстваў узгодненыя паміж сабой, указ №222 ня ўнёс яснасьці ў гаспадарчую дзейнасьць ІП. Для падатковай інспэкцыі нашы рэшткі можна рэалізаваць без дакумэнтаў, для службаў стандартызацыі і гігіены — не. Для іх паняцьця «рэшткі» не існуе. Не разумеючы, што адбываецца, мы зьвяртаемся да вас са сваімі прапановамі», — гаворыцца ў звароце віцебскіх прадпрымальнікаў.

Па-першае, ІП мяркуюць, што патрабаваньні да прадпрымальнікаў без утварэньня юрыдычнай асобы, якія займаюцца рэалізацыяй тавару ў краінах-удзельніцах Мытнага саюзу, павінны быць аднолькавыя. Апрача таго, на агульнай мытнай прасторы павінны дзейнічаць нацыянальныя сэртыфікаты. Аўтары звароту прапаноўваюць даць ІП магчымасьць «рэалізоўваць, транспартаваць і захоўваць рэшткі тавараў, завезеных у краіну па раней дзеючых нарматыўных дакумэнтах, без абцяжараньня іх дадатковымі ўмовамі, згодна з вопісам рэшткаў і бяз тэрміну рэалізацыі». Адзіная ж стаўка падатку з павышаючымі каэфіцыентамі павінна выплачвацца без дадатковага падаткаабкладаньня.

Зьвяртаючы ўвагу прэзыдэнта і ўраду на свае праблемы, прадпрымальнікі спрабуюць перш за ўсё знайсьці кампраміс і выпрацаваць рэальныя ўмовы для сваёй працы, падкрэсьліваецца ў дакумэнце. «Зь ліпеня мы папросту ня зможам працаваць, калі ня будзе знойдзены кампраміс», — сьцьвярджаюць яго аўтары. Зварот віцебскіх ІП да прэзыдэнта і ўраду завяршаецца словамі: «Мы — за даступныя цэны для ўсіх слаёў грамадзтва».

Указ Лукашэнкі №222 забараняе гандаль без сэртыфікатаў і суправаджальных дакумэнтаў на тавары, у тым ліку тых, што ўвозяцца з краін Мытнага саюзу. Прадпрымальнікі сьцьвярджаюць, што гэтае патрабаваньне невыканальнае – яно залежыць не ад іх, а ад пастаўшчыкоў, у асноўным расейскіх, у якіх атрымаць патрэбныя дакумэнты практычна немагчыма. Дакумэнт таксама вызначае пераходны пэрыяд да 1 сакавіка 2015 году, калі ІП могуць распрадаваць рэшткі тавараў без дакумэнтаў. Вопіс гэтых тавараў неабходна зарэгістраваць у падатковым органе да 30 ліпеня бягучага году. Тым ня менш шматлікія прадпрымальнікі зьвярнулі ўвагу на тое, што гэты ўказ наўпрост не дазваляе рэалізоўваць рэшткі тавараў без сэртыфікатаў МС.

**24.06.2014** Прыкладна 50% індывідуальных прадпрымальнікаў Віцебскай вобласьці падалі ў падатковыя органы «нулявыя дэклярацыі» напярэдадні ўступленьня ў сілу з 1 ліпеня ўказу Лукашэнкі № 222 аб рэгуляваньні дзейнасьці ІП. Такія дэклярацыі падаюцца ў выпадку адсутнасьці выручкі. Пра гэта паведаміла **старшыня аргкамітэту па стварэньні прафсаюзу «Разам»**, віцебская **прадпрымальніца Ірына Яскевіч**.




Паводле слоў Яскевіч, 24 чэрвеня на Полацкім рынку ў Віцебску адбыўся сход, у якім узялі ўдзел каля 200 ІП, а таксама мясцовыя ўлады. Прадпрымальнікі ўзьнялі пытаньне аб праблеме свабоднага продажу рэшткаў, адрозьненьнях у патрабаваньнях уладаў да беларускіх і расейскіх ІП і непрызнаньні нацыянальных сэртыфікатаў адпаведнасьці на тавары.

«Мы чакаем гэтай паперы (дазволу на рэалізацыю рэшткаў тавараў без сэртыфікатаў). Але калі ня будзе ніякіх зьменаў, то выйсьці на працу з 1 ліпеня ў прадпрымальнікаў не будзе ніякай магчымасьці. Мы не за тое, каб не працаваць, мы за тое, каб працаваць згодна з законам, не паступаючыся сваімі інтарэсамі, бо кожны з нас займаецца прадпрымальніцтвам, каб мець нейкі заробак», – сказала Яскевіч.

**29.06.2014** У Віцебску адбылася сустрэча **старшыні Свабоднага прафсаюзу мэталістаў Аляксандра Бухвостава** з рабочымі гарадзкіх прадпрыемстваў і арганізацыяў. На сходзе, у прыватнасьці, абмяркоўвалася становішча спраў на віцебскіх заводах. Працоўны зь «Віцязя» ў сваёй прамове адзначыў, што некалі вядомы ўсім завод тэлевізараў зараз «ледзь бачны».

«Безумоўна, працоўныя ня маюць поўнай інфармацыі пра становішчы прадпрыемства, пра яго праблемы. Але яны ня могуць не заўважаць, што памяншаецца аб'ём вытворчасьці, памяншаецца колькасьць, – сказаў Аляксандар Бухвостаў. – Паводле слоў рабочых, на прадпрыемстве засталося каля паўтары тысячы чалавек. Заробак нізкі – да 4 мільёнаў рублёў. Мне давялося пагутарыць з рабочымі зь некалькіх віцебскіх заводаў, але ніхто не сказаў, што іх прадпрыемства добра працуе, усе лічаць, што становішча дрэннае».

ААТ «Віцязь» ліхаманіць ўжо некалькі гадоў. У 2011 годзе Міністэрства прамысловасьці заявіла пра намер зрабіць экстранныя захады дзеля разьвіцьця прадпрыемства. На той момант завод ужо некалькі гадоў меў праблемы са збытам электроннай прадукцыі бытавога прызначэньня, практычна адмовіўся ад яе рэалізацыі ў Расеі.

Паводле дадзеных камітэту эканомікі Віцебскага аблвыканкаму, у 2012 годзе вытворчыя магутнасьці ААТ «Віцязь» былі загружаныя ўсяго на 20%. На пачатку 2013 году міністар прамысловасьці Дзьмітры Кацярыніч заявіў, што кансэрватызм ранейшага кіраўніцтва заводу прывёў да таго, што прадпрыемства ня здолела своечасова перабудавацца на рынкавыя рэйкі, сувязі з распрацоўшчыкамі прадукцыі падвойнага прызначэньня былі згубленыя, а брэнд «Віцязь» страціў колішнюю папулярнасьць.

Паўгода таму генэральны дырэктар ААТ «Віцязь» Сяргей Ґунько паведаміў газэ-

це «Витебские вести», што вытворчасьць тэлевізараў губляе ў структуры прадпрыемства статус асноўнай, большая ўвага будзе надавацца выпуску мэдычнай і бытавой тэхнікі. Частка вялікіх вытворчых плошчаў не выкарыстоўваецца, і іх маюць намер выставіць на продаж праз аўкцыён або здаць у арэнду. На пытаньне аб прыцягненьні інвэстараў гендырэктар заводу адказаў: «Віцязь» ня мае абаротных сродкаў, мае толькі вялікую пазыковую гісторыю».

## Ціск на журналістаў


Алена Сьцяпанава

**05.07.2013** Непрыемны інцыдэнт адбыўся з галоўным рэдактарам і **фотакарэспандэнтам інтэрнэт-газэты «Народныя навіны Віцебска» Сяргеем Серабро**. Напярэдадні журналіст рыхтаваў фотарэпартаж аб наступствах моцнай залевы, якая прайшла ў Віцебску. У прыватнасьці, яго зацікавіла яма, якая ўтварылася ў самым цэнтры гораду, насупраць гандлёвага цэнтру «Марка-сіці». Каля правалу працавала група будаўнікоў. Раптам адзін зь іх пачаў паводзіць сябе дзіўна.

Як высьветлілася пазьней, гэта быў начальнік аб'екту па будаўніцтве падземнага пераходу, прадстаўнік менскага прадпрыемства «Рамсэрвісбуд» Аляксандар Балохін. Яму не спадабалася, што дзеяньні рабочых здымае фотакарэспандэнт, і ён з тратуарнай пліткай у руцэ кінуўся да журналіста, пагражаючы стукнуць яго гэтай пліткай, калі фотаздымкі ня будуць спыненыя. Пры гэтым разьюшаны начальнік аб'екту нецэнзурна лаяўся, паказваў на будынак гарвыканкаму, які разьмяшчаецца побач, і крычаў даслоўна наступнае: «Мэр загадаў вам такой п..ды даць! Вы тут ужо панарабілі дзялоў!"

Як падзяліўся Сяргей Серабро, у яго журналісткай практыцы адбывалася ўсякае, у тым ліку было шмат выпадкаў, калі чыноўнікі ці міліцыя перашкаджалі яму выконваць свае прафэсійныя абавязкі. Але фізычнай расправай рэдактару віцебскага незалежнага выданьня пагражалі ўпершыню.

Адзначым, што падземны пешаходны пераход у цэнтры Віцебску – адзін з гарадзкіх даўгабудаў. Аб'ект пачалі ўзводзіць летам 2011 году. Тунэль праходзіць пад вуліцай Леніна і павінен злучыць гандлёвы цэнтар «Марка-сіці» і Летні амфітэатар. Мясцовыя ўлады спачатку плянавалі здаць пераход да чарговага «Славянскага базару» – у 2012 годзе. Потым – у 2013-м… Але замест гэтага «падземнае мэтро» прыносіць гараджанам адны праблемы. Зямля ў цэнтры Віцебску пастаянна праваьваецца, і гэта ўжо стала своеасаблівай прыкметай гораду.

**09.07.2013** Віцебскую **журналістку Алену Сьцяпанаву** вінавацяць у парушэньні заканадаўства аб СМІ. У міліцыі лічаць, што Алена супрацоўнічае з замежным СМІ без акрэдытацыі. 9 ліпеня журналістка разам з адвакатам наведала Кастрычніцкі РАУС Віцебску, дзе старшы інспэктар аддзелу аховы правапарадку і прафіляктыкі Сяргей Вяракса азнаёміў яе з пратаколам.

Паводле дакумэнту, Кастрычніцкі РАУС завёў супраць яе адміністрацыйную справу паводле ч. 2 арт. 22.9 Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэньнях. Міліцыянты сьцьвярджаюць, што Алена на працягу доўгага пэрыяду «ажыцьцяўляла

прафэсійную дзейнасьць журналіста замежнага СМІ «Радыё Свабода» без адпаведнай акрэдытацыі».

«У матэрыялах справы, якія перадаюцца ў суд, сярод доказаў ёсьць і такія: маўляў, міліцыянты бачылі, што я прысутнічала ў судох над актывістамі і нешта запісвала ў сваім блякноце, – распавяла прэс-службе ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» Алена. – Альбо нехта бачыў, што я званю па тэлефоне і расказваю пра падзеі «нявысьветленым асобам». З гэтага яны робяць выснову, што я супрацоўнічаю з Радыё «Свабода»…» Журналістка адмовілася даваць тлумачэньні, спаслаўшыся на арт. 27 Канстытуцыі, які дае чалавеку права ня сьведчыць супраць самога сябе.

У жніўні мінулага году Алене Сьцяпанавай абласная пракуратура вынесла папярэджаньне за супрацоўніцтва з «чэскай рэдакцыяй Радыё «Свабода"». Хаця такога СМІ і не існуе, аспрэчыць санкцыю журналістцы тады не ўдалося.

**05.08.2013** Віцебскія **журналісты Сяргей Серабро** і **Алена Сьцяпанава** ў адзін дзень атрымалі аднолькавыя лісты з пагрозамі. Загаловак лістоў: «Ведай, куды язык можа давесьці». Нехта, падпісаўшыся імем Яўген Мішакоў, крытыкуе інфармацыйную палітыку «Радыё Свабода» і «БелаПАН» і зьневажае незалежных журналістаў. Праўда, у тэксьце ліста імёны не называюцца, але намеры аўтара, які даслаў лісты на канкрэтныя адрасы, сумненьняў не выклікаюць.

Алена Сьцяпанава распавяла пра атрыманы ліст наступнае: «Подпіс, найхутчэй, выдуманы. І зваротны адрас заведзены, імаверна, для «разавай адпраўкі». Прынамсі, я запыталася ў гэтага Яўгена Мішакова, ці ня блытае ён чагосьці, але адказу не атрымала. У самім лісьце – нейкія натужныя спробы гіранізаваць з таго, што журналісты пішуць крытычныя тэксты пра беларускую рэчаіснасьць. Маўляў, матэрыялы неаб'ектыўныя, і гэта выкананьне «замоваў», а таксама спробы зарабіць сабе танную папулярнасьць і імя ў журналістыцы. Маўляў, «акулы пяра» і «кіты мікрафону» дзейнічаюць амаральна, шукаючы скандалаў у пошуках вялікіх ганарараў і славы… Між тым гэты Яўген Мішакоў піша пра нейкія падзеі, да якіх мы, мясцовыя журналісты, займаючыся тутэйшымі праблемамі, нават не зьвяртаемся – пра адносіны Беларусі з Вэнэцуэляй, пра візыты кіраўнікоў дзяржаў адно да аднаго… Але напрыканцы ліста – відавочныя пагрозы, накшталт таго, што праз ваш доўгі язык можаце трапіць у «месцы не такія аддаленыя»…»

У апошнім абзацы ліста незалежным журналістам «нагадваюць» пра існаваньне Закону «Аб асновах дзейнасьці па прафіляктыцы правапарушэньняў», хаця незразумела, якое дачыненьне да яго маюць прадстаўнікі гэтае прафэсіі. А таксама страшаць артыкуламі з Крымінальнага кодэксу за «дыскрэдытацыю Рэспублікі Беларусь» і «заклікі да дзеяньняў, накіраваных на шкоду зьнешняй бясьпецы Рэспублікі Беларусь, яе сувэрэнітэту, тэрытарыяльнай недатыкальнасьці, нацыянальнай бясьпецы і абароназдольнасьці».

**20.08.2013** Дэпартамэнт выкананьня пакараньняў МУС Рэспублікі Беларусь ня даў дазволу незалежнаму журналісту наведаць установы пэнітэнцыярнай сыстэмы. З адпаведнай заявай зьвярнуўся ў дэпартамэнт віцебскі **сябра Беларускай аса-**



Кастусь Мардзьвінцаў

**цыяцыі журналістаў Кастусь Мардзьвінцаў**. «Кіраўніцтва дэпартамэнту лічыць немэтазгодным наведваньне Вамі папраўчых калёніяў крымінальна-выканаўчай сыстэмы МУС Рэспублікі Беларусь», – паведаміў заяўніку першы намесьнік начальніка ДВП С.І. Працэнка.

Кастусь Мардзьвінцаў меркаваў наведаць адну з папраўчых калёніяў Віцебскай вобласьці, каб азнаёміцца з бытам і ўмовамі ўтрыманьня зьняволеных і пасьля падрыхтаваць матэрыялы для публікацыі ў СМІ. На думку журналіста, супрацоўнікі Дэпартамэнту выкананьня пакараньняў, пазбавіўшы яго магчымасьці наведаць калёнію, парушылі артыкул 36 Закону Рэспублікі Беларусь «Аб сродках масавай інфармацыі», які забясьпечвае права грамадзян на атрыманьне і распаўсюд інфармацыі.

«Тлумачачы, чаму я не магу наведаць калёнію, намесьнік начальніка ДВП нават спаслаўся на закон – на частку 2 артыкулу 22 Крымінальна-выканаўчага кодэксу. Але гляньма, што гаворыцца ў згаданай частцы кодэксу: «Прадстаўнікі сродкаў масавай інфармацыі і іншыя асобы маюць права наведваць установы, якія выконваюць пакараньне, з дазволу адміністрацыі гэтых установаў або адпаведных вышэйстаячых органаў кіраваньня ўстановамі, якія выконваюць пакараньне». Такім чынам, права наведваць калёнію маю. І па дазвол я зьвярнуўся па адрасе – у «вышэйстаячы орган». Дзіўна, дзе тут спадар Працэнка ўбачыў падставу, каб пазбавіць мяне права, якім я валодаю згодна з названым ім жа самім артыкулам? Дзеяньні кіраўніцтва дэпартамэнту выкананьня пакараньня – гэта самавольства, не заснаванае на законе. Напэўна, яно мае, што ўтойваць ад грамадзкасьці, калі баіцца пусьціць журналістаў у турмы», – лічыць Кастусь Мардзьвінцаў.

**03.09.2013 Незалежнаму журналісту Ўладзімеру Жыгулову** ў Віцебскай абласной пракуратуры вынесьлі афіцыйнае папярэджаньне за супрацоўніцтва без акрэдытацыі з зь «Віцебскім кур’ерам» – выданьнем, не зарэгістраваным на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Уладзімер Жыгулоў адмовіўся даваць пракурору Паўлу Зайцаву тлумачэньні, спаслаўшыся на права ня сьведчыць супраць сябе, гарантаванае арт. 27 Канстытуцыі. І пракурор зараз жа агучыў афіцыйную паперу, якая была падрыхтаваная загадзя.

Колькі год таму калектыў газэты «Віцебскі кур’ер» прыклаў шмат намаганьняў для рэгістрацыі ў Беларусі. Але справа аказалася марнай. Пасьля некалькіх адмоваў, каб захаваць статус легальнай газэты, давялося рэгістравацца ў Расеі, у суседнім Смаленску. Але ўсе гэтыя гады пракуратуру выданьне не цікавіла і прэтэнзіяў да журналістаў не было. Сытуацыя зьмянілася пасьля таго, як на інтэрнэт-сайце газэты зьявіліся публікацыі пра ўрача Ігара Пастнова, зьмешчанага на прымусовае лячэньне ў псыхіятрычны шпіталь.


Надзея Куканос

74-гадовы журналіст гаворыць, што папярэджаньне яго ня спыніць, бо ён лічыць яго незаконным. Ён кажа, што кожны чалавек мае права на атрыманьне і распаўсюд інфармацыі, незалежна ад таго, журналіст ён ці не. І што патрабаваньне акрэдытацыі і абавязковай мясцовай рэгістрацыі выданьня наогул становіцца ў Беларусі забаронай на прафэсію журналіста.

**10.10.2013 Журналістка Надзея Куканос** была затрыманая міліцыянтамі ў Віцебскім абласным судзе. На яе склалі два пратаколы: за дробнае хуліганства і непадпарадкаваньне законным патрабаваньням супрацоўнікаў аховы правапарадку. На думку міліцыянтаў, журналістка была п’яная, але экспэртыза не пацьвердзіла іх падазрэньні.

Тым ня менш судзьдзя суду Кастрычніцкага раёну Віцебску Алена Протас прызнала жанчыну вінаватай ў парушэньні двух артыкулаў адміністрацыйнага кодэксу і пакарала яе штрафам у памеры 3 мільёнаў рублёў. Надзея Куканос не пагадзілася з рашэньнем суду і абскардзіла яго. Віцебскім абласным судом рашэньне судзьдзі Протас было адмененая і вернутае ў Кастрычніцкі райсуд на новы разгляд іншым судзьдзёй.

**26.11.2013** На ўезьдзе ў Глыбокае затрымалі **незалежных журналістаў Вячаслава Пяшко** і **Насту Рэзьнікаву**. Машыну, якой кіраваў Пяшко, спынілі на ўезьдзе ў горад супрацоўнікі ДАІ. Праверыўшы дакумэнты, міліцыянты спачатку сказалі, што іх насьцярожвае нумар кузава машыны. Пасьля праверылі багажнік і папрасілі праехаць зь імі ў РУУС, бо вонкава машына і яе пасажыры нібыта падыходзілі пад апісаньне махляроў у вышуку.

Спачатку на размову выклікалі Пяшко, а пасьля – Рэзьнікаву. Прыкладна праз паўгадзіны абаіх вызвалілі, перапісаўшы пашпартныя дадзеныя і нумары тэлефонаў. Гутарыў зь імі старшы опэрупаўнаважаны Мікалай Кватэра.

«Выглядала ўсе даволі падазрона», – паведаміў Вячаслаў Пяшко пасьля вызваленьня. На просьбу журналістаў паказаць «арыенціроўку» – апісаньне прыкмет злачынцаў, на падставе якіх іх затрымалі, – міліцыянты прад’явілі нейкі неперакanаўчы дакумэнт на кампутары з агульным апісаньнем мужчыны «эўрапейскай зьнешнасьці». Раздрукаваць дакумэнт адмовіліся.

Журналісты Вячаслаў Пяшко і Наста Рэзнікава здымалі відэарэпартажы для сайту газэты «Новы час» пра мясцовыя сацыяльныя праблемы. Тэмай увагі журналістаў быў дом №142 на вуліцы Віленскай (Леніна) у Глыбокім, жыхары якога дамагаюцца ад уладаў капітальнага рамонту. Таксама яны рыхтавалі відэаматэрыял пра дарогу Глыбокае – Дзеркаўшчына, подпісы за рамонт якой зьбіраюць вяскоўцы.


Сяргей Серабро

**18.01.2014** Аддзел ідэалёгіі Віцебскага аблвыканкаму праінфармаваў рэдакцыі мясцовых газэтаў, хто з супрацоўнікаў зьяўляецца сябрам БАЖ, а хто толькі зьбіраецца ўступіць у «непажаданую» арганізацыю. Асобных журналістаў выклікалі ў аблвыканкам для тлумачэньняў наконт сяброўства ў ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў». Пад увагу «ідэолягаў» найперш трапілі ўдзельнікі сяброўскай сустрэчы віцебскіх журналістаў, якая прайшла напрыканцы мінулага году. На ёй прысутнічалі і сябры БАЖ, і проста калегі-журналісты.

«Аднак у аблвыканкаме, здаецца, «залічылі» ў БАЖ усіх без выключэньня, – распавядае **журналістка Алена Сьцяпанава**. – Прынамсі, мне тэлефанавалі некалькі чалавек, якія сябрамі грамадзкага аб'яднаньня «БАЖ» ніколі не зьяўляліся, але сказалі, што папрокі атрымалі і яны. Кагосьці папярэджвалі наконт небясьпекі ўступленьня ў «непажаданую» арганізацыю, кагосьці ўшчувалі за ўдзел у «непажаданым сходзе» напярэдадні Новага году. Калегам давялося тлумачыць, што зьбіраліся яны не на сход, бо ў Віцебску няма асобнай гарадзкой філіі ГА «БАЖ». І што гэта была звычайная перадсьвяточная сяброўская сустрэча за гарбатай, дзе людзі дзяліліся сваімі плянамі, размаўлялі пра нейкія прафэсійныя праблемы, а потым слухалі сьпевы Георгія Станкевіча, барда зь Бешанковічаў».

Раней падобныя сустрэчы ніякай цікаўнасьці ў аддзелу ідэалёгіі аблвыканкаму не выклікалі. Сяброўствам у ГА «БАЖ» асабліва не папракалі нават журналістаў дзяржаўных выданьняў. Іншая справа, што сачылі за дзейнасьцю незалежных журналістаў.

Сёлета некалькі віцебскіх журналістаў выказалі жаданьне далучыцца да БАЖ. Менавіта гэтай акалічнасьцю, а таксама тым, што наперадзе – мясцовыя выбары, якія будуць асьвятляць як дзяржаўныя, так і незалежныя СМІ, калегі тлумачаць жаданьне аблвыканкаму кантраляваць сяброўства ў гэтай арганізацыі. А па магчымасьці – наогул не дапусьціць павелічэньня колькасьці сябраў БАЖ у Віцебску.

**04.02.2014 Рэдактар сайту «Народныя навіны Віцебска» Сяржук Серабро** распавёў, што пасьля зьяўленьня на сайце тэксту «Bluefilters: альхімія продажаў фільтраў для вады ўтрыдорага» на яго пачаўся ціск. Артыкул выйшаў 13 сьнежня мінулага году. У тэксьце падрабязна апісана, як карэспандэнт запрасіў рэалізатараў фільтраў да сябе дахаты, а потым распавёў пра гэты візыт і пра іх мэтады пераконваць пакупнікоў у высокай якасьці тавару. У артыкуле, разьмешчаным на сайце, таксама параўноўваюцца кошты: у рэалізатараў фільтар каштуе 7 750 000 рублёў, або каля 830 даляраў, а ў Польшчы, дзе фільтры фірмы «Bluefilters» вырабляюцца, іх кошт складае ўсяго 1299 злотых (каля 430 даляраў).

Ніводнага слова пра якасьць прыбораў або пра фірму-вытворцу ў артыкуле не было. Публікацыя тычылася толькі працы рэалізатараў, прычым аўтар сьвядома пазьбягаў любых ацэначных водгукаў, гаворыць Сяргей Серабро: «Тым ня менш камусьці гэты тэкст дужа не спадабаўся. Але каму – мне не вядома, бо я пачаў атрымліваць лісты па электроннай пошце з патрабаваньнем выдаліць тэкст. Аўтар мне не прадстаўляўся. 29 студзеня я атрымаў аналягічнае патрабаваньне ўжо ад кампаніі-хостэра. Ліст быў падпісаны Станіслававам Ліўшам са службы падтрымкі кліентаў Dreamsee.biz. Відавочна, туды зьвярнуліся тыя ж асобы, што раней патрабавалі ад мяне выдаленьня крытычнага тэксту. Бо я пазнаў ранейшыя аргумэнты: сайт вінавацілі ў тым, што ён псуе рэпутацыю фірмы-вытворцы, і чамусьці спасылаліся на закон Расейскай Федэрацыі «Аб сродках масавай інфармацыі» ад 27 сьнежня 1991году».

«Я напісаў хостэру, што рэпутацыя фірмы «Bluefilters» не закранутая, і што мне не вядомая асоба, якая выступае з прэтэнзіямі ад імя гэтай фірмы. Нельга выключаць, што гэта не афіцыйны прадстаўнік «Bluefilters», які назваў бы сваё імя і пасаду, а мясцовыя рэалізатары. Менавіта на іх адрас было шмат нэгатыўных камэнтароў пасьля выхаду артыкулу. Я гатовы гарантаваць, што ўся інфармацыя, якая ёсьць у тэксьце, правераная і дакладная. А таму здымаць артыкул з сайту адмаўляюся катэгарычна. Зрабіць гэта мяне можа прымусіць толькі адпаведнае рашэньне суду, калі будуць доказаныя факты зьнявагі гонару і годнасьці», – сказаў рэдактар «Народных навін Віцебска».

Сяржук Серабро зьвяртае ўвагу яшчэ на адзін цікавы факт: 21 лістапада 2013 году ў дзяржаўнай гарадзкой газэце «Віцьбічы» быў надрукаваны рэклямны артыкул «З чыстай вадой і чыстымі думкамі». Там дзейнасьць фірмы ТАА «ЛД-Юніён» – рэалізатара польскіх фільтраў для ачысткі вады – ацэньвалася вельмі станоўча.

**05.02.2014** Здымачную групу незалежных журналістаў, якія супрацоўнічаюць з тэлеканалам «Белсат», затрымалі ў Мёрах. **Наста Рэзьнікава**, **Аляксандар Пацееў** і **Сяргей Кручкоў** здымалі сюжэт для праграмы «Маю права» пра жыхароў мястэчка, якія засталіся без ацяпленьня.

Журналістаў затрымалі для высьвятленьня асобаў. Міліцыянты патлумачылі ім, што «яны знаходзяцца ў зоне вайсковых вучэньняў, пра якія інфармавалі мэдыі, таму прысутнасьць журналістаў тут непажаданая». Пасьля журналістаў пад канвоем вывезьлі зь Мёраў і адпусьцілі, прыгразіўшы, што калі тыя вернуцца, затрыманьне будзе нашмат больш брутальным.

Ужо тыдзень жыхары Мёраў жывуць без ацяпленьня. Іх інфармавалі, што гэта з прычыны аварыі, аднак, як удалося высьветліць журналістам, справа ў вайсковых зборах. Цяпло перанакіравалі, каб абагрэць казармы.

**22.02.2014** У Мёрах зноў былі затрыманыя двое карэспандэнтаў тэлеканалу «Белсат», якія прыехалі ў горад асьвятляць да гэтага часу ня вырашаную праблему адсутнасьці ацяпленьня. Разам з журналістамі былі затрыманыя двое актывістаў аргкамітэту БХД, якія суправаджалі іх, — **Сяргей Васільеў** і **Дзяніс Маскаленка**. Пры затрыманьні прысутнічаў асабіста начальнік Мёрскага РАУС Сяргей Лонь. Аднаго з журналістаў вызвалілі каля 18:00, другога паабяцалі вызваліць неўзабаве. **Актывісту БХД Зьмітру Лупачу**, які ў пошуках затрыманых прыйшоў у РАУС,


Віктар Андрэеў

міліцыянты параілі сыходзіць, пакуль не затрымалі і яго.

**23.02.2014** Сайт orshatut.by існуе больш за тры гады. Апроч навін, на ім разьмяшчаюцца прыватныя аб'явы і рэкляма тавараў ды паслуг. Аднаму з рэклямадаўцаў параілі адмовіцца ад супрацоўніцтва. Гэта, на думку заснавальніка сайту, зьвязана з выбарчай кампаніяй.

Распавёў заснавальнік сайту **Віктар Андрэеў**: «Ды мяне зьвярнуўся чалавек і сказаў, што адмаўляецца ад рэкламы на сайце. Гэта было дзіўна, бо наша супрацоўніцтва доўжылася не адзін месяц. І чалавек патлумачыў, што яго папярэдзілі з КДБ, маўляў, сайт «не зусім той», і каб не было непрыемнасьцяў, трэба прыбраць адтуль рэкляму. Ён, вядома, пагадзіўся. Але ў такой форме незадавальненьня дзейнасьцю сайта яшчэ ніхто не выказваў».

З пэўнымі перашкодамі супрацоўнікам сайту даводзілася сутыкацца і раней: прыкладам, настаўніцу адной з аршанскіх школ упікалі за інтэрвію пра школьную мастацкую самадзейнасьць, альбо вучня-выпускніка запалохалі, што ён не паступіць у ВНУ, калі свой артыкул пра акцыю супраць паленьня разьмесьціць на гэтым рэсурсе, а не на сайце ГА БРСМ. «Але каб у такой катэгарычнай форме ды са спасылкай на КДБ мне паведамлялі, што сайт нейкі шкодны ці небясьпечны, – такога яшчэ не было», – гаворыць Віктар Андрэеў.

**21.03.2014** За апошнія тыдні служба маніторынгу ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» зафіксавала шмат розных выпадкаў з падобным почыркам.

Пра блякаваньне незалежнага віцебскага сайту dyjalog.info паведаміў **рэдактар рэсурсу Кастусь Мардзьвінцаў**. Паводле ягонай інфармацыі, справа ў дасланым вірусе, і ён перакананы, што гэта зроблена знарок.

«Выпадкова такое здарыцца не магло. Я адсачыў, што вірус дасланы аднекуль зь Нідэрляндаў. Але гэта няпэўна, бо ёсьць мноства сродкаў, каб схаваць сапраўднае месцазнаходжаньне тых, хто хоча нашкодзіць. Сайт перастаў адчыняцца зь мінулага вечару, кампутар паведамляе пра памылку», – распавёў Кастусь Мардзьвінцаў. Апошнія матэрыялы, разьмешчаныя на сайце, тычыліся выбарчай кампаніі, а таксама скандальнага факту – масавага атручаньня вязьняў у аршанскай калёніі.

Перастаў адчыняцца і сайт газэты «Витебский курьер». Але апошнім часам ён абнаўляўся даволі рэдка, таму ніхто ня можа дакладна сказаць, што зь ім здарылася і як даўно сайт не працуе.

У тым жа Віцебску мясцовым незалежным журналістам нядаўна пачалі рассылаць фотаздымкі, нацэленыя на дыскрэдытацыю мясцовага **апазыцыйнага кандыдата ў дэпутаты Хрыстафора Жаляпава**.



Георгі Станкевіч

**27.03.2014** Настаўніка, **актывіста руху «За свабоду» Георгія Станкевіча** спавясьцілі пра тое, што супраць яго ініцыяваная адміністрацыйная справа за парушэньне Закону аб СМІ. Спадар Станкевіч — заснавальнік і рэдактар самвыдатаўскай газэты «Крывінка», якую ён распаўсюджвае ў Бешанковіцкім раёне.

Георгі Станкевіч апавёў, што да яго на працу прыйшоў старшы опэрупаўнаважаны Бешанковіцкага РАУС Дзьмітрый Карась і заявіў, што будзе браць тлумачэньні і складаць пратакол па адміністрацыйнай справе:

«Мне сказалі, што ёсьць сьведчаньні двух прадпрымальнікаў бешанковіцкага Калгаснага рынку пра тое, што 22 сакавіка я распаўсюджваў там сваю газэту. Гэтага факту я не хаваю. Але адмовіўся падпісаць пратакол, складзены міліцыянтам парасейску — прапанаваў Дзьмітрыю Карасю перакласьці яго на беларускую мову, каб я зразумеў усё дакладна, і тады з маім подпісам праблем ня будзе. Я накіраваўся на чарговы ўрок, а опэрупаўнаважаны, як мне пазьней пераказалі калегі, пачаў абурацца ў грубай форме маімі паводзінамі. Нават склаў яшчэ адзін пратакол — што я адмовіўся падпісваць першы. Але настаўнікі запісалі ў ім, што адмова была толькі ў тым, што я ня буду падпісваць пратакол, напісаны на рускай мове. З гэтым міліцыянт і сышоў».

Позву ў суд Георгі Станкевіч яшчэ не атрымаў. У яго ёсьць меркаваньне, што працэс наогул захочуць правесьці ў ягоную адсутнасьць. Бо сьведкі ўжо атрымалі запрашэньні ў суд на 2 красавіка. Увогуле ж, гэта ўжо трэці працэс і трэцяя адміністрацыйная справа з падобнымі абвінавачваньнямі супраць рэдактара і выдаўца «Крывінкі». У 2010 годзе Георгія Станкевіча пакаралі штрафам памерам 20 базавых велічынь, у 2012 годзе штраф быў ужо 40 базавых велічынь. Да ўсяго, справа супраць «Крывінкі» ў 2010 годзе таксама была ініцыяваная падчас выбарчай кампаніі — тады Георгі Станкевіч балятаваўся ў Бешанковіцкі раённы савет. Сёлета ён таксама браў удзел у выбарах, балятаваўся ўжо і ў раённы, і ў Віцебскі абласны саветы. Паводле афіцыйных падлікаў, ён прайграў праўладным кандыдатам, ягоным супернікам.

Георгі Станкевіч зьвяртае ўвагу і на тое, што рэгулярна дасылае кожны нумар свайго выданьня ў Менск — у шэраг бібліятэк, у Міністэрства інфармацыі і Нацыянальную кніжную палату Беларусі. Адтуль прэтэнзіяў да «Крывінкі» ніколі не паступала, іх прад'яўляе толькі мясцовая міліцыя. У «Крывінцы» рэдактар і выдавец разьмяшчае мясцовыя навіны і навіны з усяе Беларусі, крытычныя і аналітычныя матэрыялы, зьмест якіх часта супярэчыць афіцыйнаму пункту погляду. А таксама ўласныя паэтычныя творы. Георгі Станкевіч — паэт і аўтар некалькі соцень песьняў на свае вершы.


Сьвятлана Сьцяпанава

**12.04.2014** Штраф у памеры 25 базавых велічынь (3 млн. 750 тыс.) судзьдзя Глыбоцкага суду Андрэй Тарасевіч прысудзіў прыватнаму прадпрыемству «Прэфект-інфо» за парушэньне закону аб рэкляме. Гэтае прадпрыемства з 2009 году выдавала рэклямную газэту «Прэфект-інфо», заснавальнікам якой зьяўляецца **актывіст кампаніі «Гавары праўду» Яраслаў Берніковіч**, а галоўным рэдактарам – **сябра аргкамітэту па стварэньні партыі БХД Зьміцер Лупач**.

Пратакол аб правапарушэньні склала супрацоўніца ўпраўленьня гандлю і паслуг Віцебскага аблвыканкаму Жанна Лістападава. Паводле дакумэнту, у кастрычніцкім нумары газэты быў дапушчаны шэраг парушэньняў Закону аб рэкляме.

Але праблемы ў газэты пачаліся яшчэ ў 2010 годзе. Калі прадпрыемства падало дакумэнты на рэгістрацыю грамадзка-палітычнай газэты, у іх зьнянацку ўзьніклі пытаньні да юрыдычнага адрасу рэклямнага выданьня. Міністэрству інфармацыі не спадабалася, што юрыдычны адрас знаходзіцца на прыватнай кватэры, хаця рэклямную газэту раней зарэгістравалі па гэтым адрасе без прэтэнзіяў.

Акрамя таго, заснавальнік газэты Яраслаў Берніковіч і галоўны рэдактар Зьміцер Лупач звычайна бяруць удзел у выбарчых кампаніях, у тым ліку і сёлетніх мясцовых. Па іх назіраньнях, прэтэнзіі да газэты заўсёды ўзьнікаюць напярэдадні альбо пасьля выбараў.

**15.04.2014** Пракуратура вынесла папярэджаньне **віцебскай журналістцы Сьвятлане Сьцяпанавай**. У пракуратуры палічылі, што незалежная журналістка зь Віцебску без акрэдытацыі супрацоўнічае з замежным СМІ – беларускай службай «Польскага радыё для замежжа». Пракурор аддзелу па наглядзе за выкананьнем заканадаўства Павал Зайцаў гутарыў з журналісткай на працягу 20 хвілін. Ён тлумачыў, што журналіст замежнага СМІ ў Рэспубліцы Беларусь ня мае права працаваць без акрэдытацыі, і папярэдзіў пра магчымую адказнасьць паводле артыкулу 22.9, ч. 2 КаАП («незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ»). Пасьля гутаркі пракурор выйшаў у суседні пакой і прынёс гатовую пастанову аб вынясеньні папярэджаньня.

**17.04.2014** У дачыненьні да **журналісткі Алены Сьцяпанавай** вядзецца адміністрацыйны працэс. Пра гэта яна даведалася, наведаўшы Кастрычніцкі РАУС Віцебску. Старшы інспэктар аддзелу аховы правапарадку і прафіляктыкі Сяргей Вяракса хацеў атрымаць ад журналісткі тлумачэньні адносна матэрыялу «Віцебскія школьнікі адмаўляюцца вучыць гімн», разьмешчаны ў студзені бягучага году на сайце «Радыё Свабода». Матэрыял нікім не падпісаны.

«Сп. Вяракса патлумачыў, што ён ініцыяваў супраць мяне адміністрацыйную справу паводле арт. 22.9, ч.2 КаАП – «незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ», – распавяла Алена Сьцяпанава. – Сказаў: будзем яе завяршаць. Але калі гэтую справу завялі – невядома».

**08.05.2014** Незалежную журналістку пазбавілі магчымасьці абскардзіць рашэньне міліцыі. **Алена Сьцяпанава** атрымала пісьмовае паведамленьне з Кастрычніцкага РАУС Віцебску пра тое, што адміністрацыйная справа, распачатая супраць яе, скасаваная. Аднак афіцыйную пастанову ёй не даслалі, і тэрмін для абскарджаньня пастановы ўжо скончыўся. Замест пастановы пра скасаваньне адміністрацыйнай справы, распачатай 15 красавіка супрацоўнікам Кастрычніцкага РАУС Сяргеем Вяраксам, у канпэрце быў толькі ліст з паведамленьнем, якое азадачыла журналістку.

«Пастанову пра скасаваньне адміністрацыйнай справы мне не даслалі. А з таго ліста, дзе напісана, што тэрміны адміністрацыйнага спагнаньня ўжо прайшлі, і таму справа касуецца, я даведалася дужа дзіўныя рэчы. Паводле меркаваньня супрацоўнікаў міліцыі, я без акрэдытацыі супрацоўнічала з «Радио Свободная Европа – Радио Свобода» – гэта напісана ў лісьце за подпісам намесьніка начальніка Кастрычніцкага райадзьдзелу міліцыі А. Захарчанкава.

Менавіта так называецца руская служба радыё, якая мае ўласны сайт і этэрны час, і перадусім асьвятляе падзеі ў Расеі. Ніякіх матэрыялаў пра Віцебск ад 20.01.2014 г. на сайце няма, хаця міліцыянты цьвердзяць, што менавіта ў гэты дзень я «асьвятляла падзеі, што адбываюцца на тэрыторыі г. Віцебску без акрэдытацыі журналіста». Парушыўшы, такім чынам п.1 арт.1 Закону РБ «Аб СМІ”… Суцэльная блытаніна, якая нагадала мне папярэджаньне абласной пракуратуры, абвешчанае ў 2012 годзе. Там гаварылася, што я нібыта супрацоўнічаю з чэскай рэдакцыяй Радыё Свабода. Якая не існуе ўжо больш за 10 год!» – распавяла Алена Сьцяпанава.

**20.05.2014 Вадзім Драздоў** ужо некалькі гадоў жыве ў Швэйцарыі, але да падзеяў на Беларусі ён неабыякавы. Таму заснаваў наваполацкі незалежны інтэрнэт-рэсурс freeregion.info, дзе зьмяшчаюцца крытычныя матэрыялы на палітычныя тэмы, а таксама вядуць свае блогі вядомыя ў рэгіёне асобы. Нядаўна стала вядома, што міліцыя праводзіць праверку, ці не парушыў Вадзім Драздоў беларускае заканадаўства.

Пра тое, што вядзецца праверка, Вадзім Драздоў даведаўся ад адваката, нанятага ягонымі сваякамі. Але што за высновы зрабілі наваполацкія міліцыянты, так і застаецца таямніцай, кажа Драздоў: «Здаецца, тэрміны праверкі некалькі разоў працягвалі, бо яна праводзіцца на працягу ўжо больш як 40 дзён. Міліцыя ўсё яшчэ нешта шукае: мне паведамілі, што ў пачатку траўня супрацоўнікі прыходзілі да майго бацькі – у кватэру, дзе я прапісаны. Распытвалі пра мяне, пыталіся, ці мае ён кампутар. Потым хадзілі па суседзях, тлумачылі ім, што я «выступаю супраць Лукашэнкі», распытвалі, ці даўно мяне бачылі, і што могуць пра мяне распавесьці. Складалі пратаколы апытаньняў, напалохалі людзей, зь якімі наша сям'я мірна жыла побач амаль 25 гадоў!»

Паводле Вадзіма Драздова, праверка ў дачыненьні да ягонай асобы вядзецца з па-


Ігар Казьмярчак

чатку красавіка. Паводле зьвестак, атрыманых ад адваката, супрацоўнікі міліцыі пільна зацікаваліся сайтам freeregion.info, заснавальнікам якога зьяўляецца Вадзім Драздоў. «А таму праверка праводзіцца з мэтай высьветліць, ці не падпадае зьмест некаторых крытычных артыкулаў на нашым сайце пад крымінальны артыкул 369-1 «Дыскрэдытацыя Рэспублікі Беларусь». Яшчэ вядзецца і пра іншае – пра дзейнасьць ад імя незарэгістраванай арганізацыі. Адказнасьць за гэта прадугледжаная крымінальным артыкулам 193-1», – кажа актывіст.

Ён зьвяртае ўвагу не тое, што думкі пра заснаваньне сайту зьявіліся разам з ідэяй стварыць грамадзкае аб’яднаньне «Свабодны рэгіён». Зараз існуе аргкамітэт па стварэньні гэтай суполкі. Адным з актывістаў зьяўляецца аўтар шэрагу матэрыялаў на аднайменным сайце, Яўген Парчынскі. Вядома, што і ён таксама апошнім часам трапіў у поле зроку мясцовай міліцыі. На думку Вадзіма Драздова, якраз існаваньне незалежнага інтэрнэт-рэсурсу стала падставай для праверак.

**05.06.2014 Рэдактар незалежнага аршанскага сайту Ігар Казьмярчак** распавёў пра актыўнасьць троляў. Паводле словаў журналіста, рэдагаваны ім незалежны сайт – адзінае месца, дзе можна рэальна абмяркоўваць праблемы гораду Воршы. Гэта тычыцца як праблемаў цяперашняга дня, гэтак і пытаньняў далейшага разьвіцьця. «Сайт orsha.eu («Аршанскі рэгіянальны партал») быў створаны ў 2007 годзе. Гэта даволі папулярны сайт, і на ім зьяўляецца шмат камэнтароў, – распавёў Ігар Казьмярчак. – Так, там ёсьць тролі. Але мы з гэтага толькі радуемся. Бо калі яны тролюць, значыць, па-першае, наш сайт гэтага заслугоўвае, а, па-другое, яны даюць нам рэальна вельмі добры рэйтынг».

**30.06.2014** Журналістам з Глыбокага на адкрытым судовым працэсе не дазволілі весьці аўдыёзапіс. Пра гэта распавёў журналіст **Зьміцер Лупач**. Разам з калегам ён прысутнічаў на судзе па крымінальнай справе — забойстве дзевяцімесячнага дзіцяці ў сьнежні 2013 году.

У першы дзень працэсу судзьдзя забараніла журналістам карыстацца тэхнічнымі сродкамі. Аднак у інтэрнэце журналісты знайшлі, што аўдыёзапіс у залі суду на адкрытым паседжаньні можна рабіць нават без дазволу судзьдзі. Такая норма ёсьць у пастанове Прэзыдыюму Вярхоўнага Суду №11 ад 20 сьнежня 2013 году. Пры гэтым паведамляць суду пра запіс не абавязкова. На другі дзень судовага паседжаньня журналісты сталі карыстацца дыктафонамі. На гэта адразу зьвярнуў увагу абвінавачаны, які паведаміў пра гэта свайму адвакату, а той — судзьдзі. Судзьдзя Людміла Вашчанка, прыгразіўшы выдаліць карэспандэнтаў з залі суду, забараніла карыстацца дыктафонамі.

Вашчанка: «Паважаная прэса, паводзьцеся, калі ласка, карэктна. На сёньняшнім паседжаньні суду вы не пыталіся ў суду дазволу весьці які-небудзь запіс. Згодна з законам, вы маеце права весьці ручны запіс або магнітафонны запіс. Іншыя віды запісу ў КПК не прадугледжаныя, таму, калі ласка, выконвайце закон».

Дарэчы, у Крымінальна-працэсуальным кодэксе сапраўды гаворыцца пра ручны або магнітафонны запіс. Але магнітафоны даўно састарэлі, і імі ўжо ніхто не карыстаецца.

## Перашкоды дзейнасьці праваабаронцаў


Пётар Іваноў

**17.07.2013 Пятра Іванова** пазбавілі права абскардзіць судовае рашэньне. Абаронца грамадзянскіх правоў абскарджваў пастанову судзьдзі суду Першамайскага раёну Віцебску Натальлі Караблінай аб прыцягненьні яго да адміністрацыйнай адказнасьці. Скарга была прынятая. Праз некаторы час Пётар Іваноў атрымаў паведамленьне пра дзень і час разгляду яго скаргі ў абласным судзе. Якое ж было яго зьдзіўленьне, калі, прыйшоўшы ў прызначаны дзень у суд, ён даведаўся, што яго скарга разглядацца ня будзе – ані ў гэты дзень, ані ў які-небудзь іншы.

Пятру Іванову патлумачылі, што ў яго скарзе нібыта не прыведзеныя довады пра нязгоду з прынятым рашэньнем, што перашкаджае разгляду яе па сутнасьці ў судзе другой інстанцыі. Справу абласны суд вярнуў у суд Першамайскага раёну Віцебску. Такім чынам, на думку Пятра Іванова, яго пазбавілі права абараніць сябе ў судзе. Новую скаргу ён скласьці ня можа, бо ўжо мінуў тэрмін абскарджаньня пастановы па справе аб адміністрацыйным правапарушэньні.

Раней судзьдзя Карабліна пакарала Іванова паводле артыкулу 23.5 Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэньнях штрафам у памеры 5 мільёнаў рублёў нібыта за абразу супрацоўнікаў праваахоўных органаў. Падчас разбору справы ў судзе Першамайскага раёну ён таксама, па сутнасьці, быў пазбаўлены магчымасьці прававой абароны: асудзілі Пятра Іванова завочна, ён нават і ня ведаў, што яго судзяць, бо позва ў суд прыйшла яму на наступны дзень пасьля завяршэньня судовага працэсу.

**22.08.2013** Віцябчук **Пётар Іваноў** накіраваў скаргу на дзеяньні службовых асоб дзяржаўных органаў Рэспублікі Беларусь на адрас спадарыні Маргарат Сэкаг'і, спэцдакладчыка Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў па пытаньні аб сытуацыі з праваабаронцамі. Ён просіць прызнаць, што службовыя асобы дзейнічалі ў адносінах да яго як праваабаронцы недапушчальным чынам, супярэчачы духу і літары «Дэклярацыі аб праве і абавязку пэўных асоб, груп і органаў грамадзтва падтрымліваць і абараняць агульнапрызнаныя правы чалавека і асноўныя свабоды».

Дэклярацыя, на якую спасылаецца Пётар Іваноў у сваёй скарзе, была прынятая рэзалюцыяй Генэральнай асамблеі ААН 9 сьнежня 1998 году. Таксама ён просіць спэцыяльнага дакладчыка прапанаваць Рэспубліцы Беларусь ліквідаваць дапушчаныя парушэньні і не дапускаць іх у будучыні.

У сваім звароце да прадстаўніка ААН Пётар Іваноў нагадаў храналёгію падзеяў.

У сакавіку ён накіраваў на імя начальніка УУС Віцебскага аблвыканкаму Ігара Яўсеева заяву пра парушэньне супрацоўнікамі ДАІ правілаў дарожнага руху. Калі апошнія затрымлівалі грамадзкіх актывістаў Аляксея Кішчука і Стаса Лаўрэнава, якія ладзілі акцыю, і выехалі на ходнікі, Іваноў быў сьведкам падзеі.

Разьбіраўся па заяве падпалкоўнік Аляксандар Сьцяпанаў. Вынік разбору: замест таго, каб пакараць даішнікаў-правапарушальнікаў, пакаралі самога заяўніка – ён нібыта абгаварыў супрацоўнікаў міліцыі. Падпалкоўнік Сьцяпанаў склаў адпаведны пратакол аб адміністрацыйным правапарушэньні, і судзьдзя суду Першамайскага раёну Віцебску Валянціна Кісьмярошкіна пакарала Іванова штрафам у памеры 4 мільёнаў рублёў.

Пасьля судзьдзя Віцебскага абласнога суду Сьвятлана Іванова, якая разглядала касацыйную скаргу па справе, атрымала неабвержны доказ таго, што судзьдзя Кісьмярошкіна груба парушыла працэсуальна-выканаўчы кодэкс, выносячы рашэньня супраць змагара за правы грамадзян. Падчас судовага паседжаньня ёй быў уручаны аўдыёзапіс, які пацьвярджаў, што судзьдзя Кісьмярошкіна сфальсыфікавала вынесеную ёй пастанову: у залі суду ёй быў зачытаны адзін варыянт пастановы, а пазьней на рукі праваабаронца атрымаў зусім іншы варыянт. Паводле нармальнай лёгікі, справу павінны былі б вярнуць на новы разгляд, але судзьдзя Іванова вырашыла, што суд першай інстанцыі ўсё зрабіў правільна.

Больш таго, пасьля згаданых судоў было пастаўленае пытаньне аб узбуджэньні супраць Пятра Іванова крымінальнай справы. Па гэта ў Сьледчы камітэт зьвярнуўся старшыня Першамайскага райсуду Віцебску А.А. Андрушэнка. Падчас судовых паседжаньняў Іваноў нібыта абразіў супрацоўнікаў міліцыі, за што яму цяпер пагражае зьняволеньне тэрмінам да 3-х гадоў.

І, нарэшце, надоечы намесьнік пракурора Георгі Каранько вынес Іванову афіцыйнае папярэджаньне пра недапушчальнасьць парушэньня заканадаўства. Пётар Іваноў зьяўляецца грамадзянінам Расеі, які мае пасьведчаньне на жыхарства ў Беларусі. Дык вось, яго папярэдзілі, што ў выпадку далейшага парушэньня адміністрацыйнага або крымінальнага закону дазвол на яго пастаяннае пражываньне ў Рэспубліцы Беларусь можа быцьануляваны. У гэтым выпадку ён цягам месяца абавязаны будзе пакінуць тэрыторыю Беларусі, больш ня зможа свабодна ўяжджаць у краіну, у якой нарадзіўся і вырас, і сувязь зь сям'ёй, якая жыве ў Беларусі, будзе страчаная.

«Пакуль я ня ўсклаў на сябе абавязкі праваабаронцы, да мяне не было прэтэнзіяў з боку беларускай дзяржавы як да замежнага грамадзяніна. Але як толькі я пачаў актыўна абараняць правы і законныя інтарэсы грамадзян, я стаў «злосным парушальнікам» беларускіх законаў», – сьцьвярджае Пётар Іваноў.

**10.10.2013** Праваабаронца-інвалід застаўся без сацыяльнага жытла. Віцебскі гарадзкі выканаўчы камітэт адмовіўся ўнесьці ў асобныя сьпісы на атрыманьне жылога памяшканьня сацыяльнага карыстаньня інваліда другой групы – **праваабаронцу Валера Місьнікава**. Фармальнай прычынай таму стала даведка пра месца жыхарства і склад сям'і, выдадзеная Місьнікаву разьліковым цэнтрам № 4 дзяржаўнага прадпрыемства «ЖРЭТ Першамайскага раёну».

Згодна зь дзейным заканадаўствам, непрацуючыя самотныя інваліды першай і другой груп, якія стаяць на ўліку маючых патрэбу ў паляпшэньні жыльлёвых умоў, маюць права на атрыманьне жылога памяшканьня сацыяльнага карыстаньня дзяржаўнага жыльлёвага фонду.

Валер Місьнікаў належыць да гэтай вызначанай заканадаўствам катэгорыі грамадзян: у цяперашні час ён самотна пражывае ў здымным пакоі, нідзе не працуе і мае толькі адну крыніцу даходу – пэнсію, прызначаную яму па дасягненьні пэнсійнага веку. Значную частку пэнсіі складаюць камунальныя плацяжы. Бо Валер аплачвае поўны кошт камунальных паслуг, бо льготы, якія быццам бы належаць яму паводле закону, не распаўсюджваюцца на інвалідаў, што арандуюць жытло.

Былая жонка і двое яго паўнагадовых дзяцей пражываюць асобна. Яны доўгія гады жывуць асобна, не вядуць з Валерам сумеснай гаспадаркі, не падтрымліваюць яго ані маральна, ані матэрыяльна. Фактычна, гэта чужыя людзі. Таму Місьнікаў лічыць сябе грамадзянінам, які пражывае самотна, і былым членам сям'і, што, здавалася б, мусіць дазволіць яму атрымаць сацыяльнае жытло.

Аднак даведка пра месца жыхарства і склад сям'і , выдадзеная разьліковым цэнтрам № 4 ЖРЭТу цалкам перакрэсьліла ўсе надзеі Валерыя. Бо ў даведцы пазначана, што В. Місьнікаў зарэгістраваны і пражывае ў кватэры сумесна з былой жонкай і мае сям'ю ў складзе чатырох чалавек. Гэта значыць, згодна з даведкай, Місьнікаў зусім не самотны грамадзянін, а муж і бацька, якім апякуюцца жонка і дзеці. На падставе выдадзенага ЖРЭТам дакумэнту, Віцебскі гарвыканкам адмовіў Місьнікаву ў залічэньні яго ў сьпісы на атрыманьне сацыяльнага жытла.

Па абарону сваіх правоў і законных інтарэсаў Валер Місьнікаў зьвярнуўся ў суд Першамайскага раёну Віцебску з пазовам аб прызнаньні несапраўднай даведкі ЖРЭТу і надзяленьнем яго статусам самотнага грамадзяніна і статусам былога члена сям'і. Аднак судзьдзя Натальля Броўка адмовіла Місьнікаву ў задавальненьні яго патрабаваньняў. Яна палічыла, што аргумэнты праваабаронцы неперакануўчыя, а паказаньні сьведак пра яго фактычнае самотнае пражываньне не заснаваныя на нормах заканадаўства.

Зварот да памочніка прэзыдэнта краіны, галоўнага інспэктара па Віцебскай вобласьці Дамашкевіча ня даў плёну. На асабістым прыёме Валер Місьнікаў падрабязна распавёў памочніку кіраўніка дзяржавы пра сутнасьць сваёй справы, і той паабяцаў разабрацца.

Па даручэньні Дамашкевіча ў справе разьбіраўся кіраўнік спраў Віцебскага аблвыканкаму Аляксей Мацюшка. Апошні паведаміў: «Факт пражываньня ў адным з Вамі населеным пункце (г. Віцебску) Вашых працаздольных дзяцей, які паўплываў на прыняцце Віцебскім гарвыканкамам рашэньня аб адмове ва ўключэньні Вас у асобныя сьпісы на атрыманьне жылога памяшканьня сацыяльнага карыстаньня, пацьвярджаецца даведкай ад 23 сакавіка 2012 г. № 791 аб месцы жыхарства і аб складзе сям'і , выдадзенай разьліковым цэнтрам № 4 дзяржаўнага прадпрыемства «ЖРЭТ Першамайскага раёна». Дакумэнтальнае пацьверджаньне гэтага факту і прынятае на яго падставе адміністрацыйнае рашэньне ня цягне прысваеньня Вам якога-небудзь прававога статусу неўпаўнаважанай на гэта службовай асобай. Такім чынам, дэкляраваныя Вамі "парушэньні нарматыўных актаў», якія


Валер Місьнікаў

прывялі да ўшчамленьня Вашых правоў і законных інтарэсаў, не знайшлі пацьверджаньня, падставы для прыняцьця мер рэагаваньня адсутнічаюць».

**01.11.2013** Увечары 1 лістапада машына віцебскага **абаронцы грамадзянскіх правоў Пятра Іванова** была спыненая супрацоўнікамі ДАІ. Спачатку яму заявілі, што ён парушыў правілы дарожнага руху, праехаўшы на чырвонае сьвятло, і мусіць заплаціць штраф у памеры 1 базавай велічыні («Або можам праехаць у абласное ДАІ, але тады штраф будзе 5 базавых», – паведамілі затрыманаму). Пасьля «прабіцьця па базе» тлумачэньне прычыны затрыманьня з боку даішнікаў зьмянілася: Пятру Іванову сказалі, што ён нібыта знаходзіцца ў вышуку і таму мусіць праехаць у міліцэйскі пастарунак. У пастарунку ж высьветлілася, што ні ў якім вышуку Пётар Іваноў ня значыцца, але правы кіроўцы ў яго ўсё ж забралі…

Даішнікі, якія спынілі Іванова, дазволілі яму праехаць у РАУС Кастрычніцкага раёну Віцебску на ўласнай машыне (у іх суправаджэньні) – больш таго, дазволілі па дарозе заехаць дадому, каб «высадзіць жонку і ката», што знаходзіліся ў салёне машыны, ды ўзяць з сабой з дому дакумэнты. Супрацоўнік у чыне капітана нават паспачуваў затрыманаму: «Мы людзі маленькія, – сказаў ён, – але ёсьць указаньні, трэба іх выконваць».

Міліцыянты ў Кастрычніцкім РАУС, дзе ў выніку апынуўся Іваноў, не разумелі, навошта яго прывезьлі туды. Але ў рэшце рэшт вынайшлі, за што на яго скласьці пратакол. Пётар Іваноў – грамадзянін Расеі, які мае пасьведчаньне на жыхарства ў Беларусі. Дык яму заявілі, што калі так – ён ня мае права выкарыстоўваць пасьведчаньне кіроўцы, выдадзенае ў Расеі, а павінен мець беларускія правы. Згодна са складзеным пратаколам, Іваноў кіраваў транспартным сродкам без сапраўдных правоў. Расейскія правы ў яго канфіскавалі, і цяпер ён мусіць прыйсьці ў абласное ДАІ на адміністрацыйную камісію.

Пётар Іваноў, які шмат гадоў кіраваў машынай з расейскімі правамі і ніколі ня меў з-за гэтага праблем, лічыць: тое, што адбылося, – гэта вынік помсты з боку высокага начальства абласнога ДАІ – ужо цягам некалькіх месяцаў Пётар Іваноў дамагаецца прыцягненьня да крымінальнай адказнасьці супрацоўнікаў гэтай структуры падпалкоўніка Аляксандра Сьцяпанава і маёра Багатырова, якія, на яго думку, парушылі закон.

**01.12.2013** Віцебскі гарадзкі аддзел Сьледчага камітэту Рэспублікі Беларусь адмовіўся ўзбуджаць крымінальную справу паводле артыкулу 290 (пагроза зьдзяйсьненьнем акту тэрарызму) Крымінальнага Кодэксу Рэспублікі Беларусь у дачыненьні да **праваабаронцы**, **сябра незалежнага прафсаюзу (БПР РЭП) Валера Місьнікава**. Старшы сьледчы СК А. Грынявецкая ня ўгледзела ў дзеяньнях

актывіста складу злачынства, за якое заканадаўствам прадугледжана максымальнае пакараньне ў выглядзе пазбаўленьня волі да 8 гадоў.

Яшчэ на пачатку жніўня бягучага году старшыня Віцебскага абласнога суду Мікалай Хамічонак накіраваў у пракуратуру Віцебску заяву, у якой паведамляў, што В. Місьнікаў ў прысутнасьці работнікаў суду «…выказаў пагрозу ў выпадку прыняцьця адмоўнага рашэньня наконт яго наглядная скаргі падарваць будынак Віцебскага абласнога суду». Кіраўнік абласнога суду папрасіў пракурора горада Юрыя Раманоўскага па гэтым факце правесьці праверку і прыняць неабходныя меры.

Першая праверка гэтага факту была праведзеная малодшым участковым інспэктарам АУС адміністрацыі Кастрычніцкага раёну Віцебску Сяргеем Раманчуком. Сабраўшы неабходныя матэрыялы, супрацоўнік міліцыі вынес пастанову аб адмове ва ўзбуджэньні крымінальнай справы за адсутнасьцю ва ўчынку Місьнікава складу злачынства. Аднак пракурор гораду адмяніў гэтую пастанову і накіраваў матэрыялы справы для правядзеньня дадатковай праверкі ў Сьледчы камітэт Віцебску.

Падчас паўторнай праверкі было выяўлена, што 9 жніўня 2013 году В. Місьнікаў сапраўды знаходзіўся ў будынку Віцебскага абласнога суду з мэтай перадачы чарговы скаргі. Апытаная працаўніца суду А. Абрамчук, якая прымала ад Місьнікава дакумэнты, паведаміла сьледзтву пра тое, што падчас перадачы скаргі ён раззлаваўся і сказаў, «што калі пададзеная ім скарга ня будзе разгледжаная на ягоную карысьць, а ён быў упэўнены ў адмоўным рашэньні пададзеных асабіста ім заяў і скаргаў, гэтак як ён пра гэта і сказаў, дык тады ён падарве ўвесь суд, або ўсю сыстэму». Падчас іх размовы прысутнічаў супрацоўнік міліцыі з паста аховы суду В. Пчолкін, які чуў усю размову і пацьвердзіў яе зьмест.

Аднак працаўнікі суду не ўспрынялі пагрозу, выказаную Місьнікавым, як рэальную, і ў іх ня ўзьнікла пачуцьцё страху за ўласную бясьпеку. Бо ў дзеяньнях і паводзінах Місьнікава адсутнічалі чыньнікі, якія б паказвалі на тое, што гэткая пагроза рэальная і яе варта апасацца. Яны палічылі, што ў словах прафсаюзнага актывіста адлюстраванае ягонае асабістае меркаваньне і абразьлівае стаўленьне да супрацоўнікаў Віцебскага абласнога суду, а гэтаксама непавага зь яго боку да ўсёй судовай сыстэмы краіны.

Сьледзтва палічыла, што ў дзеяньнях В. Місьнікава адсутнічае аб'ектыўны бок складу злачынства, які быў выяўлены ў пагрозе зьдзяйсьненьня выбуху з мэтай аказаньня ўзьдзеяньня на Віцебскі абласны суд. Пры гэтым у дзеяньнях і паводзінах Місьнікава адсутнічалі чыньнікі, якія б паказвалі на тое, што такая пагроза рэальная і яе варта баяцца. Гэтыя падставы і былі пакладзеныя ў адмову распачаць крымінальную справу ў дачыненьні да актывіста прафсаюзу РЭП.

Тым ня менш у пастанове СК Віцебску было адзначана, што ў дзеяньнях Місьнікава бачацца прыкметы адміністрацыйнага правапарушэньня, прадугледжанага арт. 17.1 (дробнае хуліганства). Складзены пратакол і спадара Валера чакае разгляд адміністрацыйнай справы ў судзе.

**10.12.2013** Сума штрафу, накладзенага на **праваабаронцу Пятра Іванова** судзьдзёй

Натальляй Караблінай, склала 15 базавых велічынь (1 мільён 950 тысяч рублёў). Такому пакараньню ён быў падвергнуты за кіраваньне асабістым аўтамабілем з пасьведчаньнем кіроўцы, выдадзеным яму Расейскай Фэдэрацыяй. Адміністрацыйная справа Пятра Іванова была разгледжаная ў судзе Першамайскага раёну Віцебску.

«У габінэт судзьдзі, у якім яна праводзіла судовае паседжаньне, па адным і групамі сталі наведвацца супрацоўнікі міліцыі. Гэта яўна адцягвала ад асноўнай працы судзьдзю. Разам з разглядам справы яна паралельна вырашала адразу некалькі іншых пытаньняў. У габінэце таксама працавала на кампутары сакратарка суду, якая падчас працэсу сноўдалася па выкліках міліцыянтаў за дзьверы габінэту і назад», – паведаміў пра судовае паседжаньне Пётар Іваноў.

Ён распавёў, як далей разьвіваліся падзеі: «Бачачы настолькі выразную абыякавасьць да адміністрацыйнай справы, што разглядалася, і да маіх тлумачэньняў, я стаў упрошваць судзьдзю стварыць працоўную абстаноўку, не адхіляцца на іншыя справы і не замінаць дачы тлумачэньняў па справе. Гэтыя ўгаворы не падзейнічалі. Пасьля ўварваньня ў габінэт судовага паседжаньня групы супрацоўнікаў міліцыі, чым у чарговы раз былі перапыненыя мае тлумачэньні суду, я зрабіў ветлівую і карэктную заяву пра фактычнае пазбаўленьне мяне судом магчымасьці даваць тлумачэньні ў нармальнай абстаноўцы і з гэтай прычыны быў вымушаны пакінуць судовае паседжаньне».

Па заканчэньні паседжаньня Іваноў даведаўся пра тое, што суд пакінуў бязь зьменаў адміністрацыйнае спагнаньне, раней накладзенае на яго начальнікам міжраённага аддзелу ДАІ УУС Віцебскага аблвыканкаму падпалкоўнікам міліцыі Аляксандрам Сьцяпанавым. У кнігу заўвагаў і прапаноў судовай установы ім быў унесены запіс пра непавагу з боку суду да ўдзельніка судовага працэсу.

**10.01.2014** Віцебскі **праваабаронца Пётар Іваноў** – вайсковы пэнсіянэр. Мае расейскае грамадзянства і пасьведчаньне на жыхарства ў Рэспубліцы Беларусь. Надоечы ён атрымаў ліст з аддзяленьня па грамадзянству і міграцыі Кастрычніцкага РАУС Віцебску, у якім паведамляецца, што дазвол на яго сталае пражываньне ў Беларусі можа быць ануляваны.

Пад паведамленьнем, якое атрымаў Пётар Іваноў, стаіць подпіс начальніцы АгіМ Вольгі Мурзы. Начальніца спасылаецца на закон «Аб прававым становішчы замежных грамадзян і асоб без грамадзянства ў Рэспубліцы Беларусь», згодна зь якім іншаземцу можа быць ануляваны дазвол на сталае пражываньне ў Беларусі, калі ён ня мае законнай крыніцы атрыманьня даходаў, які забясьпечвае яму і яго сямейнікам пражытачны мінімум на пэрыяд больш як шасьці месяцаў у каляндарным годзе.

Пётар Іваноў абавязаны падаць у аддзяленьне па грамадзянству і міграцыі дакумэнт, які пацьвярджае, што ён мае, за кошт чаго жыць. «Пры адсутнасьці зьвестак пра наяўнасьць законнай крыніцы атрыманьня даходаў у дачыненьні да Вас будзе распачатая працэдура ануляваньня дазволу на сталае пражываньне ў Рэспубліцы Беларусь», – папярэджвае Пятра Іванова Вольга Мурза.

«Свавольства, вядома, зашкальвае! Калі і ў дачыненьні да каго яшчэ з іншазем-

цаў-расейцаў адсутнасьць пастаяннай крыніцы даходаў зьяўлялася падставай для дэпартацыі?! Тым больш, што я ж яшчэ і беларус, родам адсюль. Тут мае сям'я, дзеці, хатка на вёсцы, магілы продкаў…» – абураны Пётар Іваноў.

«Крыніца пастаяннага даходу ў мяне – пэнсія», – патлумачыў Пётар Іваноў. Ён упэўнены, што цяперашнія праблемы ўзьніклі ў яго ў выніку яго праваабарончай дзейнасьці: «"Наезд" зьвязаны з пракурорскім папярэджаньнем пра недапушчальнасьць парушэньня заканадаўства Беларусі, «сынхронна» зацьверджаным пракурорам Генадзем Дыско, і судом, дзе я патрабаваў кампэнсацыі за незаконнае затрыманьне мяне і зьмяшчэньне пад вартай у Кастрычніцкім РАУС Віцебску 1 лістапада 2013 году».

## Грамадзянскія ініцыятывы і акцыі


Галіна Магучая

**11.07.2013** Жыхары дому № 24 па праспэкце Будаўнікоў у Віцебску зладзілі акцыю пратэсту. Яны выступаюць супраць будаўніцтва ў двары гандлёва-забаўляльнага цэнтру. Паводле пратэстоўцаў, будаўніцтва праходзіць з парушэньнямі: будаўнічая пляцоўка пад цэнтар захоплівае паркоўку, дарожкі да прыпынкаў і дзіцячую пляцоўку.

«Дом наш каапэратыўны, на дарожкі, асьвятленьне, паркоўку мы ўсімі жыхарамі зьбіралі грошы. Але гэта нікога не хвалюе! Дазвол на будаўніцтва даў, як нам кажуць, галоўны архітэктар гораду», – распавёў адзін з жыхароў «мяцежнага» дому. Усе жыхары дому № 24 і навакольных дамоў супраць будаўніцтва. Віцябляне сабралі подпісы супраць будоўлі, пісалі заявы ў гарвыканкам і аблвыканкам, аднак адказаў ад улады не было. «Да нас прыходзіў прадстаўнік архітэктуры Віцебску з плянам будаўніцтва, на якім чамусьці зусім не пазначаныя памеры. На пытаньні жыхароў адказаць ня змог, толькі крычаў, што гэта інвэстыцыйны праект, і што яны нічога ня могуць зрабіць», – паведамляе жыхар дому.

**23.07.2013** Лісты і паштоўкі з пажаданьнямі моцы духу, надзеі і веры накіравалі палітзьняволеным віцебскія актывісты. Мяркуецца, што допісы дойдуць у месцы зьняволеньня ў дні, бліжэйшыя да даты прыняцьця Дэклярацыі аб сувэрэнітэце Беларусі. Зрэшты, калі палітвязьні атрымаюць лісты – залежыць ад працы цэнзараў.

Некаторыя зь віцебскіх актывістаў лістуюцца з палітвязьнямі стала – прыкладам, **Аляксей Гаўруцікаў**, сябар і аднадумца Міколы Статкевіча. А некаторыя пішуць ня часта, але іхныя пажаданьні ня менш шчырыя.

«Вельмі важна пісаць лісты вязьням, якіх мы лічым палітычнымі, каб гэтыя людзі ведалі нашу падтрымку і салідарнасьць зь імі, нашу надзею як найхутчэй убачыць іх на свабодзе», – гаворыць **актывіст партыі БНФ Кастусь Смолікаў**.

«Гэтыя акцыі вельмі патрэбны, таму што чалавек, які ізаляваны ад грамадзтва, пачувае сябе адзінокім. І любое слова падтрымкі з волі дае яму стымул і надзею, падымае настрой і дае сілы дачакацца вызваленьня», – працягвае актывістка той жа партыі **Галіна Магучая**.

«Наяўнасьць палітзьняволеных – гэта ганьба для краіны. Я салідарная з тымі мужнымі людзьмі, якія цяпер знаходзяцца ў месцах пазбаўленьня волі па палітычных матывах. Я ганаруся іх сілай духу, жадаю ім найхутчэйшага вызваленьня», – кажа **каардынатарка кампаніі «Гавары праўду» Лідзія Сагідуліна**.




**Алена Фаміна**, **прыхільніца БСДП (Народная Грамада)**, лічыць неабходным праводзіць акцыі салідарнасьці з палітвязьнямі, а таксама падтрымліваць іх сваякоў: «Мы падпісалі шмат паштовак палітвязьням, але ня ўсе яны, верагодна, дойдуць да адрасатаў… Але галоўнае, что сваякі палітвязьняў павінны ведаць, – гэта што яны не адзінокія, што мы перажываем за іхных блізкіх, якія вымушаныя знаходзіцца за кратамі, мы будзем маліцца за тое, каб родныя людзі сустрэліся, абняліся, парадаваліся адно аднаму як мага хутчэй! Я шматкроць сустракалася з рознымі людзьмі падчас выбарчых кампаніяў і хачу сказаць, што ў нас няма абыякавых да ўсяго таго, што робіцца ў краіне, няма тых, хто не спачуваў бы палітвязьням за кратамі».

**23.07.2013** Жыхары Віцебску зьвярнуліся ў аблвыканкам з заявай аб зьмяненьні парадку прыняцьця рашэньняў аб правядзеньні масавых мерапрыемстваў у горадзе. Калектыўны ліст падпісалі 40 чалавек. Зварот вымушаны, бо цягам некалькі апошніх гадоў віцебскія ўлады не далі ніводнага дазволу на правядзеньне ніводнага мітынгу альбо пікету.

Пры гэтым, калі было немагчыма адмовіць адразу, не парушаючы дзеючыя прававыя акты, дык на шляху заяўнікаў уставалі УУС Віцебскага аблвыканкаму і раённыя АУС, УАЗ «Віцебская гарадзкая цэнтральная паліклініка» або УКПП «Віцебская гарадзкая жыльлёва-камунальная гаспадарка», дамовы зь якімі на абслугоўваньне масавых мерапрыемстваў абласныя і гарадзкія ўлады зрабілі абавязковымі.

Усе гэтыя службы адмаўляліся заключаць гэткія дамовы, спасылаючыся на адсутнасьць адпаведнага дазволу, а дазвол не даваўся без дамоваў. У выніку, заяўнікі траплялі ў адмыслова прыдуманае бюракратычнае замкнёнае кола, разарваць якое немагчыма. Тым самым парушаліся і далей парушаюцца канстытуцыйныя правы грамадзян, міжнародныя забавязаньні Беларусі і шматлікія прававыя акты краіны.

**04.08.2013** Жыхары аднаго з двароў Віцебску стаміліся чакаць ад уладаў, пакуль зьявяцца грошы на абсталяваньне двара, аб'ядналіся і самастойна ўзяліся за вырашэньне праблемы. Як распавёў грамадзкі актывіст **Аляксандар Ільінец**, у Віцебску на перакрыжаваньні вуліцаў Чкалава і Інтэрнацыяналістаў пабудаваныя сем дзесяціпавярховых дамоў, у кожным 4-5 пад'ездаў. Усе дамы аб'яднаныя адным дваром з агульнай колькасьцю кватэраў – 750.

«Гэта новы мікрараён гораду, таму тут жывуць у асноўным маладыя сем'і з малымі дзеткамі. А дзе гуляць? Выходзіш у двор, а там няма чым заняцца, бо на вялікай

дваровай пляцоўцы іх чакае толькі вытаптаная трава: ні пясочніцы, ні дзіцячай пляцоўкі, ні лаўкі. Трэба ісьці ў суседні двор праз дарогу, бо толькі там ёсьць новая дзіцячая пляцоўка», – падзяліўся лякальнай праблемай Аляксандар Ільінец.

Грамадзкі актывіст ў 2010 годзе сабраў 820 подпісаў ад жыхароў дамоў і звяртаўся у камунальныя службы, гарвыканкам, аблвыканкам з просьбай жыхароў навесьці парадак і пабудаваць дзіцячую пляцоўку ў двары. Адказ быў адзіны – грошай няма і бліжэйшым часам ня будзе. «Сёлета ў траўні кіраўнік ЖЭУ паведаміў мне, што ёсьць пляцоўка б/у, але неабходна адрамантаваць яе. І калі яна нам патрэбная, то трэба самастойна шукаць грошы», – дадаў актывіст.

4 жніўня 2013 году адбыўся першы сход жыхароў двара, на які прыйшлі 30 чалавек. У актыў ініцыятывы запісаліся больш за 20 неабыякавых віцяблянаў. Як распавёў Аляксандар Ільінец, на сходзе ўдзельнікі вырашылі, што ўжо ў бліжэйшыя выходныя яны падрыхтуюць месца для ўсталяваньня дзіцячай пляцоўкі. Дазвол у кіраўніка ЖЭУ атрыманы. Цягам тыдня мусіць быць прывезеная сама дзіцячая пляцоўка, якую адрамантуюць сваімі сіламі жыхары дамоў.

Кампанія па пабудове дзіцячай пляцоўкі ў адным з двароў Віцебску ладзіцца ў межах агульнанацыянальнай кампаніі «Зробім лепш-2013!», якую ініцыявала Асамблея НДА. Кампанія мае на мэце перадусім супольнае вырашэньне лякальных праблемаў, якія хвалююць звычайных беларусаў, і скіраваная на паляпшэньне іміджу трэцяга сэктару ў грамадзтве.

**25.08.2013** Прыхільнікі кампаніі «Дэпутатаў – да адказу» зь Віцебску распачалі кампанію «Віцебчукі супраць высокіх бардзюраў!». Яны вырашылі праверыць, ці адпаведаюць нормам пешаходныя пераходы і ходнікі Віцебску. Згодна з гэтымі нормамі, вышыня бартавых камянёў праезнай часткі ў месцах скрыжаваньня з ходнікамі і роварнымі дарожкамі павінна быць ад 2,5 да 4 цантымэтраў.

На думку актывістаў кампаніі, неабходнай прыкметай сучаснага гораду зьяўляецца безбар’ернае асяродзьдзе. Яны ўпэненыя: раварысты, інваліды, мамы і бабулькі зь дзіцячымі вазкамі скажуць ім дзякуй. Каб зрабіць маніторынг у межах кампаніі больш эфэктыўным, яго арганізатары зьвярнуліся па дапамогу да жыхароў гораду, каб тыя зрабілі свой унёсак у справу – пазначылі на інтэрактыўнай мапе месцы, дзе бардзюрныя камяні занадта высокія.

**27.08.2013** Прадстаўнікі розных дэмакратычных структур зьбіраюць подпісы пад зваротам да пракурора вобласьці, дзе просяць вынесьці пратэст на рашэньне суду, згодна зь якім віцебскага лекара **Ігара Пастнова** зьмясьцілі ў псыхіятрычны шпіталь. Праваабаронцы прапануюць правесьці пікеты салідарнасьці з Пастновым, якому пастаўлены дыягназ «хранічнае разладзьдзе з трызьненьнем» пасьля крытычных выступаў пра стан і дзейнасьць мясцовых мэдычных установаў і пазыцыю старшыні аблвыканкаму Аляксандра Косінца.

Апошнімі зьвесткамі пра сытуацыю зь лекарам Ігарам Пастновым дзеліцца віцебскі праваабаронца Пётар Іваноў: «Што мы робім? Ідзе праца над касацыйнай скаргай, яшчэ тры-чатыры дні гэта будзе працягвацца. Я прапанаваў нашым партыйным палітыкам правесьці пікеты ў падтрымку Ігара Пастнова. Пікеты маюць арганізоўваць сябры партыі БНФ, руху «За свабоду» і гэтак далей — усе, хто неа-

быякавы да гэтай праблемы. Я ім прапанаваў, і яны падтрымалі маю прапанову».

Апрача заявак на пікеты, актывісты рыхтуюць зварот да пракурора Віцебскай вобласьці Генадзя Дысько. Прадстаўнікі руху «За свабоду», прыхільнікі сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная Грамада», сябры партыі БНФ і кампаніі «Гавары праўду» зьбіраюць подпісы пад калектыўным лістом, дзе просяць пракурора вынесьці пратэст на рашэньне суду Віцебскага раёну, які санкцыянаваў прымусовае псыхіятрычнае лячэньне Пастнова.

Сытуацыя, у якую трапіў Ігар Пастноў, «лекар-праўдаруб» актыўна абмяркоўваецца на незалежным інтэрнэт-сайце «Народныя навіны Віцебску». Чытачы прапануюць наладзіць абструкцыю галоўнаму лекару псыхіятрычнага шпіталя Алене Мартынавай: яны публікуюць яе кантактныя тэлефоны і зьбіраюцца тэлефанаваць ёй, каб выказаць пратэсты супраць дзеяньняў у дачыненьні да Ігара Пастнова.

**30.08.2013** Віцебскія праваабаронцы ладзяць акцыю ў інтэрнэце. Яны распачалі збор подпісаў пад пэтыцыяй з загалоўкам «Свабоду доктару-праўдалюбу Ігару Пастнову, гвалтоўна зьмешчанаму ў вар'ятню ў Беларусі». Усім ахвотным прапануецца падпісаць патрабаваньне на адрас міністра аховы здароўя Беларусі правесьці паўторную псыхіятрычную экспэртызу доктара **Ігара Пастнова**.

Калі незалежная экспэртная камісія прызнае памылковасьць высноў, зробленых псыхіятрамі – калегамі Пастнова, якія працавалі разам зь ім ў Віцебскай псыхлякарні, гэта стане падставай для зьмяненьня рашэньня суду аб прымусовай шпіталізацыі.

Праваабаронцы ўпэўненыя, што камісія псыхіятраў зь Віцебску ў вызначэньні стану і ацэнкі рызыкі, якую ён нібыта ўяўляе для сябе і навакольных, не маглі быць аб'ектыўнымі, бо на сваёй працы яны падпарадкоўваюцца галоўурачу Віцебскага абласнога клінічнага цэнтру псыхіятрыі і наркалёгіі Алене Мартынавай. Менавіта апошняя ініцыявала працэс зьмяшчэньня апальнага лекара ў вар'ятню. На падставе экспэртызы віцебскіх псыхіятраў, залежных ад Мартынавай, судом было прынятае рашэньне аб гвалтоўным лячэньні Пастнова.

Пэтыцыя апублікаваная на ангельскай і расейскай мовах. Мяркуецца, што пад ёй будуць падпісвацца як грамадзяне Беларусі, гэтак і жыхары ўсяго сьвету, неабыякавыя да праблемы захаваньня правоў чалавека. Усяго мяркуецца сабраць 50 тысяч подпісаў.

**18.09.2013** Аргкамітэт па стварэньні партыі «Беларуская хрысьціянская дэмакратыя» (БХД) заклікаў ўсе незалежныя дэмакратычныя арганізацыі Беларусі прызнаць віцебскага лекара **Ігара Пастнова** вязьнем сумленьня. «БХД выказвае рашучы пратэст супраць выкарыстаньня псыхіятрычных лячэбных установаў Беларусі з рэпрэсіўнымі мэтамі, — адзначаецца ў паведамленьні прэс-службы. — Мы зьвяртаем увагу на тое, што ў Беларусь вяртаецца савецкая практыка карнай псыхіятрыі. Віцебскага доктара Ігара Пастнова, які неаднаразова выступаў з крытыкай улады, ужо амаль месяц прымусова ўтрымліваюць у псыхбольніцы».

БХД патрабуе вызваленьня Ігара Пастнова і правядзеньня незалежнай мэдычнай экспэртызы стану яго здароўя, а таксама «спыніць гвалт над здароўем людзей па

палітычных замовах».

**15.10.2013** Рашэньне аб будаўніцтве буйнога гандлёвага цэнтру на месцы парку на прывакзальнай плошчы ў Полацку выклікала незадаволенасьць і нязгоду сярод жыхароў прылеглых дамоў па вуліцы Кастрычніцкай. Жыхары пачалі зьбіраць подпісы супраць будаўніцтва, а таксама сустрэліся і абмеркавалі гэтую праблему са старшынём аблвыканкаму Віцебскай вобласьці Аляксандрам Косінцам…

Надоечы Віцебскі аблвыканкам адказаў палачанам наконт пытаньня захаваньня парку. Забудоўшчыкі пагадзіліся з прапановай уладаў не чапаць прывакзальны парк. Ніводнае дрэва ў парку сьпілоўвацца ня будзе. Адказы ад аблвыканкаму ў першы тыдзень кастрычніка прыйшлі на адрас трох ініцыятыўных груп грамадзян.

У адказе аблвыканкаму на імя грамадзян, якія езьдзілі ў Віцебск на сустрэчу са старшынём аблвыканкаму сказана: «З мэтай мінімізацыі выдаленьня аб’ектаў расьліннага сьвету і захаваньня гістарычнага аблічча прывакзальнай плошчы г. Полацку, камісіяй прапанавана інвэстарам адкарэктаваць праектна-каштарысную дакумэнтацыю ў частцы добраўпарадкаваньня прылеглай да аб’екту тэрыторыі з максымальным захаваньнем існуючых аб’ектаў расьліннага сьвету, з чым інвэстары пагадзіліся». Адказ падпісаў Старшыня камітэту аблвыканкаму па архітэктуры і будаўніцтве Ўладзімер Белавус.

**02.11.2013** Полацкія актывісты і вернікі ўшанавалі памяць ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў, расстраляных каля вёскі Бельчыцы. Аповеды мясцовых жыхароў пра масавыя расстрэлы перадаюцца тут з пакаленьня ў пакаленьне. Ужо даўно Бельчыцы тэрытарыяльна ўвайшлі ў межы Полацку, але памяць пры тыя падзеі жыве. І дзеля гэтай памяці на мясцовых могілках усталяваны высокі зялезны крыж.

Каля крыжа і зьбіраюцца на Дзяды ўсе тыя, хто хоча ўшанаваць памяць бязьвінна забітых ахвяраў. Сваякі расстраляных тут людзей прыяжджаюць таксама, нехта зь іх пакінуў самаробную шыльдачку з партрэтам на падножжы крыжа. 2 лістапада каля крыжа маліліся за душы тых, хто стаўся ахвярай таталітарнага рэжыму ў 1930-40 гады, чые жыцці абарваліся ў гэтых мясьцінах.

Прысутныя заўважылі і трывожныя прыкметы сучаснасьці: бельчыцкія могілкі відавочна рыхтуюць пад расшырэньне, тэрыторыя вакол крыжа разраўняная. Неўзабаве, імаверна, тут, за цяперашнімі межамі могілак, зьявяцца новыя пахаваньні. Але актывісты спадзяюцца, што жалобны крыж застанецца на месцы — што ні ў каго не падымецца рука яго зьнесьці.

**02.11.2013** Як і штогод, грамадзкія актывісты сабраліся ва ўрочышчы Кабыляцкая гара пад Воршай. Гэта другое ў Беларусі — пасьля менскіх Курапатаў — афіцыйна прызнанае месца расстрэлу мірнага насельніцтва ў 1930-50-я гады. Цяпер пра тыя падзеі на Кабыляцкай гары нагадвае самаробны мэмарыял — камень-валун, некалькі памятных шыльдаў, два драўляныя крыжы — каталіцкі і праваслаўны.

Штогод 2 лістапада тут праходзяць жалобныя мерапрыемствы. Сёлета на памінальную акцыю сабралася пад два дзясяткі чалавек. І гэта былі ня толькі мясцовыя актывісты: сюды ў гэты дзень прыходзяць і тыя, чыіх сваякоў расстралялі


Барыс Хамайда

ў гэтым урочышчы. Яны дзеляцца ўспамінамі, прыносяць кветкі. Хаця дакладна не вядома, дзе ў гэтым лесе чыя магіла, бо ўрочышча Кабыляцкая гара — суцэльнае масавае пахаваньне. І дагэтуль дакладна ня вызначана, колькі ахвяраў тут разьвіталіся з жыцьцём.

Пра тыя часы і пра лёс сёньняшняй Беларусі **паэтка Яўгенія Казлова** прачытала некалькі вершаў. Пад крыжамі і бел-чырвона-белымі сьцягамі прысутныя запалілі сьвечкі памяці. А на вялікі камень-валун усклалі жывыя кветкі.

**03.11.2013** Ініцыятар традыцыі адведваць на Дзяды могілкі аднадумцаў — віцебскі **апазыцыянэр Барыс Хамайда**. Гэтыя штогадовыя паездкі на могілкі бываюць нешматлікія. Удзельнікі едуць грамадзкім транспартам, бяруць з сабой кветкі, сьвечкі і працоўныя прылады, каб добраўпарадкаваць пахаваньні.

Сёлета бел-чырвона-белыя сьцягі першымі залуналі над магілай Алены Залескай, былой старшыні абласной арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Пад сьцягамі актывісты прыбралі месца пахаваньня, запалілі зьнічку ды ўсклалі кветкі. Згадалі, колькі давялося перажыць гэтай ужо немаладой тады спадарыні, калі яе затрымлівалі за ўдзел у апазыцыйных акцыях, як ці не ўтрая маладзейшыя міліцыянты круцілі ёй рукі ды ўпіхвалі ў машыны, і як годна яна потым трымалася на судох…

Сярод прысутных быў актывіст **Аляксандар Салаўян**, бацька пахаванага на гэтых могілках Рамана Салаўяна. Гэты хлопец сышоў у лепшы сьвет нечакана і трагічна. Але яго часта згадваюць тыя, хто бачыў пікеты каля так званага «сіняга дому» ў Віцебску. Раман Салаўян колькі разоў выходзіў туды разам з Барысам Хамайдам і Ўладзімерам Плешчанкам, таксама ўжо нябожчыкам.

Сяргей Цярэнцьеў таксама быў адным зь першых віцебскіх «фронтаўцаў». І жыцьцё склалася так, што добраўпарадкаваньне ягонай магілы стала выключна клопатам яго сяброў. Штогод актывісты прыносяць туды кветкі.

На кожнай адведанай магіле засталася гарэць зьнічка. Па чарзе над кожнай луналі бел-чырвона-белыя сьцягі.

Сябры колішняга старшыні віцебскай суполкі Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі БНФ Уладзімера Плешчанкі адведалі ягоную магілу ў вёсцы Друкава. А таксама ўшанавалі памяць ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў, расстраляных пад вёскай Паляі Віцебскага раёну. Штогод некалькі бел-чырвона-белых сьцягоў лунае над могілкамі паміж вёскай Друкава і Вароны, дзе жыў спадар Плешчанка.

**03.11.2013** Сябры КХП-БНФ наведалі вёску Пагосьцішча, што ў Лёзьненскім раёне. Яны паднавілі надпіс на помніку, усталяваным тут у гонар Ігната Будзіловіча і


Яраслаў Берніковіч

безыменных касінераў паўстаньня 1863 году пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага, і зрабілі прыборку прылеглай тэрыторыі. Пасьля адбыўся мітынг, падчас якога прагучалі словы ў падтрымку незалежнасьці Беларусі. Напрыканцы ўдзельнікі імпрэзы ўшанавалі памяць Ігната Будзіловіча і яго паплечнікаў, што загінулі за гэтую незалежнасьць 150 гадоў таму, хвілінай маўчаньня.

Вёска Пагосьцішча знакамітая тым, што недалёка ад яе ў красавіку 1863 году быў разьбіты паўстанцкі атрад Ігната Будзіловіча, які ўступіў у бой з войскамі Расейскай імпэрыі. Будзіловіч быў узяты ў палон, а праз 4 месяцы ваенным судом быў асуджаны да расстрэлу.

Памятны крыж у гонар барацьбітоў за незалежнасьць роднага краю быў усталяваны ў Пагосьцішчы ў 2006 годзе. Ён зьявіўся дзякуючы намаганьням настаўніцы гісторыі **Алены Грачышнікавай** і вучняў школы № 1 гораду Лёзна. На шыльдачцы, прымацаванай да помніку, высечаныя радкі з адзінага вядомага сёньня верша Кастуся Каліноўскага, напісанага ім у вязьніцы: «Бывай здаровы, мужыцкі народзе! Жыві ў шчасьці, жыві ў свабодзе!».

**15.11.2013** На прахадной ААТ «Полацак-Шкловалакно» быў выстаўлены сьцяг Свабоднага прафсаюзу Беларускага. Прафсаюз распаўсюджваў сваё інфармацыйнае выданьне «Мнение профсоюза». Прафсаюзны інфармацыйны дакумэнт раздаваўся рабочым, якія ішлі на зьмену і са зьмены.

З жніўня 2013 году Свабодны прафсаюз распаўсюджвае на прахадной заводу свае выданьні практычна штомесяц. Зараз ўпершыню ля прахадной была пастаўленая тумба з зарэгістраваным сьцягам прафсаюзу. На тумбе ляжалі газэты, якія працоўныя маглі браць бясплатна. Прафсаюзную прэсу раздавалі **старшыня Свабоднага прафсаюзу заводу Віктар Стукаў** і актывіст прафсаюзу памочнік майстра цэху № 7 **Мікалай Шарах**. Многія рабочыя зь цікаўнасьцю бралі прэсу. За час акцыі рабочым было раздадзена каля 300 асобнікаў газэты.

Дырэктару па ідэалёгіі Людміле Проп не спадабалася акцыя, і яна паслала ахоўнікаў сказаць, каб прафсаюз спыніў мерапрыемства. Аднак старшыня прафсаюзу заявіў ахове, што мерапрыемства ладзіцца ў адпаведнасьці з заканадаўствам, і калі ахоўнікі будуць перашкаджаць, неадкладна будзе выкліканая міліцыя. Прадстаўнікі аховы сышлі і больш не перашкаджалі прафсаюзьнікам раздаваць газэты.

**21.11.2013** Жыхары вёскі Верхняе Глыбоцкага раёну пратэстуюць супраць закрыцьця пошты. Яны патрабуюць пакінуць у іх паштовае аддзяленьне — адзінае на некалькі навакольных вёсак. Збор подпісаў пад калектыўнымі лістамі — ініцыятыва мясцовага жыхара, **актывіста кампаніі «Гавары праўду» Яраслава Берніковіча**.


Іосіф Навумчык

У Верхнім жывуць каля 300 чалавек, паслугамі тутэйшага паштовага аддзяленьня карыстаюцца яшчэ і жыхары шасьці-ямі вакольных вёсак. За два дні калектыўныя лісты пратэсту падпісалі больш за 30 чалавек — гэта больш за 10% ад колькасьці мясцовага насельніцтва. Лісты супраць ліквідацыі паштовага аддзяленьня ў Верхнім адасланыя ў Глыбоцкі райвыканкам і начальніку раённага вузла сувязі.

**06.12.2013** Віцебскія валянтэры кампаніі «Гавары праўду» распаўсюдзілі каля 10 000 улётак з заклікам да грамадзян падтрымаць «Народны рэфэрэндум». Ва ўлётках распавядаецца, што такое рэфэрэндум і як можна ўнесьці пытаньне ды ўзяць непасрэдны ўдзел у кампаніі.

**10.12.2013 Праваабаронца Пётар Іваноў** зладзіў акцыю, прымеркаваную да Дня правоў чалавека, які адзначаецца 10 сьнежня. Ён выйшаў у цэнтар Віцебску, дзе раздаў мінакам з паўсотні асобнікаў Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека, прынятай 65 гадоў таму генасамблеяй ААН. Не забыў падарыць асобнікі дэкларацыі і супрацоўнікам суду, куды быў выкліканы ў гэты дзень.

**17.12.2013** Жыхары вёскі на Глыбоччыне змагаюцца за захаваньне школы. Пад пагрозай закрыцьця апынулася школа ў вёсцы Верхняе, якая сёлета адзначыла 50-гадовы юбілей. У школе засталося 30 вучняў.

«У 1963 годзе мясцовы калгас быў такі заможны, што збудаваў школу за ўласныя грошы. А цяпер раённыя ўлады вырашылі яе зачыніць, бо ўтрымліваць двухпавярховы будынак стала задорага. Вяскоўцаў не падманеш: яны выдатна разумеюць, што з закрыцьцём школы вёска адразу згібее, ператворыцца ў такую ж, як многія суседнія — дзе жывуць 5 старых на 10 двароў. Моладзі ня будзе ўвогуле, бо замест каб стварыць годныя ўмовы для жыцьця, нават тое, што ёсьць, гатовыя адабраць. Пра «выгоды і даброты» гавораць толькі па тэлебачаньні і па радыё. Хаця — не, па радыё ўжо не гавораць: у нашым Верхнім няма праваднога радыё, і гэта абрэзалі»,— апавядае **Яраслаў Берніковіч**, мясцовы жыхар і актывіст кампаніі «Гавары праўду».

Ён абвясьціў суседзям, што распачынае кампанію «Выратуем вёску», і землякі яго падтрымалі. Пад лістом, які аднесьлі ў Глыбоцкі райвыканкам, падпісалася адразу паўсотні чалавек.

**19.02.2014** Віцебская абласная бібліятэка імя Леніна нібыта з мэтаю эканоміі з гэтага году перастала выпісваць «Нашу Ніву», «Народную волю» і «БелГазету». Абласная рада ТБМ прапанавала сабраць грошы і падарыць бібліятэцы падпіску на гэтыя выданьні. Збор сродкаў праводзіўся на гарадзкім сходзе таварыства. Зь ініцыятывай сабраць грошы і аформіць падпіску ў падарунак выступіў **старшыня абласной рады ТБМ Іосіф Навумчык**. Прапанову падтрымалі і прыхільнікі роднай мовы, і журналісты — сябры БАЖ.



Віктар Жаркоў

Прысутныя на сходзе супольна ахвяравалі каля 300 тысяч рублёў. На гэтыя грошы ўжо можна выпісаць або ўсе тры выданьні на другі квартал, або два з трох — на паўгода. Але збор сродкаў працягваецца, і сума мае павялічыцца.

Дырэктар бібліятэкі Аляксандар Сёмкін тлумачыць адмову ад падпіскі захадамі эканоміі: маўляў, бракуе бюджэтнага фінансаваньня. Аднак журналісты высьветлілі, што на 2014 год абласная бібліятэка выпісала больш найменняў розных выданьняў у параўнаньні з 2013 годам. Таму больш імавернымі падаюцца тлумачэньні супрацоўнікаў бібліятэкі, якія ў прыватных размовах з чытачамі спасылаюцца на адмысловае распараджэньне ўправы ідэалягічнай працы, культуры і па справах моладзі Віцебскага аблвыканкаму.

**24.02.2014** Міжнароднае аб’яднаньне «За сумленную ўладу» ствараецца ў Віцебску. У склад Генэральнай рады па стварэньні міжнароднага грамадзкага аб’яднаньня «За сумленную ўладу» ўвайшлі 12 чалавек. «Як 12 апосталаў», – пажартаваў на ўстаноўчым сходзе ініцыятар стварэньня арганізацыі **Пётар Іваноў**. Сярод тых, хто увайшоў у раду, апроч Пятра Іванова, ёсьць і іншыя вядомыя ў Віцебску актывісты – такія як, напрыклад, доктар Ігар Пастноў.

І хаця, згодна з прынятым на сходзе палажэньнем, Генэральная рада ўтвараецца толькі з грамадзян Рэспублікі Беларусь і Расейскай Фэдэрацыі, яе дзейнасьць мяркуецца пашырыць на шмат якія краіны. На думку ідэйнага натхняльніка «За сумленную ўладу» Пятра Іванова, ужо праз паўгода колькасьць сяброў Генэральнай Рады можа павялічыцца зь цяперашніх 12-ці да 220 чалавек – прычым з розных краін: Польшчы, Нямеччыны і нават Гандурасу.

Менавіта Пётар Іваноў і быў на сходзе абраны старшынём Генэральнай рады. Ён кажа, што неўзабаве сябры Генэральнай Рады паспрабуюць зарэгістраваць новае міжнароднае грамадзкае аб’яднаньне – або ў Беларусі, або (калі не атрымаецца тут) у нейкай іншай дэмакратычнай краіне.

**20.03.2014** У мітынгу ў падтрымку **кандыдата ў дэпутаты Віцебскага абласнога савету Віктара Жаркова**, які адбыўся 20 сакавіка на заднім двары адной са школ абласнога цэнтру, узялі ўдзел зь дзясятак чалавек. Большасьць зь іх – гэта сябры ўтворанай месяц таму генэральнай рады па стварэньні міжнароднага грамадзкага аб’яднаньня «За сумленную ўладу» на чале са старшынём рады Пятром Івановым.

Як паведаміў **Пётар Іваноў**, мітынг, што адбыўся, быў ня толькі ў падтрымку кандыдата Віктара Жаркова: «Гэты мітынг – у падтрымку ўсіх нашых кандыдатаў, якія ідуць ад “Сумленнай улады”», – сказаў ён.

**23.03.2014** Напярэдадні выбараў удзельнікі акцыі **віцебскія актывісты КХП БНФ — Ян Дзяржаўцаў** і **Алена Каваленка** зладзілі пікет за байкот. Яны выйшлі з плякатам «Байкот выбарчаму фарсу» да сярэдняй школы № 46, дзе знаходзяцца выбарчыя ўчасткі. Партыйцы абвясьцілі, што байкатуюць выбары. Ян Дзяржаўцаў дэманстратыўна парваў запрашэньні на галасаваньне. Удзельнікі акцыі лічаць, што сапраўдных выбараў у Беларусі няма.

**27.03.2014** Па блаславеньні мітрапаліта Менскага і Слуцкага Паўла, патрыяршага экзарха ўсяе Беларусі, у Наваполацку і Полацку праходзіць акцыя «Разам – у абарону жыцьця». У межах акцыі на працягу тыдня у шпіталях і жаночых кансультацыях Наваполацку і Полацку мэдычныя работнікі адмовяцца ад зьдзяйсьненьня штучнага перапыненьня цяжарнасьці (абортаў).

У межах тыдня незьдзяйсьненьня абортаў адбыліся агульнашкольныя бацькоўскія сходы, на адкрытых пляцоўках Наваполацку і Полацку прайшлі вулічныя акцыі «Разам у абарону жыцьця» з удзелам моладзі, майстар-клясы па навучаньні валянтэраў папулярызацыі сямейных каштоўнасьцяў і прафіляктыцы залежнасьцяў, літаратурна-музычная гасьцёўня.

У мерапрыемствах узялі ўдзел прадстаўнікі Міністэрства аховы здароўя і Віцебскага аблвыканкаму, прадстаўнікі Беларускай Праваслаўнай Царквы, у прыватнасьці кіраўнік Цэнтру абароны мацярынства і сямейных каштоўнасьцяў БПЦ сьвятар Дзьмітры Грыцэнка, супрацоўнікі Міжнароднага дабрачыннага фонду «Сям’я – Яднаньне – Айчына».

Акцыя «Разам – у абарону жыцьця» ладзіцца ў межах рэалізацыі Нацыянальнай праграмы дэмаграфічнай бясьпекі Рэспублікі Беларусь на 2011-2015 гг. Мэтай мерапрыемства зьяўляецца прыцягненьне шырокай грамадзкай увагі да пытаньняў сям’і, павелічэньня нараджальнасьці, скарачэньня колькасьці штучных абортаў, фармаваньня ў моладзі пазытыўнага стаўленьня да сямейных каштоўнасьцяў.

**02.04.2014** Жыхары шматкватэрнага дому № 33 па вуліцы Кастрычніцкай у Полацку пратэставалі супраць пабудовы ў двары іхнага дому крамы бытавой хіміі. Сход па скарзе жыхароў ладзілі прадстаўнікі райвыканкаму. На сходзе жыхароў прысутнічаў і прадпрымальнік, які будуе краму. Пакуль будаўніцтва прыпынілі ўлады Полацку.

Перад будаўніцтвам крамы ў двары дому забыліся спытаць саміх жыхароў наконт іх згоды. Як распавядалі прадстаўнікі мясцовай улады, дазвол на будаваньне крамы быў атрыманы яшчэ ад колішняга старшыні гарвыканкаму. Для жыхароў будоўля стала нечаканасьцю. Будаўнікі выкарчавалі частку насаджэньняў кустоўя, якія былі пасаджаныя жыхарамі. Жыхары дому № 33 зараз жа накіравалі калектыўную скаргу ў райвыканкам, а таксама зьвярнуліся ў грамадзкія арганізацыі і да дэпутатаў па падтрымку.

З боку сход нагадвала мітынг. Прысутнічала каля 20 чалавек з двух шматкватэрных дамоў, паміж якімі будуецца крама. Жыхары скардзіліся на нязручны час для сходу, многія знаходзіліся на працы. Ад райвыканкаму прыйшлі намесьнік старшыні райвыканкаму па архітэктуры і будаўніцтве – Аляксандар Міхалевіч і


Кацярына Папялкоўская

кіраўнік спраў Сяргей Труханоў.

Практычна ўсе жыхары выказалі сваю нязгоду з будаўніцтвам і абгрунтавалі гэтую нязгоду адсутнасьцю неабходнасьці ў яшчэ адной краме. Побач знаходзяцца два буйных супэрмаркеты, гарадзкі рынак і дзьве крамы бытавой хіміі і касмэтыкі. Апроч таго, лічаць яны, двор – гэта ня тое месца, дзе трэба будаваць крамы: у двары адсутнічае дзіцячая пляцоўка і ня заасфальтаваныя ўсе сьцежкі.

Спадар Міхалевіч запэўніў жыхароў, што будоўля прыпыненая да прыняцьця рашэньня па скарзе, хоць будаўнікі ўжо паставілі зялезны каркас для сьцен і даху. Аднак палачан гэта не супакоіла, грамадзяне падалі заяўку ў райвыканкам на правядзеньне пікету пратэсту ў двары дому. На сходзе зьбіралі подпісы на аркушы паперы галасаваньня: хто «За», хто «Супраць». На блянку галасаваньня зьявіўся толькі адзін подпіс «За», астатнія каля 20 чалавек выказаліся супраць будаўніцтва.

**07.04.2014** Віцебскія **актывісты аргкамітэту па стварэньні партыі «Беларуская хрысьціянская дэмакратыя» Таццяна Севярынец** і **Алена Шабуня** перадалі ў Камітэт дзяржкантролю 945 подпісаў на 48 падпісных аркушах за будаўніцтва сьмецьцеперапрацоўчага камбінату. Подпісы былі сабраныя падчас мясцовай выбарчай кампаніі: як падчас збору подпісаў, так і агітацыйнай кампаніі. Прымаў іх у КДК Віталь Сьцяпанаў, які ўсю размову з актывісткамі запісаў на дыктафон.

Спрабавалі прадстаўнікі БХД распавесьці пра сабраныя подпісы і ў газэце Віцебскага гарсавету «Віцьбічы», якая год таму пісала пра тое, што сьмецьцеперапрацоўчы камбінат будзе пабудаваны праз два гады, але будаўніцтва якога практычна так і не пачалося. Аднак у газэце пісаць пра гэта адмовіліся. Як і пра тое, што будаўніцтва сьмецьцеперапрацоўчага камбінату ў Віцебску, які мусіў бы быць адчынены яшчэ ў 2011 годзе, няма нават у плянах на 2014 год.

**08.04.2014** У Воршы ў межах кампаніі «Рада народных дэпутатаў» да актывістаў «Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі» зьвярнуліся жыхары дамоў №№ 3, 5, 7 па вуліцы Сьвярдлова з просьбай дапамагчы і сумеснымі намаганьнямі прымусіць гарадзкія ўлады выканаць узятыя на сябе забавязаньні, а менавіта – прывесьці ў парадак дваровыя тэрыторыі гэтых дамоў. Больш за 100 подпісаў было сабрана пад зваротам да першага намесьніка старшыні Віцебскага абласнога выканаўчага камітэту Ўладзімера Навацкага.

**21.04.2014** Жыхары Полацку пачалі збор подпісаў пад пэтыцыяй з просьбай не закрываць сярэднюю школу №13, разьмешчаную ў мікраараёне Ноўка. Адкрыты ліст у Полацкі райвыканкам склала маці адной са школьніц **Кацярына Папялкоўская**. Збор подпісаў ідзе на партале грамадзкіх ініцыятыў Change.org.

«Усе дзеці з раёну Ноўка, а таксама некаторыя з раёну Громы і з навакольных вёсак ходзяць у гэтую школу. Школа цалкам абсталяваная. Трохпавярховы будынак у добрым стане, 103 чалавекі навучаюцца. Бо мала дзяцей у клясе – гэта ня кепска. У 1-м клясе, напрыклад, 14 чалавек. Першы кляс адзін. Адпаведна шмат увагі надаецца дзецям, з такіх школ звычайна выходзяць больш эрудыяваныя дзеці. Мая дачка таксама ходзіць у 1-ы кляс у гэтай школе – недалёка ад месца жыхарства, выдатны стадыён за школай. Мы жывем у гэтым раёне, яшчэ мы, бацькі, вучыліся ў гэтай школе. Мы ня хочам вазіць сваіх маленькіх дзяцей у цэнтар гораду або на Аэрадром, дзе каля 5 першых клясаў, і ў класе па 23 чалавекі! Для нас важна, каб нашы дзеці хадзілі ў гэтую школу», – гаворыцца ў звароце да мясцовых уладаў.

**26.04.2014** У Віцебску прайшла акцыя, якая ў гэты дзень адбываецца ўжо шмат гадоў. Сёлета людзей ля крыжа на Ўсьпенскай горцы сабралася менш, чымся раней, – усяго зь дзясятак чалавек. Прагучалі прамовы актывістаў да 28-х угодкаў трагедыі на Чарнобыльскай АЭС, пасьля чаго ўдзельнікі акцыі спусьціліся да ракі. Там у воды Дзьвіны быў спушчаны традыцыйны вянок памяці…

**05.05.2014** У Віцебску адбылося першае паседжаньне сяброў і прыхільнікаў «Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі», якія ў межах кампаніі «Народнае самакіраваньне» будуць вырашаць праблему пабудовы паліклінічнага комплексу ў мікрараёне Білева. Пасьля паседжаньня яго ўдзельнікі выйшлі «ў поле». За адзін дзень сабрана больш за 200 подпісаў. Пробны выхад быў яшчэ 2 траўня, калі было сабрана 107 подпісаў.

**05.05.2014** Пастаянна дзеючы кансультацыйны орган зь ліку тых прадстаўнікоў дэмакратычнай грамадзкасьці, што балятаваліся ў мясцовыя органы ўлады на мінулых выбарах, ствараецца ў Воршы. Пра гэта паведаміў **Алесь Шутаў, сябра партыі БНФ** і **ўдзельнік кампаніі «Гавары праўду»**. «Рада народных прадстаўнікоў» – гэткую папярэднюю назву мае створаны орган.

«За кожнага з гэтых кандыдатаў прагаласавала тая ці іншая колькасьць выбаршчыкаў. Значыцца, гэтыя людзі могуць сказаць, што яны абапіраюцца на падтрымку тых людзей, якія за іх рэальна прагаласавалі. Некаторыя нашы кандыдаты нават паводле афіцыйных лічбаў набралі больш за 500 галасоў. Значыць, чалавек можа сказаць: я прадстаўляю думку пяцісот чалавек – і гэта праўда», – распавёў Алесь Шутаў.

Мяркуецца, што былыя альтэрнатыўныя кандыдаты, аб’яднаўшыся, змогуць выпрацоўваць рэкамэндацыі для гарадзкіх і раённых уладаў наконт вырашэньня тых ці іншых мясцовых праблем. Сярод такіх праблемаў – вырашэньне пытаньняў эканомікі, экалёгіі, культуры, сацыяльнай палітыкі і г.д. на мясцовым узроўні.

**09.05.2014** Сябры аргкамітэту па сьвяткаваньні 500-х угодкаў гістарычнай бітвы пад Воршай пабывалі на Крапівенскім полі, дзе 8 верасьня 1514 году войскі ВКЛ перамаглі ўтрая большае войска Маскоўскага княства. На поле Аршанскай перамогі прыехалі і мясцовыя актывісты, а таксама вядомы **бард Андрэй Мельнікаў**, аўтар песьні «У нядзельку параненьку», прысьвечанай слыннай гістарычнай падзеі, і гісторык **Юры Копцік**, адзін з заснавальнікаў бардаўскага фэсту «Аршанская бітва», правядзеньне якога ў апошнія гады зрывае раённая міліцыя.


Мікола Купава

Намесьнік старшыні аргкамітэту, аршанскі ўраджэнец, **мастак Мікола Купава** лічыць, што гэтая паездка — ня толькі даніна памяці палеглым ваярам: «Мы паглядзелі, як гэтае месца можна падрыхтаваць да сёлетніх 500-х угодкаў пераможнай бітвы. Вядома, у будучыні тут павінен быць помнік палкаводцу Канстанціну Астроскаму, які кіраваў войскам ВКЛ падчас Аршанскай бітвы. Вельмі кепска, што апошнімі гадамі ўлады імкнуцца сарваць такое цікавае мерапрыемства, як бардаўскі фэст, ініцыяваны Андрэем Мельнікавым і Юрыем Копцікам. Мы паспрабуем сёлета зрабіць пэўныя захады — у прыватнасьці, напісаць некалькі зваротаў, каб такіх прыкрых інцыдэнтаў, як разгон удзельнікаў, у юбілейны год ня здарылася».

Прысутныя запалілі сьвечкі перад мэмарыяльным каменем у гонар бітвы на ўзьбярэжжы рэчкі Крапіўны і каля падножжа Крыжа памяці, усталяванага як напамін пра палеглых. А пасьля ў Воршы прайшла сустрэча Міколы Купавы і Аляксандра Жучкова — менскіх чальцоў аргкамітэту па сьвяткаваньні 500-х угодкаў Аршанскай перамогі — зь мясцовымі грамадзкімі актывістамі. Паводле Аляксандра Жучкова, сьвяткаваньне гэтых угодкаў павінна прайсьці па ўсёй Беларусі. Прыкладам, у розных гарадох прапануецца стварыць турыстычныя групы ды правесьці вандроўкі, зьвязаныя з гэтай падзеяй, правесьці музычна-літаратурныя фэсты з удзелам рыцарскіх клюбаў ды рэканструктарскіх суполак у Менску, Воршы і Барысаве, арганізаваць шэраг мастацкіх выставаў і канцэртаў — ужо ня толькі ў Беларусі, але і ў Вільні, і ў Беластоку, і ў Варшаве.

**21.05.2014** У Віцебску напярэдадні 90-х угодкаў Васіля Быкава створаная ініцыятыўная група па зборы сродкаў на помнік пісьменьніку ў Віцебску. З прапановай усталяваць помнік выступілі шараговыя месьцічы. Ініцыятыўная група зьвяртаецца да жыхароў Віцебшчыны і ўсёй Беларусі, а таксама да грамадзян іншых краін з просьбай узяць удзел у гэтай дабрачыннай акцыі.

Ідэя выказвалася ўжо не аднойчы: з прапановай узьвесьці помнік сусьветна вядомаму пісьменьніку, ураджэнцу Віцебшчыны, выступала Віцебская абласная рада Таварыства беларускай мовы. Да мінулых юбілеяў Васіля Быкава выказваліся і іншыя прапановы: назваць імем Васіля Быкава вуліцы ў Менску, Горадні, Віцебску і Ўшачах, адкрыць мэмарыяльную шыльду на доме ў Менску, дзе жыў пісьменьнік, выдаць канпэрты з партрэтам Васіля Быкава, стварыць музэйную экспазыцыю, прысьвечаную пісьменьніку, у Нацыянальным гістарычным музэі, Віцебскім і Гарадзенскім абласных музэях. Аднак гэтыя прапановы дагэтуль не ўвасабляліся.


Глеб Лабадзенка

**31.05.2014** Больш за 60 чалавек прыйшлі ў Віцебску на першы занятак бясплатных курсаў беларускай мовы «Мова нанова». Вядоўцамі выступілі стваральнікі менскіх курсаў **Алеся Ліцьвіноўская** і **Глеб Лабадзенка**. Канцэпцыя заняткаў – неакадэмічнае вывучэньне беларускай мовы.

**31.05.2014** Віцебскі «лекар-праўдалюб» **Ігар Пастноў** лічыць, што кепскія бытавыя ўмовы ў гарадзкіх шпіталёх зьневажаюць людзей. Асабліва з улікам таго, што «доўгабуды» і зацягнутыя на дзесяцігодзьдзі рамонты фінансуюцца зь дзяржаўнага бюджэту, а па вялікім рахунку – за кошт падаткаў тых самых пацыентаў. Таму ён прапанаваў грамадзянам зьбіраць падобныя фотадоказы і рабіць іх здабыткам галоснасьці.

Толькі тады, калі грамадзкасьць будзе ведаць пра факты бядотнага стану мясцовай мэдыцыны, з гэтым можна будзе адкрыта змагацца, перакананы Ігар Пастноў. У сваім блогу ён піша: «На сёньня ў нашай краіне, мабыць, адзіны спосаб барацьбы – агалоска. Гэтага яны баяцца больш за ўсё на сьвеце, нават больш, чымся чорт ладану. Адна справа, калі пра штосьці гэткае кажуць на кухнях, у транспарце, чэргах. З гэтага яны толькі пасьмейваюцца. Зусім іншае – маштабны рэзананс».

Разумеючы, што ня кожны зь землякоў гатовы да публічнага выказваньня ўласнага абурэньня, Ігар Пастноў прапануе дасылаць фотафакты на ягоную электронную скрыню. Сам ён ужо не аднойчы выказваўся пра бядотны стан віцебскай мэдыцыны, пра парушэньне права на годнае жыцьцё ў адносінах да пацыентаў, якім даводзіцца лячыцца далёка не ў найлепшых умовах. Віцебскі «лекар-праўдалюб» шмат распавядае і пра мэдычныя «доўгабуды», на якія цягам дзесяцігодзьдзяў выдаткоўваюцца грошы, і пра чэргі ў паліклініках, і пра нізкія заробкі мэдыкаў…

**08.06.2014** Жыхарам Глыбокага нагадалі пра **палітвязьня Мікалая Статкевіча**. Плякат з патрабаваннем свабоды былому кандыдату ў прэзыдэнты Мікалаю Статкевічу, можна было пабачыць на аўтобусным прыпынку ў раёне МКК. Паводле словаў відавочцаў, правісеў ён там нядоўга, толькі некалькі гадзін.

**08.06.2014** Некалькі дзясяткаў жыхароў Віцебску падпісаліся пад калектыўным лістом у Савет Міністраў з просьбай паспрыяць зьмяненьню рашэньня Віцебскага гарвыканкаму №881 ад 10.07.2009 г., якое рэглямэнтуе правілы звароту да ўладаў з заяўкамі на вулічныя акцыі. Віцебчукі просяць таксама, каб Саўмін ініцыяваў зварот у Канстытуцыйны суд дзеля праверкі адпаведнасьці гэтага дакумэнту Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.


Хрыстафор Жаляпаў

Зварот ініцыяваў **каардынатар руху «За свабоду» па Віцебскай вобласьці Хрыстафор Жаляпаў**. Ён патлумачыў неабходнасьць гэткіх захадаў поўнай немагчымасьцю правесьці масавыя акцыі з ініцыятывы грамадзкіх актывістаў: «З часу прыняцьця рашэньня гарвыканкаму №881 актывістам не далі дазволу ні на адзін пікет, ні на адзін мітынг, ні на адзін сход. Прычым ня толькі ў Віцебску, але і ў Воршы, і ў Глыбокім, і ў іншых рэгіёнах. Бо апошнія рашэньні рэгіянальных выканкамаў перапісаныя на ўзор віцебскага: паўсюль патрабуюць, каб разам з заяўкай на акцыю ініцыятары прыкладалі дамовы на абслугоўваньне супрацоўнікамі міліцыі, ЖКГ, а таксама мэдыкамі. Гэтыя структуры ўхіляюцца ад заключэньня дамоваў любымі магчымымі шляхамі. Прыкладам, з гарадзкой паліклінікі нам пэрыядычна адказваюць, што за 2-3 тыдні да плянаванай акцыі ім вядома пра будучую ўспышку сэзонных захворваньняў, і якраз у гэты самы дзень. Дык што, маўляў, вольных работнікаў няма – і супрацоўнічаць з вамі мы ня будзем».

**17.06.2014** За два дні пэтыцыя на сайце www.change.org з просьбай зрабіць парк Фрунзэ і пойму Віцьбы ў Віцебску безалькагольнай зонай, якая будзе накіраваная старшыню Віцебскага аблвыканкаму Аляксандру Косінцу, сабрала больш за паўтысячы подпісаў.

«Просім прыняць меры па ліквідацыі гандлю і ўжываньня алькагольных напояў (у тым ліку піва) на тэрыторыі парку імя Фрунзэ (набярэжная Віцьбы). У сувязі з ужываньнем алькаголю на тэрыторыі парку рэгулярна назіраюцца непрыстойныя паводзіны грамадзян. Мы як бацькі ня можам дазволіць сабе ўвечары адпачыць зь дзецьмі ў гэтым парку… Апроч таго, на тэрыторыі парку (па-за зонамі расьпіваньня напояў) адбываюцца парушэньні п.1 арт. 17.3 КаАП – зьяўленьне ў грамадзкім месцы ў п’яным выглядзе, які абражае чалавечую годнасьць і маральнасьць. З гэтай нагоды мы зьвярталіся ва УУС, аднак умацаваньне колькасьці супрацоўнікаў, якія забясьпечваюць бясьпеку, не заўсёды дапамагае», – зьвяртаюцца ў пэтыцыі да старшыні Віцебскага аблвыканкаму яе складальнікі.

**17.06.2014** Чатыры дзясяткі жыхароў Глыбокага падпісаліся пад калектыўным лістом у Савет Міністраў, дзе выкладзеная просьба аб ініцыяваньні звароту ў Канстытуцыйны суд з мэтай ацэнкі рашэньня Глыбоцкага райвыканкаму №167 «Аб вызначэньні месцаў для правядзеньня мітынгаў і пікетаваньняў» на адпаведнасьць Асноўнаму закону.

«Можна было б сабраць болей подпісаў, але для нас было галоўным ня гэта. Мы хацелі накіраваць ліст у Саўмін, каб атрымаць рэакцыю на тое, што ў нашым Глыбокім адбываецца. Пасьля прыняцьця рашэньня райвыканкаму №167 ад

13.02.2012 г. у цяперашнім ягоным выглядзе нам не дазволілі ніводнай масавай акцыі. Хоць мы зьвярталіся з заяўкамі ў райвыканкам з кастрычніка мінулага году 5 ці 6 разоў», – кажа глыбоцкі актывіст **Зьміцер Лупач**.

Першую, кастрычніцкую, адмову актывісты атрымалі таму, што ў рашэньне райвыканкаму ўносілі зьмены: былі зьмененыя месцы, вызначаныя мясцовымі ўладамі для правядзеньня масавых акцыяў. Але астатнія ўмовы засталіся ранейшымі, і менавіта праз іх масавую акцыю ў Глыбокім правесьці стала немагчыма, працягвае спадар Лупач:

«У рашэньні выканкаму №167 ёсьць пункт, згодна зь якім трэба разам з заяўкай падаваць копіі дамоваў на абслугоўваньне акцыі службамі ЖКГ, міліцыяй і палікліінікай. Але без дазволу ўладаў ніхто не бярэцца заключаць такія дамовы. Атрымліваецца зачараванае кола, зь якога няма выйсьця. Таму ў лісьце ў Саўмін мы просім, каб адтуль ініцыявалі зварот і ў Канстытуцыйны суд дзеля праверкі адпаведнасьці рашэньня нашага выканкаму Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь – галоўнаму дзяржаўнаму дакумэнту, дзе замацаваныя нашы правы».

**24.06.2014** Больш за 286 мільёнаў рублёў сабрана ў Віцебскай вобласьці падчас месячніку Чырвонага Крыжа, які праходзіў у траўні пад дэвізам «Год актыўнага валянтэрства». Актыўнымі ўдзельнікамі мерапрыемстваў Беларускага таварыства Чырвонага Крыжа (БТЧК) сталі 2 тыс. 105 валянтэраў, зь якіх 734 чалавекі займаліся гуманітарнай дзейнасьцю ўпершыню.

Падчас месячніку ў вобласьці рэалізоўваліся розныя праекты гуманітарнай скіраванасьці. У раёнах прайшло 212 дабрачынных мерапрыемстваў. Так, у Віцебску валянтэрамі абласной арганізацыі БТЧК праведзеная акцыя «Мы – ёсьць» для аказаньня дапамогі дзецям, якія знаходзяцца ў аддзяленьні сацыяльнай рэабілітацыі Віцебскага абласнога клінічнага цэнтру псыхіятрыі і наркалёгіі. А ініцыятыўная група «Ад сэрца да сэрца» правяла «Акцыю дабра": праз SMS-паведамленьні вёўся пералік грошай на набыцьцё школьнага аўтобусу для дзіцячага дому Віцебску.

Апроч таго, у рэгіёне пабывала дэлегацыя Нямецкага Чырвонага Крыжа з гораду Зіке, якая даставіла груз гуманітарнай дапамогі для лячэбных установаў вобласьці на суму больш за 333 мільёны рублёў (шматфункцыянальныя шпітальныя ложкі, інвалідныя вазкі, хадункі, кіі). Госьці наведалі шпіталь сястрынскай парафіі ў Браслаўскім раёне.

# Супрацьдзеяньні рэалізацыі культурных правоў


Таццяна Вароніна

**13.02.2014** У Віцебскай абласной бібліятэцы імя Леніна адмовіліся ад падпіскі на «Нашу Ніву», «Народную волю» і «БелГазету» на 2014 год. Бібліятэкаркі кажуць, што гэта загад аблвыканкаму – абласнога ўпраўленьня ідэалягічнай працы, культуры і па справах моладзі. Прынамсі, так яны тлумачаць сытуацыю незадаволеным наведнікам, якія пытаюцца, куды падзеліся газэты.

**18.03.2014** Аршанскія краязнаўцы накіравалі да мітрапаліта калектыўны ліст. Яны прасілі, каб ён паспрыяў справе захаваньня помніку архітэктуры 18 стагодзьдзя, былога будынку базыльянскага кляштара. Атрымалі адказ і ад яго самога, і ад «адказных за адраджэньне Сьвята-Пакроўскага манастыра ў Воршы» ігуменьні Анфісы (Любчак) і манахіні Даніілы (Цяцьковай).

«Адказныя» ігуменьня Анфіса і манахіня Данііла з талачынскага Сьвята-Покроўскага манастыра, за якім «замацаваны» аршанскі гістарычны помнік, пішуць, што прыбралі сьмецьце, абгарадзілі будынак плотам, забілі дошкамі вокны і дзьверы (кожны можа пераканацца, што далёка ня ўсе) і частку будынку накрылі дахам (ня больш за адну чацьвёртую частку). А яшчэ пабудавалі побач драўляную царкву. Якое гэта мае значэньне для захаванасьці помніку архітэктуры – не зразумела, гаворыць **Таццяна Вароніна**, былая музэйная супрацоўніца і адна з аўтараў ліста:

«Яшчэ было напісана, што замоўлены праект рэстаўрацыі будынку, і што праектная дакумэнтацыя «ў стане завяршэньня». Мы гэта чуем ужо год! А хацелася б прыняць удзел у грамадзкім абмеркаваньні праекту. І яшчэ даведацца пра лёс грошай, ахвяраваных на адбудову помніку архітэктуры. Як вядома, грошы на дабрачынны рахунак пералічвалі і наш зямляк, мастак Мікола Купава, і іншыя людзі. Многія імкнуліся набыць нешта ў царкоўнай краме ва ўнівэрмагу, бо было сказана, што сродкі адтуль таксама ідуць на справу рэстаўрацыі. Толькі так і не вядома, колькі сабрана тых сродкаў! Як можна спадзявацца на новыя ахвяраваньні, такія патрэбныя ў гэтай справе, калі расход грошай застаецца таямніцай? Грамадзкасьць мае права ведаць, куды пайшлі ахвяраваныя сродкі!»

**17.04.2014 Актывіст партыі БНФ Кастусь Смолікаў** напісаў у аблвыканкам электронны зварот: прапанаваў, каб на інтэрнэт-сайце аблвыканкаму была беларускамоўная вэрсія. Адказ ад ідэалягічнага аддзелу быў кароткі: сайт быў і будзе толькі на расейскай мове. Бо гэта не супярэчыць заканадаўству. А інтарэсы грамадзян ніхто ўлічваць не зьбіраецца.

Паводле Кастуся Смолікава, грамадзяне маюць права на тое, каб карыстацца той


Кастусь Смолікаў

мовай, якая ім бліжэй, а таксама маюць права на тое, каб для гэтага былі створаныя адпаведныя ўмовы: «Сайт Віцебскага аблвыканкаму – агульнадаступны інтэрнэт-рэсурс. Ён створаны так, каб грамадзяне маглі скарыстацца пэўнымі тэхнічнымі магчымасьцямі, прыкладам, маглі накіраваць уладам электронны зварот. Дык чаму б не зрабіць беларускамоўную вэрсію сайту? У нас шмат людзей, якія ў дастатковай ступені валодаюць роднай мовай, і нямала тых, хто імкнецца стварыць вакол сябе беларускамоўны асяродак. Дык чаму б не дапамагчы ў гэтым? Тым болей, што беларуская і расейская мова юрыдычна маюць у нашай дзяржаве роўны статус. Таму я лічу дыскрымінацыйным падыход, які мне патлумачылі ў лісьце з аблвыканкаму».

У гэтым лісьце, падпісаным намесьнікам начальніка галоўнага ўпраўленьня ідэалягічнай працы, культуры і па справах моладзі П. У. Гнуценкам, гаворыцца: «Згодна з падпунктам 1.3 пункту 1 Указу Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 1 лютага 2010 году №60 «Аб мерах удасканаленьня нацыянальнага сэгмэнту сеткі інтэрнэт» сайты дзяржаўных органаў і арганізацыяў фармуюцца на рускай і (або) беларускай мовах, а пры неабходнасьці – на адной ці некалькіх замежных мовах. Такім чынам, выкарыстаньне рускай мовы… не супярэчыць дзеючаму заканадаўству».

Сайт Віцебскага аблвыканкаму мае толькі 2 вэрсіі – расейскую і ангельскую, прычым на старонцы па-ангельску працуюць ня ўсе спасылкі.

**04.06.2014** У Віцебску на месцы былога бэрнардынскага кляштару працягваецца будаўніцтва адміністрацыйна-гандлёвага цэнтру. Будынак, што будуецца, зьяўляецца прыбудовай да дому №35 па вуліцы Леніна, які адносіцца да помнікаў архітэктуры канца XIX – пачатку XX стагодзьдзя. Нягледзячы на гэта, разам з новай прыбудовай абносяць бэтонным плотам і частку гістарычнага будынку, перакрываючы свабодны доступ да помніку архітэктуры, што зьяўляецца парушэньнем права на доступ да культурных каштоўнасьцяў.

Дом №35 па вуліцы Леніна належаў адной з найбагацейшых і найуплывовейшых жыхарак дарэвалюцыйнага Віцебску, купчысе 1-й гільдыі Ганьне Гурэвіч. У гэтым будынку разьмяшчаліся розныя арганізацыі, у ліку якіх была жаночая сямікласная гімназія. З 1906 году яе гаспадыняй стала былая выпускніца віцебскай Марыінскай гімназіі Кацярына Чарнова. Гэта была адна з найстарэйшых навучальных установ гораду, гісторыя якога сягае ў 1860-я гады. У двары таксама засталося мноства напамінаў пра мінуўшчыну.

**24.06.2014** У Полацку вандалы раскрышылі надпіс на помніку ў гонар літары «Ў».

На гэтым унікальным культурным аб’екце, разьмешчаным у самым цэнтры гораду, на праспэкце Францішка Скарыны, адлітыя ў мэтале радкі Рыгора Барадуліна:
Ад ЕЎфрасінні, ад Скарыны,
Ад Полацка пачаўся свет.

Пасьля сьмерці народнага паэта яны пачалі ўспрымацца як першы своеасаблівы помнік выдатнаму майстру беларускага слова. Цяпер ад барадулінскіх радкоў ацалелі толькі асобныя літары.

**26.06.2014** Падчас будаўніцтва станцыі абезьзялезваньня каля Сялюцкага псыханэўралягічнага дому-інтэрнату для састарэлых і інвалідаў быў часткова раскапаны пагорак, на якім знаходзіцца гарадзішча V стагодзьдзя да н.э. — V стагодзьдзя н.э. Гарадзішча ёсьць культурна-гістарычнай каштоўнасьцю Беларусі 3-й катэгорыі.

На пагорку, разьмешчаным на правым беразе ракі Лучоса каля вёсак Шапуры і Сялюты Віцебскага раёну, гарадзішча знайшлі ў 1956 годзе. Побач, на заходнім схіле пагорку, знаходзіцца датаванае I тысячагодзьдзем да н.э. селішча, якое таксама аб’яўленае культурна-гістарычнай каштоўнасьцю Беларусі 3-й катэгорыі.

У выніку земляных работ значную частку пагорку раскапалі, другая яго частка засыпаная адваламі вынятага грунту. Пры гэтым былі ўскрытыя пахаваньні, якія знаходзіліся тут, а косьці ў беспарадку параскіданыя па навакольнай тэрыторыі. Пры беглым аглядзе ўдалося разгледзець тры цэлыя чалавечыя чарапы, а таксама фрагмэнты яшчэ некалькіх, сьцегнавыя і галёначныя косьці, рэбры і фрагмэнты тазу. Таксама чалавечыя парэшткі бачныя на зрэзе пагорку.

Гарадзішча і селішча каля вёскі Шапуры ўнесеныя ў Праграму захаваньня гісторыка-культурнай спадчыны Віцебскага раёну на 2012—2015 гады, прынятую Віцебскім райсаветам 7 чэрвеня 2012 году. Вясной, паводле слоў мясцовых жыхароў, тут была ўсталяваная ахоўная дошка, што, зрэшты, не перашкодзіла разбурыць археалягічны помнік.

## Пагрозы бясьпецы асяродзьдзя пражываньня

**25.08.2013** Жыхары Барані патрабуюць грамадзкіх слуханьняў наконт новай ЦЭЦ. Яны зьвярнуліся ў адміністрацыю Аляксандра Лукашэнкі і мясцовы гарвыканкам з калектыўнымі лістамі, дзе выклалі свае прэтэнзіі. Адказ з выканкаму ўжо атрыманы, але ён несуцяшальны. У лісьце за подпісам старшыні Баранскага гарвыканкаму Васіля Русакова сказана толькі пра тое, што будоўля ЦЭЦ на мясцовых відах паліва прадугледжаная праграмай разьвіцьця энэргетычнай сыстэмы ў Беларусі, прынятай у 2007 годзе, і што «ўзровень забруджваньня выкідамі ў атмасфэру і сьцёкамі адпавядае нормам».

Але аб'ектыўныя падрабязнасьці пра тое, наколькі шкодны будзе ўплыў новай ЦЭЦ, жыхарам гораду не вядомыя. Таму яны і прасілі старшыню гарвыканкаму паспрыяць, каб публічнай стала інфармацыя пра тое, наколькі шкоднымі будуць выкіды ад спальваньня тарфяной крошкі, а таксама прадставіць высновы экалягічнай экспэртызы. Гэтыя просьбы былі праігнараваныя. Аўтараў калектыўнага ліста папросту паставілі перад фактам: будоўля ЦЭЦ завяршаецца ўжо сёлета.

Асабліва занепакоеныя будоўляй новай ЦЭЦ жыхары Зарэчнай вуліцы. Тут і шматпавярховікі, і прыватны сэктар — а літаральна праз дарогу ўзводзіцца белаблакітны прамысловы будынак. Паводле плянаў, новая ЦЭЦ будзе працаваць на торфе і драўніне. Плянуецца штогод спальваць 35–37 тысяч тон тарфяной крошкі, якую будуць вазіць за 45 кілямэтраў у Аршанскі раён з суседняга — Талачынскага.

«Маршрут, выбраны кіраўніцтвам будоўлі ЦЭЦ, пралягае праз цэнтар гораду і жылы квартал, хоць ёсьць магчымасьць вазіць паліва ў аб'езд, па тэрыторыі прадпрыемства «Тэхніка сувязі», — пішуць бараньцы ў лісьце, накіраваным у адміністрацыю Аляксандра Лукашэнкі. Яны просяць, каб маршрут падвозу паліва на аб'ект быў зьменены. А найперш — каб былі арганізаваныя грамадзкія слуханьні. Бо жыхароў Барані ўсур'ёз турбуе і ўтылізацыя адкідаў, і тое, ці застанецца чыстым паветра ў навакольлі, бо ў адным з бліжэйшых двароў — дзіцячы садок.

Дарэчы, адна ЦЭЦ у Барані ўжо ёсьць — газавая, з высокімі бел-чырвона-белымі комінамі. Але жыхарам патлумачылі, што яе магутнасьці перавышаюць патрэбы спажыўцоў: газавую ЦЭЦ будавалі з разьлікам на вялікае прадпрыемства, фірму «Лёс», якое цяпер ператварылася ў маленькі заводзік «Тэхніка сувязі».

Аднак старую ЦЭЦ адключаць ня будуць, яе проста перавядуць на эканамічны рэжым працы. Бо спыніць яе, а потым у выпадку неабходнасьці зноў запусьціць будзе каштаваць шмат грошай. Тут жа, побач са старой ЦЭЦ, і ўзводзяць новую, на так званых «мясцовых відах паліва».

Жыхары Барані хацелі б таксама пазнаёміцца з падлікамі эканамістаў, наколькі рэнтабэльны будзе новы энэргетычны аб'ект. З улікам сродкаў на амартызацыю абсталяваньня старой ЦЭЦ, коштам падвозу паліва з суседняга раёну і гэтак далей.

**29.10.2013** Полацкі райвыканкам 29 кастрычніка правёў грамадзкія слуханьні па пытаньні зьнішчэньня дрэваў для будаўніцтва храма. Царква РПЦ будзе пабудаваная на тэрыторыі чыгуначнага шпіталя на ўскраіне Полацку. Для гэтага будзе сьпілавана 17 бяроз і прыгожая лістоўніца. Голас грамадзян, якія прапаноўвалі


Ян Дзяржаўцаў

захаваць дрэвы, застаўся не пачуты.

Чарговыя грамадзкія слуханьня жыхароў Полацку, як заўсёды, праходзілі ў вялікай залі Полацкага райвыканкаму. Сход быў прызначаны на 17 гадзін 30 хвілін. Акрамя чальцоў камісіі ў залі было зарэгістравана 47 жыхароў Полацкага раёну. Большасьць людзей, якія прыйшлі на грамадзкія слуханьня, пры рэгістрацыі адразу галасавалі «За», нават не паслухаўшы абмеркаваньня праблемы. У выніку галасаваньня – 43 галасы аддадзеныя за выдаленьне расьлінных аб'ектаў, чацьвёра ўдзельнікаў адмовіліся ад галасаваньня. Большасьць тых, хто прыйшоў на сход, былі работнікамі чыгуначнага шпіталя, якіх арганізавана прывезьлі ў райвыканкам.

Падчас абмеркаваньня неабходнасьці сьпілоўкі дрэў высьветлілася, што многія з прысутных не разумелі, за што яны галасуюць. Шмат каму ўяўлялася, што ідзе абмеркаваньне пытаньня «Будаваць ці не царкву?».

Як сказала загадчыца шпіталя, пытаньне пра будаўніцтва было вырашанае яшчэ восем гадоў таму і ўладыка Феадосій блаславіў будаўніцтва. Але ўвесь гэты час не маглі знайсьці грошай на будоўлю. І вось цяпер знайшлі фундатара, расейскі Газпром пагадзіўся прафінансаваць будаўніцтва праваслаўнай царквы.

Некалькі грамадзянаў спрабавалі прапанаваць разгледзець магчымасьць будаўніцтва царквы безь сьпілоўкі дрэў, але да іх заклікаў не прыслухаліся. Тым больш, што ўжо да сходу большасьць прагаласавала «За зьнішчэньне аб'ектаў зялёнага сьвету». Пратакол сходу жыхароў ня вёўся. Як атрымаць копію пратаколу сходу, удзельнікам не сказалі. Намесьнік старшыні райвыканкаму абышоўся агульнай фразай, – «Пратакол сходу выдаецца ў адпаведнасьці з заканадаўствам».

Царкву мяркуецца пабудаваць на тэрыторыі шпітальнага комплексу, атачонай па пэрымэтры сеткаватым плотам. Большую частку гэтай тэрыторыі займае прыгожы парк з мноствам вялікіх дрэў і алеямі, дзіцячай пляцоўкай і лаўкамі. А на месцы будучага будаўніцтва цяпер стаіць праваслаўны зялезны крыж. Пабудаваць царкву можна было б і за тэрыторыяй шпіталя. Літаральна за сто мэтраў за плотам знаходзіцца пустка, зарослая кустоўем і бяз дрэў каштоўных парод. Там ужо ідзе адсыпка пад'язной дарогі для будоўлі.

**31.10.2013** Ля трасы, што вядзе зь Віцебску да райцэнтру Гарадок, ідзе масавая высечка елак. Віцебскі **актывіст КХП-БНФ Ян Дзяржаўцаў** абураны гэтым фактам. «Прашу адказаць мне, на якой падставе праводзіцца высечка елак лесаахоўнай паласы ўздоўж дарогі Віцебск-Гарадок, пачынаючы з Баталей і амаль да Гарадка», – напісаў Ян Дзяржаўцаў у абласны камітэт рэсурсаў і аховы навакольнага асяродзьдзя. Актывіст таксама просіць высьветліць, хто канкрэтна аддаў такі

«бязглузды загад».

«Елкі прыкладна 30-гадовага ўзросту, – камэнтуе Ян Дзяржаўцаў, – былі вырашчаныя ў лесагадоўлі і высаджаныя, каб абараняць дарогу ад сьнежных гурбаў. На гэта былі выдаткаваныя вялікія сродкі. Я абураны безгаспадарчасьцю і і марнаваньнем дзяржаўных сродкаў з боку людзей, якія аддалі бязглузды загад па зьнішчэньні сьнегазатрымальнай паласы зёлак».

**31.10.2013** Міжведамасная працоўная група Віцебскага абласнога камітэту прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяродзьдзя зафіксавала шматлікія парушэньні экалягічнага заканадаўства на тэрыторыі Гарадоцкага раёну. Кіраўнікам прадпрыемстваў ААТ «Гарадоцкі райаграпрамзаб», ААТ «Гарадоцкі льнозавод», КУП «Гарадоцкі ПКіЦС» накіраваныя прадпісаньні аб устараненьні парушэньняў.

Падчас праверкі выяўлена, што ААТ «Гарадоцкі райаграпрамзаб» на ўнутрыгаспадарчых кар'ерах Верамеяўка і Вокшава не ўстаноўленыя інфармацыйныя знакі. Парамэтры унутрыгаспадарчых кар'ераў не прыведзеныя ў адпаведнасьць з патрабаваньнямі заканадаўства. У кар'еры Вокшава маюцца месцы несанкцыянаванага разьмяшчэньня адходаў ЦКА. Не праведзеная рэкультывацыя парушаных земляў унутрыгаспадарчых кар'ераў на плошчы 1 га.

Тэрыторыі машынных двароў ААТ «Гарадоцкі райаграпрамзаб» не прыведзеныя ў належны парадак. Прылеглая тэрыторыя зарасла пустазельнай і драўнянахмызьняковай расьліннасьцю, баршчэўнікам Сасноўскага. На пляцоўцы для часовага захоўваньня сабралася вялікая колькасьць зношаных апонаў, таксама на тэрыторыі двара маецца месца разьмяшчэньня мэталалому, невыкарыстоўваемай тэхнікі.

На КУП «Гарадоцкі ПКіЦС» не праведзеныя работы па ачыстцы прылеглых тэрыторыяў і пад'язных шляхоў на міні-палігоне Вархі. Адсутнічаюць інфармацыйныя паказальнікі на міні-палігоне Далгапольле, Вархі. Па выніках праверкі за дапушчаныя парушэньні заканадаўства аб абыходжаньні з адходамі да адміністрацыйнай адказнасьці прыцягнутае КУП «Гарадоцкае ПКіЦС» паводле ч.2 ст.15.63 Кодэксу Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэньнях. Штраф паводле гэтага артыкулу для юрыдычнай асобы можа быць да тысячы базавых велічынь – 130 мільёнаў рублёў.

**23.11.2013** Як адзначыў начальнік Віцебскай гарадзкой інспэкцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяродзьдзя Валер Фандо, больш за ўсё парушэньняў прыродаахоўнага заканадаўства зьдзяйсьняецца восеньню і раньняй вясной. Толькі па двух артыкулах – 15.63 і 15.30 – Адміністрацыйнага кодэксу гарадзкія эколягі цягам 2013 году выявілі 474 парушэньні.

Выдадзена 3196 прадпісаньняў на ліквідацыю хібаў. Ільвіная доля парушэньняў прыпадае на тэрыторыю Першамайскага раёну, бо да гораду далучыліся некаторыя населеныя пункты, якія раней ўваходзілі ў склад Віцебскага раёну.

Увосень жыхары, часьцей за ўсё прыватнага сэктару, пазбаўляюцца ад назапашаных за лета адходаў на гародах, сукоў і іншага сьмецьця праз вываз усяго гэтага ў найбліжэйшы яр або на пустку. Хоць з усімі домаўладальнікамі, а таксама садоўніцкімі таварыствамі і гаражнымі каапэратывамі, якіх налічваецца каля 180,

заключаныя дамовы са спэцаўтабазай на вываз сьмецьця. У гэтым пляне праведзеная велізарная праца па інвэнтарызацыі суб'ектаў гаспадараньня і па ўзгадненьні з экалягічнай службай схем абыходжаньня з адходамі.

Разам зь цьвёрдымі бытавымі адходамі прывозяць на гарадзкі сьметнік друг-сыравіну: мэталалом, апоны, кардон, а то і люмінэсцэнтныя лямпы, якія адносяцца да першага класа небясьпекі. На жаль, колькасьць выпадкаў вывазу другаснай сыравіны на сьметнік у параўнаньні зь мінулым годам узрасла і склала 47.

Так, па пяць адсоткаў ад агульнай колькасьці адходаў, прывезеных на транспарце прадпрыемствам «Эвістар» на сьметнік, складалі люмінесцэнтныя лямпы, мэталалом, кардон. Безумоўна, такі груз адпраўляюць на дасартаваньне, а за няпамятлівасьць выпісваецца штраф, як таго патрабуе артыкул 15.63 часткі 2 Адміністрацыйнага кодэксу.

У лік парушальнікаў трапіла і прыватнае прадпрыемства «Экааргбуд» за спробу вывезьці металалом (15 адсоткаў ад усяго аб'ёму адходаў) на сьметнік. Прадпрыемства «Віцязь» разам зь іншымі адходамі накіроўвала на пахаваньне на гарадзкі сьметнік люмінэсцэнтныя лямпы, якія павінна здаваць на зьнішчэньне ў ЗАТ «Экалёгія -121? (вуліца Ленінградзкая, 193а).

**19.12.2013** У парушэньне слоў кіраўніка Віцебскага аблвыканкаму Аляксандра Косінца, што ніводнае дрэва ня будзе сьпілаванае, полацкія будаўнікі цішком сьпілавалі дрэвы. Будаўнікі гандлёвага цэнтру такім чынам пашырылі пляцоўку для аўтамабільных стаянак. Ані райвыканкам, ані ЖКГ Полацку не былі пастаўленыя ў вядомасьць наконт зьнішчэньня аб'ектаў зялёнага сьвету.

Будаўніцтва крамы па вуліцы Кастрычніцкай, у раёне новага мікрараёна, вядзе ТАА « ПКФ Алегра». Аб'ект пачалі будаваць без грамадзкіх абмеркаваньняў. Ужо падчас будаўніцтва, 10 верасьня, райвыканкам паспрабаваў правесьці грамадзкія слуханьня «па пытаньні меркаванага выдаленьня аб'ектаў расьліннага сьвету». Але пасьля сустрэчы грамадзкіх актывістаў са старшынём аблвыканкаму Аляксандрам Косінцам, які запэўніў людзей, што «ніводнае дрэва сьпілаванае ня будзе», гарадзкія ўлады слуханьня адмянілі.

Палачане накіравалі дзьве скаргі наконт зьнішчэньня дрэў (у пракуратуру і камітэт дзяржкантролю), якія былі перапраўленыя ў полацкі райвыканкам – адказу на іх не было. Але на 11 лістапада ў будынку райвыканкаму быў прызначаны пачатак грамадзкага абмеркаваньня праекту гандлёвага цэнтру, які ўжо будаваўся па адрасе вуліца Кастрычніцкая, 84. У гэты дзень абмяркоўваць аказалася няма чаго, праект яшчэ ня быў выстаўлены. Пра што былі зробленыя запісы грамадзянамі ў кнігу заўваг і прапаноў райвыканкаму.

Пазьней праект усё ж быў выстаўлены, але тэрміны абмеркаваньня былі парушаныя. Пасьля азнаямленьня з праектам у сьнежні, палачане адправілі ў райвыканкам прапановы па зьмене праекту. Пад прапановай падпісалася 122 чалавекі. Грамадзяне прапанавалі зьмены: захаваць прыгожыя бярозы і перанесьці паркоўкі для аўтамабіляў на некалькі мэтраў у бок, балазе месца там дастаткова.

І вось 19 сьнежня невядомыя людзі (відавочна, работнікі ТАА «ПКФ Алегра») без апавяшчэньня службаў райвыканкаму самавольна сьпілавалі некалькі вялікіх

бяроз, што расьлі побач з будаваным аб'ектам. Цікава, што кампанія «Алегра» калісьці заявіла пра паляпшэньне экалягічнага стану мікрараёну як пра адну зь пераваг будаванага аб'екту. Дзеяньне кампаніі выклікала вялікае абурэньне палачан.

Кампанія ТАА «ПКФ Алегра», для якой слова губэрнатара нічога ня значыць, – гэта «прамысловая хімічная кампанія», якая займаецца аптовым продажам аўтамабільных, прамысловых алеяў і спэцыяльных вадкасьцяў, а таксама гандлюе аўтакасмэтыкай і аўтааксэсуарамі.

**25.12.2013** Сінія елкі зрэзаныя пад корань у самым цэнтры Воршы. Аршанцы з жахам заўважылі зьмены ў абліччы Дзіцячай школы мастацтваў №1 на вуліцы Леніна. Вялікія дрэвы, якія не адзін год складалі, па сутнасьці, неад'емную частку «музыкалкі», сьпілаваныя пад корань.

Зьнішчэньне зялёных насаджэньняў па ўсёй Воршы набывае ўсё большыя маштабы. Ялінкі, якія радавалі вочы шмат гадоў, цяпер аказаліся нікому не патрэбнымі. Адгаворкі пра тое, што елкі зацямнілі сонца для юных музыкаў, мастакоў і іхных настаўнікаў, не праходзяць – шмат вокнаў на фасаднай частцы будынку школы зробленыя не на габінэты, таму ялінкі засланялі ў асноўным гардэроб, хол і сходы. Раней сінія елкі зьнішчылі ў Воршы каля будаўнічага трэсту №18 па вуліцы Талстога.

**26.12.2013** Цяплічны камбінат «Віцебскэнэрга» робіць незаконнае захаваньне мінэральнай ваты. Пра гэта паведаміў актывіст **Аляксей Іваноў**: «У нас у пасёлку Арэхаўск Аршанскага раёну Віцебскай вобласьці цяплічны камбінат РУП «Віцебскэнэрга» зьдзяйсьняе незаконнае пахаваньне мінэральнай ваты пасьля выкарыстаньня яе ў вытворчасьці. Пахавалі ўжо некалькі вагонаў».

«Звароты ў КДК і Міністэрства прыродных рэсурсаў аказаліся бескарысныя, яны такую карэспандэнцыю і не разглядаюць, хоць мінэральная вата падлягае захаваньню ў адмыслова адведзеных для гэтага месцах або другаснай перапрацоўцы. Яна не раскладаецца на працягу сотняў гадоў», – паведаміў Аляксей Іваноў.

**08.03.2014** Самае брудная паветра ў краіне — у Наваполацку. Белстат склаў сьпіс гарадоў з самымі вялікімі аб'ёмамі выкідаў забруджвальных рэчываў у паветра ад стацыянарных крыніц. Рэйтынг традыцыйна ўзначаліў Наваполацак (54 тысячы). У чацьвёрку лідэраў краіны трапіў яшчэ адзін горад Віцебскай вобласьці – Новалукомаль (9000 тон).

## Звароты грамадзян у Камітэт па правох чалавека ААН


Сяргей Каваленка

**10.11.2013** Камітэт ААН па правох чалавека прыняў чарговае рашэньне наконт скаргі віцебскага **актывіста КХП-БНФ Сяргея Каваленкі**. Гэтым разам рашэньне станоўчае: камітэт прызнаў, што Рэспубліка Беларусь парушыла правы актывіста, і цяпер цягам 180 дзён дзяржаўныя чыноўнікі абавязаныя аднавіць яго правы, якія былі парушаныя, выплаціць адпаведную кампэнсацыю ды зрабіць захады, каб гэткіх парушэньняў правоў грамадзян з боку дзяржавы не было ў будучыні.

Камітэт прызнаў, што ўлады Беларусі парушылі частку 2 артыкулу 19 (права на выказваньне свайго меркаваньня) і артыкул 21 (права на мірныя сходы) міжнароднага Пакту аб грамадзянскіх і палітычных правох, які Рэспубліка Беларусь падпісала і абавязалася выконваць. Гэтакага прызнаньня парушэньня яго правоў з боку інстытуту ААН Сяргей Каваленка мусіў чакаць больш за 5 гадоў (скарга ў КПЧ была пададзеная ім ў траўні 2008 году), а самі падзеі, якія сталі прычынай скаргі, адбыліся на Дзяды 2007 году.

Тады Сяргей Каваленка браў удзел у шэрагу акцыяў дэмакратычных актывістаў. Адна з такіх акцыяў – грамадзянская паніхіда ў памяць ахвяр сталінскіх рэпрэсіяў, ладзілася на месцы масавых расстрэлаў ў 1930-1940-я гады ля вёскі Паляі. У паніхідзе бралі ўдзел каля трох дзясяткаў чалавек.

Удзельнікі цырымоніі ў памяць невінаватых ахвяр камунізму плянавалі ўсталяваць крыж у лесе ля Паляёў, а пасьля наведаць могілкі ў ваколіцах вёсак Копці і Вароны. Але да могілак так і не даехалі: у справу ўмяшаўся маёр міліцыі Ліленка, які перапыніў паніхіду і абвясьціў, што ўсе прысутныя затрымліваюцца ў сувязі з правядзеньнем імі несанкцыянаванага пікетаваньня.

На аўтобусе, нанятым арганізатарамі мерапрыемства, усіх адвезьлі ў аддзел унутраных спраў Віцебскага раёну, былі складзеныя пратаколы, а на наступны дзень адбыўся суд, які пакараў штрафамі пяцярых удзельнікаў мерапрыемства, у тым ліку Сяргея Каваленку: ён быў пакараны штрафам у памеры 20 базавых велічынь – на той час гэта складала 620 тысяч рублёў (каля 200 эўра паводле тагачаснага курсу).

Сяргей Каваленка абскардзіў рашэньне суду Віцебскага раёну. Але ані Віцебскі абласны, ані Вярхоўны суд не пачулі ягоных аргумэнтаў, што ён ня быў сярод арганізатараў, а толькі ўдзельнікам мерапрыемства, што само мерапрыемства – грамадзянская паніхіда – гэта не пікетаваньне, а хрысьціянскі рытуал, што ўдзельнікі паніхіды ня ладзілі якой-кольвек палітычнай, сацыяльнай або эканамічнай імпрэ-

зы, таму зьвяртацца па дазвол на яе правядзеньне да ўладаў не было неабходнасьці. На думку беларускіх судзьдзяў, правы Сяргея Каваленкі парушаныя не былі…

Але цяпер Камітэт ААН па правох чалавека прыняў іншае рашэньне. У сваёй пазыцыі па справе, апублікаванай надоечы, камітэт адзначае, што права на выказваньне свайго меркаваньня і права на мірныя сходы, сапраўды, могуць быць абмежаваныя ў шэрагу выпадкаў: калі гэткія абмежаваньні прадугледжаныя законам і неабходныя ў дэмакратычным грамадзтве дзеля аховы нацыянальнай бясьпекі ці грамадзкага ладу, здароўя ці маральных звычаяў насельніцтва, аховы і правоў іншых людзей.

У выпадку зь Сяргеем Каваленкам дзяржава не змагла даказаць, што абмежаваньні яго правоў, хаця яны і прадугледжаныя законам, былі прымененыя дзеля дасягненьня названых мэтаў. Таму, згодна зь меркаваньнем экспэртаў камітэту, яго права на выказваньне свайго меркаваньня і права на мірныя сходы, былі абмежаваныя беспадстаўна.

Раней Камітэтам ААН па правох чалавека была разгледжаная яшчэ адна справа Сяргея Каваленкі, якая тычылася прыцягненьня яго да крымінальнай адказнасьці за вывешваньне бел-чырвона-белага сьцягу на вершаліне каляднай елкі ў студзені 2010 году. Тады КПЧ ня змог адказаць, ці былі парушаныя правы актывіста КХП-БНФ, і ягоны зварот у камітэт быў прызнаны «непрымальным у адпаведнасьці з артыкулам 2 Факультатыўнага пратаколу».

**10.04.2014** Камітэт па правох чалавека ААН зарэгістраваў зварот доктара **Ігара Пастнова**. Зварот у КПЧ ААН віцебскі лекар накіраваў у лютым 2014 году. Скарга Ігара Пастнова ў КПЧ датычыць судовага рашэньня наконт накіраваньня яго на прымусовае лячэньне ў псыхіятрычную клініку. Доктар Пастноў лічыць, што падчас суду ў дачыненьні да яго асобы было парушана адразу некалькі артыкулаў Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правох.

Віцебскаму «лекару-праўдарубу», якога гвалтам накіравалі на прымусовае псыхіятрычнае лячэньне неўзабаве пасьля чарговага відэавыступу з крытыкай мясцовых уладаў і сыстэмы аховы здароўя, не ўдалося абскардзіць рашэньне раённага суду, вынесенае судзьдзёй Тацьцянай Дзегцяровай. Ягоныя сьведчаньні пра тое, што ў судзе не прысутнічалі ні ён сам, ні адвакат, да паслуг якога адміністрацыя псыхіятрычнага шпіталю наогул не дазволіла зьвярнуцца, не былі прынятыя Віцебскім абласным і Вярхоўным судамі.

Ігар Пастноў лічыць, што зьмяшчэньне яго ў вар'ятню было абумоўлена палітычнымі прычынамі – тым, што ён наважыўся на аб'ектыўную крытыку асоб, надзеленых уладай, у тым ліку старшыні Віцебскага аблвыканкаму. Прымусовае псыхіятрычнае лячэньне ён лічыць расправай за вальнадумства і грамадзянскую пазыцыю. Паколькі ён сам лекар-псыхіятар паводле спэцыяльнасьці, то выказвае сумневы і ў правільнасьці псыхіятрычнага дыягназу, які яму паставілі.

Падкрэсьліваючы, што суды праігнаравалі ягонае права на незалежнае і аб'ектыўнае судовае разьбіральніцтва, ён просіць Камітэт ААН па правох чалавека прыняць ягоны зварот да разгляду, прызнаць яго абгрунтаваным, а дзяржаву, Рэспубліку Беларусь, прызнаць парушальніцай шэрагу артыкулаў і пунктаў Між-


Леанід Здрэстаў

народнага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правох ды абавязаць улады Беларусі кампэнсаваць яму судовыя выдаткі і маральную шкоду.

**20.06.2014** Упраўленьнем Вярхоўнага камісара ААН па правох чалавека зарэгістраваны зварот у КПЧ жыхара вёскі Буяны Віцебскага раёну **Леаніда Здрэстава**. Актывіст вымушаны быў зьвярнуцца ў міжнародны орган па абарону пасьля таго, як улады адмовілі яму ў дазволе на правядзеньне пікету, а ўсе судовыя інстанцыі, у якіх ён спрабаваў быў абскардзіць гэтую адмову, – ад Кастрычніцкага райсуду Віцебску да Вярхоўнага Суду Рэспублікі Беларусь – сталі на бок уладаў.

Мэта пікету, які ў выніку забароны ўладамі Леанід Здрэстаў так і ня зладзіў: інфармаваньне жыхароў Віцебскай вобласьці пра сыстэматычныя парушэньні дзяржаўнымі органамі і арганізацыямі Рэспублікі Беларусь яго правоў і законных інтарэсаў. Пікет быў забаронены намесьнікам кіраўніка адміністрацыі Кастрычніцкага раёну Віцебску Віктарам Галанавым на той падставе, што арганізатар пікету не заключыў дамоваў са службай ЖКГ, міліцыяй і паліклінікай, тым самым ня выканаўшы патрабаваньняў рашэньня Віцебскага гарвыканкаму № 881 ад 10 ліпеня 2009 году «Аб масавых мерапрыемствах у г. Віцебску».

Варта адзначыць, што ў пікеце мусіў браць удзел толькі адзін чалавек. Леанід Здрэстаў перакананы, што такое адзіночнае пікетаваньне паводле свайго практычнага і юрыдычнага сэнсу ніяк ня можа ўважацца за масавае мерапрыемства, таму адмова яму ў правядзеньні акцыі на падставе заканадаўства аб масавых мерапрыемствах – гэта бязглуздзіца. Тым ня менш беларускія суды гэтага аргумэнту не пачулі.